

М. Савіцкі. Гутарка.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



**10** (80)

Кастрычнік.

1959.

Год выдання VII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

На вокладцы—малюнак мастака К. Ціхановіча.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8.537 экз. Цана 4 руб.
АТ 02909. Здадзена ў набор 1.IX.59 г. Падпісана да друку 30.IX.59 г. Зак. 555.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



Сяргей ГРАХОЎСКІ

# ПАЛАЧАНКА



Неба вясной залатое і сіняе,
Вецер пялёсткі кружыць па плошчы.
Некалі Полацкаю Ефрасіняю
Тут называлі струхлелыя мошчы.

Некалі тут гадаваліся княжычы,
Білі паклоны сівыя манахі,
Стражнікі, рукі вяроўкамі вяжучы,
Прадзедаў нашых цягнулі на плаху.

А неба было і тады залатое,
У буйнай расе прачыналіся ранкі,
Ды плакалі горка над Палатою,
Ломячы рукі ў бядзе, палачанкі.

На Полацк ішлі чужаніцы вайною —
Крышыліся коп'і, ўзрываліся танкі,
А горад стаяў і стаіць над Дзвіною
І песні пяюць пра яго палачанкі.

Каштаны і ліпы шумяць над бульварамі,
Да раніцы сыплецца спеў салаўіны,
Ідуць у Задзвінне шчаслівымі парамі
Насустрач світанню патомкі Скарыны.

Ступаючы мякка па стоптаным верасе,
Каханую любы заўсёды сустрэне

На вежавым кране, на сонечным беразе,
У першай яшчэ не закончанай змене.

У вочы зірне, залатыя і сінія,
Што ззяюць, як росы ліпнёвага ранку,
І скажа: «Дзень добры табе, Ефрасінія» —
«Дзень добры», — адкажа яму палачанка.

## УСПАМІН



Да поўначы стаіць гарачыня,
І маладзік засланы белым пылам,
Палеглі травы, ім да дня
Устаць наўрад ці хопіць сілы.

Зачахла лісце у гаях,
І хвалі на Дзвіне замёрлі,
Расінка толькі ў салаўя
Ледзь чутна булькае у горле.

Трызніць самлелая зямля
Аб росах, аб дажджы і громе,
Прыслухаўшыся, як здаля
Гудзе лябёдка на пароме.

І зноў навокал цішыня,
Далёка бліскаюць зарніцы.
Табе і сёння, пэўна, сніцца
Пачатак леташняга дня:

У полі сіні-сіні лён
І ветразі сямі палатак.
Здаецца, тут дасюль відзён
Твой першы след і той пачатак

Яшчэ няходжаных дарог,
Яшчэ не зробленай работы,
Калі ў гразі спаўзалі з ног
Старыя кірзавыя боты.

Як на спіне трашчала соль,
Як завіхаліся дзяўчаты,
І першы на руцэ мазоль
І радасць першае зарплаты.



Як часам не было папіць
Вады ў дзявочым інтэрнаце.
Ты спала, а над ложкам маці,
Здавалася, ўсю ноч не спіць

І шэпча «Пацярпі крыху, —
Я веру — зробяць без прынукі
І дом, і новую страху
Твае маленечкія рукі».

Ты чуеш? — спорны дождж ідзе.
Гарачыня адразу спала,
А ты нібыта і не спала,
Ты моўчкі маці ўспамінала
І пачынала новы дзень.

## КРАНАЎШЧЫЦА

**Кранаўшчыцы Валі ЗАБАРОНЬКА.**



Над лесам занялося ранне
У буйных кроплях дымных рос,
А ўжо гайдаецца на кране,
Нібы струна, нацяты трос.

Ужо гукаюць: «Майна!», «Віра!»,
І лёгка, як узмах крыла,
Ўслед за рукою брыгадзіра
Плыве ажурная страла.

Нібыта залатую пражу,
Снуюць лябёдкі угары,
І зверху кранаўшчыца кажа:
«Ўзыходзіць сонейка, сябры.

Сягоння дзень яшчэ прыбудзе,
А сонца вось — рукой падаць,
Яно у нас, на Нафтабудзе,
Заўсёды першай мне відаць.

Відаць, як за Дзвіной пшаніца
Нагнула долу каласы»...
А на плячах у кранаўшчыцы
Ляжаць тугія дзве касы.

Заплеценыя, як у школе,
Істужкай белаю яны.
Ад іх, здаецца, пахне полем
І ветрам ранняе вясны.

Маленькая, нібы падлетак,
Глядзіць яна на белы свет,
І у кабіне з першых кветак
Стаўляе кожны дзень букет:

Галінкі бэзу і язміну
Прыносіць з бліжняга сяла.
Зірнеш на Валіну кабіну
І бачыш — ліпа расцвіла,

То распусціліся рамонкі,
То браткі — ў росным серабры.
Цагліны, як з рабіны гронкі,
Здымаюць з крана муляры.

Глядзіць удалеч кранаўшчыца,
І часам дзівіцца сама,
Што ў полі бачыць камяніцы,
Якіх яшчэ пакуль няма,

Што бачыць плошчы і бульвары,
І белы горад над ракой,
Бо ведае, што здзейсніць мары
Сваёю ўласнаю рукой.

## ЗАРАДКА



У хлапечым інтэрнаце
Пражаць вечарам гарох,
На стале, як на парадзе, —
Масла, бульба і тварог.

Хлопцы ставяць на пліту
Смажыць бульбы тры патэльні.
Пахне салам за вярсту,
А вось бульбаю не вельмі.

— Янка, падавай кефір,
Апанас, нясі аладкі, —



Кажа хлопцам брыгадзір, —
Прыступаем да зарадкі!

Сеў за стол, пакроіў хлеб,
Разлажыў усім па лусце...
— Ты, Пятро, хіба аслеп:
Рукавы ўжо ў капусце.

Дзесяць хлопцаў дзесяць страў
Выстаўляюць на абрусе.
Хтосьці з іх пажартаваў:
— Я адзін за ўсіх бяруся

З'есці бульбу і тварог,
І капусту, і аладкі.
— А скажы, без нас бы змог
Ты адзін закончыць кладку?

— Вам з вячэрай без мяне
Не управіцца ніколі:
Я ж за год на цаліне
З'еў не меней пуда солі.

— Я паверу, што з'ясі
Ты адзін не пуд, а тону.
Лепш вазьмі ды панасі
Ты за нас адзін бетону.

Хопіць лётаць па зямлі,
Замацоўвайся, як людзі.
Паспытаў бы, як жылі
Летась мы на Нафтабудзе.

А не згодзен — прабачай,
Ты між нас не знойдзеш пары.
Гатаваць бярыся чай,
Падавайся ў кашавары

Ці на пост вартаўніка
Каля нашай хлебнай крамы,
А імя будаўніка
Не ганьбі, пакінь за намі.

— Зноў счапіліся яны!
Брыгадзір, канчайце сварку:
Стыне ж бульба і бліны,
Перасмажыліся скваркі...

Селі ўсе за стол яны.
Паглядзела б з боку маці,
Як вячэраюць сыны
У хлапечым інтэрнаце.

## ПРЫГОЖЫЯ РУКІ



У час сустрэч і ў час разлукі,
Выходзячы ўдваіх на шлях,
Навошта ты хаваеш рукі
У драпінах і ў мазалях?

Заўжды шурпатыя ад тынку,
Парэпаныя ад вады,
Яны не знаюць адпачынку
Ў гарачыню і ў халады.

Яны трымаюць у палоне
Душу і сэрца юнака.
Не выкаўзне з такой далоні
Яго шурпатая рука.



**Іван ГРАМОВІЧ**

# АДНОЙЧЫ Ў НЯДЗЕЛЮ

**Апавяданне**

Мал. Ю. Пучынскага.

Яна прайшла каля нас, быццам нікога не заўважыла. Прайшла па сцежцы, вытаптанай да голай зямлі, роўна і павольна, гледзячы кудысьці ўдалячынь. Нейкую цяжкую заклапочанасць, а мо' душэўны, некрануты боль пранесла яна ціха, нікому аб тым не паказваючы нават позіркам. Мы ж гэта прыкмецілі і, пераглянуўшыся між сабою, адгадалі напэўна.

Ды яно не цяжка было адгадаць. Навокал усе адпачывалі, людзям было весела, на іх тварах аж цвіло шчасце, радасць, а тут — засмучонае аблічча дзяўчыны, зусім маладзенькай і даволі прыгожай. Яна была руса-кучаравая, у чырвонай кофце з кароткімі рукавамі і ў сінім сарафаніку, надта зграбным ў постаці. Дужыя, поўныя рукі і ногі дзяўчыны былі пакрыты смуглым загарам, відно, ад работы не ў пакоях і кабінетах. Толькі ішла яна, нібы невядома куды, нібыта ёй увесь навакольны свет быў чужы і не мілы.

Нам было, наадварот, прыемна і хораша. Мы тут знарок як дамовіліся, так і сабраліся: Васіль Дубёнак, Лёша Зямцоў, Іван Караткевіч

і я. Сабраліся мы з сем'ямі, па даўняй дружбе і рабоце і нават крыху па сваяўстве. Лёша Зямцоў са сваёй Надзяй працуюць на пеніцылінавым заводзе і прыходзяць да мяне ў госці, як свае. Мая жонка і яго жонка нейкія сваячкі. Сястра Лёшы, Волька, замужам за Васілём Дубёнкам. Васіль Дубёнак і Іван Караткевіч абодва з цагельнага завода, жывуць па-суседству цераз пляцоўку. Вось і разбярыцеся, як мы даводзімся адзін аднаму?

Бадай галоўнае ў нашай дружбе — сяброўская ўмова: ніколі не забываць адзін другога. Бо бывае ж так; дружна дружыў, разам у войску быў, а наведаць франтавіка ніяк не збярэшся, хвіліны не ўлучыш. Ці то памяць карацее, ці то сэрца ачарсцвелым робіцца?.. Мы ж, каб не было так, пры зручным выпадку клічам адзін аднаго ў госці. Сёння вось Дубёнак Васіль першы дзень у адпачынку, і мы сабраліся, каб адзначыць гэта, успамянуць усё добрае, перажытае. Мы жартавалі з жонкамі, гутарылі пра будучыню кожнага, калі міма нас прайшла гэтая засмучоная дзяўчына ў сінім сарафаніку.

Каб не прысутнасць аднае нашай жанчыны, Іванавай Фрузы (бо астатнія з малымі пайшлі па марожанае і вось-вось меліся вярнуцца), сёй-той з нас, мабыць, зачапіў бы языком юную гаротную асобу, што не хацела бачыць увесь гэты белы свет. Але ў кожнага ўжо былую хлапечую зухаватасць, відаць, перамагала сталасць сем'яніна. І перамагла. Мы ўжо ведалі: вось — дзяўчына насупленая, змрочная, а праз дзесяць хвілін — смяецца... Ведама, юнацтва!..

Эх, і месца ж было ў нас удалае! Мы сядзелі на невысокім курганку ў цяньку пад бярозай. Курганок быў пры самай сцежцы, па якой прайшла дзяўчына ў сінім сарафаніку. Мы ўжо на яе не глядзелі, але яна адышлася на нейкую сотню крокаў і спынілася. Як бы кагосьці чакала, не аглядаючыся...

Ага, дык ёсць такое цудоўнае месца на заходняй ўскраіне Мінска. У раёне цагельных заводаў. Ну, можа, не надта цудоўнае, не раўня дагледжаным сталічным мясцінам у парках або ля возера, але яно мае сваю перавагу, надта выгоднае і прывольнае.

Чым выгоднае?

Рабочы квартал тут вырас, людзей пасялілася шмат, а да паркаў і да возера адсюль далекавата. Летам у пакоях духата, асабліва, калі збярэцца такая, як наша, кампанія. Праўда, цяпер у нядзелю аўтобус сюды і да цэнтра ходзіць дадатковымі рэйсамі, але каму ахвота ў спёку ціскацца ў аўтобусе, ехаць з перасадкамі адсюль аж да парка Чалюскінцаў ці да возера?..

Вось і аблюбавалі мы сабе гэты куток, дзе вырас невялічкі бярозавы гай. Яго абступілі дамы новага пасёлка. Мінск паступова забудоўваецца, на захад пашыраецца, як і ва ўсе бакі. Хутка гэты гаёк стане зусім не на ўскраіне.

Вы прыязджайце, паглядзіце, як уладкавалі жыхары гэтае месца. Канешне, тут няма качэляў, більярда і розных там атракцыёнаў. Але самае неабходнае для адпачынку ўвішныя рукі моладзі набудавалі: тут ёсць лавачкі, танцавальная пляцоўка і сцэна для эстрады. Увечары бываюць танцы, а днём, асабліва ў нядзелю, пад кожным кустом, пад кожным дрэўцам адпачываюць сем'і. На разасланых пасцілках стаіць закуска — чаго твая душа жадае. Кожны жыхар адчувае сябе, як на ўласным двары.

Вядома, з вясны і ў садку было адно ці два здарэнні, калі пад хмяльком разбушаваліся нейкія неўгамонныя натуры. Аднак на тым усё і скончылася. Свае рабочыя дружыннікі навялі парадак без афіцыйнага прадстаўніка. Так што самая важная якасць гэтага месца, як між сабой гавораць тутэйшыя, — размяшчайся ў садку і адчувай сябе, як дома. Усё ва ўласнай волі. Тут адзін аднаго кожны ведае, як сусед, і разумее з паўслова.



Вось толькі чаму гэту насупленую дзяўчыну ніхто з нас, ні Васіль, ні Іван, не пазналі? Хто яна і адкуль з'явілася сярод гэтага гуляння?

Ну, але, я ж кажу, месца наша было чароўнае! Курганок пад бярозкай атуляла цень прахалоды, у той час як навокал варылася паўдзённая спёка. Адсюль было відаць: па дарогах гарачы вецер узнімае да воблакаў белыя слупы пылу. Тут жа ад цагельных заводаў выходзіла шаша на брэсцкую магістраль. А да шашы беглі прасёлачныя перацёртыя дарогі. Направа ўдалечыні ўзвышаўся комін завода металічных канструкцый, злева — зелянелі сады прыгараднай вёскі Пятроўшчыны; проста перад намі — горбілася гара, якую раней я лічыў за «Лысую». Цяпер яе пачалі раскопваць, ці што....

Увечары там хавалася чырвонае мінскае сонца.

Наш курганок у садку быў якраз збоку, пры сцежцы. Яна з'яўлялася мяжой у адведзеных рабочым дзялянках. На гэтых дзялянках усе нарабілі агародаў, наганялі бульбяных градак, насадзілі памідораў, а нехта нават па звычаю, што таксама перасяліўся з сяла ў горад, на сваім участку па-быламу засеяў чубок жыта. Усё пацеха, прышоўшы з работы, паслухаць, як шумяць каласы! Яно ўжо было вялікае і пачынала каласіцца. За чубком-палоскай, як адсекчы, пачынаўся абрыў. Глыбока, уніз на метраў чатырыста, аж да шашы, ляжаў яр, на дне якога, загачаныя дамбамі, блішчэлі копанкі. І ў аднае пад сонцам пераліваліся трапяткія срабрыстыя хвалькі, у другой, бліжняй, колер вады быў, як гліна, а ў трэцяй, адгароджанай дашчатым плотам, чамусьці вада выглядала чорнай. Дно было, як у крыніцы. Зверху на гэтыя пярэстыя агароды, на гэтыя маляўнічыя копанкі прыемна было кінуць вокам аж да небасхілу, дзе капалі жоўты пясок на «Лысай» гары.

— Бачыце, — сказаў Іван Караткевіч, — база хоча забраць сабе вунь тую копанку, — паказаў ён на чорную лужыну. На беразе яе валяліся пустыя бочкі з-пад бензіну, кузавы разабраных аўтамашын і тут жа над вадой, мабыць, каб мець дачыненне на ўласнасць гэтае копанкі, туліўся нейкі будынак дрэваапрацоўчай базы. Увесь двор быў абгароджаны старым плотам, а на плаціне ён быў з толькі што напілаваных дошчак.

— Навошта ім копанка спатрэбілася? — запытаўся Зямцоў.

— А там вада з-пад зямлі пампуе, — узрушана сказаў Іван, — і карасі во такія водзяцца...

Мы паглядзелі на гэтую копанку.

— Уласнікі, — усміхнуўся Лёша. — Яны скора і неба адгародзяць.

— Паднялі б плаціну вышэй ды зрабілі б сапраўднае возера, — разважаў я. — Ніхто не адмовіўся б зараз пакупацца... Уга!

Аж зайздросна было, як Караткевічаў Віця, Гена Зямцоў на чале з Вовам Дубёнкам ужо даўно плёхаліся ў тых копанках. Хацелася туды і дзяўчаткам нашым, але маці звялі іх па марожанае.

— Паглядзі, паглядзі, што з ёю робіцца, — звярнуўся да Фрузы Васіль. Мы таксама адразу зірнулі туды, куды ён паказваў.

Дзяўчына ў чырвонай кофце і сінім сарафаніку прайшла і спынілася ля жыта. Спачатку ўсё пазірала ўніз. Уся яна выяўляла нейкі адчай, быццам гатова была кінуцца зверху, з абрыву на копанкі. Потым дзяўчына хапілася рукамі за твар і гаротна сціснулася, як то робяць жанчыны, заліваючыся слязьмі. Плечы яе сутуліліся. Постаць яе выглядала адзінокай між гэтых зялёных агародаў, каля жыта, якое каласілася і хвалявалася.

У садку тым часам зайграў аркестр. Гэта яшчэ больш дабавіла весялосці прысутным. А адпачывалі ўсе хто як умеў. Пажылы дзядзька, раздзеўшыся да пояса, прымаў, як кажуць, сонечныя ванны. У другім месцы пад пякучымі праменнямі загарала яшчэ нестарая жанчына, яе муж гуляў з сынам гадкоў каля пяці. І яшчэ побач маладая маці карміла грудное дзіцё. Зайграла музыка, і ўсе весела паглядзелі на танцавальную пляцоўку.

Падышлі нашы жанкі з малымі.

— Хлебнага квасу няма. Будзеце піць нарзан, — сказала Надзя.

— Ды мне хоць што, — адазваўся за ўсіх Іван Караткевіч.

— А дзе ж Волька? — агледзеўся Лёша.

— Панесла малога спаць. Зараз прыдзе.

Жанкі паселі навокал прасцірадла, дзе было ўсяго, як на самым багатым частаванні. Адпусцілі на копанку дзяўчатак, якіх і салодкае марожанае не прывабіла сядзець каля нас.

— Толькі не лезьце глыбока, — загадала Надзя. — Пільнуйцеся там, дзе Воўка. Ды не баўцеся!..

Дзеці кінуліся па сцежцы стрымгалоў. З узгорка ім было лёгка бегчы. Дзяўчыну ў чырвонай кофце і сінім сарафаніку яны наляту абмінулі. Чамусьці яна вярталася па сцежцы назад, ідучы да нас, усё такім жа павольным і роўным крокам. У руках яе відаць быў ліст паперы, якім яна закрывала вочы. Ні ў кога не было сумненняў, што яна плакала. Яна адыходзілася, каб нешта даведацца з гэтага ліста паперы, які несла аберуч, у прыгаршчах.

А тут у садку іграў аркестр, калі можна было назваць яго так. Ігралі дзве трубы ды джазавы бубен з талеркамі. Самадзейны калектыў. Кіраваў ім пенсіянер Мачуля. На вячэрняе ігрышча, калі бывалі танцы, далучаўся баяніст з музычнага вучылішча. Ён жа падмяняў тады старога Мачулю. Рэдзенькая музыка, відаць, разанула па сэрцы няшчаснай, і яна зноў павярнулася да копанак, а мо', каб схаваць свае слёзы...

Музыка была сапраўды рэдзенькая, вясёлая і нават смешная. Смешныя былі, бадай, музыкі.

Гэта былі ўласныя, бясплатныя і без прэтэнзій музыкі. Хочаш слухай, хочаш не слухай. Хочаш танцуй, а хочаш сядзі, або хочаш — пакідай садок, ідзі сабе ў гарадскі парк.

Аркестр зараз выцінаў нешта такое, што доўга было не разабраць. Якая гэта мелодыя? Альт Мачулі ўсё браў уверх, а бас толькі вухкаў. Бубен жа ўсё адбіваў такты: «Бух-бух-бух-бух!», а потым барабаншчык стараўся на талерках: «Цах-ца-ца-ца! Цах-ца-ца!»

— Ну, што гэта ў іх? — незадаволена запытаўся Лёша.

— «Ландышы», — адказала Фруза.

— Дык жа гэта песня, а там танцуюць на пляцоўцы?!

— Песні то ж танцуюцца... Што ты, забыўся?..

Мы прыслухаліся, і, сапраўды, трубы выціналі: «Лан-ды-шы, ндаш-нда, лан-ды-шы», а бубен бубніў сваё: «Бух-бух-бух! Цах-ца-ца-ца!».





Канешне, усім наўкол было смешна, моладзь танцавала, усе весяліліся, а дзяўчыну ў сінім сарафаніку зноў пацягнула на водшыб схавацца ад людзей і даць волю слязам.

І раптам Лёша сказаў:

— Вы ведаеце з чаго яна? Тут нейкі падлюга яе абманіў... Няйначай... Адпісаў пісьмо і хвастом накрыўся. От яна прачытала і плача.

— І я так думаю, — пагадзіўся Іван. — Падкаціўся нейкі сукін сын...

Нашы жанкі былі не згодны.

— Адкуль ты ведаеш?.. — накінулася на Івана Фруза. — Такі ўжо дагадлівы!.. А можа пісьмо прышло, што маці ці яшчэ хто памёр.

— Памёр, дык трэба хаваць, — сказаў Васіль, — а не шпацыраваць каля садка...

— Яна не шпацыруе, — заўважыў я.

Мы задумаліся. Гэта думка апанавала нас усіх. З пачуццём спачування мы цяпер паглядалі на дзяўчыну ў сарафаніку. А яна стаяла адвярнуўшыся і глядзела на копанкі.

— Я б такога фарсуна-сцілягу злавіў і... — пачынаў злавацца Іван.

— Яна не шпацыруе, — сказала і мая жонка, — а, мусіць, экзамен правеліла. Канспект трымае, гляньце!

Але дзяўчына тужліва, у адчаі адкінула назад галаву. Вецер развяваў яе валасы. Здаецца, яна з праклёнам гаварыла насустрач ветру.

— Нічога сабе экзамен... — сказаў хтосьці. — Яна ж галосіць.

Дзяўчына тым часам зноў павярнулася да садка. Павольна, як і раней, ступаючы, яна накіравалася да нас, сціскаючы аберуч ліст, які, безумоўна, прынёс ёй вялікае гора. Яна пазірала на садок з нянавісцю. Нават нейкая злосць праменілася з гэтага прыгожага, смуглявага твару, які мы бачылі зблізку. І яна ўжо не плакала. Яна падыходзіла ўсё бліжэй і бліжэй, і гэта можна было прыкмеціць зводдаль.

— У яе не пісьмо, — ціха, каб толькі мы пачулі, сказала Надзя. — Гэта нешта друкаванае...

— Але, гэта газета.

Мы толькі цяпер звярнулі ўвагу, што ў руках яе, сапраўды, не рукапісны ліст, а нейкі шэры. Праўда, пісанае ад рукі можна здалёк пазнаць. І Надзя пазнала. Гэта было не пісьмо.

— Ёй ужо каторы месяц, — прабубніў Іван. — Глядзі на фігуру, а не на пісьмо... Я табе кажу, што сукін сын...

Фруза ўзгарэлася на яго:

— Ну, ужо не брашы на дзяўчыну!.. Бач, які акушор знайшоўся...

Смешна і крыху ніякавата зрабілася ад гэтае здагадкі.

У руках дзяўчыны ў сінім сарафаніку сапраўды быў друкаваны аркуш, скамечаны ад хвалявання.

— Яе ў газету працягнулі, — раптам сказаў Васіль. — Заблыталася ў нечым... Можа ў кражы, ці яшчэ якую завяла хэўру...

— Такое ў газету не працягнуць.

— Чаму?

— У газету працягнуць, калі ты план не выканаў, сарваў або брак дапусціў. Аб табе грамадская думка павінна скласціся, што ты гультай, зрыўшчык ці бракароб.

— А калі растраціла, як у нашым магазіне?.. — запярэчыла Фруза.

— За растрату судзяць.

— Ну, яна яшчэ дзіцё... Не выдумлівайце ўжо, — сказала Надзя.

— Адкуль ты ведаеш?

— Я нічога не ведаю. Прыдзе Волька, скажа. Яна ўсіх тут у пасёлку ведае...

Дзяўчына, не даходзячы да нас, скіравала ў садок. Сапраўды, яна не хацела паказвацца людзям на вочы. Але і ў садку яна не магла знайсці сабе месца. Спынілася на ўскрайку, адвярнулася ад усіх, працягнула наперад рукі.

— Дурная, ці што! — усміхнулася Фруза. — Дальбог, яна чокнутая...

— Не звяртайце ўвагі, — пасарамаціла Надзя. — Няма чаго смяяцца...

Побач, за кустамі, маладыя людзі, нястройнымі галасамі зацягнулі: «Ой, бярозы ды сосны...»

Але вось прышла Волька Васілёва. Яна працавала тут у гастраноме прадаўцом, усіх ведала, і таму з нецярпеннем мы чакалі яе прыходу.

— Ну, паклала спаць, — стомлена сказала яна, папраўляючы валасы. — Ледзь угаманіўся. От, ужо бацечка будзе, — сярдзіта грукнула яна кулаком у плечы Васілю Дубёнку і тут жа прысела збоку, нават прыгарнулася да яго. А ён, Васіль, галоўная прычына сённяшняй сустрэчы, як сядзеў, прытуліўшыся спіной да бярозкі, дык і не крануўся.



Мы былі ў поўным зборы. Што нам глядзець на каго? Няхай іншыя глядзяць на нашу кампанію!..

Дык чаму зараз хацелася б выказаць радасць? Васілёў адпачынак ужо адзначылі.

І раптам Лёша Зямцоў вельмі проста ўспомніў тое, што мы ўсе ведалі, не забываліся пра сённяшні дзень — дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Адзін момант у цяньку пад гэтай бярозай, што прыветліва шапацела лісточкамі над намі, запанавала нядоўгае маўчанне. На нейкі час мы забыліся на гаротную, якая дзесьці блукала тут вакол нас.

Але вось яна зноў паявілася. Я сядзеў спіною да зялёных агародаў. Тое, што яна вышла на сцежку, я заменціў па вачах Васіля. Дубёнак перастаў жаваць.

— Волька! — крануў ён локцем жонку. — Ты не пазнаеш вунь тую дзяўчыну ў чырвонай кофце і сінім сарафаніку... Гэта з нашага пасёлка?

— Ат, давайце закусваць, — сказала Фруза. — Перажывае дзеўка, значыць, нешта нядобрае зрабіла. Не глядзіце туды.

— І некультурна так! — падтрымала мая жонка. — Проста нетактычна вылупліваць вочы на чалавека. Дайце ёй пабыць на адзіноце.

— Як гэта, не глядзіце туды! — запярэчыў Лёша. — Чалавек можа даходзіць да самагубства. А мы будзем так сабе... разяваць на яго. Як на вуліцы...

— Калі табе весела, — сказаў Іван да Фрузы, — дык ты нікога і знаць не хочаш.

Фруза ўжо гатова была даць адказ.

— Ціха, не спрачайцеся! — спыніла ўсіх Васілёва Волька. — Я ведаю гэту дзяўчыну. Гэта Каця. Каццька! З шаснаццатага барака... Летась яна брыгадзірам на будаўніцтве працавала. Яе ж медалем ўзнагародзілі тады, як цябе, во, ордэнам, — пстрыкнула Волька ў нос мужу.

Васіль зноў нават не зварухнуўся.

— А цяпер хто яна? — запытаўся Лёша.

— Я не ведаю, дзе яна цяпер робіць.

Вольчыны звесткі былі надта агульныя.

Каця сірата. Каця нарадзілася ў Мінску, у тым годзе, калі пачалася Айчынная вайна. Бацька загінуў на фронце. Маці забілі фашысты ў час блакады. Кацю малую партызаны аддалі ў дзіцячы дом, калі наша армія вызваліла Мінск.

Мы ўважліва выслухалі і ўспомнілі свае здагадкі. Сказалі, што Каця страшэнна перажывае, ходзіць нейкая забітая.

— Ёсць тут у яе адзін хлопец, — успомніла Волька. — Бывае з ёю ў кіно. Камсамолец... Я не ведаю, што магло з ёй здарыцца...

— Што б з ёй ні здарылася, у бядзе мы не пакінем, — сказаў Дубёнак.

— Але, але, трэба памагчы, — падтрымаў я.

— Трэба паклікаць сюды, — падтрымала і Надзя.

— Толькі па-ласкаваму, шчыра. Мы яе развесялім, — прапанавала Волька. Я ж яе ведаю. Заўсёды цукар, хлеб бярэ ў нашым гастраноме...

— А спатрэбіцца падлюгу знайсці — знойдзем, — сціснуў кулак ахмялелы Іван.

— Сядзі ўжо! — скамандавала Фруза. Яна чамусьці была незадаволена такім рашэннем усіх.

Паклікаць дзяўчыну ў сінім сарафаніку пайшлі Дубёнак, я і Надзя. Нам не хацелася крануць яе знянацку. Мы пайшлі ёй наперарэз, так, каб яна бачыла, што мы вышлі ёй насустрач і чакаем. Мы так і зрабілі. Але яна, відаць, не хацела з намі сустракацца, збочыла, каб абысці. Тады Дубёнак пачаў знарок:

— Чаму ж ты адна? — сказаў ён. — Усё ходзіш, ходзіш і сумуеш...

— Выбачай, што мы спынілі, — папрасіў прабачэння я.

Дзяўчына ў чырвонай з гарошынкамі кофце і сінім зграбным сарафаніку здзіўлена паглядала на Дубёнка, на мяне, на Надзю. Ніякай засмучонасці ў яе чорных вачах не было. Нават збянтэжанасці не адчувалася, хутчэй яна магла сваім позіркам збянтэжыць нас.

— А я не сумую, — адказала дзяўчына.

— То хадзем з намі, — пачала Надзя. — Мы вунь усёй сям'ёй сядзім пад бярозкамі і хочам запрасіць цябе... як на свята.

— Я не магу, — адказала дзяўчына.

— Цябе зваць Каця?

— Каця.

«Тут нейкае непаразуменне», — падумаў я.

— Хадзем да нас, Кацька, — запрасіла Надзя.

— Мы людзі — не якія-небудзь свістуны, — сказаў Дубёнак. — Мы простыя... такія, як і ты. Сёння дзень вызвалення.. Раз свята, дык свята. Усім весела.

— А мне таксама весела.

— Не выдумлівай! — перабіў Дубёнак. — Па вачах бачу.

— Не трэба, Каця прытварацца, — сказаў і я.

— Мы ж бачылі, як ты некаму кулакамі пагражала... Над жытам...

— Я нікому не пагражала.

— Хто гэты нягоднік, што цябе мог пакрыўдзіць? — адкрыта і горача выказаў сваю думку Васіль.

Каця ад здзіўлення аж адхіснулася.

— Пасля, пасля гэта, — асцярожна стрымаў я, як мне здавалася, няёмкія, балючыя запытанні. — Спачатку, хадзем да нас, Каця.

— Прабачце, я не магу, — катэгарычна адмовілася яна.

— Чаму, Каця? — ласкава, па-жаночаму, як да сястры, звярнулася Надзя. — Чаму?

— Мне зараз чытаць трэба.

— Што чытаць? — здзівіўся Дубёнак.

— Са сцэны. Вось тут! — кіўнула яна на эстраду.

Вось, дык нечаканасць!.. Надзя зірнула ў бок нашай кампаніі. Там аж трымцелі жаданнем хутчэй пасадзіць побач гэтую дзяўчыну ў сінім сарафаніку, хутчэй даведацца, аб чым ідзе ў нас такая незгаворчывая размова. А нам, па сутнасці, і гаварыць не было чаго. Размова, як кажуць, была скончана.

— А што ж ты будзеш чытаць? — пацікавіўся я.

— Ды вось тут, — неяк цяпер бянтэжачыся, прагаварыла Каця, паказваючы пакурчаныя тры лісты з кнігі. — Я, каб завучыць, вырвала. Я зноў уклею... Гэта мая кніга... Тут увесь тэкст...

«Частка першая. Стар. 3», — прабег я вачыма пачатак знаёмай і вядомай усяму свету кнігі, — «Как ни старались люди, собравшись в одно небольшое место несколько сот тысяч...»

— Гэта і на пласцінцы ёсць, — сказала Каця. — Чытае народны артыст СССР Васіль Іванавіч Качалаў... Уступ. Яго можна і абмінуць. Але вось гэта, — працягнула яна наступныя, пакурчаныя лісткі, — я ўсё ведаю напамяць...

Там быў падкрэслены абзац на 118 старонцы: «Тетушки ждали Нехлюдова...» І яшчэ была старонка, дзе кінуўся ў вочы сказ: «Катюша остановилась и, закинув голову назад и схватившись за неё руками, зарыдала».

Дык вось чаму яна гэтыя старонкі да твару туліла. І рукі працягвала насустрач ветру. І позірк быў невідушчы, у роспачы.

— Леў Талстой! — сказаў я Васілю. — Урывак з рамана «Воскресение».

Каця глядзела цяпер на нас сваімі яснымі, чорненькімі, вясёлымі вачыма. Я ўспомніў, што казала Васілёва Волька аб ёй...

... Нарадзілася тут, вырасла без бацькі і маці, летась на будаўніцтве медаль атрымала. Значыць, ёй споўнілася дзевятнаццаць год!..

Хто ж ёй падказаў выбраць гэтыя старонкі класічнай прозы вялікага пісьменніка, якія нялёгка і не кожны зможа прачытаць са сцэны? Што яе натхніла, хто ёй параіў гэтыя ўрыўкі? Здавалася, яе вочы штосьці хітра хаваюць.

У гэты момант да нас падышоў высокі ў каўбойскай з кароткімі рукавамі, з расшпіленым каўнерыкам рубашцы паверх выпрасаваных штаноў загарэлы юнак і запытаўся:

— Каця, ты гатова?

Яна спалохана выхапіла з нашых рук свае лісткі і ўзрадавалася. Яна ўжо забылася на нас, бо сказала:

— Гатова, гатова!.. — і засмяялася. — Толькі ў тым месцы, дзе я чытаю «уехал, уехал»... ты не дражніся... Мне так хочацца!..

«Ну, вось хто натхніў чытаць гэтыя ўрыўкі, — падумаў я, — Нехлюдаў!.. І нікуды ён не едзе і не паедзе... Бач, так хочацца ёй!..»

— Зараз аб'яўляю твой выхад, — сказаў ён, адыходзячы, і Каця, усхваляваная, пайшла за ім следам. Было зразумела, чаго яна хвалявалася і хвалюецца...

А мы чатыры сям'і... восем дарослых людзей ліха ведае што гадалі пра Кацю, Кацю-артыстку! Як жа гэта мы памыліліся?!.. А мо' і добра, што так думалі?

Аркестр змоўк, але гоман у садку не сціхаў, усе хлынулі да эстраднай сцэны. Гэтак усё было проста, як на любым двары рабочага квартала. О, каб у кожным садку ўсе людзі ладзілі такое гулянне!..

— Бяжы, пакліч Лёшу, усіх, — сказаў Васіль Дубёнак Надзі, і, звяртаючыся да мяне, дадаў: — Правільна надумалася Каця. Чулая дзяўчына! Па-чалавецку робіць, як Леў Талстой...

Мы клікалі нашу кампанію: сюды, сюды! Хутчэй! Як жа мы не здагадаліся, што Каця... кахае.





Мікола **АРОЧКА**

# ЧЫРВОНЫЯ ВЯРГІНІ



Людзі ідуць —
пад сцягамі, гурбой, спакваля.
Вулічцы цесна зрабілася—
ледзьве ўмяшчае.
Лісце барвовае
падае ціха з галля.
Хтосьці ўзняў песню,
а хтосьці каго суцяшае.
Хлопчык бялявы
снуе і таўчэцца ля ног.
Дзіўна малому,
што людзі не хочуць смяяцца.
Нават стары,
з барадой казытлівай, Цімох,
Моўчкі брыдзе...
А малому ж карцела спытацца:
«Дзеду, мы сёння ізноў
на гасцінец ідзем,
Зноў па цукеркі?...
А кветкі падорым танкістам...»
(Смех... і вяргіні,
што ўранку сарваў на градзе,
Хлопчыку ў сэрца запалі
ў той дзень прамяністы...)
Кветкі былі і цяпер.
А на што дзераза?..
Толькі за вёскай,
дзе ў засені насып пясчаны,
Зведаў, чаму закруцілася
ў дзеда сляза:



Сын, дзедаў сын тут спачыў,
у турме скатаваны...
. . . . . . . . . . .

Дваццаць разоў
каля тыну вяргіні цвілі.
Верасень рваў іх,
і сыпаў барвовае лісце.
Сёння наведаў я зноў
той грудочак зямлі...
Не, не забуду,
што хлопчыкам бачыў калісьці.
Людзі ідуць...
Пад сцягамі, ў адной грамадзе.
Вулічцы цесна —
усіх і не ўмесціць, здаецца...
Чыстым вяргіням,
сарваным тады на градзе,
Вечна цвісці
і не вянуць ніколі у сэрцы.

* * *



Прывабная далеч нязнанай дарогі.
Глядзіш — і здаецца знаёмым кут.
Вунь смешна тапырыць ласіныя рогі
З абочыны першы бязлісты куст.

Пад дзічкай асадзістай грушак, грушак.
За ноч, мусіць, вецер натрос на траву.
Калісьці за іх нам круцілі вушы,
Хоць грушка: укусіш—і «ўбачыш Маскву».

Жаўцеюць здалёк старадрэвіны купай—
Прыкмета тых гнёздаў, што панства звіло.
Вякамі жылі там раскоша і скупасць,
А поруч па вёсках жабрацтва жыло...

Цяпер тут не здзівіш гнілушкаю чорнай.
Глядзі, каля хат колькі слаўных садоў!
Я кожнаму даху і лямпачцы зорнай,
Сюды ідучы, пакланіцца гатоў.

## НА СПАДАРОЖНАЙ



Ад барта да барта
  нас шугалі калдобіны.
І клялі мы паціху і грэблю і гаць.
Што ж, не ўсюды пакуль што
  шляхі тыя зроблены,
Дзе пад шынай спявае асфальтная гладзь

Нам спагадліва
  хвоя махнула галінай,
Спачувальна бяроза шапнула услед.
Па чарзе запрашаў нас
  шафёр у кабіну,
Ды хістаўся і там у вачах белы свет.

Нас трасло.
  Не чакайце ж спагады таксама,
Спраў дарожных майстры:
  знаем спосаб даняць.
Не абыйдуць пяра
  ўсе калдобіны, ямы.
Не паскупімся ў фарбах,
  як сядзем пісаць.

Прыглядаўся вадзіцель наш:
  «З Мінска ці скуль яны?
Не бяда, калі сёння разок патрасе»...
Мы не зналі,
  што ў нашым узросце
        пад кулямі
Ён прайшоў тут сцяжынкі і грэблі усе.

А цяпер, калі ласка,
  гайсай па выбоінах.
Не адны тут штаны ты за лета пратрэш.
Трэба цэгла будоўлі,
  і правіла ў воіна —
Груз даставіць у час на пярэдні рубеж.

Не бяда ўжо...
  Вунь, камень да каменя сцелючы,
Брук насустрач вядуць
  спраў дарожных майстры.
У спякоту
  і ў дождж,
        ды не пешшу, а седзячы
Гэты шлях узяліся прайсці брукары.

Мы забылі чамусьці
  ў той міг пра калдобіны.



Ці не лепш пра людзей гэтых
  шчыра сказаць.
Дзе яны—
  там такія шляхі будуць зроблены,
Нам да мэты — рукою падаць.

## У ПРЫГАРАДНЫМ



Сягоння рад я ранішняй бяссонніцы.
Не скручвае дрымота у клубок.
Вось-вось —
        і наш цягнік падставіць сонцу
На павароце выгінасты бок.

Парыжавела ўміг сівая грыва
І пасмамі спадае на адхон,
А сонейка, дасціпнае на дзіва,
З усмешкай заглядае ў наш вагон.

Успыхне ў шыбах злева,
        ўспыхне справа,
Удоўж ля лавак пройдзецца, ушыр,
І ў вочы зазірне:
        якая справа
Цябе ў дарогу кліча, пасажыр?

Вось гэты, рослы, да станка, вядома,
Каб рукавы ў рабоце закасаць.
Лёг на далонь прамень...
        Такому
Не сорам рукі сонцу паказаць!

За кошыкі, нібы за барыкаду,
Схаваўся хтось...
        Куды ж ты ў летні дзень?
Маўчыць гандлярка,
        потым задам, задам —
І ад прамення ў цень паўзе... у цень.

Такім ніколі не мінуць дакору.
Спяшаецца цягнік, бярэ разгон.
А сонца яснае заходзіць кантралёрам
З акна ў акно, з вагона — у вагон.



Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# ЗАКЛІНАЮ АД КУЛІ

**Апавяданне**

*Мал. Ф. Бараноўскага.*

Шчасце не месцілася ў грудзях старой Хвядоры.

Толькі сцямнела, як нехта затупаў у сенцах, адразу знайшоў клямку і пераступіў парог.

— Добры вечар... Хто тут жывы? — спытаў мужчынскі голас.

Маці адразу пазнала гэты голас, хоць быў ён нейкі прастуджаны, хрыпаты, нават нясмелы. Яна кінулася да сына.

— Антоська, дзіцятка маё роднае... І ты прышоў! Слава госпаду! І нідзе нічога, цэлы, не паранены? — ужо з трывогаю ў голасе пыталася яна, не выпускаючы яго з абдымкаў і цалуючы ў калючы аброслы твар.

Усе ў хаце заварушыліся. Шарая гадзіна скончылася ў адзін момант. Увішны Васіль пачаў шукаць запалкі на прыпечку, каб запаліць лямпу, але Кірэй, старэйшы і больш разважлівы, перапыніў яго і сказаў:

— Завесьце вокны, мама. Люба, памажы.

Маці з дачкою пачалі збіраць дзяружкі. Пакуль яны завіхаліся ля акон, Кірэй падышоў да брата, паціснуў яму руку, прытуліў моцна да сябе.

— Як маешся, братка? — радасным голасам, у якім чуваць былі слёзы, спытаў ён малодшага брата.

— Кірэй... Як ты вырваўся адтуль, з таго пекла? — Антось у цемнаце сіліўся разгледзець брата. — Адзін нос у цябе застаўся, ды і той яшчэ больш загнуўся і высах. Мусіць, соладка прышлося...



— Усяго хапіла.

Тым часам маці з дачкою завесілі вокны. На тры акны — дзве дзяружкі і цёплая хустка. Васіль дрыжачымі рукамі запаліў лямпу.

— Знаёмцеся, — жартаўліва сказаў Кірэй і стукнуў Васіля па плячы.

Кірэй, высокі, тонкі, з кручкаватым носам, з-пад насупленых чорных броваў любаваўся сваімі малодшымі братамі, якія былі амаль аднаго росту, толькі Антось — шырэйшы ў плячах і паясніцы, а Васіль яшчэ не паспеў акрыяць, яму ішоў дзевятнаццаты год.

Маці, спяшаючыся, збірала на стол.

— А гэтую паненку пазнаеш? — зноў жартам сказаў Кірэй, падводзячы да Антося Любу, якая стаяла ля парога і нібы баялася парушыць радасць сустрэчы.

Антось развёў рукі, абхапіў Любу і падняў ледзь не да столі.

— Вяліка расці! — ён засмяяўся, лёгка паставіў яе на ногі і сказаў да Кірэя: — Я то што — бачыў іх якога паўгода назад, а ты? Цэлых чатыры гады! Ці пазнаў?

— А як жа. Адна парода...

— Ну, чаго вы пасталі сярод хаты, як слупы, — сярдзітым голасам, як некалі на малых, закрычала маці. — Хлопец можа не еў тры дні, а вы балабоніце абы што. Сядайце за стол, будзем вячэраць.

Антось скінуў стары пінжак, закасаў рукавы картовае рубашкі. Люба палівала яму на рукі, а ён нагінаўся да самага цабэрка і пырхаў, цёр шыю і аж крактаў. Пасля доўга выціраўся перабіраным ручніком, які маці знарок для яго дастала з кубла, з самага дна.

— Барада ў цябе, як у партызана, — абазваўся першы раз Васіль і пачырванеў. — Можа хочаш пагаліцца? Я зараз...

Але зноў умяшалася маці.

— Што ты, здурнеў?.. Чалавек з голаду аж сланяецца, а ён галіцца. Я ось табе зараз пагалюся. Паспее, хай павячэрае.

«Як у партызана», — паўтарыў сам сабе Антось і спытаў:

— А ці ты бачыў тых партызанаў, што кажаш пра бараду?

Васіль збіраўся нешта сказаць, але Кірэй апярэдзіў яго.

— Ён мне галаву прадзёўб са сваімі партызанамі. За гэтыя два тыдні, што я тут, ён спакою не дае — хадзем і хадзем. Кажа, тут блізка, у Налібоках. У Подзішчах бываюць, але толькі праездам, — малы лес, баяцца.

Маці адразу насцярожылася. Ёй заўсёды рабілася не па сабе, калі сыны заводзілі такую гутарку. Ці мала яны нагараваліся? А цяпер яшчэ самі шукаюць бяды на сваю шыю. Ах, сынкі, сынкі!.. Ці была яна хоць год спакойная за іх? Ні разу! Толькі стаў на ногі Кірэй — забралі паны ў турму за палітыку. Адсядзеў тры гадкі — пайшоў у салдаты. Тут вайна з немцамі — і прапаў, як у ваду ўпаў. Праўда, пасля верасня трохі супачыла душою. Сыны Антось, Васіль, дачка Люба — пайшлі вучыцца, хоць і цяжка было і гаспадарку весці і вучобу глядзець. Ды гэтыя паўтара гады прайшлі, як адзін дзень. Зноў навала, яшчэ большая — немец вайною пайшоў. Сярэдняга, Антося, узялі па прызыву яшчэ да вайны, а адступалі нашы — падаўся з імі самы малодшы, Васіль, яшчэ зусім дзіця, здаецца, нядаўна без портак бегаў. Як было мацеры пераносіць, што дзеці паразляталіся, нібы птушкі?

Але вярнуўся дадому Васіль — не ўдалося яму прарвацца да сваіх. Ды ці доўга пасядзеў спакойна? Акрыяў крыху — зноў за сваё: пайду ў партызаны...

Адно да аднаго. Тут праз які час вярнуўся Кірэй. Ці магла думаць старая маці, што ўбачыць сына? Малая была надзея. Сэрца маці як чула, што сын жывы, што можа і прыдзе калі, але не верылася, што сама яна дажыве, дачакае тае пары. Гора падкошвае чалавека, як каса траву. Аж прышоў — адны косці ды скура, кульгавы, паранены. Кажа, адпусцілі... Адно пасля прызнаўся, што ўцёк з нейкага канцлагера... Халера іх ведае!.. Усяго навыдумлялі на гэтага няшчаснага чалавека... Цяпер пачала думаць толькі пра Антося. Дзе ён, бедны, ці жывы? А Васіль колькі разоў падпорваў Кірэя: хадзем у партызаны. Тады маці пачынала плакаць, і Кірэй супакойваў яе, што нікуды пакуль што не пойдзе...

Ну вось, прычакала сярэдняга, радавацца трэба... Але свет такі неспакойны. Ажно страшна. Усе тры сыны дома, хоць, праўда, першы раз за чатыры гады. І радасна і страшна. Людзі яшчэ пазайздросцяць, нагаворацъ, наклічуць бяду... Можа і праўда, што свая хата — не абарона ад цяперашніх душагубаў...

Такі рой думак праплыў у галаве старой Хвядоры, пакуль сыны яе рассаджваліся за сталом, перакідваючыся жартамі.

Маці схамянулася. Яна падсунула бліжэй да стала маленькі ўслончык і пасадзіла ля сябе Любу. Сыны сядзелі на лавах: Антось на покуце, Кірэй — злева, а ля яго — Васіль.

— Ну, Кірэй, налівай. Была ў мяне пляшка гарэлкі, на лякарства хавала, — нібы апраўдвалася маці, што ў яе ёсць такое багацце.

Кірэй, звесіўшы галаву, круціў у трубку край настольніка, відаць, аб нечым думаў, бо твар яго быў задуменны і нават суровы: бровы насуплены, над пераноссем папярочная складка. Ён не пачуў, што маці сказала яму, і прадаўжаў свой занятак.

Антось здзіўлена паглядзеў на Кірэя: мо' ён не рады, што яго патурбавалі? Антось сам быў узрушан, што пабачыў сваіх, але на сэрцы ў яго было неспакойна. Яму карцела адно: як паставіцца Кірэй да таго, што меўся яму сказаць Антось? Уласна кажучы, для гэтага ён і прабіраўся сюды, хоць яго і папярэджвалі таварышы. Нават сам камандзір сказаў: «Ты рызыкуеш галавою. Ці прывядзеш ты сюды брата — гэта яшчэ невядома. А што мы можам страціць цябе — гэта больш вераемна. Праўда, я хацеў бы, каб было так, як ты кажаш»... А Антось тады крыху самаўпэўнена адказаў: «Як пашанцуе, то прыдзем утрох». Вось хутка будзе відаць. Маці, усё маці... Шкада яе адну пакідаць.

Васіль таксама быў неспакойны. Ён ведаў, што слова Антося будзе рашаючае, і таму з нецярпеннем чакаў, пакуль той пачне гаварыць. Ён здагадваўся, што Антось прышоў не з нямецкага палону — выгляд у яго быў не той, што ў людзей, якія выпадкам вырываліся адтуль, а самы звычайны, як у кожнага вясковага хлопца. Хутчэй за ўсё, гэта знарок, каб не кідацца ў вочы немцам. У яго нават валасы адраслі — грыўка на два пальцы, якую ён прыгладжвае набок.

Спакайней за ўсіх выглядала Люба, хоць яна круцілася ўвесь час і не магла ўседзець на адным месцы. Яна то шукала яшчэ аднаго нажа, які недзе заваліўся, то дасыпала солі на сподак, то клала каля кожнага лусту чэрствага хлеба. Яна яшчэ не паспела падумаць: а што будзе далей?

— А дзе гэта наш сабака? — ні з таго ні з сяго спытаў раптам Антось. — Я ішоў, і ён не адазваўся.



— Гэта ж прапаў недзе, сынок мой, — адказала маці.—Неяк услед, як Кірэй прышоў. Усё выў па начах, і да гэтага выў, а цяпер зусім збег. Я ўсё баялася, што на бяду якую, ажно, хвала богу, яшчэ прыбытак у хату...

— Прыбытак гэты, мама, не надоўга, — уставіў слова Антось. — Я вось зараз вам усё скажу, таіць няма чаго... Ну, пускайце чарку. Мама, вы налівайце першая, чаго там... Кірэй нешта задрамаў.

Маці наліла ў шклянку некалькі кропель, а пасля, падумаўшы, прыбавіла яшчэ.

Як памятаў Антось, маці ніколі не падымала чаркі, каб не паблаславіць тых, што сабраліся за сталом. Гэта быў для яе нейкі ўрачысты момант, калі яна азіралася на пражыты час, рабіла свае вывады, падагульненні, планавала наперад. Можа гэта тлумачылася тым, што яна даўно была і гаспадаром і гаспадыняю ў гэтай, хоць беднай, але ўласнай хаце, і думала заўсёды, як лепш выкруціцца з бяды. А можа яшчэ і таму, што радка даводзілася падымаць чарку — толькі ў самыя значныя часіны-здарэнні, калі без яе, як яна казала, грэх сесці за стол.

Вось і цяпер яна трымала ў амаль што чорнай, спрацаванай руцэ да паловы налітую шклянку і гаварыла, абводзячы ўсіх вачыма:

— То дзякаваць богу, што я перад смерцю сваёй ўгледзела вас усіх. — Тут яна змахнула леваю рукою слёзы з вачэй і прадаўжала: — Не думала я вас бачыць, сынкі мае, не думала. Зусім я аслабела ад рознага ліха. А хацелася б мне яшчэ прычакаць і дзетак вашых. — Яна зноў заплакала, выцерла рогам настольніка пачырванелыя вочы. Шклянка гойдалася ў яе руцэ. — Тады я ўжо спакойна памёрла б... То будзьце здаровыя, дзеткі... Дай бог, каб скарэй скончылася гэтая праклятая вайна, каб мы яшчэ зажылі па-людску. Будзь здаровы, Кірэй...

— На здароўе! — адказалі ўсе хорам.

Маці выпіла, а кроплю з дна падкінула пад столь над галавою. Чарка пайшла да Кірэя, пасля да Антося, Васіль адмаўляўся, але яго прымусілі. Люба таксама доўга крывілася, але і яна памачыла вусны.

Размова пайшла самая звычайная. Гаварылі пра гуркі, што ўрадзілі ў гэтым годзе, што мала бульбы накапалі — не будзе чым карміць парасяці; пра паляндвіцу і сала, што пазычалі, калі прышоў дадому Кірэй, і што пазычанае ідзе, як гарыць.

— Дык вы здагадваецеся, што я прышоў да вас з партызанаў? — спытаўся Антось, калі адчуў, што чакаюць яго слова і што цягнуць далей няма сэнсу.

Маці і Люба неяк збянтэжыліся. Затое ў Кірэя і Васіля аж загарэліся вочы.

Пасля кароткай паўзы загаманілі ўсе разам.

— А чаму ж ты без зброі? — першая выпаліла Люба.

— Дык гэтыя партызаны і праўда вядуцца ў лясах? — спытала маці, апамятаўшыся.

— Як жа цябе пусцілі адтуль? — гэта ўжо голас мужчыны, Васіля.

— Дык чаго ты ішоў за свет? — таксама трывожна і насцярожана спытаўся Кірэй.

Антось падумаў, каму першаму адказваць, і звярнуўся да Кірэя:

— Пацягнула дадому, сам павінен ведаць. Але не гэта галоўнае. Дачуўся я ад аднаго чалавека, — ён з нашага боку, з-пад Лані, — што

ты вярнуўся. Ён не сказаў дакладна, ці ты ўцёк, ці цябе адпусцілі. Я падумаў: калі адпусцілі, дык толькі паміраць, а калі ўцёк, то рана ці позна зноў трапіш у іх лапы. Вось і захацелася глянуць на цябе — гэтулькі не бачыліся. — Антось спыніў позірк на Кірэю. — Глядзі, які ты — галава, як у млынара. Калі ты так ссівеў? — Яму ніхто не адказаў, і ён гаварыў далей: — Тут яшчэ... — Антось на момант замяўся: казаць ці не? — Сувязь трэба было наладзіць з нашым чалавекам, яго брат у паліцыі ў Клецку служыць... Ну, і вас усіх захацелася пабачыць. Проста не знаходзіў сабе месца, аж надакучыў камандзіру, пакуль адпрасіўся. — Антось вінавата ўсміхнуўся і паглядзеў на маці.

Яна зноў выцірала настольнікам вочы, прыгнуўшыся да стала. Пасуравеў твар рухавае Любы, а Васіль неяк увесь напружыўся і чакаў, што будзе далей.

— Як жа ты туды трапіў, да гэтых партызан, як ты кажаш? Проста з арміі? — у голасе Кірэя была несхаваная цікаўнасць.

— Каб жа проста, а то крыва — з палону...

— А сыночак, і ты там быў, дзе Кірэй? — маці ўспляснула рукамі і шырока адкрытымі вачыма пазірала на сына. — Еш ты, чаму ты не ясі? Цябе ж там голадам марылі. Мы чулі тут, і да нас даходзілі салдацікі, хто сумеў уцячы з-за дроту...

Маці пачала падсоўваць сыну хлеб, сала, закамандавала Любе прынесці малака, яек.

— Малачка салодкага выпі, адразу аджывеш. А то кіслага... Любка, чаго ты ўсё круцішся без толку, падай брату малака, чуеш?

— Ды не турбуйся, я не такі і галодны. Палуднаваў якраз упару.

Маці перастала есці, пазірала на Антося, а ён расказваў:

— Нашу часць разбілі пад Лясною, за Баранавічамі. Хто змог — уцёк, а нас, чалавек пятнаццаць, што ад роты засталося, абкружылі. Адбіваліся, пакуль былі патроны і гранаты, спрабавалі нават прарвацца. Не выйшла... Зграблі нас... Сілаю вінтоўкі з рук вырывалі... Пасля — за дрот. Голад, смерць. Сёй-той спрабаваў уцякаць. Прыстрэльвалі. Месяц я прабыў за дротам, а пасля нас, вялікую групу, пераганялі на новае месца. Меліся недзе адвозіць. Я то думаў уцячы, — і кожны думаў, — але ўсё чакаў выпадку, каб не проста чорту ў зубы трапіць... А ўцёк, можна сказаць, зусім выпадкова. Мог і косці даўно парыць...

У хаце было ціха. Толькі на столі звінелі мухі, ніяк не супакойваючыся нанач. Усе пазіралі на Антося, а ён паволі расказваў, водзячы тронкамі нажа па стале, нібы запісваў усё тое, пра што цяпер гаварыў. І хоць ён здаваўся спакойны, усе бачылі, што ён хвалюецца, перажываючы нанова ўсё ранейшае.

— Вось ідзём мы ўдваіх з адным маладым украінцам, чарнігаўцам. Я слабы, а ён яшчэ слабейшы — ледзьве ногі цягне. Абхапіў мяне левай рукою за шыю, а я яго ўпоўкі падтрымліваю. І трэба ж было яму спатыкнуцца — на роўным месцы... Мы абодва так і зарылі тварам у зямлю. А валакліся мы ззаду... Раптам — тук-тук-тук! — немец на кані пад'ехаў, стаў, ляснуў аўтаматам. Мы, замест таго, каб падымацца, так і ўраслі ў зямлю, не варушымся. Канец... Ну, даў ён чаргу... Я толькі памятаю, што мяне аглушыла... і пяском сыпанула з-пад конскіх капытоў... І яшчэ што... Страшна ўспомніць... Мой таварыш пацягнуўся ўсім целам, — так, як пасля смачнага сну толькі пацягваюцца, а рукою, што ў мяне на шыі ляжала, як павядзе да сябе, аж у суставе луснула.



І заціх... Абмяк... Чую — нешта цёплае ў мяне па шыі пабегла. Думаю — усё ўжо. Ляжу... Ажно ж цішыня. Усе пайшлі, не пацікавіўшыся намі. Відаць, добры стралок быў немец — думаў, не прамазаў. Шарганўў я тварам па зямлі, глянуў адным вокам: бачу, прысады ля дарогі, а там на захад нашы падыбалі і канвой на конях гарцуе па баках... Кранўў я сябе за шыю, глянуў на руку — кроў. А каб боль які адчуў — не. Тут я выплюнуў пясок з рота, перавярнуўся на бок, паварушыў хлопца. А пад ім лужына крыві. Так наўскасяк як павёў немец аўтаматам, дык яму нешта чатыры кулі трапіла, і ў левую руку, што на мне была. Гэтая, відаць, мне мецілася, ды ён, небарака, забраў усе...

Антось замоўк. Маці плакала, усхліпваючы. Люба ўцякла з-за стала і кінулася на палок ля печы. Васіль пазіраў у столь і стараўся не міргаць вачыма, у якіх стаялі слёзы і гатовы былі закапаць па твары. Кірэй сядзеў змрочны, абапёршыся на руку і прыкрыўшы бараду і вусны далонню.

Курэў кнот, бо эканомілі газу. Уздрыгвалі цені па сценах хаты. Стала душна. Антось выцер пот з ілба, прыгладзіў валасы, правёў далонямі па шчаціне на твары.

— Праўда, браце, што быў ты адною нагою на тым свеце, — парушыў цішыню Кірэй. — Што ж, на тое вайна, некага павінны забіваць, — зрабіў ён недарэчны вывад і, каб згладзіць гэта, дадаў: — Я кажу, што наша маці яшчэ шчаслівая. Няхай бацька рана памёр, гэта праўда, цяжка нас было гадаваць, а ўсё ж вось сабраліся ўсе ў сваё гняздо. А здавалася, што ўжо адрэзана нам сюды дарожка. Эх-хэ-хэ... — закончыў ён сумна, нібы не радуючыся, што сядзіць дома, у роднай хаце, за сваім сталом.

— Твая праўда, толькі ці надоўга мы сабраліся — іншая справа, — паківаўшы галавою, нібы шкадуючы чаго, заключыў Антось.

Маці перастала плакаць, задумалася. Васіль з нецярпеннем чакаў таго «нечага», з-за чаго прышоў дадому Антось.

А той пастукаў пальцамі па стале, нібы патрабуючы цішыні, якая і так панавала ў хаце, выразна сказаў, гледзячы ў стол:

— І ўсё гэта былі яшчэ кветачкі, а ягадкі ўперадзе. Скажу вам, мама, адкрыта: нам з Кірэем трэба ісці, пакуль не позна. Праўда, я не чуў яго слова, але думаю, што другога ратунку і яму і мне — няма, — рашуча скончыў Антось і глядзеў на маці, чакаючы. Яна маўчала, а пасля зноў заплакала.

Кірэй кашлянуў, зірнуў на матку, затым на Антося і, відаць, пераканаўшыся, што слова за ім, сказаў, уздыхнуўшы на поўныя грудзі, нібы скінуў з сябе цяжкі груз:

— Што ж, я згодзен з табою, Антось. Другога выйсця няма. Нельга стаяць паміж молатам і кавадлам, я ў гэтым добра пераканаўся. З гэтым душагубам нам няма месца на адной зямлі. Адно мне няясна: калі ты думаеш ісці? — звярнуўся ён да Антося, бо матчын плач ён прыняў за маўклівую згоду.

— Цяпер, — сказаў Антось, — не адкладваючы.

Хвядору нібы штурханулі ў плечы. Яна ўсхапілася з услончыка, кінулася да Антося і ашчаперыла яго за шыю. Паваліласяпляшка, пакацілася па стале, стукнулася аб падлогу. Заплакала Люба, ускочыў з-за стала Васіль. Адзін Кірэй сядзеў нерухома, чакаючы, пакуль усе супакояцца.

А маці праз слёзы прыгаворвала:

— Сыночак, не пушчу, не пушчу, што хочаш рабі... Пабудзь хоць адну ночку, пераначуй, супачынь. Родненькі мой, — лемантавала яна, — пашкадуй мяне, старую, можа мне заўтра паміраць... Дайце хоць паглядзець на вас усіх адну часінку...

— Супакойцеся, мама, не трэба так... — усхвалявана гаварыў Антось, гладзячы рукою яе худыя плечы. — Што вам гэта дасць, калі мы пабудзем? Нічога. Толькі вы будзеце глядзець на нас і плакаць. Не трэба...

— А можа і праўда пераначуем? — няўпэўнена спытаў Кірэй. — Няўжо ты думаеш, што мы вельмі каму так патрэбны? Каму мы вока запарушылі?

— І я ж кажу, — падхапіла маці, — пераначуйце, а заўтра вечарком пойдзеце, бог з вамі. Я ж вас не ўтрымаю, цяпер дзеці сваім розумам жывуць.

— Хай будзе па-вашаму, — падумаўшы, сказаў Антось, хоць нейкі ўнутраны голас падказваў яму не згаджацца. — Пераначуем, а там пабачым.

Пачалі збірацца спаць. Маці падаставала з кубла ў сенцах усе чыстыя посцілкі, дзяружкі, пачала слаць на палку Кірэю з Васілём. Люба паслала сабе з маткаю на печы. Антосю, прымасціўшы ўслон, паслалі пры покуце.

Кірэй з Антосем закурылі — у Антося было паўпачка тытуню. Кірэй расказваў пра свае ваенныя прыгоды з часу вераснёўскай кампаніі з немцамі, пра атаку польскіх уланаў на нямецкія танкі, у якой яму давялося быць; як пад ім забілі каня, а яго ранілі, як пасля папаў у палон, спрабаваў уцякаць ды загналі ў канцлагер. Агаліўшы левую руку да локця, ён паказаў Антосю неахайна выкалаты чатырохзначны нумар. Потым палез у кішэню і паказаў даведку, якую «выдаў» яму добры паляк Харута, былы гравер, з якім ён быў у канцлагеры і з якім разам яны ўцяклі.

Васіль, які не раз усё гэта чуў і бачыў, круціўся каля іх, нібы хацеў нешта сказаць. Але вось маці паклікала яго, каб напхаў сяннік саломаю. Ён неахвотна ўзяў паласаты вялізны мяшок і пайшоў да парога. Ужо трымаючыся за клямку, ён абярнуўся на хату і крыкнуў:

— І я з вамі пайду!

Кірэй з Антосем зарагаталі ў адзін голас, а маці так і застыла на месцы з падушкаю ў руках.

— Глядзіце, людзі, што гэта робіцца? — са стогнам спыталася Хвядора. — Не паспела малако на губах абсохнуць, а ўжо і ён праўвайну думае. На цябе я яшчэ знайду...

Можа яшчэ і доўга так гразіла б маці, але на двары пачуліся галасы людзей, і над імі ўзвысіўся крык Васіля.

Пасля нечым цяжкім стукнулі, як па мяшку, пачуўся грукат, шум, бразнулі дзверы ў сенцах, і вось ужо нейчая незнаёмая рука шарыць па сцяне, шукаючы клямкі. Мужчыны ўсхапіліся на ногі, круцячыся на месцы. Антось трымаў напагатове наган. Кірэй глянуў на яго і пахаладзеў.

— Кінь, кажу! Давай сюды! — ён у момант вырваў наган у Антося і паклаў пад настольнік ля хлеба. Толькі ён паспеў зрабіць гэта і кінуўся да дзвярэй, як парог пераступіў высокі, увесь у чорным паліцай



з вінтоўкаю ў руках. За ім паказалася яшчэ некалькі такіх жа чорных фігур.

— А-а-а, — з'едліва зацягнуў першы, — усе ў зборы! Вы арыштаваны! — павысіў ён голас, звяртаючыся да Кірэя і Антося і тыцкаючы ім па чарзе руляю вінтоўкі ў грудзі. — Абшукаць хату, — загадаў ён сваім падначаленым.

Маці як стаяла, так і асунулася на палок. Але гэта была толькі хвіліна слабасці.

— А дзе ж Васіль? — раптам дзіка закрычала маці.—Дзе ён дзеўся?

— Ціха, старая, нідзе твой Васіль не прапаў...

Жанчына з плачам кінулася да дзвярэй, але там стаяў, як укапаны слуп, здаровы дзяцюк і перагарадзіў ёй дарогу вінтоўкай. Маці ўхапілася за яе, нібы збіраючыся вырваць зброю з рук паліцая, але той злёгку штурхнуў жанчыну, і яна адляцела на хату і ледзь не ўпала. Люба падхапіла яе і пасадзіла побач з сабою на палок.

Усё рабілася, як у сне. Паліцаі перэтрасалі ўсё ў хаце, пераварочвалі ўверх дном — глядзелі ў сенніках, падушках, шнырылі ў печы, пад печчу, у куфры, пад лавамі.

Пакуль абшуквалі Кірэя і Антося, старшы паліцай сеў за стол і нешта запісаў у кніжачку. Пасля скрывіўся, гледзячы на пустую бутэльку.

— Балявалі, разбойнічкі? Адзначалі перамогу? Добра, добра, мы вам адзначым, — з пагрозай сказаў ён, цярэбячы брэнзлі настольніка і пасоўваючыся бліжэй на пакуць, дзе пад настольнікам побач з хлебам ляжаў наган. — Зараз жа давайце зброю! Дзе яна ў вас схавана? Ну?!

Браты маўчалі, аглушаныя нечаканым налётам, як громам.

Паліцаі далажылі, што пры вобыску нічога не знойдзена. Начальнік махнуў рукою.

— Даю пяць хвілін на зборы. Жыва — а не то...

— Паслухайце, — першы прышоў да памяці Кірэй. — За што вы нас арыштоўваеце? Што мы каму кепскае зрабілі?

— А-а-а, — зноў завыў паліцай. — Прыкідваецеся дурнямі? Чаму ж гэта мы ведаем, а вы самі не ведаеце? П'яныя былі, не памятаеце? Успомніце, нічога.

Кірэй падумаў, што з гэтым гаварыць бескарысна, замоўк і стаў апранацца. «Якая перамога і чаму разбойнікі?»—тужыўся ён разгадаць намёк начальніка паліцыі.

— Можа вы пераблыталі, — сказаў Антось, ніяк не пападаючы рукой ў правы рукаў пінжака. — Хто вам патрэбен, скажыце проста?.. Ёсць жа нейкія законы, па якіх чалавек мае права ведаць, за што яго вінавацяць...

Паліцай з-пад ілба глянуў на Антося, відаць, хацеў вылаяцца, але сцярпеў.

— Ах, які ты разумны! Закона захацеў? Калі ласка, усё робіцца па закону. Вас, братоў Шаўчукоў: Кірыла, Антона, Васіля — арыштоўваем за забойства сям'і бургаміcтра Навінскага, якое вы зрабілі ўчора ноччу ў Саматканавічах. Цяпер дайшло?

— Вы што, не ў сваім розуме? — вызверыўся Кірэй, падступаючы да яго. — Я прысягну, што ўчора ноччу нідзе не быў. І браты мае не былі, нікога не бачылі.

Але начальнік паліцыі нібы не чуў яго.

— Мала гэтага, — прадаўжаў ён. — З вамі яшчэ былі людзі. Вы павінны нам сказаць, хто яны, інакш вам прыдзецца крута. — Ён змоўк,

а пасля крыкнуў, аж падскочыў агонь у лямпе. — Прывядзіце таго, з двара!

Паліцай вышаў за дзверы.

— А якія-небудзь доказы ў вас ёсць? Гэта проста грубая правакацыя!.. — Антось падступаў да начальніка.

Той не паспеў адказаць. Пачуўся тупат некалькіх пар ног. Першы ўвайшоў паліцай, што выходзіў выконваць загад, за ім паказаўся бледны, з разбітымі вуснамі Васіль, якога трымалі за рукі два паліцаі.

— Бач, хацеў уцячы, паганец, — мацаючы падбітае вока, сказаў адзін з тых, што трымалі хлопца.

— У цябе не пытаюць, — абарваў яго начальнік.—Апранайся. Хутка!.. — звярнуўся ён да Васіля. — Мы і так тут валаводзіліся доўга. Усё будзе ясна!

Як знайсці словы, каб перадаць хоць дзесятую долю таго, што рабілася ў гэтай хаце, калі выводзілі трох сыноў няшчаснай жанчыны, якая век свой пражыла ў надзеі на дзяцей, што яны выб'юцца ў людзі і дагледзяць яе, што не будзе яна валяцца пад плотам ці ісці жабраваць на старасці год.

Як перадаць, што думала і адчувала маці, калі яна падавала Васілю торбачку з акрайцам хлеба і кавалкам сала і, упаўшы на грудзі сыну, галасіла, як па нябожчыку. Камень і той рассыпаўся б на пясок, а матчына сэрца не падалося.

— ...Сыночкі мае, дарагія! Хай бы я вас маленькіх пахавала... Што я буду рабіць без вас? Нашто мне жыць на гэтым свеце? Бярыце і мяне, ірады, бярыце, нашто вы мяне пакідаеце на пакуту?

— Не трэба, мама. Што яны вінаватыя?.. Ім загадалі, — спрабаваў супакоіць матку Кірэй. — Яны ж на службе...

І тут усіх здзівіла Люба. Яна раптам падляцела да дзвярэй, абмінаючы паліцаяў.

— Не пушчу, забіце на месцы, не пушчу! Усіх забірайце, усіх і мяне, і маму! Бо яны не вінаваты, яны нідзе ўчора ноччу не былі!

Спачатку ўсе слухалі, не варушачыся, як зачараваныя, а пасля начальнік паліцыі, ашчэрыўшы зубы і робячы на твары нейкае падабенства да ўсмешкі, наблізіўся да Любы і працягнуў руку, збіраючыся ўзяць яе загрудкі. Любка ўдарыла яго па руцэ.

Паліцай аж адскочыў.

— У-у-у, яшчарка! Шкада, што ты яшчэ жаўтаротая, а то б і цябе ўзялі, не пашкадавалі б! Падрасці трохі, не спяшайся, паспееш, — гаварыў ён ледзяным тонам.

Плач і дзікі лямант разрывалі хату, калі сталі развітвацца. Мужчыны крадком выціралі слёзы, панурыя, сумныя выходзілі з хаты.

Калі ўсе вышлі на вуліцу пад плач і галашэнне, браты адзін за адным азірнуліся, акінулі вачыма, — хто ведае, можа апошні раз, — сваю старую маленькую хату, схаваную ў паўзмроку ночы, у зеляніне дзікага хмелю, з двума высокімі яварамі, якія сумна шумелі на ветры, глянулі на старую згорбленую маці з заломленымі ўгоры рукамі і на падлеткасястру, — і ў кожнага зашчымела сэрца, а з вачэй самі пакаціліся слёзы.

А маці з дачкою яшчэ доўга стаялі на ганку, пазіралі на тую дарогу, па якой павялі яе сыноў, якія — яна верыла — былі не вінаватыя. І вусны яе самі сабой шапталі, як малітву, развітальныя словы:





— Сыночкі... родныя... Заклінаю вас... ад вялікае напасці... ад цяжкае пакуты... ад ліхое кулі...

* * *

Прайшоў тыдзень, як браты Шаўчукі трапілі ў падвал камендатуры. За гэты час яны так змяніліся, што не пазнавалі сябе. Здзекі, пабоі, кроў, лаянка, пагрозы, спроба падкупіць, зноў пагрозы, зноў здзекі... Браты зацята маўчалі. Ды што яны маглі сказаць? Хіба яны вінаватыя? Не, не грэх было б прыняць кулю за справу, якую ты зрабіў уласнымі рукамі і якую ты лічыш патрэбнай. Але гінуць ні за што, як ахвяра правакацыі, — цяжка, невыносна крыўдна.

Была глыбокая ноч. Кірэй, накрыўшыся пінжаком, ляжаў на саломе. Сыра і холадна. Побач ляжалі браты, можа, стаіліся, думалі. Тут многа часу для роздуму, каб толькі не перашкаджаў боль, каб не смактаў голад.

Тыдзень допытаў не прайшоў дарма. Высветліліся амаль што ўсе акалічнасці, якія пацягнулі за сабою арышт братоў.

Па-першае, паліцыя мела пісьмовую заяву дабрыніцкага солтыса аб тым, што польскі ваеннапалонны Кірыл Шаўчук уцёк з нямецкага канцлагера і нелегальна жыве дома; што Антон Шаўчук уцёк з нямецкага палону і калі не ў партызанах, то таксама недзе хаваецца; што Васіль Шаўчук, былы актывіст, камсамолец, у час адступлення Саветаў быў за праваднік, удзельнічаў у баі на Лані. Вярнуўся дадому і агітуе супраць новага парадку.

Па невядомых прычынах гэтая заява не дайшла да рук каменданта Клецка оберлейтэнанта Коха, які вырашаў такія справы хутка і часцей за ўсё — уласнаручна. Ён не баяўся бачыць чужой крыві. Наадварот, яму прыносіла асалоду магчымасць катаваць плёткай безабаронную ахвяру, а калі тая падавала адзнакі незадаволенасці — прыстрэльваць з імяннога пазалочанага парабелума. Хутчэй за ўсё, камендант быў заняты нейкімі больш тэрміновымі і больш важнымі справамі.

Па-другое, высветліліся некаторыя падрабязнасці забойства сям'і бургаміcтра Навінскага. За дзень да арышту Шаўчукоў група ўзброе-

ных людзей сярод ночы ўварвалася ў дом да бургамістравага бацькі, які жыў у вёсцы Саматканавічы, кіламетраў за сем ад Клецка. Ім, відаць, было вядома, што вечарам сюды прыедзе з горада бургамістр з жонкай-імянінніцай. Хутчэй за ўсё іх цікавіў сам бургамістр, які падаваў ужо «добрыя» надзеі на службе ў немцаў: па яго даносах было расстраляна пятнаццаць актывістаў. Гэта быў толькі пачатак. Пасля бургамістр стаў вяршыць лёсам усяго раёна: каго прысуджваў да расстрэлу, каго адпраўляў у Нямеччыну, каго аддаваў у паліцыю.

У той вечар пасля добрай выпіўкі госці ўляглiся спаць. Сярод ночы іх разбудзіў грукат у дзверы. Стары Мікодым Навінскі пайшоў адчыняць. Пачуўшы грукат, бургамістр, доўга не думаючы, кінуўся пад печ, дзе калісьці сядзелі куры.

Пакуль стары дайшоў да парога, дзверы ад удару прыклада вылецелі з завесамі. Гаспадара забілі тут жа, на парозе.

Затым прыкончылі жонку бургамістра, перакладчыцу, і брата-паліцая. Бургамістра не знайшлі.

Нарэшце, асноўнае, што стала самай большай улікай супраць братоў — гэта тое, што нібыта бургамістр Навінскі, седзячы пад печчу, пазнаў голас Кірэя. Аказваецца, старыя грахі не забыты. Доўгая памяць у Навінскага і хворае самалюбства, калі не мог ён забыць, не мог дараваць таго прыніжэння, якое давялося яму перанесці па віне Кірэя.

Сем гадоў назад Кірэй, тады яшчэ малады хлопец, служыў парабкам у багатага Мікодыма Навінскага. Служыла ў яго і сірата Гэля з Ліпкі, ціхая прыгожая дзяўчына, першае нясмелае каханне Кірэя... Быў пачатак восені. Неяк надвячоркам Кірэй пачуў ля гумна жаночы крык. Кірэй кінуўся туды. Ля стога свежай саломы Гэля адбівалася ад гаспадаровага сына. Кірэй, доўга не думаючы, схапіў таго за каўнер, паставіў на ногі і з усёй сілы смальнуў у зубы. Яны біліся, як ашалелыя, куляліся па саломе, хрыпелі і лаяліся. Каб не набег гаспадар, Кірэй можа і задушыў бы гэтага таўстазадага паганца, які цяпер стаў бургамістрам Станіславам Навінскім з неабмежаванымі паўнамоцтвамі.

Тады той Стась пакляўся адпомсціць, і Кірэй нават не падазраваў, што праз гэтулькі год яны яшчэ раз сыйдуцца на вузкай дарожцы і што ў яго, Кірэя, будуць звязаны рукі.

Звязаныя рукі... Вось дзе прышлося пакаўзнуцца. Кірэй, Кірэй, ці даўно тое было, калі ты глядзеў смерці ў вочы і смяяўся? А цяпер... Нарэшце злы лёс узяў цябе на мушку... Як ратавацца? Што рабіць? Што-о-о! Увесь розум Кірэя крычаў, бунтаваў супраць гэтай несправядлівасці, але быў не ў сілах прыдумаць што-небудзь вартае. Мо' пакланіцца ў ногі Станіславу Навінскаму, папрасіць прабачэння за некалішняе дурацтва? Не, той не адступіцца ад свайго з-за нейкіх там трох басякоў. Уласны гонар яму даражэй. Навінскі не адступіцца, гэта ясна. Ды і Кірэй не пойдзе на гэта.

Па-трэцяе, не ўдалося ўстанавіць сувязі з тым паліцаем, пра якога гаварыў Антось — у твар яны яго не ведалі. Спачатку Кірэй нават падазраваў, што можа той «адзін чалавек» і выдаў іх немцам, але, як паказаў далейшы ход справы, яго імя не было замешана ні ў паказаннях так званых сведак, ні ў пісьмовых дакументах, ні ў пратаколах.

Такім чынам, адпадала апошняя слабая надзея... Ды хай будзе, што будзе! А што будзе? Смерць! Не, трэба ўцякаць!.. Так, толькі ўцякаць. Калі? Як іх павядуць туды, адкуль не варочаюцца... Уцякаць!..



Прымаючы такое рашэнне, не аб сабе думаў Кірэй. Ён думаў пра старую маці, пра неўпарадкаванае жыццё ўсёй іх сям'і. А браты... Што бачылі яны, акрамя гора, акрамя цяжкага жыцця парабкаў? Можа хоць гэтыя хлопцы застануцца жыць.

З-за кратаў паволі падкрадалася раніца. Кірэй пачаў раскатурхваць братоў.

* * *

На досвітку лістападаўскага дня з падвала клецкай камендатуры вывелі трох чалавек. Канвой з немцаў і паліцаяў, грукаючы ботамі па заінеламу бруку, павёў іх да грузавой крытай машыны, што стаяла на вуліцы перад вокнамі камендатуры. Арыштаваныя ледзь пераcтаўлялі ногі. На тварах іх былі сляды пабояў і катаванняў. Усе трое — худыя і аброслыя. Асабліва вылучаўся старэйшы па ўзросту, высокі і тонкі брунет з кручкаватым носам і сухім вузкім тварам, завостраным кнізу, як клін. У яго цёмных вачах свяціўся нейкі невыказаны боль — яны блішчалі, як мокрыя слівы на сонцы. Вакол рота на запалых шчоках прарэзаліся глыбокія маршчыны.

Аднак знешне ён выглядаў спакойна і, злёгку накульгваючы, ішоў побач з другімі. Два яшчэ зусім маладыя хлопцы, што ішлі справа і злева ад яго, былі абодва сярэдняга росту, шырокія ў плячах і светлавалосыя. Кожны, не задумваючыся, сказаў бы, што гэта родныя браты. Больш таго, можна было прыкмеціць, што і старэйшы па гадах чалавек нечым нагадвае малодшых: было нешта агульнае ў вачах, хоць і розных па колеру.

Гэта былі браты Шаўчукі. Іх падвялі ззаду да машыны. Матор ужо вурчаў, за рулём сядзеў белабрысы немец у акулярах, з паднятым каўняром шыняля. Змучаныя голадам і допытамі, браты з цяжкасцю ўзабраліся на машыну, памагаючы адзін аднаму. У кузаў ускочылі чатыры паліцаі, а два немцы селі ў кабіну побач з шафёрам.

Братоў пасадзілі на жалезнае дно кузава ля кабіны, а самі паліцаі селі на лаўкі ля правага і левага барта.

Павярнуўшы направа, машына на поўнай хуткасці імчыцца за горад, у пясчаны кар'ер. Стужкай уецца за бортам Нясвіжская вуліца. Паабапал — драўляныя дамы. Ніцыя вербы, шэрыя ад інею, стаяць, не зварухнуцца. Вось і той дубовы крыж, што цудам уцалеў ад пажару яшчэ перад вайною, калі гарэла вуліца... Колькі разоў даводзілася хадзіць па гэтых калдобістых тратуарах! Дамы... Людзі... Дымы з комінoў... Золкая раніца. Няўжо гэта апошняя раніца ў жыцці?..

Браты сядзяць ціха і нерухома. Паліцаі кураць, рассеўшыся на лаўках і паставіўшы вінтоўкі між каленяў. Дым нямецкіх цыгарэт далятае да Кірэя, прыемна казыча ноздры. Хочацца закурыць.

— Эй, старшы! — звяртаецца раптам Кірэй да крайняга паліцая. — Дай закурыць, усё роўна ўжо...

Той паварочвае галаву, няўцямна глядзіць на сваю ахвяру, а пасля неахвотна лезе ў кішэню і дастае пачак танных цыгарэт, вымае тры штукі і падае Кірэю. Кірэй бярэ іх, дае адну Антосю, другую Васілю. Але той адмоўна круціць галавою — не хоча. Тады Кірэй з нейкай шмат-



значнай усмешкай засаджвае цыгарэту ў грудную кішэньку Антосевага пінжака і кажа:

— Скурыш там... — што можна было зразумець так: «Скурыш на тым свеце», пасля зноў звяртаецца да паліцая і хутчэй загадвае, чым просіць: — Дай прыкурыць!

Паліцай яшчэ раз лезе ў кішэню шыняля, дастае пачак запалак і дае Кірэю. На долю секунды позіркі іх скрыжаваліся, і ў вачах свайго будучага забойцы Кірэй прачытаў ні то зацікаўленасць, ні то спачуванне.

Кірэй з Антосем з прагнасцю зацягнуліся пахучым дымам. Здаецца, слабыя цыгарэткі, а даўно не курыў, зацягнуўся колькі разоў — і прыемна пачынае круціць у галаве, спакайнеюць нервы.

— Што, вы — родныя браты? — пытаецца нечакана паліцай у Кірэя, як у знаёмага.

— Родныя, — коратка адказвае Кірэй.

І ўсё. Паліцай адвярнуўся, даючы зразумець, што размова скончана.

Вуліца ідзе ўгару. На горцы — Арынская царква, могілкі. Яшчэ адзін паварот направа. Да апошняга прыпынку — паўвярсты. Пад'ём на горку. Пад коламі пясок. Стогне матор. Машына, прыбуксоўваючы ў калдобінах, паволі пасоўваецца наперад.



Вось апошнія метры дарогі. Справа — паплавы, якія спускаюцца да рэчкі, злева — вялізны глыбокі пясчаны кар'ер. Недзе тут ім угатавана магіла.

Машына, зрабіўшы разварот, заскрыпела тармазамі і стала. Кірэй акідае позіркам Антося і Васіля. Яны бледныя, ледзь стрымліваюць хваляванне. Самога Кірэя кінула ў дрыжыкі — ці то ад ранішняй свежасці, ці ад напружанасці. Кальнула ў сэрца, як тонкай шпількай.

Паліцаі адзін за другім саскочылі з машыны. У кабіне чуліся ажыўленыя галасы немцаў — тыя аб нечым, відаць, заспрачаліся.

Першы злез Васіль, за ім са стогнамі споўз Кірэй, апіраючыся на братаву руку. Васіль з трывогай зірнуў Кірэю ў вочы, але той не падаў ніякага знаку, толькі сціснуў зубы. Антось на нейкую хвіліну затрымаўся ў кузаве. Перанёсшы адну нагу цераз борт, ён кашлянуў у кулак і з вышыні скочыў проста на паліцая, што стаяў справа ля машыны. Той адразу асеў на зямлю.

Як па камандзе, браты кінуліся ў розныя бакі. Прайшоў пэўны час, пакуль паліцаі нарэшце апамяталіся. Першы стрэл трывожна адбіўся ў Кірэевым сэрцы.

«Свісту не чуваць, не ў мяне цэлілі», — мімаходам падумаў Кірэй. Ён азірнуўся направа ад сябе. Абодва браты беглі шпарка, не азіраючыся, робячы нечаканыя павароты ў бакі. Малайцы!.. Вось прыснуў пясок пад нагамі ў Кірэя, на рыкашэце запела куля. Вось другая, трэцяя... Стрэлы гучалі адзін за адным, як на стрэльбішчы, толькі мішэнямі служылі жывыя людзі.

Кірэй адчуваў, што доўга не прабяжыць... Баліць нага... Ад хвалявання і хуткага руху сэрца гатова выскачыць з грудзей, а лёгкія, здаецца, вось-вось разарвуцца на часткі, хрыпяць, як кавальскі мех. Пясок раз'язджаецца пад нагамі, бегчы цяжка... Але бегчы трэба, трэба, трэба! Ён падганяе сябе, як бізуном, гэтым словам. Кулі свішчуць — часцей, бліжэй, здаецца, апякаючы вуха сваім гарачым посвістам... Раптам моцны штуршок у правую нагу — і Кірэй ляціць тварам у пясок. Як з гарачкі, ён ускочыў, зрабіў два крокі, але зноў паваліўся. Схапіўся за нагу: Кроў! Ну, усё, ён зрабіў, што мог...

Кірэй садзіцца на пясок, азіраецца. Ужо не чуваць свісту куль над галавою, у яго перасталі страляць, але страляніна не гасне. Па гэтым ён пазнае, што браты жывыя, што яны ўцякаюць. Кірэй затуманеным зрокам бачыць, як аддаляюцца і меншаюць іх фігуры, як яны выходзяць з небяспечнай зоны. Антось кіруе ў горад, на агароды, на тую вуліцу, па якой іх нядаўна вязлі. Васіль выбраўся на паплавы, шпарыць да рэчкі, за якою пачыналася балота з кустамі, а далей — лес. Васіль бяжыць лёгка, як заяц, толькі мільгаюць ногі і развяваюцца на ветры валасы і полы жакеткі. «Эх, не скіне, дурань, — з прыкрасцю думае Кірэй. — Але хай, тут дарагі кожны міг. Давай, давай, яшчэ, яшчэ!» — гатоў быў крычаць Кірэй, каб толькі падахвоціць брата, каб толькі ён не запавольваў бег.

Уперадзе загарадзь з калючага дроту. Васіль прыпыніўся на момант, рукою націснуў на дрот і ўжо занёс нагу, каб пераступіць перашкоду, як раптам недалужна спатыкнуўся і асеў.

Кірэя нібы ўдарылі ў сэрца. Ён зразумеў — гэта смерць. Нейкі момант, насуперак сваёй свядомасці, Кірэй чакаў, што Васіль устрапянецца, падхопіцца і пабяжыць, але той не варушыўся. Ён толькі паволі споўз на зямлю, а правая нага, зачапіўшыся калошай за калючкі, доўга

пагойдвалася.

Кірэй заплыўшымі ад слёз вачыма зірнуў у бок Антося. Той дабіраўся да хат, за якімі яго чакала збавенне. Паліцаі і немцы стралялі толькі ў яго. Ён быў для іх апошняй ахвярай, для Кірэя — апошняй надзеяй...

І тут нейкая нечалавечая сіла падняла Кірэя на ногі. Дзіка крыкнуўшы, ён пагразіў кулаком у бок ворагаў і, прыпадаючы на нагу, нейкім неверагодным пачварным галопам кінуўся бегчы, не выбіраючы дарогі.

Хвіліну панавала цішыня, а пасля Кірэй пачуў, як зноў над яго галавою запелі кулі. «Так, так, сюды, сюды»,—ні то думаў, ні то гаварыў ён сабе і бег усё далей, не чуючы больш ні болю, ні стуку сэрца, толькі ўслухоўваўся ў посвіст куль. «Яны не павінны яго забіць, — думаў Кірэй. — Ён партызан. Яму трэба вярнуцца...»

— Ох... — Кірэю нібы пранізала бок нечым тупым і ржавым, ён паваліўся на зямлю. — Страляйце, страляйце, страляйце, — шаптаў ён пабялелымі вуснамі. — Я жывы... Мне толькі цяжка...

У галаве нешта шуміць, нібы там перасыпаецца нейкі жвір. Дзе ён? Нешта знаёмае: вецер свішча ў вушах, чуваць пах конскага поту. Як тонкі піск, гучыць голас: «Шаблі вон! Уланы, уланы, вы гордасць Польшчы! Наперад!» Атака... Немцы... Змяць, растаптаць, пасекчы! Танкі? Глупства! Шаблямі, шаблямі! Дзэ-н-н-н! Шабля вылятае з рукі. Зямля загайдалася... Ой, нага, баліць нага — гэта конь прыціснуў. Буланы, устань, ты не чуеш, што мне баліць? Нага, кроў... Нейкі дрот... Густы, калючы. Гэта лагер... Ну яго к чорту! У мяне дом... свой... Пан Харута? Як вы тут апынуліся? І вы не захацелі там быць? Добра! Ваша даведка, гэты «аўсвайс» — проста цуда! Зялёнай вуліцай — дадому. Усё як мае быць... Дзякую, дзякую, будзьце як дома... Навінскі? Ганіце яго! Я не хачу бачыць гэтага сабаку! К чорту! Дам у морду! Вось толькі ўстану... Рагоча, зараза? Я табе...

— Ха-ха-ха! Глядзіце! Ён звар'яцеў ад страху. Глядзіце! — Нехта крычаў у Кірэя над вухам. — Устае, глядзіце, устае!

— Сціхні, смелы! — крыкнуў другі голас.

Кірэй расплюшчыў вочы. Проста перад носам ён убачыў пясок — ні то чырвоны, ні то жоўты. Кірэй намагаўся ўстаць. Вакол яго было некалькі немцаў і паліцаяў. Адны рагаталі, другія былі сур'ёзныя.

Кірэй стараўся зразумець, што адбылося. Ён зноў паспрабаваў устаць, але рукі падагнуліся, і ён чуць не ўпаў. Два паліцаі ўзялі яго пад пахі, памаглі падняцца. Ён ледзь стаяў, бо правая нага нібы аднялася — ён яе зусім не адчуваў.

Было ціха. Да машыны беглі разгарачаныя боем паліцаі і немец.

— Уцёк! — крыкнуў яшчэ здалёк адзін з паліцаяў.

— Разявы! — плюнуў оберяфрэйтар, начальнік групы, падыходзячы да астатніх, што сабраліся ля Кірэя. — Не маглі аднаго гіцля пасадзіць на мушку...

Нарэшце, да памутнелай свядомасці Кірэя дайшло: Антось уцёк! «Цяпер я памру спакойна», — падумаў Кірэй. Яго апанавала слабасць, а цела пачало раптам пакрывацца халодным потам. Кірэй захістаўся і ўпаў бы, каб не паліцаі.

Нізкі, прысадзісты оберяфрэйтар і два паліцаі наблізіліся да Кірэя. Немец на хаду вымаў пісталет.



— Жывучы, як гадзіна... — сказаў ён сам сабе, знізу ўверх пазіраючы на Кірэя. — Скажы, хто з табою разам расстрэльваў сям'ю бургамістра — і ты застанешся жыць, — звярнуўся ён да Кірэя, падкідаючы ў руцэ невялікі пісталет.

Кірэй з-пад ілба глянуў на гітлераўца і нічога не адказаў. Ён стаяў, як бусел з перабітым крылом, якому ўжо не суджана паляцець у вырай. Пагардлівая ўсмешка асвяціла яго пануры твар, а ў цёмных вачах ажыла несхаваная радасць.

Невядома, чаго чакаў гітлеравец ад гэтага чалавека, толькі, відаць, не каменнай вытрымкі, не знішчальнай усмешкі. Ён размахнуўся рукою з пісталетам і ўдарыў сваю ахвяру пад бараду. Суха ляснулі зубы, галава матнулася назад, за ёю папаўзло і ўсё доўгае цела Кірэя, завальваючыся на спіну. Немец стрэліў Кірэю проста ў грудзі.

Кірэй адчуў яшчэ, як знік боль у падбародку і як яго цела лягло на нешта мяккае, мяккае, нібы пух.

Крывавае сонца ўставала з-за небасхілу. Яго халодныя промні павіслі над выемкай, дзе людзі ў чорным канчалі сваю чорную справу. Яно нібы ўсміхалася таму, хто чвэрць гадзіны назад, прарваўшы смяротэльнае кола няўмольнага лёсу, борздым крокам ішоў насустрач сваім.





Алег ЛОЙКА

# ЖЫТА КРАСУЕ...



Сонца ўставала памалу,
Вочы расою ўмывала,
А як зірнула на ніву,
Затанцавала, зайграла:

Жыта красуе!..

Ветрык свавольны пранёсся,
Долу нагнуўшы калоссе,
Ды, вінаваты, ціхутка
Тут жа пад лозамі ўлёгся:

Жыта красуе...

Збочвала ў вёску машына,
Пыл закурыўся з-пад шынаў, —
«Тут бы асфальты лажылі!..» —
Лае дарогу хлапчына:

Жыта ж красуе!..

У хустачках белых, стракатых
Крочылі ўзмежкам дзяўчаты —
Кожнай усмешка да твару.
Песня гучыць, як на свята:

Жыта красуе...



Ім усміхнуўся хлапчына,
Доўга махаў ім з кабіны,
Над неабсяжнаю нівай
Песня грымела гімнам:

Жыта красуе,
Жыта красуе!..

# АМЕРЫКАНСКАМУ ДРУГУ...



Спяваеш песню ты
Глухую, смутную,
Яе я слухаю,
Ў грудзях шчыміць, —
Крычыць бязвольнасцю
Слоў боль пакутная:
«Што мае быць,
Таму і быць!..» *

Няўжо і праўда ты
Зямлю ўсю ў квецені,
Бляск сонца, неба сінь
Не стаў любіць, —
Як мог згадзіцца ты
З так хітра сплеценым:
Што можа быць з зямлёй,
Таму і быць?!.

Няўжо трагедыю
Вайны нягоднае,
Жах Хірасімы ты
Паспеў забыць, —
Як мог згадзіцца ты,
Каб стала моднае:
Што можа быць з людзьмі,
Таму і быць?!.

Няўжо вачам тваім,
Рукам рабочага
Няма рабіць чаго,
Ні галубіць
Зямлі ўраджайнае,
Красы дзявочае,

* Сучасная папулярная ў Амерыцы песня «Што будзе, тое будзе...»

Што можа быць,
Можа не быць?!.

Падай руку мне, брат,
Усёй планеце мы
Павінны дружбу, мір
Навек здабыць, —
Бляск сонца, неба сінь,
Зямля ўся ў квецені,
Рука рабочая,
Краса дзявочая
Павінны быць,
Навекі быць!..

## СОНЕЙКА ЗА БОР КОЦІЦЦА...



Сонца, сонейка
За бор коціцца, —
Ой, не хочацца
Ў дом варочацца...

Не спяшы, раса,
Лугі росячы, —
Дай стаміцца мне,
Копы носячы!..

Не бяжы да зор,
Ясны месячык, —
Дай стаміцца мне,
Стагі вершачы!..

Дом шалёваны,
Памалёваны,
Зоры плешчуцца
Ў вокнах ўдовіных;

Зоры плешчуцца,
Маладзік плыве, —
Ноч ліпнёвая
Ўсіх даўжэй ўдаве!..



## СЭРЦА ПЕСНЮ ПЯЕ...



Чуеш, сэрца пяе, сэрца песню пяе, —
Хто пачуе яе, зразумее яе...
Ты падай мне нясмелыя рукі твае, —
Для цябе, аб табе сэрца песню пяе...

Усміхнешся, кудзёркі рукою кранеш,
Замаўчыш, летуценна без слоў запяеш,
Задуменна нахмурацца бровы, —
Я цябе разумею з паўслова...

Закасаю мазольныя рукі свае,
Радасць сэрца кране, лоб трывога спаўе, —
Роздум складкаю ляжа суровай...
Ты мяне разумееш з паўслова.

Сэрца песню пяе, рэхам слова звініць,
Што табою жыве, што табой будзе жыць.
Ты пачула яе, зразумела яе?..
Я кранаю нясмелыя рукі твае,
Замаўкаючы на паўслове...



Мал. В. Ягорава.

Стаян Ц. ДАСКАЛАЎ

# ІЛЬЁЎ МОСТ

## Аповесць

### 1

Ці ведаеце вы жыхароў Балканскіх гор? Яны рослыя і камлюкаватыя, як букі на схілах. Яны суровыя і моцныя, быццам высечаныя са скалаў, што горда ўзнялі да сонца свае вяршыні, непадатныя вятрам і навальніцам. Іх вочы паблісківаюць, як вада на дне глыбокіх і цёмных калодзежаў. Горцы не прывыклі гаварыць ціха, кожнае слова іх адгукаецца рэхам у цяснінах. Сяляне — жыхары далін у цэрквах толькі шэпчуць, а горцы і ў царкве грымяць. І папа сабе яны выбіраюць па голасу—калі зацягне, дык аж купал закалышацца. Мужчыны — тыя, праўда, больш маўклівыя, але кабеты — прысядуць вечарам каля агню і тады пачнецца... Густыя лясы навокал напаўняюцца легендамі пра бунтароў. Кожная апавядальніца мае ў сваім родзе гайдука*— ці гэта быў яе дзед ці прадзед. І старыя і малыя слухаюць яе з незвычайнай увагай, прагна ловяць кожнае слова, і ніхто не ўстане і не адыдзецца. А апавяданне плыве і плыве, як бы гэта яна дастала з дупла старога бука гаршчок з грашыма і кожнаму дае па залатоўцы. З гордасцю расказваюць жанчыны аб тым, што за пяцьсот гадоў рабства ў гэтым краі не нарадзілася ні адно турчанё, бо тут рэдка калі прыпыняліся туркі... І ўжо ва ўсякім выпадку, — яшчэ з большай гордасцю дадаюць мужчыны, — у гэтым краі туркі не начавалі ні разу. Толькі адзін з іх неяк застаўся быў нанач, ды і той не ўбачыў світання. Відаць, таму і не напамінае нішто ва ўсім наваколлі пра панаванне захопнікаў,— ні адна гара, ні

* Гайдук — паўстанец, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху супраць турак.

адзін лес, ні адна даліна не названа турэцкім імем. Гайдуцкая даліна, Запаведнік, Гайдуцкая паляна, Гайдуцкі стан, Гайдуцкі калодзеж,— вось якія назвы сустрэнеш тут на кожным кроку. Нават даўно раскіданыя масты і зарослыя кустарнікам перасохлыя рэчкі захавалі такія ж назвы. І ўсе песні, якія спяваюць дзяўчаты ў талацэ або на вячорках,— пра гэта:

— Ці аддасі, храбры горац Іова,
мілага Яна ў турэцкую веру?
— О, ваявода, сваю галаву лепш
аддам, чымся Яна ў турэцкую веру...

Прыгожы гэта край! З чыстымі і неглыбокімі горнымі ручаямі, якія разразаюць на роўныя часткі атуленыя густым лесам Балканы; з авальным хрыбтом, на якім высяцца нерухома, як паставыя, магутныя векавечныя дрэвы, што даюць напрамак вятрам і аблокам; з пакатымі схіламі, якія парэзаны патокамі, усыпаны дробнымі вясковымі хатамі і напамінаюць здалёк вышываныя ўзорамі ручнікі або пасцілкі. Нават той, хто прыязджае сюды з іншых мясцін, пажыўшы нейкі час, пачынае любіць гэты незвычайны край. Можа ён і не прывыкне да суровых умоў жыцця і тутэйшых звычак, але да самай сваёй смерці будзе ўспамінаць і расказваць пра жыццё ў Балканах. Ночы тут страшныя, поўныя дзіўных гукаў і шуму; моцны вецер, нібы чарадзей, ходзіць па стрэхах, вар'яцее і ўздзірае чарапіцу; трывожацца ў дварах сабакі і, нібы ўчуўшы што нядобрае, пачынаюць брахаць і жудасна выць. Чуюцца грымоты і стогны... А раніцай паглядзіш — векавечныя дрэвы павываpочваны з карэннем! Чалавек з другой, раўніннай, мясцовасці цэлую ноч не можа тут заснуць. Нейкі таямнічы вар'яцкі рогат перакатваецца з вяршыні на вяршыню — ці то лясныя русалкі ладзяць свае забавы, ці дзеці плачуць. Дзякаваць богу, горцы — людзі з моцнымі нервамі і ў забабоны не вераць. Не рэдка здаралася: прахопіцца хто-небудзь сярод ночы, возьме сякеру, перахрысціцца па прывычцы і знікне ў цемры. Аднойчы падсечанае дрэва прыдушыла начнога дрывасека, а папа ў царкве не было — запіў недзе ў суседніх сёлах. Пахаваць без папа бабы не дазволілі — пачалі бурчаць, што мярцвяк можа перавярнуцца ваўкалакам. І тады хтосьці з мужчын накінуў на сябе папоўскую рызу і сказаў: «Ну, бабкі, за справу, бо і поп такі ж самы чалавек, як і мы!»

Адзін з самых моцных звычаяў гэтага краю — выкраданне дзяўчат. Сапраўднага вяселля тут ніхто не помніць — такія вяселлі спраўляюцца толькі ў багатых сёлах. Горцы доўга не гуляюць: ужо на другі дзень малады выпраўляецца ў лес.

Тое, пра што я хачу расказаць, здарылася гадоў трыццаць таму назад у невялікай балканскай вёсачцы Гаванка. Яе хаткі бялеюць, як кавалачкі авечага сыру ў гаванцы *. Але Ільёву хатку заўважыць нялёгка — яна такая маленькая, што за іншымі і не відаць. Хіба што ўзабрацца на выступку гары з боку Гарадзішча? Або паглядзець ад Тадорыных лялек — трох скалістых вяршынь, якія нагадваюць постаці дзяўчат? Днём яны бялеюць над цёмнай шчэццю лясоў, на захадзе сонца — ружавеюць, а ноччу ў змроку робяцца сінімі або блакітна-сінімі. Быццам тры дзяўчыны сядзяць на скалах, прадуць і чакаюць, калі гаванскія

* Гаванка — круглая драўляная міска.



хлопцы перабяруцца праз бурлівыя патокі, прыдуць сюды са сваімі крывакамі * і сякерамі за поясам, рассыплюць па стромах гучны таямнічы смех, а затым — схопяць іх і панясуць кожны ў свой дом.

У такую ноч, калі горы, атуленыя змрокам, здаваліся непрыступнымі, і ўкраў Ільё сваю Цветку, якая на парозе бацькавай хаты прала сабе на пасаг. Пачуліся крыкі, якраз як на ваўка, калі той апынецца ў кашары і схопіць ягня; праз некалькі хвілін раздаўся стрэл. Але было позна. Цветка апынулася ўжо ў Ільі, у цесным пакойчыку з жалезнымі прэнтамі на вокнах, нібы галубка ў клетцы, і вызваліць яе не мог ніхто. Да Ільёвай хаты з'ехаліся на нізкарослых, даўгахвостых каняках усе мужчыны з вялікай Цветчынай радні.

— Аддай маю дачку, разбойнік! — грукаў бацька ў краты стрэльбай, але з хаты ніхто не адгукаўся.

— Цветка, пакажыся! — крычалі пад вокнамі сваякі і сваячкі, але Цветка стаілася і маўчала.

— Вазьмі, што хочаш, толькі аддай дачку! — быў згодзен ужо і на водкуп пасаромлены, зняслаўлены бацька. Ён паабяцаў выдаць Цветку за старэйшага сына сельскага карчмара Маздрака. Нават палавіна жаніховага падарунку — пад вясёлыя стрэлы і крыкі — была перанесена ўжо ад Маздракавых у дом нявесты, і бацька Цветкі ні за што на свеце не мог гэты падарунак вярнуць. А колькі сораму — і ім, Маздракавым, і яму!.. Праз усё жыццё нельга дараваць такую ганьбу!

— Тое, што мне трэба, я ўзяў! — данёсся з хаты насмешлівы голас і ў той жа міг гнеўна прагрымеў з-за кратаў: — Ідзіце прэч ад маёй хаты!

І ў акне паказалася белая, як зачасаны бук, грудзіна Ільі. Бай ** Захары, які нацэліўся ў акно, мог бы націснуць на курок, але за кратамі вырасла Цветка. Яна прытулілася да Ільі і ўчапілася за яго, як дзікая герань за скалу.

— Толькі мёртвую возьмеце мяне адгэтуль, тата! — прашаптала яна ў роспачы і яшчэ мацней абняла Ілью.

— Твая воля,— уздыхнуў бацька і апусціў стрэльбу.— Толькі ведай, што не атрымаеш ад мяне ні аднаго рубца, і колькі буду жыць — нават не зірну на цябе.

Бай Захары быў нязлосны чалавек, але цяпер яго дабрадушны твар спахмурнеў, абвіслыя вусы натапырыліся, як галінкі падрэзанага кустарніка. Бай Захары забыўся ўжо, што калісьці таксама ўкраў сабе жонку. Вось так заўсёды: старыя забываюць сваю маладосць і не хочуць дараваць памылак моладзі.

— Вяртайцеся дамоў! — загадаў бай Захары сваім людзям.

— Хіба ты для гэтага прывёў нас, бай Захары? — запярэчылі яму сваякі.— Які ж ты стараста?!

— Яна — яго жонка,— апусціў галаву бацька і рушыў першы, затаіўшы ў душы страшэнную крыўду.

Пачуўся густы тупат капытоў, і каменны дворык, зарослы каля платоў травою, зусім апусцеў.

* Крывак — тоўстая палка, звычайна з крывым канцом.
** Бай — слова, з якім звяртаюцца да пажылога мужчыны, калі хочуць выказаць павагу.

Ільё не адыходзіў ад маладой жонкі дзень, два, тры, тыдзень, але трэба было везці свае драўляныя вырабы ў нізінныя сёлы, абмяняць іх на жыта і рыхтавацца да вяселля.

— Як жа ты пакінеш Цветку, сынок? — запытала спалоханая маці.— А калі прыдзе сват са стрэльбай?

— Яна сама абароніцца, — засмяяўся Ільё. — Праўда, Цётка?

Цветка не адказала, а толькі ўсміхнулася, пачырванела і пайшла ўніз, да гаманлівага ручая па ваду.

Пустая была зямля ў Гаванцы, зерне не прарастала на голых узгорках. Ільё, як і большасць гаванцаў, не меў сваёй гаспадаркі. Але гэта яго не палохала. Іх хаціна без хлеба не аставалася ніколі. У любую пару года ў іх знаходзілася ўсяго патроху. Ільё яшчэ з маленства вылучаўся гаспадарлівасцю. Бацька яго загінуў на царскай вайне, і на слабыя плечукі падростка лёг увесь цяжар сірочага жыцця. Ён цягаў ваду на каромысле, вязаў шкарпэткі, ткаў і бяліў палатно, памагаў маці каля дому. З усім ён упраўляўся. Сам абвёў каменнымі сценамі дом, ды так, што калі праходзіш міма,— нехаця прыпынаешся, каб палюбавацца: «Нанізаў камення, усё адно што караляў!» Вароты былі выплецены дробна і густа, як вытканыя. Ля веснічак быў прымайстраваны званок, і як толькі хто-небудзь спрабаваў адчыніць іх, «дзін-н...» — раздаваўся сігнал, з хаты выходзіў чалавек, клікаць голасам не было патрэбы. Хата Ілы была маленькая, з пакойчыкам для спання і «домам» — так называецца ў гэтым краі пакой, у якім знаходзіцца ачаг. Хата была распісана, як манастыр, які стаяў ля бурлівай рэчкі. Усё насіла след Ільёвых залатых рук — і калёсы, і астэн *, і ўсе драўляныя вырабы на продаж. Ён дзень і ноч валіў лес вывозіў яго і распілоўваў на бліжэйшай пільні ў Жыльёўцах; потым нагружаў калёсы дошкамі, гатовымі жорнавымі камянямі, восямі, дышламі і ёрмамі, шынамі і рыдлёўкамі двух-, трох- і чатырохзубнымі віламі для стагавання сена,— і ўсё гэта вёз уніз, на раўніну, адкуль вяртаўся восенню з поўным возам дабра. І хоць ён быў яшчэ малады, у вёсках яго добра ведалі і чакалі. Як толькі балканцы выпрагуць пасярод сяла валоў і на вуліцы запахне свежымі дошкамі, перш за ўсё да Ілы кідаецца дзетвара. Ільё не пашкадуе для малых свісткоў, для дзяўчат дастане размаляваныя прасніцы, для нявест — вялікія і малыя гаванкі; а калі забарабаніць пальцамі па шыне, дык што ў бубен усё роўна. І людзі бягуць да яго. Калі хто памылкова памкнецца да іншага прадаўца, то як толькі агледзіцца — памацае для адводу вачэй якую-небудзь дошку і тут жа адыдзецца. «А-а, — прамовіць ён, — дык яны ж сырыя, пакарабаціцца могуць. Летась прыязджаў сюды адзін у вострым каўпаку... І каўпак ён сам змайстраваў сабе дужа прыгожы. Вы не ведаеце, дзе ён?»

«Шукайце яго вунь там, дзе дзіцячы кірмаш!»

А другі, з поўным шынікам ** жыта, толькі здзівіцца: «Ох, гэта ж не ён! Я шукаю таго, у каторага калёсы размаляваны, як маладуха...»

Вось які быў Ільё — вельмі любіў, каб усё, што выходзіла з яго рук, было адмысловым. Дарэчы, і бацька яго таксама быў гэткі. Сяляне яшчэ помняць яго — у чорным клашніку *** хадзіў. Ён вылучаўся сярод усіх беладрэшкаўцаў **** У яго была ўсяго адна святочная адзежа. Але

* Астэн — доўгі кій з завостраным канцом, якім паганяюць валоў.
** Шынік — старадаўняя драўляная пасудзіна (мерка).
*** Клашнік — верхняе мужчынскае і жаночае адзенне ў горцаў.
**** Беладрэшкаўцы — насельніцтва паўночна-заходняй Балгарыі, дзе мужчыны ходзяць у белым (белая дрэха — белая вопратка).



як ён яе бярог! Калі выйдзе — ані складкі, ані парушынкі на ёй. Такою ж была і маці Ілы — акуратная, старанная гаспадыня і прыгажуня.

Ільё шчыра і горача кахаў Цветку, бо яна была прыгажэйшая за ўсіх дзяўчат у наваколлі, от як тая кветачка на палянцы. Свякруха прыняла яе радасна і палюбіла, як роднае дзіця. Мабыць таму Цветка і не адчула разлукі са сваімі.

Ільё развёў калёсы да канца, колькі дазвалялі бакавыя драбіны, нагрузіў поўны воз усякага дабра і весела пакаціў у даліну, дзе яго чакалі ў сёлах пакупнікі. Валоў сваіх ён паганяў не астэнам, а лейцамі, як коней.

Як толькі Ільё сеў у перадку і засвістаў, валы рушылі з месца самі, не чакаючы, пакуль іх пагоняць. За сялом у балоцістай мясціне, калёсы загрузлі. Ільё патузаў лейцы, але валы, угразшы па калені, не варушыліся. Тады ён агрэў іх раз-другі арэхавым астэнам. Валы рванулiся ў ярме, пасля адразу штурханулі калёсы назад, драбіны паднялі пярэднюю застаўку, на якой сядзеў Ільё, і той, не ўтрымаўшыся, паляцеў у гразь. Раззлаваны, падхапіўся з зямлі. Тут, на роўным месцы, і пры найвялікшай сушы стаяла балота: выходзілі наверх падземныя воды і іх нельга было ніяк абмінуць. Трэба было або рабіць вялізны круг, або распранацца і пераносіць усё на другі бок на сабе. А Ільё на гэты раз вельмі спяшаўся. Ён паглядзеў на колы, што па самыя калодкі сядзелі ў багне, і твар яго пацямнеў, зморшчыўся, як патрэсканая на сонцы зямля. Але вось яго позірк затрымаўся на ляску, што быў непадалёк. Ільё вывеў валоў на бераг, выпраг, прывязаў да дрэва і падкінуў ім сена. Пасля выцягнуў з воза сякеру, якая заўсёды была пры ім (заадно з торбачкай хлеба і біклагай вады), і сігануў у лясок. Звонкі стук сякеры ўстрывожыў птушак. Неўзабаве паказаўся Ільё з двума тоўстымі дубовымі жардзінамі пад пахамі.

— Што гэта ты задумаў, Ільё? — нагнаў яго сусед Марын Глога, які ехаў праведаць сваё поле за балотцам.

— Досыць тут паваляліся ў гразі, як буйвалы! — выдыхнуў Ільё, кідаючы палена ў лужыну.

— А-а, дык ты, значыць, мосцік... надумаў...

Хударлявы Марын спыніўся і нейкі час утароплена глядзеў, як Ільё паклаў і другое бярвенца прымераўшы, каб яно легла роўна з першым. Але бярвенца легла не так, як хацеў Ільё. Ён разуўся, палез у багну і паклаў яго раўней. Абодва дубкі цяпер ляжалі, як рэйкі. Схапіўшы сякеру, Ільё зноў падаўся ў лясок. Марын Глога паківаў галавой, адвёў у бок сваіх валоў і пусціў пасвіцца на зялёную траўку, што расла па краях балотца.

— Скажы ты, як яго распаліла малодка! Цяпер ён не то што мост зробіць... але і мора пераплыве.

Хударлявы Марын таксама знік у ляску, і праз хвіліну там застукалі дзве сякеры.

Неўзабаве з Крывой гары спусціліся пастухі і, убачыўшы, як упарта забівае Ільё падпоры і як заядла чэша Глога папярочныя жэрдкі, вырашылі памагчы.

Апоўдні над балотцам узвысіўся стракаты, як горная карова, мост, і першы праехаў па ім Ільё.

— От жа і ўпарты горац! — праводзілі яго позіркам здзіўленыя пастухі, аж пакуль тарахценне колаў не заціхла па той бок лесу.



У той жа самы вечар уся Гаванка грымела навіной: «Ільё зрабіў мост у гонар сваёй нявесты!».

Паглядзець новы мост, да якога адразу ж прыстала назва «Ільёў», высыпалі і малыя і старыя. Бай Захары, староста, які павінен быў даўным-даўно пабудаваць тут мост, таксама прышоў. Перад людзьмі ён не сказаў нічога, але ў душы яго ўсё кіпела ад злосці: «Толькі гэтага і не хапала, каб масты называліся імем такога разбойніка!» Убачыўшы Цветку, якая вышла паглядзець на мужаў мост, бай Захары кіўнуў абшчынным вартаўнікам, і тыя сілком зацягнулі яе ў бацькаў дом.

— Ільё засячэ, калі вернецца, не паглядзіць, што стараста! — гаварылі некаторыя, чакаючы, што ў Гаванцы пральецца кроў.

Але гэтага не здарылася. Як толькі Цветка апынулася ў бацькавым доме, адразу ж было паведамлена Маздракавым, каб прышлі і забралі яе да сябе. Сын, які моцна любіў Цветку і з-за яе збіраўся расправіцца з Ільём, можа быць і згадзіўся б, але стары Маздрак варухнуў вусамі і адсек: «Мне такі надкусаны яблык не патрэбен!» Бай Захары абяцаў большы пасаг, але нічога не атрымалася. А калі даведаўся, што Цветка чакае дзіця, ён адпусціў дачку, і яна вярнулася ў Ільёву хаціну. І з таго часу — як быццам стараста паставіў пячатку на дакумент, які сцвярджаў назву новага маста. Моцным патокам дажджавой вады знесла амаль усе бярвенцы з таго маста, але назву нішто не магло змыць. Гаванцы вышлі ўсім сялом і зрабілі ўсё нанава, — новы мост з каменнымі падпорамі. Але назва засталася ранейшая — Ільёў мост. Нават усю тую мясціну пачалі называць Ільёвай.



— Вы куды выправіліся?

— Ды на Ільёў мост трэба схадзіць...

## 2

Яшчэ ў казармах Ільё даведаўся, што адбылося ў Расіі, і спаткаў рэха далёкай навальніцы з няяснымі надзеямі і палёгкай у душы. Але ў адрозненне ад некаторых сваіх сяброў, ён не гаварыў пра бунт і разлады — ні тады, калі быў салдатам, ні пазней, калі зволіўся і вярнуўся дадому. Ільё любіў слухаць настаўніка Дамяна, які быў камандзірам іх узвода ў казармах. Як толькі пачуе, што той будзе выступаць на вясковым сходзе, абавязкова прыдзе. І кожны раз даведаецца пра што-небудзь новае і незвычайнае. Апошні раз, напрыклад, настаўнік гаварыў пра свабоду і раўнапраўе жанчын, выступаў супраць тыраніі некаторых бацькоў, і Ілью здалося, што настаўнік намякае на бай Захары...

— Прыгожа гаворыць, але голымі рукамі ваўкоў не ловяць! — звярнуўся Ільё да сваіх сяброў. — Хутчэй самога ваўкі задушаць!

— Ты ж ад Цветчынай спадніцы не можаш адарвацца! Захочаш, дык можа і зброя знайсціся... Тая, што ў казарме, — яна ж наша!

Але Ільё, хоць і не пярэчыў сябрам, — ні ў якія патаемныя арганізацыі не ўступаў. Ён радаваўся, бачачы, як узварушаныя вяскоўцы, нават старыя людзі, а найболей — моладзь, збіраюцца па вечарах на сходкі, спяваюць новыя песні, а ў святочныя дні надзяваюць ярка-чырвоныя кашулі, падпяразаныя паясамі. Ільё і сам не заўважыў, як усё гэта пранікла ў яго душу і пачало патроху займаць яго думкі і пачуцці. Калі вясною грамада хлапцоў у чырвоных кашулях узялася будаваць клуб, Ільё, хоць яго ніхто і не запрашаў, вышаў ім памагаць. Пачынаючы з закладкі падмурка, ён працаваў да таго часу, пакуль былі выведзены абодва паверхі і над страхою залунаў сцяг. Так, не адчуваючы таго сам, разам з абпаленай цэглай ён замураваў у гэтыя сцены і частачку свайго сэрца. І калі было абвешчана нешта накшталт урачыстага вечара ў гонар адкрыцця клуба, Ільё схапіў Цветку пад руку і сказаў:

— Як жа не пайсці! Я столькі часу там працаваў!..

Калі ў буднія дні Ільё праязджаў міма клуба і бачыў настаўніка Дамяна, які стаяў на балконе і, задраўшы русую галаву, узіраўся сінімі вачыма ў Тадорыны лялькі, Ільё яшчэ здалёку махаў яму астэнам і нават падымаўся на сядзенні. А калі на балконе нікога не было і навакол пуставала таксама, Ілью ахоплівала нейкае незвычайнае пачуццё і прымушала спыніцца хоць на адну секунду: пасля гэтага яму здавалася, што ён пагаварыў з нейкім нябачным, далёкім незнаёмым, перамовіўся з ім толькі позіркам, не сказаўшы ні слова. Новы клуб заўсёды выклікаў у Ільі павагу да маладых людзей з бадзёрымі позіркамі, прамяністымі ўсмешкамі, моцных, поўных веры ў нешта вялікае, незвычайнае, гранды-

ёзнае. А яго цягнула да незвычайнага: яго душа, здавалася, была саткана з асобных струн, якія кожны раз, калі Ільё праязджаў ля клуба, раскалыхвала чыясьці нябачная рука.

Ільё толькі ўсміхаўся, калі яму намякалі, што ён уваходзіць у партыю земляробцаў, таму што на самай справе ён там і не лічыўся. Там капашыліся ў адной кучы і пчолы, і трутні, і на чале іх стаялі такія, як яго цесць. Таму Ільё і не хадзіў туды. Жыў сабе, як кажуць, нейтральна, уваходзячы толькі «ў партыю сваёй жонкі», як ён жартам адказваў на пытанні аб партыйнасці. Але дакаціліся звесткі, што ў Сафіі адбыўся пераварот і Стамбалійскі * па-зверску забіты. Цесця Ільы выгналі з абшчыны, і на яго месца старастам паставілі вясковага кулака Панду Жулата.

— Не падабаецца мне гэтая справа, Цветка! — нахмурыў лоб Ільё. — Калі дайшло да крыві, то будзе кроў за кроў.

У той дзень амаль да самай поўначы стаялі ўсе пасярод сяла, з нецярпеннем і даверлівасцю пазіраючы на клуб. Што цяпер будуць рабіць тыя ў пунсовых кашулях, што гаварылі нават аб свабодзе і раўнапраўі жанчын? Пад пагрозай апынулася свабода ўсяго народа. Хто падымецца супроць змоўшчыкаў і забойцаў? Шэптам ад хаты да хаты разнеслася навіна: настаўнік Дамян знік! Па вуліцы сноўдалі паліцэйскія, каля клуба круціліся незнаёмыя людзі са злоснымі, насупленымі позіркамі, — падпільноўвалі настаўніка. Ператрэслі ўвесь яго дом, перапаралі нават дрывотню, але самога не знайшлі. Не супынілі іх ні клятвы цёткі Аны, ні довады дзядзькі Пырвана:

— Ну, хіба ж ён пацук, што будзе сядзець у дзірцы? У мяне кватаравай мужчына, а не зладзюшка, што паклады крадзе ў куратніках. Што вы ў куратніку шукаеце!..

Пагаварвалі, што Дамян хаваецца недалёка ад Гарадзішча, але паліцэйскія баяцца сунуцца ў густыя гайдуцкія лясы і чакаюць, каб схапіць яго тут. Час-ад-часу настаўнік наведваўся ў сяло ноччу і зноў знікаў. Было вядома, што ў Дамяна на Гайдуцкай паляне бываюць і яго сябры з другіх сёл і што там рыхтуецца штосьці тайнае.

«А хай бы збылося раз назаўсёды...» — казаў сам сабе Ільё. Як бы ні ненавідзеў ён свайго цесця, а ўсё-такі прызнаваў, што пры ім вальней дыхалася. А цяпер Панда Жулата па дзве скуры лупіць з дрывасека — адну, прадаючы па вар'яцкай цане лес, а другую — на лесапільні. Ды яшчэ і паліцыю выклікаў у сяло.

Неяк ноччу, як толькі Ільё і Цветка соладка заснулі пад ціхае журчанне ручая, нехта пастукаў у іх акенца. Ільё асцярожна, каб не разбудзіць жонку, падняўся, прынік да шыбіны і пазнаў бліскучыя вочы настаўніка Дамяна.

— Ці нельга нам зайсці да вас на колькі хвілін? — прашаптаў настаўнік. — Толькі каб Цветка не спалохалася і...

— Скажы яму, што і я зрабіла сотню цаглін для іх клуба, — паднялася Цветка з ложка, і ўзрадаваны настаўнік ціхенька, без тупату і шуму, завёў у хату сваіх людзей.

Так, нечакана-негадана, у доме Ільы сабралася тайная арганізацыя, і сэрца яго напоўнілася трывогамі і надзеямі паўстанцаў.

* Стамбалійскі — лідэр буржуазнай партыі «Балгарскі земляробчы народны саюз» стаяў на чале ўрада, звергнутага ў чэрвені 1923 года ў выніку фашысцкага перавароту.



Дзвюх падзей чакаў з нецярпеннем Ільё — выніку гэтых тайных, ліхаманкавых падрыхтаванняў і нараджэння дзіцяці. Набліжалася пара і таго і другога.

З Цветчынай радні толькі маці забягала часам праведаць цяжарную дачку. Бацька ўсё яшчэ ўпіраўся і злаваў.

«Як толькі дзіцё запішчыць, тады і той ваўкалак прыбяжыць», — гаварыў сабе Ільё.

Трэба было рыхтавацца да хрэсьбінаў. Ільё адсыпаў частку збожжа ў мяшкі і паклаў на калёсы, парашыўшы на гэты раз падацца аж на станцыю, у паравы млын. Можна было б змалоць і бліжэй, — на рэчцы тарахцелі караджэйкі *, але куды гэта варта — пячы пірагі на хрэсьбіны з грубага памолу! Ільё хацеў заадно з хрэсьбінамі справіць і адкладзенае вяселле. Тады і цесць, пэўна, пераступіць парог яго хаты, прыдзе сам і блаславіць іх. «Ну, дарую вам, дзеткі, і благаслаўляю!» — паднясе ён да іх вуснаў сваю руку. Пры думцы, што ўбачыць паніклага ад сораму цесця ў сваёй хаце, Ільё адчуваў у душы прылiў гордасці.

«Каб толькі сын!» — марыў Ільё, рыхтуючыся ў дарогу. Ён быў спакойны, што на гэты раз маста ўжо рабіць не трэба і жонку яго ніхто выкрадаць не будзе.

Начапіўшы на плечы торбачку з харчамі, якую яму вынесла з хаты Цветка, Ільё зірнуў на Тадорыны лялькі, якія віднеліся ў светлай сіняве ночы, услухаўся ў гоман на сяле, які кожны вечар пачынаўся вельмі бурна і заціхаў толькі пад раніцу, і, пераканаwany, што Цветка народзіць яму сына (а ён ужо і імя прыдумаў), хацеў рушыць са двара. І якраз у гэты момант дзесьці каля клуба раздаўся стрэл. Ільё кінуў лейцы і не больш як праз хвіліну апынуўся на сярэдзіне сяла. Ноч залівала мяккім святлом і Балканы, і лес, і хаты. Узрушаны натоўп валок кагосьці, штурхаючы, у абшчынны падвал, а на балконе клуба настаўнік Дамян махаў чырвоным сцягам. Стрэлы і крыкі не давалі Дамяну гаварыць. Падымаючы на ногі ўсё жывое, трывожна і ўрачыста гулі званы. Недзе ля Гарадзішча, і ля Крывой гары, і ў іншых месцах палыхалі велізарныя кастры.

— Час настаў, таварышы! Віншую вас з рабоча-сялянскай уладай! — крычаў настаўнік, размахваючы сцягам. Але Ільё не мог разабраць яго слоў. Яны зліваліся з крыкамі натоўпу, адляталі, як паветраныя шары, кудысьці ў Гайдуцкую даліну; уздрыгвалі вяршыні, здавалася, ажылі тры каменныя паппадухі і трымалі ў руках не верацёны, а стрэльбы; пад стромамі ўздымаліся птушкі і насіліся, як смелыя вестуны блізкай расплаты. Недзе каля Ільёва маста раздаўся тупат конскіх капытоў.

— У Панды Жулата знайшлі спіс тых, каго паліцыя хацела загубіць! — пачулася ў натоўпе сялян, босых, узброеных хто чым мог.

Потым наперад выйшаў настаўнік і пачаў раздаваць стрэльбы тым, каго ён ужо даўно ведаў, як надзейных, верных сяброў. Ільё стаяў і пазіраў, як паўстанцы, ашаломленыя, сціскаюць у руках і цалуюць стрэльбы. Тое, што збіралася ў яго душы і нячутна напаўняла яе, як буйныя срэбраныя кроплі дажджу, зрабілася цяпер цяжкім і прыкавала да месца. Твар яго збялеў ад хвалявання. Нечакана Балканы асвятліла велізарнае полымя — гарэла Жулатава лесапільня. Паўстанцы прывабілі Ільлю сваёй энергіяй і размахам. Ён ужо мільгаў у іх шэрагах і адчуваў сябе

* Караджэйка — невялікі вадзяны млын.

байцом. Усё, што некалі бачыў і вывучаў у казармах, цяпер спатрэбілася. Перад ім былі не мішэні, а жывыя рабаўнікі, якія паслалі на фронт яго бацьку, а самі аціраліся ў тыле і тлусцелі на крыві тых, хто гінуў. Думкі свідравалі яго мозг усё мацней і мацней. Накоплены ў сэрцы гнеў успыхнуў, нарэшце, полымем:

— Гэй, дайце і мне вінтоўку! — грымеў, расштурхваючы натоўп, Ільё. — Пакіньце той манліхер * мне!

Узрушаныя, ахопленыя радасцю, людзі не чулі яго крыку, і, пакуль Ільё прабіўся да настаўніка, усе вінтоўкі былі раздадзены.

— Нам патрэбны людзі і тут, у тыле, — усміхнуўся настаўнік, убачыўшы яго ў такім ваяўнічым настроі, але Ільё пакрыўджана махнуў рукою.

— Я служыў, настаўнік, пад тваёй камандай, я не тылавік!— ён крута павярнуўся і пабег дадому. На двары выняў з воза сякеру, паглядзеў на жонку, якая нясмела загарадзіла сабою веснічкі, і, сказаўшы ёй: «Ідзі ў хату, я зараз вярнуся», — кінуўся зноў на вуліцу.

Цветка ступіла некалькі крокаў услед і спынілася. Балючы крык вырваўся ў яе з грудзей. Не толькі яна, але і тыя, хто бачыў, як Ільё бег з сякерай на плячы, гаварылі сабе, зжахаючыся:

— Ну, капут цесцю! Забярэ яго і зямлю, і статак!

Але Ільё і не павярнуў к дому цесця. У тую хвіліну ён забыўся пра асабістую крыўду, забыўся пра непрыемнасць і сорам, якія перажыў. Яму было цяпер не да помсты, тым больш — не да авечак і зямлі цесця. Адбывалася нешта куды больш значнае. Затрэсліся Балканы, на вяршынях запалалі агні, і святло ад іх падала ажно ў даліны. Усе няясныя жаданні Ільі, усе мары аб прыгожым, праўдзівым, чыстым, узвышаным цяпер ярка палымнелі на палотнішчы чырвонага сцяга. Ён не мог саўладаць з усімі думкамі і пачуццямі, якія захліснулі душу неспакойнымі, бурнымі хвалямі. Адно толькі адчуваў ясна: урачыстасць настрою і гатоўнасць змагацца да перамогі. Ён ужо не належаў самому сабе, а тым— з вінтоўкамі, з віламі і сякерамі, тым, што прымацавалі сцяг над уваходам ў клуб, што выцерлі слёзы ўдоў, збавілі ад страху дзяцей і зрабілі гэтую ноч светлай, белай, поўнай цудоўнага паху дзікай герані. Ільё ўжо не адчуваў сябе асобным чалавекам — ён зліўся з патокам паўстанцаў і разам з усімі крочыў уніз, туды, дзе быў яго, Ільёў мост.

Ілью і Глогу з дзесяткам паўстанцаў даручылі абарону ўзгорка амаль каля самага маста. А ўвесь атрад — больш трохсот чалавек, — разбіты на тры роты, залёг вышэй, на схілах Янчынага сну. Гэты зарослы маладым ляском кавалак горнага кража навеяў Ілью ўспамін аб легендзе, якая жыве ў іх краі. Гналіся некалі туркі за маладой і прыгожай Янай; ратавалася Яна ад пагоні, зрывала з белай шыі пацеркі і каралі, скідала цяжкія ўборы, каб лягчэй было бегчы. Там, дзе падалі яе вышываныя кофты, падымаліся густыя лясы і перагароджвалі туркам дарогу. Там, дзе рассыпаліся каралі, вырастала вострае каменне, а дзе яна раняла слёзы — там крыніцы ўзнікалі... Там жа, дзе цяпер Стаянава магіла, гайдук Стаян спаткаў пагоню і выратаваў Яну.

А тут Ільё пабудаваў мост для сваёй Цветкі і тут будзе ляжаць, абараняць яго...

* Манліхер (нямецк.) — від баявой вінтоўкі.



Ніхто не заўважыў, як, разам з зыркім агнём, пагасла і спапялела сіняя ноч і занялася ружовая раніца. Ільё прывітаў усмешкай першы дзень доўгачаканай свабоды. Яму здавалася, што зямля дыхае дзівосным цяплом, ад якога робіцца лягчэйшым кожны рух. Развеяўшы заслону густога туману, паказаліся велічэзныя стройныя Балканы. І лясы, і стромы, і ўсё навокал выглядала зіхатлівым і прамяністым. Навіслыя гронкі вінаграду на падпёртых галінках, здавалася, чакалі, калі імі пачнуць частавацца. У балаціне весела і звонка булькаў ручай. Дразды, набіўшы ў вінаградніках валякі за ноч, прыляцелі і заспявалі аб дастатку і волі. Ільё ляжаў з сякерай пры баку і ўзіраўся ў далёкія вяршыні. Ён не думаў ні пра што іншае, толькі пра тое імгненне, калі яны падымуцца і з сякерамі, віламі і дубінамі кінуцца на ненавіснага ворага. Потым яны спыняць цягнікі і дабяруцца да горада, нападуць там на казармы, дзе ён служыў, і захопяць зброю. А калі арыштуюць усіх гарадскіх буржуяў, Ільё кіне вінтоўку і вернецца ў Гаванку да Цветкі...

Яшчэ загадзя Ільё звязваў прыход свабоды з нараджэннем сына. Ён марыў аб тым часе, калі яго Цветка пераможа пакуты і, радасная і шчаслівая, падыме на слабых руках кволенькае ружовае немаўлятка. Трэба было выбіраць сыну імя. Раней Ільё думаў назваць яго Гаранам, але цяпер гэтае імя не падыходзіла. Трэба будзе назваць сына такім імем, якое напамінала б пра першы стрэл, пра паход атрада. Можа быць — Пырван? Таму, што гэта іх першае дзіця, і таму, што яно нарадзілася ў першы дзень свабоды. А можа лепш Дамян — па імені камандзіра, які абудзіў у ім гэты баявы дух і павядзе з атрадам у бой?.. Цэлы дзень Ільё глядзеў на свет вачыма маладога паўстанца і маладога бацькі. То яму ўяўлялася Цветка са стомленай усмешкай, то аднекуль даносіўся плач груднога дзіцяці. Адлучыцца б на хвіліну, збегаць і хоць адным вокам зірнуць, як там... Але нечакана частымі стрэламі адазваліся ўдалечыні атрады, якія пакінулі ноччу свае пазіцыі. Напэўна, ішоў бой за чыгуначную станцыю.

— Калі адрэзаць шляхі да Сафіі — скончана!— штурхаў Ільё локцем сваіх таварышаў, што паўтыкаліся тварамі ў выпаленую на сонцы траву.— Толькі б не дапусціць, каб захапілі масты!

— Ёсць людзі і для гэтай справы, можаш не хвалявацца! — адказаў яму Глога, але і ў таго сэрца тахкала неспакойна.

Паўстанцы больш не варушыліся, маўчалі. Ільё доўга чакаў, ці не пачуецца перастрэлка. Разгалісты бук, пад якім яны ляжалі, кідаў цень. Мяккія мелавыя скалы нагрэліся і патыхалі гарачынёй. Зумкалі мухі. Горы, здавалася, задрамалі. Сонца было ўжо спаўдня, на палянцы, атуленай невысокімі кусцікамі, стаяла гарачыня. Хоць бы адзін стрэл грымнуў, абудзіў гэтую цішу!

— Ай-яй, што зрабілася! Трэба, каб хто-небудзь схадзіў у разведку! — падаў устрывожаны голас Ільё і прабраўся крыху вышэй.

— Загадана нікому не пакідаць пасты без каманды! Калі будзе трэба, прышлюць веставога! — крыкнуў на яго Глога, і Ільё вярнуўся на ранейшае месца.

Яны пачакалі да вялікай ікінды *, а тады парашылі самага нецярплі-

* Ікіндыя (турэцк.) — час паміж поўднем і заходам сонца (каля чатырох гадзін апоўдні).

вага пусціць за грэбень гары. Ільё з сякерай падхапіўся першы, але яго запынілі.

— Куды ты кідаешся без пароля?

Сказалі яму пароль, бо на вызваленай тэрыторыі быў уведзены рэвалюцыйны парадак.

— Зразумела! Я скажу «штык», а мне павінны адказаць «гільза»,— паўтарыў па-вайсковаму Ільё, хоць гэтага ніхто не патрабаваў, і хутка знік з вачэй.

Знаючы пра яго ваяўнічы настрой, таварышы баяліся, што Ільё застанецца ў даліне з паўстанцамі. Але пад вечар Ільё вярнуўся. Узняўшы ўгору сякеру, ён яшчэ здалёку закрычаў:

— Ура! Нашы захапілі гармату і павярнулі яе супраць ворага!

А калі падсеў да таварышаў, апусціў галаву і сцішыў голас:

— З горада ідзе эшалон з войскам.

— Значыць, нашы не ўзарвалі мост у гарах? — уздыхнуў пастух Маньё, які прыдыбаў сюды з неразлучнай сваёй паганякай.

— Паслалі чыгуначніка, і ён разабраў рэйкі, але не скінуў іх у раку, а пакінуў там жа... Дык вайскоўцы іх зноў сабралі.

Абаронцы маста занепакоена пазіралі, ці не пакажацца адкуль-небудзь вораг. Ільё заняў сваё месца таксама. Для яго бой пачаўся з таго часу, калі ён зразумеў, што сустрэчы з ворагам не мінуць. Дагэтуль яго калыхала нейкая крылатая, незямная радасць. Але толькі пасля сустрэчы з ворагам гэтая радасць стане рэальнай. Пакуль ён не прыме ўдзелу ў перамозе сам — яна для яго нешта няпэўнае, ненадзейнае, што не мае карэння ў яго душы і так жа лёгка можа знікнуць, як і прыйшло. Ён прагнуў змагання, каб хутчэй гэтая радасць стала сапраўднай, каб усёй сваёй істотай, усім жыццём звязаць сябе з перамогай. І калі на другі дзень Янчын сон загрымеў ад стрэлаў, Маньё і некаторыя іншыя таварышы спалохана ўздрыгнулі, а Ільё ўзрадаваўся.

«Хай толькі пакажацца гэта дрэнь!» — гаварыў ён сам сабе, не адводзячы вачэй ад грэбеня гары. — Я спытаю іх, што ім тут трэба!..

Ужо было апоўдні, калі пачуліся гарматныя залпы. Паўстанцы не азваліся на іх. Хутка непадалёк пачала рвацца карцеч. Здавалася, што страляніна ўжо ідзе па ўсіх узгорках.

— Напэўна, яны рыхтуюць пастку, — пазіраў навокал пастух, які звыкся толькі з ціхім дзынканнем званочкаў у чарадзе.

Яшчэ адзін гарматны залп — і на грэбені гары паявіліся фігуркі людзей, але гэта былі не ворагі, а свае. Яны адстрэльваліся рэдка і, хаваючыся за кусцікі і выступы скал, адступалі, адыходзілі памалу ўніз, пакуль, нарэшце, зусім не вярнуліся на зыходныя пазіцыі, да маста. Тады на грэбені затрубілі трубы і замільгалі фігуркі ў шэрых шынялях.

Другая ноч, здавалася, нічым не адрознівалася ад першай, толькі хмары паўзлі па небе яшчэ цямнейшыя ды ад скалаў і дрэў падаў трывожны, чорны цень. Людзі сядзелі на зацішнай паляне вакол зыркіх кастроў і слухалі расказы пра подзвігі паўстанцаў. На іх тварах неспакойна трапяталі водсветы полымя. Што прынясе ім трэці дзень? Ці ўстаіць маладая ўлада перад наступам гэтай зграі? Пры думцы, што свабода можа быць задушана, у Ільі халадзела нутро. Гэта ж усё роўна, што нечая драпежная рука схопіць за шыйку яго нованароджанага



сына! Цэлы край ад Іскара да Агоста * і Дуная падняўся, два гарады былі ў руках у паўстанцаў!.. Але чаму ж акруговы горад затаіўся, чаму ён пусціў супраць іх гэтае войска?

«Здрада...» — нейчы шэпт гадзюкай папоўз у вушы Ільё, і ён гатоў быў тут жа задушыць гэтую гадзюку, як быццам яна кралася да голага безабароннага цельца яго дзіцяці. Дзеля шчасця яго сына выступіла ўся Балгарыя, яна дасць адпор лютым полчышчам і пераможа іх зусім!

— Два гарады ў нашых руках! — агрызнуўся цераз плячо Ільё, лежачы пад дрэвам каля маста. — А заўтра раніцай будзе ўзяты і акруговы!

Апоўначы, калі схаваўся месяц і пацямнелі Балканы, на дарозе пачуўся цокат конскіх падкоў. Ён набліжаўся ад сяла, з тылу паўстанцаў. Ільё з сякерай у руках падхапіўся першы. Можа быць адкуль-небудзь прарвалася войска? Разбілі абарону каля Тадорыных лялек і цяпер спускаюцца, каб ударыць у спіну іх атрада... Па дарозе да маста бліскалі, як светлячкі, іскры. Неўзабаве ў цемры абазначылася постаць верхавога, што прыпаў да грывы каня. Паўстанцы падхапіліся з месц, а Ільё перабег на другі бок маста і адтуль загрымеў яго голас:

— Сто-ой!

«Сто-о-ой!..» — адазваліся Балканы; верхавы асадзіў каня і, нібы падкінуты спружынай, саскочыў на зямлю. Ільё стаяў з сякерай на плячы, гатовы тут жа ўзмахнуць ёю, але коннік, не спяшаючыся, папароўся ў сябе за пазухай і заспакоіў:

— Свой, свой. Пасыльны... ад Тадорыных лялек. Вязу вашаму камандзіру загад.

Ільё праверыў дакументы і правёў конніка аж да штаба атрада.

Пасля, вярнуўшыся да таварышаў, не даў ім заснуць амаль да світання.

— Прывезлі загад з галоўнага штаба, ад Дзімітрава... Дзімітраў і Каларaў тут былі... Янчын сон зноў захапілі!

Шэпты пра здраду і адступленне сціхлі. Паўстанцы зноў павесялелі. Ільё стараўся быць сярод тых, хто ўжо сустракаў ворага і быў абстраляны ў бойках.

— А гармата? — пытаў ён нецярпліва.

— Гармату не аддалі. Каля яе там мядкаўскі поп... перасоўваецца з пазіцыі на пазіцыю і ахоўвае нашу тэрыторыю...

— Ну, калі і поп чырвоны ёсць, то можна паміраць смела — адпяе як мае быць, — жартаваў Ільё і не адлучаўся ад тых, што адбівалі першы наступ на вызваленую зямлю і цяпер рыхтаваліся да новага бою.

Рана-рана атрады кінуліся ў атаку, і хаця скрывавілі схілы, а грэбень адваявалі. Сонца сыпнула з вогненнага вулея промні, і ўсё навокал затрапятала ў яркім зззянні. Але перад паўднём, як воблакі па ўзгорках, папаўзлі да грэбеня варожыя падраздзяленні. Было відаць, як яны ўсё бліжэй і бліжэй падкатваюць кулямёты, як перабягаюць і залягаюць салдаты. Ужо даносіліся іх галасы, і можна было нават разгледзець твары.

— Эгэ-гэй, Іване! Не страляй! Бацька твой тут! — крыкнуў Ільё наўздагад, прызнаўшы якогасьці салдата за сына Глогі.

Крыкі былі дарэмнымі. Ільё бачыў, як, размахваючы парабелумам

* Іскар і Агоста — правыя прытокі Дуная.

і моцна лаючыся, насіўся перад салдатамі афіцэр з насунутым на лоб казырком і доўгім, чорным, як груганова дзюба, носам. Звар'яцелы ад таго, што не можа зрабіць па ворагу ні аднаго стрэла, выбег наперад Марын Глога, выбег і рухнуў тут жа, падкошаны куляй, можа быць свайго сына-навабранца. Ільё згроб Марына і сцягнуў да маста. Пасля разарваў на сабе кашулю і перавязаў яму рану, але кроў біла з грудзей Глогі струменем і цякла на зямлю. Толькі цяпер Ільё ўспомніў пра тое, што ў іх няма зброі. Успомніў і разгубіўся. Як жа яны будуць абараняць мост, калі салдаты адрэжуць атрад? З сякерамі і дубінамі супроць кулямётаў?

Да вечара абшкуматаны і абкураны горны хрыбет двойчы пераходзіў з рук у рукі. Патокі былі запруджаны трупамі. Амаль кожнае дрэва стала жывым зялёным крыжам у галавах забітага. Горы ператварыліся ў крывавыя могілкі. А варожы абруч сціскаўся ўсё мацней. Ужо чуліся гарматныя выбухі і з боку Тадорыных лялек. Шлях да адступлення заставаўся адзін — назад на Ільёў мост. Урадавае войска напірала, як раз'юшанае стада. Паўстанцы кінуліся ў апошнюю схватку непадалёк ад маста, на паляне. Падняліся і абаронцы маста. Разгарэўся рукапашны бой — грудзі ў грудзі, твар у твар — сякерамі і дубінамі, каменнямі і нажамі — хто чым. Ільё гакаў сякерай налева і направа ў змроку, як некалі сек лес. Калі ўжо зусім пачало цямнець, камандзір паўстанцаў замахаў над галавой рукою — гэта быў знак адыходзіць. Але ў стане ворага яго зразумелі інакш: падлічылі, што гэта сігнал атрадам, якія ў засадзе, абысці салдат з тылу. Салдаты замітусіліся і падаліся назад. Злавесна затрубіла труба:

— Эх, Ільёў мост, Ільёў мост... — пачуў Ільё, як цяжка і балюча ўздыхнуў камандзір.—Гісторыя запомніць гэтыя дні нашай улады і пацвердзіць, што праўда была за намі...

Папоўніўшы групу, якая абараняла мост, камандзір павёў астатніх паўстанцаў у Балканы.

Ільё застаўся сярод тых, хто павінен быў затрымаць ворага, а пасля таксама падавацца ў горы, у лес. Ільё разумеў, чаму войска так рвецца да маста — адгэтуль было зручней рушыць на захопленыя паўстанцамі гарады. Вораг хацеў разграміць паўстанцаў з ходу, адрэзаць ім шляхі за граніцу, акружыць іх пасля ў даліне і знішчыць усіх да аднаго. Ільё ажно зажмурыўся і жахнуўся. Гэтыя каты не пашкадуюць ні жонак, ні дзяцей!..

— Але раней, чым яны ўвойдуць у сяло, дорага заплацяць... — падумаў ён пра штосьці і сціснуў зубы.

Паўстанцы адстрэльваліся ўсё радзей і радзей. Патроны скончыліся, трэба было пакідаць мост. Ільё адступаў апошні. Над галавой у яго тоненька, як камары, звінелі кулі. Ён перапаўзаў цераз трупы сваіх, і яму здавалася, што яго цягнуць жыватом па нагрэтай жароўні. Ён слабеў, часта прыпыняўся і ўглядаўся ў твары забітых. Вось з раздробленай галавой ляжыць бай Велка, з якім яны разам секлі і трялявалі лес... А яго спадарожнік па нізінных сёлах Цола Пенчын расцягнуўся, раскінуўшы рукі, без следу крыві, як быццам заснуў у цяньку на сваіх калёсах... Маньё ляжаў тварам у зямлю, падгарнуўшы пад сябе дубіну... Ільё з цяжкасцю дабраўся да маста. Тут трупаў было яшчэ больш, і здавалася, што яны былі складзены акуратнымі радамі. У Ільі не хапіла сілы абмінуць іх. Вочы яго расшырыліся ад нясцерпнага болю, локці самлелі, падагнуліся, і ён лёг нерухома. У такой позе яго і пакінулі каля маста таварышы — з ашклянелымі вачыма, нерухомага.



— Ідзіце, я даганю вас...

— Чакаем цябе ў Гайдуцкім стане, — пачуў Ільё, але ўжо не адступіў далей ні на пядзю.

Салдаты цяпер стралялі па мосце, і ўжо, каб і хацеў, перабрацца на ім, было нельга. Ільё ляжаў за трупамі, як за бруствeрам. Ніколі не думаў ён, што баявыя сябры і мёртвыя будуць яго ахоўваць. З Балканаў пацягнула халадком. Хоць было і непрыемна, але Ільё адчуў, што мерцвякі яшчэ не астылі і ён саграваецца іх цяплом, і што гэтае цяпло яго абавязвае...

Калі стральба па мосце спынілася, Ільё споўз уніз і схаваўся паміж палямі так, што заўважыць яго было вельмі цяжка, хоць сам ён мог бачыць усё. Там ён адчуваў сябе, як у засадзе. Мост, здавалася, даў яму сілы. У душы нахлынулі ўспаміны — пра Цветку, пра тое, як ён яе выкраў, як бацька бай Захары цягнуў яе ў свой дом і як яна зноў вярнулася да Ільё... Успаміны скрыжоўваліся і спляталіся ў моцнае вязьмо, якое трымала Ілью каля маста. А смерць таварышаў навяла ў яго душы другі мост — мост, за які пралілася іх кроў. «Калі ўцалее, трэба будзе назваць яго «мастом да свабоды», — падумаў Ільё. І, наважыўшы яшчэ пазмагацца за яго, залёг, як ля парога роднай хаты...

І гэтая ноч была светлая, але Ілью яна здавалася цёмнай і навальнічнай. Ён ніколі дагэтуль не начаваў з нябожчыкам, а цяпер нябожчык нават быў не адзін — іх было многа, яны былі скрозь! Там, дзе яшчэ ў мінулую ноч палалі агні і распырсквалі ў цемры іскры будучыні, цяпер ляжалі, складзеныя, як дровы для кастра, яго таварышы.

Калі ўсё навокал заціхла, Ілью здалося зусім незвычайным, што ў траве зайгралі начныя музыканты — конікі. Цішыня была напружаная: рэчка як быццам спыніла свой бег — не булькала, вецер анямеў, Балканы вымерлі.

Але вось да вуха Ільі данёсся нейкі шэпт. Ён навастрыў слых. Памылкі не было. Не шэлест травы і не калыханне пасечаных вогненным градам галін чуў Ільё, а чалавечы шэпт! Раптам яму здалося, што за кусцікамі з груды мерцвякоў прыпадняўся недабіты і ўпаў, прастагнаўшы просьбу аб паратунку. Ільё выткнуў галаву з-пад маста, прыглядзеўся. Стогн заціх. Тады ён схаваўся зноў і прытаіўся. І зноў да яго данёсся ціхі шэпт — цяпер ужо ён быў бліжэй. За кусцікамі — перакаціўся Ільё — хтосьці поўз. Але гэта быў не паранены, гэта былі яны, забойцы! Ільё ўставіўся вачыма ў цемру і сціснуў сякеру, прымерыўшы, ці можна размахнуцца. Сэрца яго калацілася. Ён — адзін, а яны паўзуць, як змеі, адзін за другім. Ільё ўжо добра бачыў першага, як ён падгінаў локці і пацягу пасоўваўся ўперад, з бліскучай каскай, якая не баіцца кулі. Але няхай ён толькі падпаўзе бліжэй!.. Ну, сабачы сын, ты не матчына малако ссаў! Змяя плявала табе ў рот, таму ты і падняў галаву і паўзеш супраць народа... Ільё падаўся трошкі ўперад і заняў зручнейшую пазіцыю. Тут было больш месца, каб размахнуцца, хоць для гэтай справы было б досыць і невялікай сякеркі. Расштурхаўшы з агідай мёртвых і брыдка вылаяўшыся, першы разведчык наблізіўся да маста, падняўся на локцях, але страх не пусціў яго далей. Можа быць, на тым баку засада і тады яму не жыць. Ён апусціў галаву і стаіўся, абапершыся грудзьмі на першае бервяно насцілу. Дапоўзшы да шчыліны, у якой прытаіўся Ільё, азірнуўся і ўслухаўся. Гэта было ў самы раз для

Ільі. Сякера слізганула, як аўтаматычны нож, і галава паўзучага гада абвісла. Жандар перавярнуўся, як засечаны певень. Карабін паляцеў у багну, а ўслед за карабінам цяжка шмякнуў і ён. Парапета на мосце не было. Мост быў яшчэ новы, і Ільё думаў: «Няхай толькі народзіцца сын — і я зраблю высокія кручаныя парэнчы, каб нагружаны воз ноччу не мог кульнуцца ў рэчку». У гэты час, калі Ільё зусім недарэчы задумаўся, на пагорачку, дзе ляжалі трупы, паказалася галава другога разведчыка. Гэты пасоўваўся хутчэй і смялей. Але, наблізіўшыся да маста, прыпыніўся, чакаючы, відаць, што першы падасць яму які-небудзь знак. Наткнуўшыся на труп паўстанца, ён адпіхнуў яго штыком і плюнуў у цёмны твар нябожчыка.

«Вылюдак!.. Душы не мае!» — сціснула ад болю Ільёва сэрца; ён ажно качнуўся і ледзь не зваліўся з перакладзіны. Вораг прыбліжаўся. Ільё неспакойна дрыжаў: зараз жандар падымецца і ўбачыць, што зрабілася з першым! Але трывога была дарэмнай: першага ўжо ніхто не мог убачыць — яго засмактала багна. Супакоіўшыся, Ільё сачыў за разведчыкам. Вось і другі абапёрся грудзьмі на бервяно і прыўзняў галаву — усё роўна як на калоду паклаў. Храснула сякера, пачулася кароткае хрыпенне, і цела ворага скацілася з маста.

Ільё сачыў за наступным, які з яшчэ большай рашучасцю дапоўз да маста, упэўнены, што яго таварышы без перашкоды перабраліся на другі бок. Але і яго чакала Ільёва сякера. У самы апошні момант, сабраўшыся паправіць амуніцыю, якая разбэрсалася за час падарожжа на жываце, ён убачыў у шчыліне паміж паляў чалавека. Вочы яго палезлі на лоб, рот раскрыўся для нечалавечага крыку, але, скаваны жахам, ён не паспеў падаць голасу: бліснула сякера. У перадсмяротных сутаргах ён падхапіўся, скорчыўся і крутнуўся ў паветры, як быццам сам скочыў уніз.

Ільё прытаіўся і збянтэжыўся. Ці не здагадаліся астатнія? Падпаўзуць, асвецяць яго — тады канец. Можа самы раз падацца прэч? Але нейкая сіла трымала яго каля маста. Чамусьці пачало хіліць да сну. Ён мацней учапіўся за перакладзіну, як птушка ўначы за галінку. Каб і хацеў зваліцца, не зваліўся. А тым часам з гоманам падыходзілі новыя жандары. Па іх настрої Ільё зразумеў: яны былі перакананы, што разведчыкі ўжо на другім баку, занялі там пазіцыю, і ім можна спакойна перапраўляцца цераз мост. Ілью было лёгка справіцца з жандарамі, пакуль яны паўзлі па адным, але цяпер яны ішлі групкамі па тры-чатыры чалавекі, з карабінамі і гранатамі. Можа быць зараз цэлая рота пасыплецца з гары, як каменне ў час абвалу. Што ён тады будзе рабіць? Ільё памацаў пальцамі вастрыё сякеры, яно здалося яму зазубраным — чалавечая косць цвярдзей за дрэва... Неўзабаве пачулася тарахценне колаў. Ільё прыслухаўся і ад нечаканай здагадкі разінуў рот — жандары цягнулі гармату. У той жа міг ён прычапіў сякеру да пояса і пачаў шнырыць рукой у торбе.

«Наперад! Наперад!» — камандаваў уладны голас, і ў сінім змроку Ільё распазнаў афіцэра з груганов ым носам.

Салдаты саплі ад стомы, выжыльваліся і штурхалі гармату наперад, да маста.

«Наша гармата! — зазначыў з горыччу Ільё. — Захапілі чырвонага папа і разам з ім гармату... Ну, пачакайце ж, пачакайце, гады!..»

Ноч была відная. Дзівосна прыгожым святлом адсвечвалі Балканы, гордыя вяршыні скал, гарбы пагоркаў, дарога ў Гаванку, невялікі лясок ля дарогі, у якім Ілью чакалі ўзброеныя таварышы.



Раптам за Янчыным сном узвіліся ўгару агністыя языкі. Яны лізалі неба, разрываліся на кавалкі, рассыпаліся раямі залатых пчол. Вецер данёс пах дыму. Палалі хаты паўстанцаў на станцыі. Ільё спалохаўся. Калі пусціць жандараў — пойдзе агнём і Гаванка. Яму нават здалося, што ён чуе лямант матак і дзяцей, тарахценне кулямётаў, якія паліваюць свінцовым дажджом людзей, разрывы гранат, ад якіх разносіць у шчэпкі ўцалелыя хаты. Мужчыны, жанчыны і дзеці бягуць хто куды — да ракі, да лесу, у чыстае поле і скрозь натыкаюцца на воўчыя зубы штыкоў. Сярод уцекачоў і яго Цветка з нованароджаным сынам, які круціцца ў яе на руках і кліча бацьку: «Тата, прыдзі, бо ў іх няма літасці!»

Жандары з гарматай ужо ўзбіраліся на мост. Ілью ахапіла пачуццё самаахвярнасці. Ён хуценька заклаў узрыўчатку, запаліў шнур і пад грукат колаў слізгануў уніз. Здрадная балаціна моцна ўчапілася за ногі і трымала яго на месцы. Ён чуў шыпенне шнура, лічыў секунды і рваўся далей ад маста, але ногі грузлі ў багне. Як быццам засечаныя ім жандары ажылі і хапалі яго дужымі рукамі то за адну, то за другую нагу. Трыснёг калоў яго, нібы вострымі пікамі, ён падаў, спатыкаўся, увесь потны ад страху, што мост вось-вось узарвецца. Яшчэ адзін толькі крок — і бераг... Ільё рвануўся ў нечалавечым напружанні. Які гэта быў цяжкі крок! Ногі яго падкасіліся, як у дзіцяці, якое ступіла першы раз само, і ў гэты момант...

Толькі ён рухнуў на бераг, як страшны выбух скалануў ноч і, здалося Ілью, абрушыў на яго і абломкі маста, і жандараў, і гармату.

«А ўсё ж не прайшлі жывымі!» — раней, чым страціць прытомнасць, падумаў Ільё, і адчуў, як усю яго істоту напоўніла невымерная радасць перамогі над ворагам.

3

Афіцэру Шуменскага гарнізона Чаркезаву — таму самаму, якога бачыў Ільё, з насунутым маленькім казырком і доўгім завостраным носам — пасля ўзяцця Янчынага сну было прысвоена па тэлеграфе званне падпалкоўніка. Ашалелы ад жахлівага відовішча на Ільёвым мосце, ён уварваўся ў Гаванку, страшнейшы за кірджалі *. Ён загадаў падпаліць клуб і, каб змыць сваю ганьбу перад тымі, хто даў яму павышэнне, выстраіў захопленых у палон паўстанцаў і нават тых, хто не прымаў у паўстанні ніякага ўдзелу, — усяго чалавек дзевяноста, — і пакасіў іх сярод белага дня з кулямётаў. Але гэтага яму было мала. Не здаволіўся ён і крыкамі матак, нявест і дзяцей, якіх жандары выганялі з хат і, нібы жывёлу, паласавалі бізунамі. Чорны, выпетраны, сухі твар састарэлага ў чаканні новага чына падпалкоўніка Чаркезава, з пукатымі вачыма і вывернутымі тоўстымі губамі, напамінаў морду галоднага гончага сабакі.

— Плюйце! — загадаў ён, вар'яцеючы ад злосці, што сваякі забітых, праходзячы каля трупаў, не плююць, а прыпадаюць да іх, абнімаюць, абцалоўваюць так, што жандары не могуць адарваць. Жанчыны

* Кірджалі (гістар.) — турэцкі разбойнік.

з крыкам і галашэннем заграбалі ў жмені акрываўлены пясок і кідалі ў вочы забойцаў.

— І вы бунтавацы! Я вас навучу! Я вынішчу бунтарскае племя! — лютаваў Чаркезаў і хвастаў бізуном па спінах.

Калі ўсе вяскоўцы былі сагнаны на дзядзінец, дзе яшчэ дыміліся галавешкі клуба, наперад вышаў Чаркезаў. Па тым, як ён жмурыўся і кусаў губы, як моршчыліся на твары змяіныя складкі, было відаць, што кат задумаў штосьці нечалавечае, нечуванае.

— Даруйце, пан падпалкоўнік! Наша вёска і ў тую вайну не была спалена... — гнуў сваю адзеравянелую спіну вызвалены з-пад арышту Панда Жулата, які зноў заняў пасаду старасты. Нахіліўшы тоўстую мясістую галаву, ён па-халуйску варухнуў крываргімі вусамі. — Хіба што для страху, адну-дзве хаты завадатараў.

«Няхай гараць, — радаваўся ён употай. — Пасля прыдуць да мяне прасіць лесу і грошай, каб паставіць новыя!»

Але Чаркезаў, было бачна, думаў пра штосьці нядобрае і не чуў, што гаварыў Жулата.

— Так! Не была спалена! — ухапіўся ён за словы старасты. — А я буду паліць жывых, каб тыя, што застануцца, не асмеліліся бунтаваць ніколі!..

Ён патрос сухім, кашчавым пальцам у знак таго, што рашэнне беспаваротнае, і тут жа распарадзіўся:

— Прывядзіце мне дзіцянё, толькі каб хлопчык... Вось сюды, і кіньце ў гэтае вогнішча на маіх вачах!

Стараста Панда затрымаў дыханне і перарывіста прагаварыў:

— Разбойнікі заслугоўваюць гэтага... Калі б няшчасце паслаў на нас бог, ну, скажам, град, тады можна было б адкупіцца ягнём або цялём... А гэта... людзі зрабілі няшчасце, і трэба... каб ахвярай быў чалавек!

З другога боку ад Чаркезава застагнаў вясковы карчмар Маздрак. Чакаючы народнага суда, ён ад страху падпух, як надзіманы баран, асунуўся, вочы вытрашчыліся. Падпяразаны па пухлым жываце шырокім поясам, нечутлівы і адзеравянелы, ён быў цяпер падобны на бочку, пастаўленую старчма.

— Ну, чаго стаіцё, як перуном аглушаныя?! — крыкнуў кат. — Зараз жа рабіце, што кажу, або...

Чарбаджыі * спалохана задрыжалі. Гэты чалавек, чаго добрага, можа ўкінуць у агонь каго-небудзь з іх сваякоў.

— А ці нельга спаліць аднаго з забітых... — адважыўся прапанаваць Панда, бледны, як мелавая скала.

Але афіцэр выхапіў шаблю і стукнуў ёю па табурэтцы.

— Не! Толькі жывога!.. Прынясіце мне жывога хлопчыка! Я навучу вас, як служыць цару!

Маздрак насунуў ніжэй свой плоскі капялюх і адступіўся на крывых нагах далей ад Чаркезава. І ён, і Панда стаялі разгубленыя і не ведалі, што рабіць. Лёгка сказаць: «Прынясіце мне хлопчыка!», але ў каго яго ўзяць, хто будзе гэтым няшчасным? Дзіця ж — не бунтаўнік, яно не вінавата, яно нават нічога не разумее! Вострым позірк Чаркезава сачыў за імі. Збянтэжаныя Панда і Маздрак нейкую хвіліну глядзелі адзін

* Чарбаджыя (гістар.) — прадстаўнік маладой буржуазіі, тут кулак.



аднаму ў твар, а пасля, не сказаўшы ні слова, абодва разам скіравалі позіркі туды, дзе над рэчкай стаяла маленькая, акуратная, як клетка для галубоў, Ільёва хатка. Паразумеліся моўчкі і павярнуліся да нецярплівага ката.

— Акрамя... дзіцяці таго разбойніка Ільё...— прамармытаў Маздрак, які ўсё яшчэ не мог даравацы крыўды.

— Ды і ў гэтыя дні якраз нарадзіўся! — кіўнуў у знак згоды тоўстаю галавою Панда Жулата.

Яны адчулі палёгку. Нованароджаны яшчэ нават нічога не бачыў, не чуў, не гаварыў. Гэта было б самым лёгкім, безбалесным выратаваннем для ўсяе вёскі. Бо Гаванка сапраўды і пры турках ні разу не гарэла, дык хіба можна дапусціць, каб спалілі цяпер! Адно малое дзіцянё нічога не значыць перад усёй вёскай.

— Давайце яго! — рыкнуў, як звер, Чаркезаў.

Чарбаджыі адправіліся з трыма жандарамі. Праз вокны Ільёвай хаціны данёсся пранізлівы піск, і неўзабаве перад Чаркезавым спынілася маладая маці з румянцам на шчоках і грудным дзіцем на руках. Яна хацела суняць сына і заспакоіць сябе, таму што раптоўна разбуджанае малое спалохалася і расплакалася.

— Распаві яго! — раўнуў Чаркезаў. Цветка першы раз падняла на яго вочы і спалохалася. Яна паслухмяна адкінула пялёнку і дрыжачай рукой агаліла маленькае, чысценькае, толькі што выкупанае немаўлятка. Яму было ўсяго тры дні ад роду, столькі ж, колькі і маладой уладзе.

— Хлопчык, — пацвердзілі чарбаджыі, уставіўшыся вачыма ў падпалкоўніка.

— Дзейнічайце далей! — кіўнуў кат галавою ў той бок, дзе дыхала жарам вогнішча.

Па загаду старасты вясковы вартаўнік Трыцат падкінуў на вогнішча дроў. Але ніхто не адважваўся выхапіць дзіця з рук маці. Перапалоханая Цветка не разумела, што тут павінна адбыцца. У хаце ёй сказалі, што афіцэр жадае сам пераканацца, ці праўда, што ў яе нарадзіўся хлопчык, і калі яна хоча ўратаваць хату ад пажару, то мусіць пайсці і паказаць падпалкоўніку дзіця. І яна распавіла сына. Ёмкі, дужанькі хлопчык закугакаў моцным голасам, і ад гэтага твар афіцэра скорчыўся ў непрыемнай грымасе. Ён пачуў у крыку дзіцяці голас жыцця, сілы, росту, будучай барацьбы і мужнасці, і яшчэ больш разгневаўся. Дзіця прыводзіла яго ў шаленства.

— Хутчэй, хутчэй! — надрываўся ён, гатовы кінуцца на чарбаджыяў.

— Трыцат! — крыкнулі тыя вартавому, які стуліўся ў натоўпе.

Вартаўнік пахіснуўся, як п'яны, падбег да Цветкі і хацеў выхапіць дзіця з яе рук. Цветка дзіка закрычала, не знаючы, што тут задумалі, але адчуваючы, што хочуць зрабіць нешта благое, калі сілком адбіраюць у яе сына. Засвістаў бізун, рассек на ёй кофту, чырвоныя пісягі прайшлі па спіне і шыі, з грудзей пырснула кроў, але яна не адпусціла дзіцяці. Як быццам яно было часткай яе цела. Трэба было адсекчы маці рукі, каб адабраць яго, — так моцна абшчапіла яна сына. Упала пасля на зямлю і закрыла сына сабою, і трэба было яе пасекчы на кавалкі, каб адабраць дзіця. Крык яе, здавалася, даходзіў да сярэдзіны зямлі.

— Матулечка!.. Нашто ж ты мяне нарадзіла! Чым пасля жыць, дык лепш і мяне з ім...

Але маці яе не магла пачуць. Яна ўпала ад жаху яшчэ ля веснічак.

— А божачка... — плакалі кругом жанчыны і дзеці і хрысціліся на царкву, але кат і не думаў злітавацца.

У тую хвіліну, калі Цветка з дзіцем рухнула на дол, нібы дрэва, якое вырвалі з карэннямі, расштурхаў натоўп ашалелы бай Захары. З раскудлачанымі пасмамі сівых валасоў кінуўся ён у ногі Чаркезаву.

— Злітуйцеся, пан... па... па... пал... — дрыжалі яго вусны.

Падпалкоўнік непрыемна зморшчыўся і пхнуў бай Захары нагою.

— Хто гэты баязлівец?

— Бацька маладухі, дзед...

— Па... пашкадуйце мя... мяне! — абхапіў стары, нібы кайданамі, абедзве нагі Чаркезава, і той на гэты раз не пхнуў яго.

— А што ён за чалавек? Хто ён?

— Дружбаш * быў, дзевятага чэрвеня яго скінулі, сам аддаўся ўладзе... — адрапартаваў спраўны Жулата, а Маздрак, тоўсты карчмар, дадаў:

— Гэта праўда. Захары не быў, як другія, слугой зяця. Багаты, заможны балгарын. Зяць выкраў яго дачку сілком, дык ён схапіў стрэльбу і хацеў забіць яго... І да гэтага дня не пераступіў парог зяцевай хаты...

— Але цяпер зяць зрабіўся мілы яму! — ашчэрыў зубы афіцэр і пхнуў бай Захары так, што той уткнуўся галавой у яго запыленыя боты, як авечка ў зямлю ад спякоты. — Ідзі прынясі 50 000 леваў кантрыбуцыі... Іначай я кіну гэтага бэнся ў вогнішча!

Бай Захары падхапіўся, апамятаўся імгненна і кінуўся подбегам прэч. За ім падаліся і некаторыя іншыя, каб выратаваць дзяцей і саміх сябе, адамкнуць скрынкі і куфры. Неўзабаве бай Захары вярнуўся назад. Ад стомы ці ад моцнага перажывання ногі яго запляталіся. Каля грудзей ён сціскаў завязаны ў хусцінцы вузельчык.



— Трошкі не хапае, але больш няма... — працягнуў бай Захары хусцінку з грашыма, плачучы і ад бяссілля і ад невядомасці, што будзе далей. Няўжо кат кіне грошы яму ў вочы і з крыкам: «Ты насміхаешся з мяне! Забярыце ў яе дзіця!» — рынецца, разлютаваны, да яго ўнука...

Стаіўшы дыханне, не зводзілі з афіцэра воч горцы. Які жэст ён зробіць зараз, якую дасць каманду?

* Дружбаш — член «Балгарскага земляробчага народнага саюза».



Чаркезаў павярнуўся да чарбаджыяў. Тыя паціснулі плячыма, а позіркам малілі падпалкоўніка ўзяць грошы.

— Астатнія вы даплоціце! Дзе вы іх возьмеце — ці свае ці зберацё з гэтай чэрні — мяне не цікавіць. Каб да заўтра былі грошы! — І зноў павярнуўшыся да бай Захары, кат замахнуўся шабляй. — А ну, прэч з маіх вачэй!

Прыгарнуўшы да сябе дзіця, Цветка адпаўзла ў натоўп і схавалася за спінамі людзей, як за сцяною, ад крыважэрнага позірку забойцы. А ўслед за ёю і бацька, хістаючыся і ледзь валочачы ногі, прайшоў, як лодка за параходам, у тую ж самую шчыліну. Сцяна натоўпу захінула і яго.

— І ўсё ж я хачу адпомсціць за пралітую кроў войск Яго Вялікасці! — стукнуў шабляй кат і зноў напалохаў старасту і карчмара. — Знайдзіце мне хлопчыка, ці інакш... Усё мужчынскае насельніцтва вынішчу!

Ён насунуў верхнюю губу на ніжнюю — усё роўна як засланку апусціў на рот — і замоўк. Чарбаджыі, якія ўжо былі супакоіліся, што бяда прамінула, зноў паніклі ў роспачы. Каго выбраць для ахвяры цяпер? На вочы ім трапіў вясковы вартаўнік. Панда падазваў яго, паклаў яму на плячо сваю цяжкую руку і заграбаў мясістымі пальцамі, як быццам хацеў садраць з яго сатлелую кашулю.

— Бяжы па Нямко! — загадаў ён, кіўнуўшы галавой у той бок, дзе Гаванка апускалася ўніз.

Трыцат блiснуў вачыма і, падштурхнуты старастам, пусціўся подбегам. Якраз насустрач ім з ніжняга канца вёскі бег, дражнячыся з сабачанём, Нямко. Гэта быў дзесяцігадовы хлапчук, глуханямы ад роду. Куды яго толькі ні вадзілі, якіх толькі зёлак ні давалі — нічога не памагло. Раілі паслаць яго ў спецыяльную школу, але на гэта трэба грошы, а іх — няма. Бацьку Нямка засыпала і раздавіла каменнем у



кар'еры. А маці вышла ў далёкае сяло замуж за мнагадзетнага ўдаўца, які не захацеў узяць у сваю сям'ю Нямка. Так ён і застаўся тут з бабай Вунай, якая была ўжо зусім нядужай. Яна дала яму волю, і Нямко цэлымі днямі не заглядаў дадому, еў, што давалі людзі, і начаваў, дзе прыдзецца. Вось чаму вясковыя чарбаджыі, шукаючы для ахвяры дзіця, якое не маглі б выкупіць ні бацька, ні маці, са спакойнай душой ухапіліся за Нямка. «Ён і так няшчасны, дык хоць не будзе мучыцца ўсё жыццё!» Хаця самі ведалі, што Нямко — хлопчык вельмі здатны да працы, што ў яго ўжо і сякера ў руках спрытна ходзіць, і кошыкі ён умее плесці куды лепш, чым іх дзеці.

— Гэй, хлопчык, хадзі сюды! — пераняў яго Трыцат і пачаў рабіць рукою знакі, як быццам хоча яму нешта даць.

Хлопчык падбег да вартаўніка. Худзенькі вяснушчаты тварык яго прасвятлеў. Але ўбачыўшы жандараў, Нямко крутануўся на бягу і паляцеў прэч, як кінуты прашчой камень. Трыцат і жандары пусціліся наўздагон, але Нямко не даваўся. Ён лоўка пераскокваў праз ямы і платы, залазіў пад клеці, узбіраўся на дрэвы. Нарэшце Трыцат усё ж схапіў яго, знячэўку, як сабака зайца, згроб у ахапак і панёс. Нямко вырываўся, брыкаўся, сэрца яго калацілася так, нібы хацела выскачыць з грудзей.

— Не бойся, дурненькі, не бойся! — супакойваў яго Трыцат.

Кашулька ў Нямка загалілася, і было відаць, як моцна хадзілі рэбры. Хлапчук вырываўся з усяе сілы. Жандары білі яго прыкладамі і так дацягнулі да дзядзінца.

— Божа, гэтыя людзі не баяцца граха!.. Гэта не людзі, — пападалі на дол жанчыны, не могучы перахрысціцца, і анямелі. Нават жандары адхіснуліся. А Трыцат ішоў і нёс хлапчука.

— Калі афіцэр усумніцца, скажы, што яно цяпер анямела ад страху! — шапнулі вартаўніку чарбаджыі і адышліся.

Трыцат спыніўся перад Чаркезавым. Той кіўнуў галавою: кідай!

...Дзядзінец апусцеў. Ні ў кога не хапіла сілы глядзець на гэтае жахлівае відовішча. Толькі Чаркезаў стаяў каля самага вогнішча і сачыў за полымем. Нават жандары паразбегліся, і чарбаджыі стаялі да агню спіной. Ім здавалася, што полымя прыпякае вопратку і даходзіць да сэрца, не даючы дыхнуць.

— Ха, ха, ха, ха! — пачуўся ім рогат ка́та. — Цяпер ужо ніколі больш не падумаюць пра рэвалюцыю...

На другі дзень за выдатныя заслугі Чаркезаву было прысвоена па тэлеграфе званне палкоўніка — па асабістаму загаду цара. І ў тую хвіліну, калі жандары тытулавалі яго «пан палкоўнік», прыйшла другая тэлеграма: спыніць кровапраліцце і пажары. Перад тым, як пакінуць Гаванку, Чаркезаў сагнаў усіх жыхароў на пляц і пасля бою барабана падняўся на паваленц плот і абвясціў, што вёска з гэтай пары будзе называцца іначай.

— Гаванкі ўжо няма. Хто назаве Гаванкай, хай успомніць, вось пра гэта... — паказаў ён на пачарнелае вогнішча, у якім згарэў Нямко.

— Чаркезавай! Чаркезавай назавем! — закрычалі ў адзін голас чарбаджыі.

— Не! — адрэзаў палкоўнік. — Я чалавек прынцыповы, я даў клятву і верна служу Яго Вялікасці. Ваша вёска будзе называцца Царавай.

Ён нават прымусіў чарбаджыяў першымі гучна выкрыкнуць новую назву Гаванкі перад народам. Але як толькі ён, захінуўшыся, як смерць, у чорную палярыну, пакінуў вёску, як ужо ніхто не называў яе Царавай. Гэта назва напаміналa аб крыві і пажарах, аб штабялях трупаў, аб застылых тварах мерцвякоў, аб жахлівых днях і начах. Панда Жулата браў на заметку ўсіх, хто называў вёску па-ранейшаму Гаванкай, загадваў вартаўнікам падслухоўваць ноччу каля платоў і вокан, штрафаваў самых непадатных. Але вяскоўцы плацілі штраф і крычалі са злосцю і пагардай у вочы старасту.

— На табе не пяць, а дзесяць леваў, але ўсё ж — Гаванка і толькі Гаванка!

Не памог і ліст з падзякай ад цара, які быў прачытаны, як жалобнае паведамленне сярод вёскі. Улада даносіла ў паліцыю, арыштоўвала, біла, але назва Царава засталася толькі на шыльдзе абшчыны і ў дакументах. У сэрцах вяскоўцаў было высечана слова Гаванка, і яго ніхто не мог забыць.



4

Цветка нарадзіла ў тую самую ноч, калі Ільё, схапіўшы сякеру, вылецеў на вуліцу і больш не вярнуўся. Бацька бай Захары не прышоў ні раніцай, ні ў наступны дзень, каб пабачыць унука і надарыць яго грашыма, як гэтага патрабаваў звычай. Толькі адна маці прыбегла і завіхалася каля парадзіхі.

— Схадзі, палюбуйся на ўнука, ён жа крошачкі твае пазбіраў! Твaё імя будзе насіць! — тузала яна мужа, але бай Захары пыхцеў і сярдзіта адварочваўся ў другі бок.

— Ну, і хай жыве здаровы, а маё слова — закон!

Ён убачыў першы раз унука тады, калі забраў яго з рук ка́та. Занёс яго дадому, захінуў у сваё адзенне, і ўжо ў хаце, прыглядзеўшыся да вочак малога, паслухаўшы яго заспакоенае, роўнае, цёплае дыханне, пагадзіўся з тым, што дзіця сапраўды падобнае да яго роду. І ў той жа дзень наважыў яго ахрысціць. Сам паклікаў папа і, апусціўшы вінавата галаву, сказаў, якое імя трэба даць нованароджанаму!

— Ільё загінуў... Ільё нарадзіўся!

Усе былі ўпэўнены, што Ільё забіты каля маста. І паколькі сваякам не дазволілі забраць трупы, то лічылі, што яго, напэўна, разам з іншымі расцягалі па цяснінах сабакі, якія цэлымі начамі вылі ў гарах. Паводле звычаю, калі дзіця нарадзілася пасля смерці бацькі, яго называюць бацькавым імем. Унука бай Захары поп ахрысціў Ільём.

Малое засталося пры бабе і дзеду, і наперакор страшнаму лёсу, які яму падрыхтавалі карнікі, расло здаровым, ёмкім хлапчанём. З кожным днём яно ўсё часцей адкрывала вочкі і пазірала якраз, як бацька. Русыя кудзеркі на галаве пачалі цямнець, тварык мяняцца, губляючы рысы матчынай радні і набіраючы ўсё больш падабенства да бацькі. Носік з кірпатага рабіўся прадаўгаватым, на ім выступала гарбацінка, шчокі спадалі, а скулкі, наадварот, выдзяляліся ўсё больш, смуглявасць выцясняла ўсё бялесае, і неўзабаве на падворку затупаў малюсенькі Ільё — выліты бацька. Ён называў дзеда «татам», бабу — «мамай», а

маці — «какай» *. Гэта часта бывае з дзецьмі, якіх гадуюць дзяды і бабулі. Пра бацьку свайго хлопчык даведаўся толькі тады, калі прышла пара ісці ў школу. Тады яму адкрылася тайна, якую хавалі ад яго доўгі час: хлопчыка запісалі не на імя дзеда Захары, а на імя Ільё — такое ж, як і яго, на імя чалавека, якога ён не бачыў і нават не ведаў. Гэта быў яго бацька. Пра яго гаварылі ціха, употайкі, а дзед зусім ніколі яго не ўспамінаў. Яго імя было ахутана нейкім туманам, і гэта засмучала маленькага Ільё? Дзе ён? Які ён? Гэтыя пытанні ўсё часцей і часцей узнікалі ў дзіцячай галоўцы, але на іх ніхто не даваў яму адказу, і беднае хлапчанё яшчэ мацней заблытвалася ў розных здагадках. Калі Ільё прышоў у школу, настаўнік, які быў прысланы сюды аднекуль здалёк, пачаў яго распытваць, як і ўсіх дзяцей, для знаёмства. Пра сваю маці Ільё адказаў ясна, звонка, гледзячы настаўніку проста ў вочы.

— А бацька твой дзе? — запытаў настаўнік.

Хлопчык адразу ж апусціў галаву, яго звонкі галасок асекся.

— Што твой бацька робіць? Скажы, ну! — пакратаў ён завостраны падбародак Ілы, але той глядзеў сабе пад ногі і маўчаў.

— Хто нічога не гаворыць пра свайго бацьку, таму нельга вучыцца!— прыстрашыў яго настаўнік. Ільё пакрыўджана насупіў бровы і зноў прамаўчаў.

— Хм! — настаўнік правёў рукою па расчасанай галоўцы і зрабіўся больш лагодным. — Чаму ж ты не хочаш гаварыць пра свайго бацьку? Баішся, што будзе біць?

Хлопчык уздрыгнуў і як-быццам анямеў. Настаўнік нагнуўся і ўбачыў, што яго вочы поўныя слёз.

— О-о, вось табе і на! Чаго ж ты плачаш?

Ільё рэзка вызваліў пляча з-пад рукі настаўніка і кінуўся да дзвярэй.

— Стой, Ілійча! Стой, я пажартаваў, не праганю цябе!

Пачуўшы сваё імя, Ільё спыніўся недалёка ад дзвярэй, усё яшчэ ўставіўшыся ў падлогу. Слёзы віселі ў яго на вейках, як бліскучыя зерні ранішняй расы. Настаўнік глядзеў здзіўлена, ён крыху збянтэжыўся і нават адчуваў сябе вінаватым. Як магло здарыцца, што расплакаўся такі вясёлы, бойкі хлапчук?

— Яго бацьку забілі, пан настаўнік! — падняўся за апошняй партай старэйшы хлопчык. Ён ужо даўно цягнуў руку ўгору, але настаўнік не заўважаў.

— Як было паўстанне... — дабавіў ён амаль шэптам, і настаўнік крутануўся, нібы яго кальнулі шпількай. Хлопчык, спужаўшыся сваёй смеласці, стуліўся за спінамі вучняў.

Настаўнік памкнуўся да дзвярэй, каб прылашчыць Ілью, але той выскачыў са школы і, плачучы, пабег дахаты. Яшчэ ля варот, усхліпваючы, ён запытаў дзеда:

— Ці праўда, што тата...

Бай Захары цяжка ўздыхнуў, паставіў рыдлёўку, якою поркаўся на гародзе, і прыгарнуў хлапчука. Ільё ўткнуўся галоўкай у крысо дзедавага пінжака.

— Праўда, унучак...

З гэтага дня Ільё зрабіўся зусім інакшы—замкнуты, негаваркі, маўклівы і ў школе, і дома.

* Кака — з гэтым словам звяртаюцца да старэйшай сястры, да старэйшай жанчыны.



— Што гэта ты так задумаўся? — пыталі яго часта і дзед з бабай у хаце, і настаўнік у школе.

Калі дзед сварыўся, Ільё сціскаў дрыготкія губы, глытаў слёзы і агрызаўся:

— Ты не мой тата!

І хоць яго ніхто не вучыў гэтаму, мала-памалу ён пачаў звяртацца да бай Захары не з прывычным «тата», а — як і трэба было — са словам «дзед». Цветка, пачуўшы гэта, глядзела на яго строгім позіркам, але Ільё не бянтэжыўся.

— Што ты на мяне так глядзіш? Ён жа мой дзед, а тату забілі каля таго маста, які ён сам зрабіў...

— Хто табе сказаў? — хапілася Цветка рукамі за шчокі.

— Пра ўсё, што вы ад мяне таілі, мне расказалі людзі. Мяне хацелі спаліць. Я выкупленае дзіця... Замест мяне згарэў Нямко.

Ільё глядзеў на маці з дакорам. Светлыя вочкі яго пяклі, як гарачыя вугалькі: «Вы згадзіліся, каб згарэла другое, няшчаснае дзіця, абы я застаўся жывы...»

— І таму Трыцат ходзіць звар'яцелы...

Маці расплакалася.

— Аб гэтым мы ніколі не ўспаміналі таму, што бяда яшчэ не мінула. Абшчыннікі цікуюць...

Хлопчык ужо даўно зразумеў, што яны — гэта адно, а абшчыннікі — гэта нешта другое, адасобленае ад усіх вяскоўцаў. Тыя, што хацелі яго спаліць, цяпер падслухоўваюць, сочаць. Ільё ўзненавідзеў іх да глыбіні душы. Ён не ўступаў ні ў якую гульню з чарбаджыйскімі дзецьмі. Іншы раз ён забываўся на сваю нянавісць і забаўляўся разам з імі, але як толькі яны хацелі яго ўдарыць, у ім абуджаўся страшэнны гнеў — і ох, як жорстка ён з імі распраўляўся! Чым болей ён падрастаў, тым большай і зацятай рабілася яго нянавісць. Часта сярод ночы ён задумваўся над лёсам Нямко і не мог тады ўжо спаць да самай раніцы. Маці баялася, каб ён, крый божа, чаго не зрабіў сабе або не звар'яцеў. Што ні рабіла яна, каб сын не думаў пра жахлівае мінулае, усё было дарэмна. Ільё пазбягаў людзей, цураўся і дамашніх, пазіраў хмура і злосна.

«Як вы можаце спаць? Як вы церпіце?..» — пыталі яго запалёныя вочы.

Заспакаенне магло б прысці толькі тады, калі б хлопчык даведаўся пра ўсё, што было. Так раіў і настаўнік. Але людзі былі напалоханы, надламаны нядаўнім мінулым і не мелі сілы загаварыць на поўны голас.

Здарылася так, што разгадка ўсіх непаразуменняў прышла да Ілы з другога боку. Было нейкае свята. Пад вечар каля карчмы Маздрака зайграла музыка. І старыя і маладыя павыходзілі на вуліцу. Вёска загаманіла, шум стаяў у наваколлі, але харо * не закружылася. На дзядзінцы была праліта кроў, тут быў стаптаны прах спаленага дзіцяці, разбураны дом будучыні. І колькі абшчыннікі ні дамагаліся, моладзь хадзіла гуляць у канец вёскі, туды, адкуль ужо недалёка было да Ільёва маста. Там хлопцы самі ігралі на дудачках, на губных гармоніках, усе дружна спявалі песні, танцавалі або проста так дурэлі. І ў гэты дзень маладыя парачкі міналі карчму і ішлі далей. Святочнае адзенне ўпрыгожвала іх, як сцягі вуліцу. Сівыя дзяды, апранутыя ў свае

* Харо — балгарскі нацыянальны танец.

маляўнічыя беняўрэцы *, сядзелі каля карчмы на лаўках, падпёршыся кіямі, углядаліся ў малады свет і лагодна бурчалі. Твары іх свяціліся то ціхім смуткам, то радасцю.

Сонца хутка схавалася за скалістымі вяршынямі. Горы кінулі на вёску свой важкі халодны цень. У тлумным натоўпе каля карчмы нечакана паявілася двое незнаёмых, напэўна, не тутэйшыя. Адзін быў апрануты ў чорнае, другі — у шэрае.

— Ну, а дзе ж староста? Хто ў вас за старасту? — запыталі яны голасна, зняўшы шапкі і павітаўшыся са старымі.

— Тут быў! — адказалі ўслужліва дзяды ў беняўрэцыях, але незнаёмыя мітусіліся ў натоўпе і гукалі тым жа голасам:

— Старасту сюды! Дзе ваш староста?

— Быў тут, у карчме... тоўсты такі, вялізны, як гэта гара... У яго на канцы кія разяўлены леў...

Незнаёмыя ўжо хацелі пераступіць парог карчмы, як расчыніліся дзверы, і адтуль выпхнуўся грузны Панда, расчырванелы і потны ад выжлуктанага віна. Ён пахіснуўся каля парога і важна выпрастаўся перад імі, падняўшы ў руцэ кій з разяўленай пашчай льва.

— Я староста!

Адзін з незнаёмых заклаў рукі за спіну і адышоўся ўбок, а другі, гледзячы старасту ў вочы, сказаў:

— Пісьмо вам прынёс.

Затым спакойна палез у кішэню паліто, выцягнуў рэвальвер і бах, бах, бах — прама ў грудзі Жулату. Павярнуўся да таварыша, і абодва шпаркім крокам рушылі па вулачцы, якая вяла на Гарадзішча.

— Гэй, хто там страляе? Забаронена страляць! — закрычалі ў натоўпе. А тыя, што былі бліжэй, кінуліся да забітага старасты. Панда ляжаў дагары, загарадзіўшы жыватом уваход у карчму. Сціхла музыка. Людзі кінуліся з дзядзінца хто куды. Толькі Міцата, Маздракаў парабак, выбег з гаспадаровай стрэльбай аж да рэчкі і стрэліў у бок лесу.

— Як гэта здарылася? Чаму іх не схапілі? — крычаў ашаломлены Маздрак і сіліўся падняць свайго прыяцеля, які пасля смерці зрабіўся яшчэ цяжэйшы.

— Вельмі добра, што мы іх не зачапілі, а то б цяпер чалавек дзесяць ляжала! — апраўдваліся некаторыя, здагадваючыся, хто былі гэтыя незнаёмыя.

Дзядзінец апусцеў. І карчма таксама. Каля забітых застаўся толькі Міцата са стрэльбай — вартавáць, пакуль прыдзе следчы. Апошнім з дзядзінца пайшоў Ільё. Не пачуўшы ні ад каго ні слова, ён сам усёй сваёй істотай зразумеў, хто былі тыя невядомыя, далёкія, храбрыя людзі. Першы раз ён вярнуўся ў хату з адкрытым, ясным позіркам, адпаў цяжар, што давіў на грудзі, захраснуты ў горле даўкі камяк нарэшце праглынуўся. Усхваляваны, Ільё радасна сказаў яшчэ з парога:

— Нарэшце-такі адплацілі за Нямко! Так яму і трэба, Жулату!

— Але хто? — спалохаліся зноў дамашнія; хаця б і Ілью не палічылі замешаным у гэтую справу.

— Вядома хто! Засталіся ж татавы таварышы...

* Беняўрэцы — вузкія белыя штаны з даматканага сукна, іх носяць у заходніх раёнах Балгарыі.



— Ільё, сынок, змоўкні, прашу цябе!

На другі дзень у вёску прыехалі паліцэйскія, крычалі, лаяліся, дапытвалі сотні людзей, але ўсе гаварылі адно і тое ж: «Нейкія два незнаёмыя. Уцяклі ў горы». Ні западозрыць, ні арыштаваць каго не ўдалося. Не толькі паліцыя зразумела, што незнаёмыя прыйшлі з-за граніцы для расплаты, вяскоўцы таксама пагаварвалі цішком пра гэта.

— Яны прысланы адтуль... эмігранты.

Каля хаты настаўніка Дамяна бесперапынна сноўдалі патрулі, сачылі, прыслухоўваліся, а час-ад-часу ўрываліся ноччу ў пакой, чапляліся да старых.

— Ну, каго вы тут шукаеце? Няўжо вам мала таго, што вёска засталася амаль без мужчын?

— Дамяна. Ён вярнуўся. Прыйшоў нелегальна з Расіі. Ён хаваецца ў вас!..

— Эх, калі б ён быў жывы ды каб пабачыць яго хоць адзін раз, тады і паміраць можна было б!

З вуснаў у вусны перадавалася чутка, што Дамян паяўляецца тайком у вёсках і будзіць людзей да новай барацьбы. Хоць гэта была ўсяго чутка, для Ільі было досыць і яе. Яна памагла яму вырваць корань пакут, які глыбока ўросся ў сэрца. Ён хадзіў цяпер з адкрытай душой па тых месцах, дзе змагаліся паўстанцы, і родная зямля не толькі прычыняла яму пякучы боль, але і акрыляла верай. Перад яго вачыма вырасталі дужыя, бясстрашныя пасланцы, таварышы яго бацькі. І ён вельмі шкадаваў, што не кінуўся тады нацянькі да лесу, каб перанясць іх там, пабачыць зблізку. Невядома чаму, але яны абудзілі ў душы хлапчука надзею: можа быць і бацька яго жывы!.. Гэтая думка мільганула і акрыліла Ільо, для яго ўсё больш ясна пачаў вырысоўвацца вобраз бацькі. Ён уяўляў сабе кожную яго рысачку, дабаўляў ад сябе тыя, якія яму здаваліся найлепшымі, і гэтакім чынам стварыў сабе вобраз героя, з якім ніколі не расставаўся. Хоць і нябачны, гэты герой даваў яму парады, калі і як сябе паводзіць, як дзейнічаць у тым ці іншым выпадку. Ільё ніколі не чуў яго голасу, але ў цяжкія хвіліны яму здавалася, што ён гутарыць са сваім героем. І яго голас хлопчык адрозніваў ад соцень другіх галасоў. З гэтым вобразам у сэрцы і жыў Ільё. Ён быў амаль пераканаы, што бацька яго забіты, але вобраз яго жыў і надаваў Ільо сілы. Як і бацька некалі, Ільё насіў за поясам невялікую сякерку, смела хадзіў у горы і прыносіў дзеду жэрдкі для плоту. Часта ён бываў на дзядзінцы, дзе яшчэ бялеліся цагліны колішняга клуба і дзе згарэў Нямко. Там да гэтага часу не вырасла трава. Нават зямля помніла і адчувала сябе настолькі зняважанай, што не дазваляла чаму б там ні было жывому пусціць тут карэнне. Яна была гарэлая і патрэсканая і, здавалася, так сціснула ад болю сківіцы, што ніякая рыдлёўка не магла даць рады. Блукаючы там, Ільё адчуваў, як яму ў пяты колюць знізу пякучыя агеньчыкі. Кожную ямку, кожнае дрэўца на Янчыным сне ён аглядаў па некалькі разоў. Гадзінамі хадзіў задуменны па беразе ручая, да якога прыганяў на пашу дзедавых авечак, і шукаў магілы забітых. Яго фантазія малявала сцэны бітваў і смерці герояў, у яго вушах гучалі каманды настаўніка Дамяна, які кіраваў паўстаннем. Ільё задыхаўся ад захаплення, думаючы пра подзвігі паўстанцаў. Але найбольш яскрава ўяўляўся яму вобраз бацькі. Бацька быў самым простым чалавекам сярод другіх, яму нават не далі стрэльбы, але ён адзін застаўся абараняць мост, бо быў самым

цвёрдым і смелым... Смерць бацькі яму ўяўлялася хоць і страшнай, але незвычайнай, гераічнай, такой, якая робіць чалавека жывым назаўсёды... Вось чаму Ільё кожны раз гнаў авечак да балотца, да разбуранага маста-помніка.

— Ты чаму трымаеш цэлы дзень авечак у балаціне? — бурчаў на яго дзед, але Ільё задзірыста адказваў:

— Гэтая балаціна мае сваё імя. Ільёў мост!

— Усё адно... — не згаджаўся дзед назваць тое месца Ільёвым мастом. — Хочаш, каб авечкі пахварэлі?

Бай Захары разумеў, што хлопчык хоча ведаць усё дарэшты, але не адважваўся прызнацца, што і сам ён змяніўся за гэтыя гады. Толькі тады, калі Ільё стаў гімназістам, дзед сказаў яму пра ўсё, бачачы, што сын непахісна ідзе дарогай бацькі.

— Ты глядзі, асцерагайся, бо і тут, і там, у гімназіі, ёсць людзі ўсякія! Яго трывожыла самаўпэўненасць унука і, уздыхнуўшы, ён дадаў: — Ты ўжо не маленькі, табе можна сказаць. Памыліліся тады нашы!

Пад «нашымі» дзед разумеў паўстанцаў, і Ільё моцна ўзрадаваўся, што нарэшце чуе з яго вуснаў словы, якія сведчылі, што і бай Захары далучыўся ўпотай да справы яго бацькі.

— З сякерамі і дубінамі царызм не перамагчы!.. — уздыхнуў бай Захары. — Упусцілі зручны момант. Калі забілі Стамбалійскага, трэба было падняцца ўсім разам. Але кіраўніцтва тады заігрывала з гарадской і сельскай буржуазіяй. Тут бедната згуртавалася, а там...

Ілійча, як яго звалі дамашнія, быў бясконца рады такой перамене ў поглядах дзеда. Знайшоўся, нарэшце, чалавек, якому можна было цалкам даверыцца. Кожны раз, калі што-небудзь цяжка было зразумець, Ільё звяртаўся да дзеда. Хлопчыку перадалася ў спадчыну бацькава прага да ўсяго прыгожага, чыстага; у яго руках гарэла любая работа — за што б ні ўзяўся, выходзіла так, што дамашнія толькі дзівіліся: «Бацька, і ўсё тут!» У гімназіі ён быў адным з лепшых вучняў. Многа чытаў, старанна выконваў усе заданні, і настаўнікі яго любілі. Хадзіў заўсёды акуратны, быў уважлівы і чулы да таварышаў, паводзіны яго былі бездакорнымі. Маўчаў, калі яго не пыталі, думаў раней, чым сказаць самому. Асцерагаўся, як раіў дзед, благіх людзей, хоць у душы яго было поўна розных дум і пачуццяў. Гэтая акалічнасць завастрала яго розум, рабіла позірк пранікнёным, загартоўвала волю. Дамашнія памагалі яму ўсім, чым толькі маглі. Бай Захары хоць і лічыўся ў вёсцы чалавекам скупым, але аддаваў апошнія грошы, каб заплаціць у сталоўку, дзе Ілью давалі абедаць напавер. Ён ганарыўся ўнукам перад вяскоўцамі і сачыў, каб не здарылася чаго-небудзь кепскага. Ніколі не думаў стары, што на схіле год так пераломіцца яго зачарсцвелы характар, што так ачысціцца яго шурпатае, нібы костачка персіка, сэрца. Можа быць таму, што ўвесь набытак, над якім дрыжаў, ён ахвяроўваў Ілью, знікала ў душы прагавітасць і скнарасць. Бай Захары маладзеў новымі думкамі і пачуццямі, як гарун * новым лісцем. Да яго нібыта прышла другая маладосць. Ілійча вярнуў яго да людзей,

* Гарун — від дуба.



ад якіх ён сам сябе адгарадзіў яшчэ тады, калі быў старастам. Невідочны малады здаровы корань звязаў Захары нанава з зямлёй, якая напаіла яго сваімі сокамі. Ён адчуваў, што вяскоўцы зноў пачынаюць яго паважаць. І яшчэ мацней прырос душой да ўнука. Увесь сэнс жыцця ён цяпер бачыў у тым, каб дапамагчы Ілью стаць на ногі.

5

Але выкуплены ўнук не мог заставацца толькі прыяцелем свайго дзеда. Чым больш ён падрастаў, тым больш пачынаў разумець, што за сваё жыццё ён павінен быць удзячны не толькі дзеду, але і ўсёй вёсцы. Ён адчуваў усёй сваёй істотай, што любоў гэтых людзей, якія ламалі рукі, падалі на калені і вымольвалі ў ката літасць, важыць больш, чым выплачаныя грошы. Ён лічыў сябе іх даўжніком, які павінен нешта зрабіць, каб расплаціцца. І тады яны прызнаюць яго сваім любімым дзіцем. Але што зрабіць і як?.. Зусім нечакана Ільё ўспомніў пра бацькаў мост, і радаснае трапятанне прайшло па ім ад шчаслівай думкі: «Можа быць, гэты мост, які будаваў і абараняў бацька, паставіць зноў, зрабіць яго каменным, з гранітнымі падпорамі і белымі парэнчамі — гэта быў бы найлепшы падарунак! Але як!.. — уздыхнуў ён. — Сваімі дзвюма рукамі!..» Ён гатоў быў усё жыццё класці камень за каменем, каб толькі здзейсніць сваю мару. Ад думкі, што ён неўзабаве возьмецца за працу, яго біла радасная ліхаманка. Гэта было б сапраўднае шчасце! Пабудаваць помнік бацьку і яго баявым таварышам!..

Аднак людзі яго ўзросту гэтак жа хутка астываюць, як і загараюцца.

«А што, калі прыдуць абшчыннікі ды схопяць за вуха: «Ты хто такі? Малакасос! Ён мост пабудуе! Вытры лепш пад носам!..» Ільё аціх, ахінуты новым пакутным роздумам. Што зрабіць? Можа што меншае, каб было па сіле...

Доўгі час хлопчык хадзіў маўклівы, паніклы. Неспакойная душа таіла ў сабе небяспеку распусціцца заўчасна, як тыя дрэўцы, што спяшаюцца зазелянець яшчэ напрадвесні ад подыху паўднёвага ветру, а пасля, схопленыя веснавымі замаразкамі і снегам, вянуць і засыхаюць. Паўднёвы вецер праляцеў над Ільём занадта рана, калі ў яго жыцці яшчэ не наступіла і прадвесне, і скалыхнуў яго да карэння, сагнуў, як маладую сцяблінку, разгойдаў крохкае званлівае голле і шматаў яго заўзята, з асалодай. Гэта было для яго прадвясновае выпрабаванне. Але і для самай чэзлай пупышкі наступае дзень, калі, сагрэтая сонечнымі праменнямі і набрынялая зямнымі сокамі, яна вымушана зацвісці.

Доўгі час пасля паўстання ўсе вяскоўцы лічылі, што бацька Ільі загінуў каля маста. Таму ён і насіў бацькава імя, таму і паміналі бацьку тайком у задушніцу * разам з іншымі ахвярамі. Можа быць па гэтай жа прычыне і прадстаўнікі ўлады былі да яго літасцівымі: «Сірата!» Пазней аднекуль прышла была чутка, нібыта Ільё застаўся

* Задушніца — дзень памінання нябожчыкаў.

жывы і ўцёк у Сербію. Душа Цветкі распрасталася, як прыбітая градам трава пасля раптоўнага моцнага дажджу. Калі была аб'яўлена амністыя, у прыдунайскія сёлы вярнуліся некаторыя эмігранты. Цветка з'ездзіла туды і даведалася — сапраўды, быў нейкі Ільё, але, здаецца, ён захварэў там... і больш нічога! Зноў угняздзілася думка, што Ільё загінуў. Прайшло некалькі гадоў, і маладая жанчына пачала вагацца — ці выходзіць ёй нанава замуж ці дажываць свой жаночы век удавой.

— Глядзі сама, — буркнуў бай Захары, — калі ёсць удачны выпадак — выходзь, пра нас не думай, не пакіну Ілью на паўдарозе. Але я не хацеў бы гэтага...

Быццам дзікім лясным ажэўнікам сцебанулі Ілью па твары. З гэтага дня ён узненавідзеў маці. Як яна смее думаць пра другога мужа! Ці знаў бацька, якая яна нядобрая жанчына? Большай крыўды, чым гэта, для Ільі не было. Усе ж пачнуць гаварыць: «Вось яны якія, камуністкі! Рэвалюцыю робяць, а як толькі мужоў не стала, дык і яны, як некаторыя... Не маюць сіл застацца вернымі да магілы. У бога не вераць, царскім законам не вераць, але і ў свае ідэі таксама не вераць, і свае законы пераступаюць... У іх няма нічога святога — робяць, што каму ўздумаецца!» Хлопчык моцна перажываў. Ён глядзеў на маці хмура, ні аб чым не гаварыў з ёй, пра нешта думаў, а пра што — і сам не ведаў. Яму здавалася, што ён пакінуты ўсімі. Выкупленаму дзіцяці пагражала небяспека застацца яшчэ і круглым сіратой. З яго пачнуць усе насміхацца, а ён не будзе ведаць, як бараніцца і куды дзецца.

«Лепш бы мяне тады спалілі!»

Узнікла ў галаве і думка аб помсце: калі войчым прыдзе ў іх хату і ляжа на бацькаў ложак, Ільё возьме вялізную сякеру, якой валяць лес, і храсне войчыму па чэрапе... А сам заявіцца ў паліцыю... або сыйдзе ў горы, куды вочы глядзяць, толькі сюды ўжо не вернецца...

Дзед не заўважаў нічога, але маці на тое і ёсць маці, каб разумець дзіця і тады, калі яно маўчыць. Яна здагадалася, што хоча сказаць ёй Ільё. Здагадалася па тым, як злосна адварочваўся ён, калі яна выходзіла сустракаць якога-небудзь дзедавага госця або ўсміхалася чужому мужчыну. І старалася не рабіць дзіцяці болю.

Але нечакана прыйшло на імя Цветкі пісьмо, якое развеяла ўсе яе ваганні і канчаткова ажывіла надзеі ў душы Ільі. Пісьмо прыйшло з Савецкага Саюза. Нейкую хвіліну яны баяліся нават яго ўскрываць. Разгледзелі маркі, штамп, дату — пісьмо ішло доўга. Яно і палохала і вабіла нейкай таямнічасцю і невядомасцю. Радасць распірала грудзі і ў той жа час — было неяк боязна.

— Мо' паліцыя напісала, каб праверыць нас? — выказаў падазрэнне бай Захары.

Цветка трымалася за сэрца. Яна ўся калацілася. Імя мужа на канверце мітусілася ў ваччу. Яго вобраз ажываў у самых падрабязных рысачках — з ускудлачаным чубам і крыху згорбленым носам, з затоеным смехам у вачах. Яна бачыла яго такім жа, якім ён быў, і толькі колеру вачэй не магла ўспомніць. Яны былі ні то сінія, ні то карычневыя, ні то чорныя, ні то зялёныя... А якія?! Сказаць не можа! Чамусьці выпала з памяці. Як быццам час зрабіў з яго твару адбітак — прымітыўны, бледны, невыразны, як імгненнае фота. А яе нібы асляпіла. Хіба



можна так забыць колер вачэй, якія цалавала, у якія ўглядалася і наглядзілася ўдоваль! Напружвала памяць, колькі было сілы, а ўспомніць — не магла. Закалыханая цягам доўгіх гадоў памяць расходзілася, як вір, у які кінулі камень, але толькі адны сонныя кругі кружыліся і прападалі, а яснага нічога не выплывала. У галаве ўзнікалі апраўданні — столькі перажытага жаху, пажары, пабоішчы... Мо' яны і засланілі ў памяці гэты дарагі вобраз. Яна не бачыла яго нават на фота. Усе здымкі забрала паліцыя, а адзіную маленькую картачку, якая была ў бацькавай хаце, насіў каля сэрца Ільё.

«Божа, ці не звар'яцела я!» — жахнулася Цветка.

У хату ўляцеў Ільё, моцна грукнулі дзверы, а яна так і стаяла разгубленая, з пісьмом у руцэ.

— Чаго глядзіцё? Ад таты! Жывы! — выхапіў ён пісьмо, разарваў канверт і прачытаў адразу, выкрыкваючы з радасці, як непрытомны. Голас яго захліпваўся, і толькі вочы, вылупленыя ад напружання, упіваліся ў словы і ад гэтага рабіліся яшчэ больш бліскучымі.

Цветка страціла голас, і сама, здавалася, перастала існаваць. Некалькі дзён назад яе спаткаў поп Павел і, працягнуўшы руку для пацалунку, прашаптаў: «Па царкоўнаму закону час прамінуў, чада, можаш выходзіць замуж! Досыць нагаравалася адна. Бог табе дазваляе!» Поп узварушыў жаночую душу і нібы нейкімі граблямі павыцягваў з яе сухое быллё і пустазелле. Цветка задумалася: да пары да часу яна паслухала бацьку і не пайшла замуж дзеля Ільі, але цяпер... Яна стане нявесткай Маздракаў. Будзе распараджацца ўсім у доме багацеяў. Будзе толькі адпачываць і прыгажэць, бо хоць і маладая, а ходзіць ужо згорбіўшыся і галаву гне ўсё ніжэй да зямлі, як бабуля... І вось — пісьмо! Яна не магла дараваць сабе, што ў яе душу запаўзла чарвяком думка — высці яшчэ раз замуж, каб пражыць па-людску свае апошнія гады. Праклінала і папа, але найбольш дакарала самую сябе: «Паскуднікі мы жанчыны, паскуднікі!» Столькі гадоў сумавала па мужу, была вернай яму, а нарэшце ўзяла ды хвастом закруціла! Хіба можна так паддавацца спакусам жыцця і дайсці да таго, што вочы не сароміліся адкрыта глядзець на мужчын, шукаць, выбіраць з іх ліку дастойнага! Што ж гэта, калі не распуста?!.

Пісьмо яе надламала. Яна стаяла аслупянелая і гарэла ад сораму, нібыта не пісьмо, а душа яе была распячатана і ўсім стала бачна, што яна не такая святая, якой выстаўлялася перад людзьмі, што ў яе душы ўгняздзілася распуста. Як жа цяпер дакрануцца да гэтага пісьма, як адважыцца прачытаць яго!.. Якімі вачыма глядзець на радкі, напісаныя рукой таго, хто дзеля яе...

«За мяне не турбуйцеся. Мне тут вельмі добра... Вучуся ў Ваеннай акадэміі імя Фрунзе...»

— А-а-а, — ускрыкнула яна, праводзячы рукой па твары. Быццам адвалілася нейкая заслона, што засцілала зрок, і яна ясна ўбачыла вочы свайго мужа, яго, толькі яго вочы — з іх цёплым светла-зялёным, як маладыя лісточкі бука, колерам у дробненькіх карычневых крапінках. І ад гэтага ёй раптам стала лягчэй, нібы яна выкупіла сваю віну. Цветка паглыбілася ў пісьмо. На подпіс глядзела доўга, узіралася, як у дзіўныя вочы мужа, але нарэшце дайшла да радкоў:

«... А як жа сын? Напэўна, вялікі ўжо...»

Бацька пытаўся, як вучыцца Ільё, і прасіў прыкласці ўсе намаганні, каб толькі даць сыну адукацыю. І Цветку зноў апёк балючы сорам — яна ўспомніла размову з бацькам і падумала, што ніякі войчым не згадзіўся б выхоўваць такога вялікага сына!.. Ёй зрабілася нядобра. Яна крыкнула, нахілілася на камод, закрыла рукамі бледны, бяскроўны твар. Збянтэжаная маці хацела падтрымаць яе, але Цветка не далася і загаласіла, як злоўленая за грахом. Хоць новы муж, які павінен быў замяніць Ільё, яшчэ і не быў вядомы, яна ўсё адно лічыла гэта здрадай. Выселіць з душы аднаго чалавека і адкрыць яе для другога — што ж гэта, калі не здрада? Не важна, хто ўвойдзе ў душу на месца першага. Усё адно! Здрада была.

— Ну, досыць жа, досыць плакаць, жывы ж ён! — супімала яе маці, праслязіўшыся сама. — А то пачуюць людзі, скажуць: «Во, разраўлася з радасці!»

— Няхай чуюць! — крыкнуў задзірысты Ільё. — Няхай усе чуюць, няхай ведаюць, што ён жывы! І няхай радуюцца нашы і дрыжаць чарбаджыі!

Пра пісьмо дачуліся не толькі ў Гаванцы, але і ва ўсім наваколлі. Нават з далёкіх сёл прыходзілі да Цветкі людзі спытаць, ці праўда, што яна атрымала ад мужа пісьмо, і ці не даведаюцца яны што-небудзь пра сваіх блізкіх. Хата бай Захары ажыла. Некаторыя заходзілі толькі для таго, каб паціснуць руку, мнагазначна падміргнуць і моўчкі, але з паднятай галавой выйсці.

— Хопіць з ім насіцца, бо абшчыннікі ўжо бурчаць, — сказаў аднойчы дзед. — Я толькі што з абшчыны. Маздрак клікаў. Кажа: «Дайце мне тое пісьмо, Зара, а то вакол яго цэлая канспірацыя ўтварылася». Парвіце яго, дзе яно ёсць, пакуль не позна. Наляцяць, знойдуць, дык не паглядзяць, што афіцыяльна прыйшло.

Цветка не магла адважыцца парваць пісьмо. Яно ўваскрасіла яе мужа, вярнула ёй сэнс жыцця, ачысціла яе ад грэшных думак, дало ёй сілы выйсці горда на вуліцу, да людзей. Тады бай Захары рашыў зрабіць гэта сам. Ён выцягнуў пісьмо з сундука, дзе яно ляжала ў торбачцы з пражай, але Ільё выхапіў яго з рук.

— Дайце мне яго, калі вы баіцёся! Можаце гаварыць усім, што спалілі!

Пісьмо знікла, і ў хаце стала спакойна. Праз некалькі месяцаў пасля таго, як Ільё напісаў бацьку адказ, прыйшлі яшчэ два пісьмы. І прадстаўнікі ўлады ўжо не маглі прычапіцца, таму што пісьмы ішлі законна, з дзяржаўнай поштай, аж да Гаванкі. Пісьмы схавалі дома, і калі ў Цветкі было цяжка на душы, яна, застаўшыся адна ў пакоі, брала іх, перачытвала і падоўгу плакала.

Адзін час пісьмы перасталі ісці.

— Эх ты, на што спадзяешся, — уядалі яе нявесткі Маздрака. — Ён там ажаніўся на рускай і толькі насміхаецца з цябе... Калі знаходзіцца які ўдавец, дык ідзі...

Затым пайшла чутка, што ў Ільі ў Расіі і дзеці ёсць. Але Цветка на гэты раз не паддалася нагаворам. Яна перамагла спакусу і мела досыць сілы, каб выстаяць да канца. Яе муж быў звычайны чалавек, але сваім гераізмам здзівіў усіх, і ёй трэба цяпер даказаць, што яна варта гэтага чалавека. Пражыць сумленна да канца — гэта будзе яе гераізм, подзвіг жанчыны і маці. Сын разумеў яе пакутлівую трывогу і, каб



пакончыць з крыўднымі плёткамі, парашыў спытаць аб гэтым у бацькі адкрыта: «Тата, ты нічога не пішаш, як ты там жывеш, адзін ты ці, можа, ажаніўся і маеш другіх дзяцей! Калі праўда, напішы нам, каб мы ведалі і не рабілі табе непрыемнасцей...»

У адказ бацька запрашаў да сябе Ілью, абяцаў вывучыць яго ў Расіі за інжынера. Прачытаўшы гэта, Ільё падскочыў ад радасці і з таго дня не даваў дзеду ні адной хвіліны спакою. Куды толькі ні хадзіў бай Захары, нават да Сафіі дабраўся, знайшоў старых знаёмых па земляробчаму саюзу, прасіў іх памагчы атрымаць для Ільі дазвол на выезд у Савецкі Саюз, але ўсё было дарэмна. Грубая, бязлітасная рука наглуха закрыла вароты ў краіну свабоды і шчасця.

Доўга чакаў Ільё, што бацька адзавецца і навучыць, што яму рабіць. Але адказу не было. Пачалася вайна. Гітлераўская армія перахо дзіла з адной дзяржавы ў другую. Ільё не мог цярпець, бачачы, як чужыя салдаты сноўдаюць і гаспадараць у краі, дзе нават туркі ні разу не начавалі. І ў перадапошнім класе, зусім нечакана для ўсіх, гэты стрыманы, маўклівы і старанны вучань не стрымаў:

— Мы не гуны, а славяне!

Зычны голас яго, які дагэтуль клекатаў у грудзях, аглушыў настаўніка гісторыі. У кабінеце дырэктара Ільё зноў паўтарыў, што сорамна выракацца свайго роду толькі для таго, каб парваць сувязь з Расіяй. «Балгарын, ведай свой род і мову!» — спаслаўся ён наіўна на словы айца Паісія, які быў там жа. — Хіба не гэтаму вы нас вучылі?!»

Хто гэты Ільё? Хто яго бацька? Усхадзілася ўся гімназія. Над галавой хлопца зноў навісла небяспека: «Выкупленае дзіця паўстанца...»

Раніцай, сярод тыдня, Ільё вярнуўся дахаты.

— Што гэта ты не ў пару? — спытаў яго спалоханы дзед Захары. — Яшчэ ж не канікулы...

Дзед Захары вельмі добра знаў, калі іх адпускаюць на калядныя, велікодныя і летнія канікулы. Паміж канікуламі Ільё прыходзіў дадому толькі ў суботу і нядзелю, ды і то рэдка. Ніякага афіцыяльнага свята не было таксама. Быў звычайны будні дзень, серада, і дзед адразу адчуў нешта кепскае.

— Выключылі мяне! — горда адказаў Ільё, але ўбачыўшы, як дзед пабялеў і раптам асунуўся, дабавіў з намёкам на віну: — Не мог выцерпець, калі тыя нелюдзі пачалі гаварыць такое... Гэта не гімназія, а турма!

Дзед Захары перавёў дух і асунуўся на лаўку. Ілійча скінуў свой саматробны ранец і прысеў побач, звесіўшы доўгія свае рукі паміж вострых калень.

— Ох, сынок, сынок, што ж ты нарабіў! — заплакала маці, вярнуўшыся з работы.

Задзірыстага гімназіста збянтэжыла матчына трывога.

— Хоць бы ты памаўчаў, пакуль атэстат выдадуць, — прашаптаў у роспачы дзед.

Ільё падхапіўся і крыкнуў на ўвесь двор:

— Не магу больш маўчаць! Хочаце, каб смажаных на ражне паднеслі нас германцам!..

Дамашнія прыціхлі, абвараныя напамінкам пра 1923 год. І каб заспакоіць іх, Ільё дабавіў:

— Буду займацца самастойна і атэстат усё-такі атрымаю...

## 6

Так з незакончанай адукацыяй Ільё застаўся ў вёсцы. Калі ён заходзіў у абшчыну спытаць, ці няма якой работы, сельскія правіцелі яму кожны раз адмаўлялі і не толькі зачынялі за ім дзверы, але яшчэ праводзілі яго спалоханым і здзіўленым позіркам, як быццам гэта быў нейкі злачынец, які цудам жыве на свабодзе. Не было куды ісці, не было чаго рабіць. Чытаў, займаўся дома з надзеяй, што яго дапусцяць да экзамена. Але надзеі аказаліся дарэмнымі. І не было для Ільы нічога страшнейшага, чым жыць без работы. Усе позіркі скіроўваліся на яго. Што робіць гэта выкупленае дзіця? — пыталіся прадстаўнікі ўлады і пры спатканні пагардліва задзіралі галовы і пазбягалі яго, каб не прывітацца. Можа быць тут дзед Захары зрабіў нейкія захады, але акрыялыя пасля разгрому паўстання вяскоўцы, у грудзях якіх пачынаў разгарацца новы агонь, парашылі назначыць Ілью касірам кааперацыі. Заснаваная яшчэ настаўнікам Дамянам, кааперацыя аб'ядноўвала цяпер усю беднату супраць мясцовых ліхвяроў. Дзед Захары быў членам яе праўлення. Людзі там ужо не дзяліліся на камуністаў і земляробцаў.

Ільё схадзіў на станцыю ў раённы саюз, вярнуўся і пачаў працу. Як быццам свежы вецер дыхнуў. Паніклыя ад гора людзі паднялі галовы, у вачах у іх загарэўся бляск. Мала-памалу кааперацыя пачала напамінаць спалены клуб. Кожны раз у нядзелю Ільё прымацоўваў на невялікім збудаванні — былым дзедавым дзюкяне * — сцяг, людзі збіраліся, гутарылі, вялі спрэчкі. Засумаваўшая па рабоце моладзь хутка

* Дзюкян (турэцк.) — невялікая сельская крама.





падхапіла гэты сцяг і ў святочныя дні з песнямі на вуснах выходзіла з ім за сяло. Там, дзе некалі быў Ільёў мост, адбываліся сустрэчы з кааператыўнымі групамі моладзі суседніх сёл. Разнеслася чутка, што мост будзе аднаўляцца. І сапраўды, аднойчы рана ў нядзелю, калі званы склікалі на малебен, з абодвух схілаў Янчынага сну спусціліся да балоціны стракатыя чароды і ўторкнулі на сонечным пагорку яркі сцяг.

— Якраз, як паўстанцы! — шапталі пажылыя кааператары, і вочы іх напаўняліся слязьмі.

Хто з рыдлёўкай, хто з кіркай, хто з сякерай — ішлі юнакі і дзяўчаты ўніз, да Ільёва маста. Зносілі каменне, цягнулі дошкі. Прадстаўнікі мясцовай улады адно глядзелі ды хмурыліся. У наступную нядзелю, калі яшчэ толькі пачалі рабіць каменны падмурак, з горада прыскакаў на кані паліцэйскі і, не знайшоўшы Маздрака ў абшчыне, накіраваўся да маста.

— Хто вам дазволіў? — раўнуў ён, саскочыўшы з каня.

— А навошта прасіць дазволу? Хіба мы робім што-небудзь забароненае? — вышаў яму насустрач Ільё. Моладзь падалася ўслед за ім. — Гэта мост сельскі, і мы будуем яго сваімі сіламі. Скажы яму, стараста!

Усе павярнуліся да Маздрака, не ведаючы, што гэта ён сам і паведаміў у паліцыю, а цяпер круціўся тут, моўчкі паглядаючы, што ж будзе.

— Ну, яно... вядома... — замармытаў стараста, акружаны з усіх бакоў моладдзю, але, зірнуўшы на паліцэйскага, натапырыўся і дабавіў: — Аднак жа, для чаго тады ўлада? Трэба было ў нас спытаць!

З натоўпу праціснуўся наперад дзед Захары. У яго ўжо не было таго запалохананага выгляду, як некалькі год назад. Маршчыны на яго старэчым твары разгладзіліся, вусы сталі тырчма.

— Пачакай, я яму скажу, — буркнуў ён, падміргнуўшы ўнуку, і адцясніў Ілью сабе за спіну. — Эй, Маздрак, колькі год мы ўсім сялом званілі пра гэты мост, колькі год вашы дэпутаты абяцалі, пакуль ішлі



выбары, і забывалі, як толькі выбары канчаліся! А цяпер — мы нічога ад дзяржавы не просім...

— Ну, няхай сабе, але ж гэта справа грамадская!

— А кааперацыя — не прыватная карчма або дзюкян! Мы сваю маёмасць, свае грошы залажылі ў гэту кааперацыю!..

Карчмар глянуў на паліцэйскага — ці не дапаможа той? — пасля набраўся храбрасці і — не стрываў:

— Так, так, але тут іншыя разлікі!

— Вы не прымайце нас за дурняў! Помнік забітым хочаце паставіць! — раўнуў паліцэйскі, а стараста правакацыйна падхапіў:

— Чаму ж вы не будуеце яго дзе-небудзь у другім месцы?

— Тут дарога... — збянтэжыўся бай Захары.

— Спрадвеку праходзіла тут, — прышлі яму на выручку другія кааператары. — Пакіньце моладзь у спакоі. Замест таго, каб пахваліць...

— Чаму ж вы не пабудуеце што-небудзь у гонар германцаў, га? Новыя землі нам далі! — ужо злосна закрычаў хрыплым голасам Маздрак. З прыходам акупантаў ён перахрысціў сваю карчму на «Вялікую Балгарыю»; акрамя таго, было вядома, што ён пісаў Гітлеру пісьмо і меншы сын яго, які ледзь скончыў на тройкі гімназію, паехаў у Берлін вучыцца — бясплатна, на германскі кошт.

— Кідайце работу і прэч адсюль, бо іначай... Забыліся ўжо пра Нямко! — працадзіў пагрозліва паліцэйскі, выцягваючы з кабуры пісталет.

— Як вам не сорамна! — выскачыла з натоўпу невысокая дзяўчына з падрэзанымі валасамі, у вышытай кофтачцы. Яна падалася тварам уперад, як быццам хацела плюнуць на паліцэйскага. Закручаныя кольцамі пасмы валасоў рассыпаліся па шчоках. Моладзь радасна заварушылася. Старыя застылі ад нечаканасці. Гэта была пляменніца Панды Жулата, застрэленага старасты. Ільё глядзеў, і яму здавалася, што дзяўчына не вытрымае, завернецца зараз і пабяжыць.

— Невенка! Гэта ты? — павярнуўся да яе Маздрак. У голасе яго было чуваць здзіўленне і бацькоўская заклапочанасць. — Як ты смееш тут... з гэтымі... — і, знізіўшы голас, засіпеў над ёю: — Твой дзядзька... такі чалавек быў...

Дзяўчына пабляднела, як быццам ёй далі атруты.

— Калі б ён устаў з магілы і ўбачыў, што ты ходзіш з гэтымі, ты, яго пляменніца... — выгаварыў Маздрак, не ведаючы таго, што падлівае масла ў агонь яе душы.

— Што вы мне тыцкаеце дзядзькам!.. Не хачу знаць пра вашы колішнія справы! Не адрывайце нас ад работы! Чаго вы да нас чэпіцеся!

Дзяўчына сыпала без перадыху.

— Ты бач... і яна набралася розуму... Марш дамоў!

— Го-о! — адгукнулася яму Невенка, хапаючы рыдлёўку. — Хто ты мне такі? Ніхто не можа мне загадаць... — яна павярнулася спіной і пайшла да маста.

Маздрак застаўся пасаромлены.

— Гэй, слухай! Ты сабраў моладзь сюды, ты і разгані цяпер! — паліцэйскі вылупіў вочы на Ілью, але той адно ўсміхнуўся і, адыходзячы прэч, кінуў праз плячо:

— Разганіце вы, калі можаце!

Моладзь дружна зарагатала. Як быццам паўстанцы падымалі стрэльбы, а не мірныя маладыя людзі — кіркі і рыдлёўкі. Паліцэйскі з хвіліну



падумаў. Ён ведаў гісторыю гэтага маста — столькі тады людзей загінула тут! Яму не справіцца з гэтакім натоўпам. Ён адняў руку ад пісталета, загадаў Маздраку падвесці каня і знік, прамармытаўшы нейкую пагрозу.

Каля маста работа пайшла весялей — з гоманам, з радаснымі воклічамі і песнямі. Янчын сон ажыў. У мітусні кірак і рыдлёвак, паміж аголеных, запацелых і жылістых маладых плячэй была відаць і адна дзяўчына, якая прыцягвала позіркі ўсіх. Ільё таксама раз за разам паварочваў галаву ў яе бок. І калі абыходзіў усіх, каб праверыць, як ідзе работа, каля дзяўчыны абавязкова запыняўся. Стаяць каля яе проста так было няёмка, таму ён забіраў у яе кірку і пачынаў варочаць каменне. Праз некалькі хвілін яго апаноўваў сорам, як быццам у гэтым было нешта непрыстойнае, і ён адыходзіў. Але неўзабаве нейкая невядомая сіла цягнула яго туды зноў. Позіркі хлопцаў, якія спачатку так моцна бянтэжылі, цяпер амаль не кранalі яго. Нарэшце Ільё зусім перастаў адчуваць іх. І вечарам, калі вярталіся ўсім натоўпам дадому, ён увесь час пільнаваўся, каб быць побач з ёю. Яна здагадвалася, што ён хоча штосьці сказаць ёй, і пачала патроху адставаць ад натоўпу.

Так, не дамаўляючыся, яны засталіся толькі ўдваіх на ўскраіне вёскі. Першы раз Ільё ўпіўся позіркам у гэтую русую галоўку даўно, калі яшчэ не ведаў тайны пра самога сябе і Нямко. Гэта было ў тыя дні, калі ён пасвіў тут дзедавых авечак — ад усходу сонца да самага змяркання. У тыя дні, калі яго душа цэлымі днямі была напоўнена саладка-пакутлівай самотай, ён бачыў гэтую дзяўчынку — раніцай, калі яна ішла з дамашнімі ў поле, і — вечарам, калі яе белая хусцінка віднелася далёка ўперадзе па дарозе дадому. Гэтая белая хусцінка, гэты прыгожы тварык, які яму хацелася бачыць усё часцей, сніліся яму начамі. І ён знарок затрымліваўся з авечкамі каля дарогі, каб пабачыць дзяўчынку і раніцай, і вечарам, калі яна вярталася дадому. Пры яе паяўленні хлопчыку рабілася радасна, лёгка, прыемна. Моцна білася сэрца, і па целе разлівалася салодкая пяшчота. Што гэта было такое, ён не пытаў сябе, а толькі стараўся часцей і зблізку ўбачыць дзяўчынку. А дзяўчынка падрастала і рабілася ўсё больш прывабнай. Ільё нікому нічога не гаварыў, нават сабе не адважваўся ні ў чым прызнацца. І ўсё-такі радаснае пачуццё, якое моцна ўгнязділася ў яго душы, было заўважана. Як гэта здарылася, Ільё не ведаў. Можа ў дзяўчынак больш відушчыя вочы, чым у хлопчыкаў, і яны бачаць самае няўлоўнае трапятанне душы; можа ў іх такі тонкі слых, што яны чуюць нават тое, што сказана пра сябе, нявыказанае вуснамі; можа ў іх сэрцы такія, што і на далёкай адлегласці ўлаўліваюць самыя патаемныя думкі хлопчыкаў... Як бы там ні было, але Невенка пры сустрэчы кідала на яго пранікліві позірк і хуценька, падбегам адыходзіла. Ільё чырванеў і бянтэжыўся. Адзін раз ён чакаў яе знарок, каб запыніць і спытаць, чаго яна так пазлядае. Але як толькі Невенка наблізілася, голас у яго адняло, ён не змог раскрыць рота, не мог скрануцца з месца. І зноў яму прышлося адвярнуць галаву ўбок, каб не спаткацца з таямнічым позіркам дзяўчынкі.

«Які ж я баязлівец... — дакараў ён сябе пасля. — Бацька з сякерай ваяваў, герой, а я... перад дзяўчынкай язык праглынуў».

Нарэшце ён сабраўся з духам і парашыў — што б ні стала — пагаварыць з Невенкай. Аб чым ён будзе гаварыць, Ільё не ведаў, але цвёрда наважыў спаткацца і загаварыць з ёю. Інакш яму не мець спакою!

«Тата дык нават украў маму... дзед са стрэльбай прыходзіў, і то ён не

аддаў яе! А я...» — упікаў ён сябе бесперапынна. Аднак, якраз у той дзень, у які ён збіраўся пераняць Невенку, калі яна будзе ісці з каромыслам па ваду, — а яна заўсёды праходзіла каля іх хаты, — Ільё пачуў жахлівую вестку: дзядзька Невенкі Панда Жулата — адзін з тых, хто кінуў у агонь Нямко. Усё рухнула ў душы хлапчука, пагасла, усё роўна як на гарачае вуголле халоднай вады лінулі.

Ён не зачапіў дзяўчынку, не правёў, як раней, замілаваным позіркам, не загаварыў, а толькі пагардліва нахмурыў бровы. Быццам каменем пусціў услед ёй — Невенка нават ваду расплёхала, але не азірнулася. «Ён спаліў бы мяне, калі б не было Нямко! — скрыгатаў зубамі Ільё і ўсю сваю злосць пераносіў на дзяўчынку. — Я ёй яшчэ пакажу, пачакай жа!..»

І замест пяшчоты цяпер прышла нянавісць. Такое ўжо хлапчукова сэрца. Любоў нарастала, разлівалася патроху, пастулова рабіла яго мяккім, добрым, нерашучым, а нянавісць — напоўніла яго адразу, пранікла ва ўсе жылачкі і зрабіла цвёрдым, як камень. На другі дзень, насуплены, злосны, ён вышаў з варот і запыніў Невенку, калі яна спускалася сцежачкай уніз да калодзежа. Дзяўчынка, якая нецярпліва прагнула гэтай сустрэчы, усміхнулася разгублена і аблізнула губы ў чаканні, што Ільё паглядзіць на яе ласкава і скажа нешта такое, што яна ўжо даўно ўлавіла сэрцам у яго пяшчотных позірках. Але здарылася іншае.

— Слухай,—буркнуў Ільё, набычыўшы галаву.—Не хадзі больш тут!

— Ха! — засмяялася здзіўленая дзяўчынка.

— І няма чаго смяяцца...

— Можа, скажаш, гэта ваш калодзеж?

— Калодзеж зрабіў мой тата, і для такіх, як ты, вады ў ім няма.

Усмешка, якая толькі што трапятала на вуснах Невенкі, знікла. Шчокі раптам пабляднелі, — потым, нібы сонечны прамень праз хмару, на іх праступіў румянец. Сінія вочы раскрыліся шырока-шырока — ад здзіўлення і нечаканай абразы.

— Ты ведаеш, што зрабіў твой дзядзька... ён хацеў мяне жывым спаліць!

Невенка заплакала і пабегла назад. Пустыя вёдры матляліся на каромысле, бразджэлі і білі ёй па нагах.

Так абарвалася іх нечаканая дружба. Ільё падрастаў і ўсё мацней дакараў сябе за тое, што некалі кідаў ласкавыя позіркі на дзяўчынку з роду забойцы-ката. Яна абудзіла ў яго душы першае трапятанне, незвычайна прыгожае пачуццё, прымусіла яго глядзець на яе поўнымі замілавання вачыма. Як можна было так памыліцца?.. Чым далей адыходзіла гэтае здарэнне, тым глыбейшым рабілася бяздонне, што пралягло паміж імі. Ільё стаў гімназістам, дамоў прыязджаў толькі на канікулы, і праз пэўны час у яго душы пачала глухнуць і нянавісць да Невенкі, і самаабвінавачванні, якімі ён сябе распякаў. Невенка таксама падалася ў горад, яна паступіла на вучобу ў гаспадарчую школу. Іншы раз яны сустракаліся на вуліцы і, не сказаўшы ні слова, нават не глянуўшы адзін на другога, разміналіся. А калі ж ненарокам і сутыкнуцца позіркамі, то гэта былі позіркі ворагаў. Так, ва ўсякім разе, здавалася яму. Але калі, выключаны з гімназіі, Ільё пачаў працаваць у сяле, ён зразумеў, што Невенка на яго зусім не злуецца. У той дзень, калі вясковая моладзь сабралася ў школу на сход, каб утварыць кааператыўную групу, Ільё ўбачыў, што ў гурце дзяўчат стаіць і яна, Невенка. Спачатку ён хацеў спытаць перад усімі: «А табе што тут трэба?», але стрымаўся, чакаючы, што



гэта скажуць ёй другія. Пачаўся запіс. Першымі пайшлі прозвішчы сваіх, самых ініцыятыўных, а калі спіс пераваліў за палавіну, да стала падышла Невенка.

— Запішыце і мяне!

Яна глядзела Ілью ў твар і не бянтэжылася. Яму падабалася гэта смеласць. Але на ўспамін прышоў Нямко і прымусіў яго схамянуцца. Ён убачыў сябе распавітым дзіцём на руках маці і другую страшную руку, што цягнулася да яго, і другі твар, падобны на Невенчын.

— Не! — адказаў ён.

— Чаму ж гэта? — глядзелі на яго, не мігаючы, бліскучыя ад крыўды вочы дзяўчыны. — Вы сказалі, што можна ўсім!

— Ты ведаеш, чаму. Усё сяло ведае... — адвёў вочы ўбок, не вытрымаўшы яе позірку, Ільё.

— Але хіба я вінавата, што мой дзядзька...

— Эй, не чапай ты яе дзядзькі! — азваліся дзяўчаты. — Ён чаго шукаў, тое знайшоў. А Невенку мы ведаем! Запішыце яе!

Невенка не была ганарлівай і сквапнай, як Жулатавы. У яе характары было больш ад матчынага роду — ад Грывякаў. Як і ў маці, у яе была ціхая натура, дабрадушны твар, акаймаваны светлымі валасамі, і мяккае, чулае сэрца. Ільё параіўся з таварышамі і, не глянуўшы на дзяўчыну, каб паказаць, што асабіста ён не згодзен, прамовіў неяк сабе пад нос:

— Ну што ж, калі знайшліся паручыцелі...

Усміхаючыся, Невенка вярнулася да дзяўчат і з удзячнасцю паціснула ім рукі.

А сягоння каля маста яна дала моцны адпор былому дружбаку яе дзядзькі. Гэта вельмі ўразіла Ілью. Увесь дзень ён вяртаўся да адной і той жа думкі: «Ці не гаворыць гэта ў нашу карысць? Нават атожылкі варожага нам дрэва аддаляюцца ад ствала і імкнуцца да нас. Відаць, нам трэба ўцягваць у свае рады не толькі тых, хто душой і сэрцам з намі, але і тых, хто пакуль што не падаўся ні туды, ні сюды, ні ўправа, ні ўлева. Нават калі мы каго-небудзь перацягнем ад іх да сябе, вырвем з іх стану, гэта таксама будзе добра...» Ён пакапаўся ў памяці, ці не былі такія выпадкі ў жыцці, і знайшоў, што былі. Калі дэмакраты, радыкалы, разбітыя на крылы і раздробленыя земляробцы рассыпаліся пад ботам гвалтаўнікоў, які наступіў на іх, многія з іх павярнулі тады позіркі да самай моцнай партыі, той, якую ніхто не можа стаптаць. Нават учарашнія цанкавісты *, якім за нядоўгі час службы ў паліцыі паспелі павыбіваць кутнія зубы, цяпер бадзяліся ў пошуках кавалка хлеба. Гэтае распластаванне ў народзе і згуртаванне розных праслоек у адну вялікую сілу супраціўлення заспакоіла Ілью: значыць, ён зрабіў правільна, допусціўшы сваячку Жулаты ў маладзёжную кааператыўную групу. Панда Жулата прыбраў у свае рукі частку надзелу Невенчынага бацькі, спіхнуўшы яго на адну ступеньку ніжэй, да сераднякоў. І гэта не магло не адбіцца на становішчы братоў. Панда пабудаваў новы вялізны дом, адзін паверх якога здаў пад кватэры настаўнікам, а ў другім — у ніжнім — размясціў свой дзюкян і жыў сам. Невенчыны ж засталіся ў старой хаце з плітачным дахам. Статак Панды сунуўся раніцай, як агромністы апоўзень па схіле, і ён вазіў воўну прадаваць ажно ў раўнінныя сёлы. А ў Невенчы-

* Цанкавісты — прыхільнікі фашысцкай дыктатуры Цанкава.

ных было авечак якраз столькі, каб хапіла самім на пражыццё. У Панды была вялікая механічная піла, а бацька Невенкі абыходзіўся разбуранай караджэйкай. Колькі ні стараўся ён, каб выбіцца ў багатыя, але ўсё дарэмна. Старэйшы брат трымаў яго пад рукой і не даваў падняцца на вышэйшую ступеньку.

Вось чаму, калі Невенка выступіла супраць пераемніка свайго дзядзькі, у сэрцы Ільі нешта азвалася ад той пяшчоты, якая напаўняла яго калісьці ў гады першага дзіцячага кахання. Да яго вярнулася ранейшае ўтрапенне, тая ж сарамлівасць і разгубленасць, тая ж нерашучасць. Ён стаяў з Невенкай на ўскраіне вёскі і не ведаў, што сказаць. Дзяўчына загаварыла першая.

— Ты асцерагайся, бо яны здольныя на ўсё! — сказала яна, і Ільё ціхенька засмяяўся.

Ён не любіў, калі яго пачыналі шкадаваць. Дзяўчына зразумела смех Ільі, але гэта яе не пакрыўдзіла.

— Ты не знаеш, што я пачула пра настаўніка Дамяна? Я думаю сказаць дзеду Пырвану і бабе Ане. Яны нічога не ведаюць, бедныя!..

Ільё ўздрыгнуў і нахіліў галаву.

— Калі я была ў Маздракаў, дык чула, як старэйшы іх, напіўшыся, расказваў, што настаўнік Дамян не быў забіты ў Іспаніі.

Ільё падаўся к Невенцы і схапіў яе за плечы. Вочы яго запалалі агнём. Камандзір септэмврыйцаў *, камандзір інтэрнацыянальнай брыгады ў Мадрыдзе — жывы!

— Ну, цяпер яны ў яго затрапечуць!.. — прашаптаў радасна Ільё, не бачачы, як твар дзяўчыны спахмурнеў.

— Ён спусціўся тут з парашутам, але яго злавілі.... — цяжка прагучаў голас Невенкі, — і расстралялі разам з іншымі...

— Не можа быць! — крыкнуў Ільё на дзяўчыну. — Яго не маглі злавіць! Гэта выдумалі... Ты нічога не чула!

Невенка збянтэжылася. Завошта Ільё на яе так крычыць, як быццам яна была ў нечым вінавата? З таго часу, як бацька перастаў ім пісаць, Ільё думаў, што ён недзе загінуў на вайне. Нічым іншым яго маўчання вытлумачыць нельга было. Здарылася штосьці непапраўнае. І цяпер крык Ільі быў водгаласам таго затоенага болю.

Дзяўчына схамянулася і ўпарта паўтарыла.

— Чула, Ільё... І пра цябе там успаміналі, дык мне страшна...

Па моцнаму хваляванню, якое, нібы водсвет полымя, успыхвала на твары Невенкі, па яе прыглушаным трывогай голасе Ільё зразумеў, што яна гаворыць гэта не для таго, каб яму спадабацца, а таму, што сапраўды шмат перадумала, перажыла, пагаравала і паплакала за грахі свайго дзядзькі. Як некалі ён — выкупленае дзіця — пазбягаў усіх і з вялікай пакутай нёс на сабе цяжар засмучэння, так і яна — дзіця з роду саўдзельніка жахлівага забойства — пазбягала сябровак і заплаціла за страшную спадчыну залатымі днямі свайго маленства і юнацтва. Аднойчы — Ільё толькі цяпер успомніў пра гэта — яны сустрэліся каля таго самага вогнішча, дзе згарэў Нямко, і Ільё бачыў, як яна бездапаможна плакала, калі дзеці напаміналі ёй пра ўчынак дзядзькі.

— Цяпер ужо так не будзе, як некалі, Ненка! Цяпер мы не адны! —

* Септэмврыйцы — удзельнікі вераснёўскага паўстання 1923 года (ад септэмвры — верасень).



сказаў ён, узрадаваны, што пачуў з яе вуснаў якраз тыя словы, якіх чакаў.

Калі б яна пачала да яго паддобрывацца, гэта магло б і Ілью насцярожыць і адштурхнуць. Але яна, сама таго не падазраючы, знайшла самы верны сродак змыць са свайго белага твару чорную дзядзькаву ганьбу.

— Мы не павінны пакінуць маста... ні за што на свеце! — бадзёра зазвінеў яе голас, нібы той званок, што яго бацька прымайстраваў да брамкі, і гэты голас развеяў Ільёву трывогу дарэшты.

Невенка глядзела яму ў вочы і, клапоцячыся ад надзвычайнага напружання, чакала, што ён скажа. Ёй здавалася, што ў гэту хвіліну вырашаецца яе лёс. Ільё горача пацісну ў дзяўчыне руку, і яна, уздыхнуўшы, сарамліва апусціла вочы, прыхілілася шчакой да яго пакатых грудзей — і адчула як гулка б'ецца ў іх маладое сэрца.



7

Моладзь так лёгка не магла здацца. Нягледзячы на тое, што спецыяльным пісьмовым распараджэннем было забаронена будаваць Ільёў мост і што дзяржава намеціла будаўніцтва новага каменнага маста ў другім, больш зручным месцы, яна выйшла на працу і ў наступную нядзелю. А яшчэ праз тыдзень з самай раніцы Маздрак паставіў каля маста варту, і моладзь вярнулася назад. Неўзабаве вяскоўцы заўважылі, што

будаўніцтва ўсё-такі прадаўжаецца. Кожны член маладзёжнай групы, праязджаючы ў калёсах праз балаціну, скідаў неўпрыкметку з воза два-тры камяні. Мабыць, хлопцы не спалі начамі, бо мост патроху падымаўся ўгору. То з аднаго, то з другога боку Янчынага сну цягнулася падвода — каму трэба было гной везці на поле, каму ў млын — жыта эмалоць, — а будаўнічы матэрыял каля маста ўсё прыбываў і прыбываў. Мост вырастаў, узвышаўся бясформенным гмахам, як сімвал стыхійнага народнага гневу. Пасля нейчыя дбайныя рукі навыбівалі ўпотай вострых, зубатых блокаў, умацавалі іх, а невялікія адтуліны і дзіркі засыпалі дробленым каменем. Па мосце пачалі ездзіць, і калёсы самі ўтрамбоўвалі насыпаны зверху жвір. Улада ўзвар'явалася. У Гаванку прыехала паліцыя.

— Як гэта ты нікога не мог схапіць за карак і адправіць у кутузку!— накінулася начальства на Маздрака. — Які ж ты стараста?!

— Мы пільнавалі... Пасты стаялі, але ніхто не папаўся...—апраўдваўся Маздрак, пасінелы ад крыўды і гневу.

— Прывядзіце да мяне таго, выкупленага! — распарадзіўся старшы.

Гэта быў адзін з тых жандараў, якія па загаду Чаркезава палілі сёлы, расстрэльвалі людзей і кінулі ў агонь Нямко.

Паліцэйскія адправіліся па Ілью і праз некалькі хвілін вярнуліся ні з чым — устрывожаныя і разгубленыя.

— Ён уцёк!.. Дачуўся і схаваўся ў гарах!

— А-ах! Трэба было яшчэ тады спаліць жывога! — выдыхнуў Маздрак. — Але я быў літасцівы...

І каб заспакоіць сябе і паліцэйскіх, наліў кожнаму па кубку віна.

— Ведаеце, як мы яго зловім? — зашаптаў ён, прысеўшы паміж іх за стол.

Асушыўшы кубкі, паліцэйскія абцёрлі губы і нахіліліся да Маздрака.

— Праз Невенку... Яна мае да яго доступ. Наша дзіця, нашай крыві... Яна яго прымусіць высці са сховішча... На такую прынаду ён пойдзе!

— Пазавіце яе! — загадаў старшы. Ён кінуў на стол шапку і выцер далонню запацелы, бліскучы круг на цемі. Пасля расшпіліў каўнер. Так ён думаў надаць сабе больш чалавечы выгляд. Стараста паслаў па Невенку вартаўнікоў — не трэба палохаць дзяўчыну паліцыяй. Але вартаўнікі вярнуліся адны і вінавата, нясмела прамармыталі:

— Няма яе...

— Дзе ж яна? — крыкнуў старшы. — Ці не любошчы водзіць сярод белага дня!

— Не, яна была дома... Маці кажа: пачакайце, я скажу ёй апрануцца, калі трэба ісці ў абшчыну. А потым вышла: няма яе — крычыць...

— Яна пабегла да яго! Ы-ых! — жандар насунуў на лоб шапку і зашпіліў каўнер.

— Быць не можа, каб мы яго не злапалі!..

Старшы падхапіўся. Вочы яго, як некалі ў Чаркезава, наліліся крывёй. Гэтак жа, упадабляючыся свайму былому камандзіру, ён ссунуў набакір казырок. Кіўнуў паліцаям, і ў іх суправаджэнні вышаў з абшчыны. Мінулі сяло і накіраваліся ў Гайдуцкі стан. Упершыню за многія гады зацішша Балканы азваліся глухім рэхам новай страляніны.

І пачалася яшчэ страшнейшая бітва. Зноў запалалі сёлы, але цяпер ужо гарэлі не толькі хаты паўстанцаў, але і абшчыны разам з падатковымі кнігамі, паліцэйскія ўчасткі, склады са зброяй і боепрыпасамі. І цяпер на плошчах і вуліцах расстрэльвалі людзей, але ўслед за гэтым



партызанскія кулі знаходзілі і адпраўлялі ў магілу забойцаў. Здраднікі народа страцілі сваю ранейшую свабоду шнырыць усюды беспакарана і баяліся выходзіць з сяла. Але бязлітасная рука народнай помсты выпорвала іх з уласных гнёзд і выводзіла на залітыя крывёю септэмбрыйцаў дзядзінцы. Маздрак чуў пра гэтую расплату і калаціўся ад страху. Кожную ноч ён запіраўся ў падвале і загадваў свайму батраку Міцату спаць побач з ім... У карчме ён паказваўся ўсё радзей і радзей. Даверыў яе старэйшаму сыну. У абшчыне бываў толькі са зброяй. Знарок не гаварыў нікому, куды ён ідзе, каб яго не маглі знайсці. Па начах амаль не мог заснуць: яму сніліся партызаны.

— Ідуць! — падхопліваўся ён ад жаху і будзіў парабка, які хроп здаровым, спакойным сном.

— Куды ідуць, чарбаджыя?— парабак падымаўся, выходзіў на двор, слухаў шум ракі, глядзеў на залітыя месячным святлом Тадорыны лялькі, на заспаныя букі і вяртаўся назад. — І ў хлеве глядзеў — нідзе нікога няма.

Пазяхнуўшы, ён зноў нацягваў на сябе коўдру і хроп. А стараста ўжо да самай раніцы не мог супакоіцца.

Аднойчы досвіткам ён прачытаў на каменнай пліце маста напісаны дзёгцем прыгавор: «Смерць забойцам!»

— Гэта пра мяне! — аслупянеў Маздрак. — Хто пасмеў?

Ён наважыў, у што б ні стала, даведацца, чыя гэта работа, і хоць шалеў ад злосці, але нікога западозрыць не мог. Праз некалькі дзён на тым жа месцы, дзе парабак выскраб першы прыгавор, паявіўся другі: «Смерць забойцам 120-ці!». «Чаму 120-ці?» — перш за ўсё падумаў Маздрак. — «Расстралялі ж на дзядзінцы дзевяноста!» А-а-а, — дагадаўся ён, — яны лічаць, напэўна, і загінуўшых ля маста...» Адзін за другім пачалі паўставаць у яго памяці забітыя паўстанцы. «Сто дваццаць... сто дваццаць...» — паўтараў Маздрак і ўспамінаў аднаго за другім паімённа. Іншы раз, ахоплены пакутлівай бяссонніцай, ён лавіў сябе на тым, што прадаўжае лічыць: «Васемнаццаць, дзевятнаццаць...» І як ні мучыўся, не мог спыніць гэтага пераліку, не мог ад яго адчапіцца. Збіўшыся на якой-небудзь лічбе, пачынаў спачатку і ніяк не мог дайсці да канца. Калі б гэта было пяць ці дзесяць, можа б пералічыў і тады спакойна заснуў. Але ж іх было сто дваццаць!.. Гэтыя ночы даваліся яму ў знакі. Аднойчы ён запытаў сябе: «А ці ўваходзіць у гэтыя сто дваццаць Нямко? Ці, можа, Нямко сто дваццаць першы?!» Гэтая думка ўсю ноч і назаўтра ўвесь дзень не давала яму спакою. Яму хацелася пераняць каго-небудзь і папрасіць: «Падлічы мне, ці ўваходзіць Нямко ў сто дваццаць?» Сам сабе ён мармытаў: «Той быў не наш, той быў нічый! Проста жывёлінка, нікому не патрэбная... Як было з ім, так і без яго...» Але ў наступны момант думка пачынала працаваць у іншым кірунку: усё ж такі чалавек, жывая душа! Бачыў, хадзіў, прачынаўся, плакаў, крычаў... Як ён крычаў!..

Страшныя надпісы па-ранейшаму паяўляліся на каменных плітах Ільёва маста. Маздрак абяцаў узнагароду таму, хто ўбачыць і зловіць злачынца. Ён паставіў на мосце варту, якая правярала ўсе падводы, нарэшце, зусім забараніў ездзіць і хадзіць праз мост і ўсё-такі злавесныя знакі ўзнікалі. Маздрака ахапілі сумненні. Можа, гэта робіць хто-небудзь з вартавых? Можа, хто са сваякоў, з яго ж роду? Цяпер верыць нельга. Колішнія сваяцкія сувязі парваліся, і хто ведае, ад каго можа прысці няшчасце — ад кума, ад швагра, ці ад свата! Як справіцца з гэтым без-

галоўем? Маздрак шукаў дапамогі ў паліцыі, у сваіх дарадчыкаў, у сваіх блізкіх людзей, у жонкі, у дзяцей, але ніхто яго не мог супакоіць. Страшнай была помста народа! Ён стараўся не хадзіць на Ільёў мост, хаця нейкая сіла цягнула яго туды. Кожную раніцу пытаў вартаўнікоў:

— Зноў ёсць што-небудзь?

І калі аднойчы яму сказалі: ёсць, ён пайшоў глядзець сам. На вялікім шэрым камені размашыста і паспешна была выведзена нечым вострым усяго адна літара «Н». Ніхто не мог здагадацца, што гэта азначала. Толькі Маздрак зразумеў усё: «Нямко». Так ён атрымаў адказ на пытанне, якое яго мучыла. Значыць, яны лічаць за свайго і Нямко!.. Неўзабаве паявілася і ўсё імя: «Нямко!» У Маздрака вырваўся з грудзей прыглушаны крык:

— Гэта мая смерць!..

Надпісы паявіліся і на вуліцы, яны паўзлі, як жывыя, па варотах, пакуль нарэшце не прыклеіліся загатоўленым некролагам на яго браме, на хлеве, на дзвярах падвала, у якім ён спаў. Ён не ведаў, дзе ад іх схавацца. На вуліцы яму здавалася, што ўсе на яго глядзяць і гавораць: «Нямко!». Застаўшыся адзін, ён часам плакаў ад страху пры думцы, што падыходзіць смерць. Ён ужо сам не помніў, што рабіў. То пісаў рапарты ў жандармерыю, у якіх прасіў прыслаць атрад, каб «схапіць усіх да аднаго і спаліць жывымі», то корчыўся ад жаху і прасіў парабка:

— Схадзі, Міца, схадзі знайдзі іх, ты ж батрак, не маеш ні кавалка зямлі, пралетарыі цябе не заб'юць! Скажы ім, я дам усё, што хочуць, хай толькі пакінуць мяне ў спакоі!

Міцата ішоў у горы, лажыўся ў цянёк пад букам і хроп да вечара, а на змярканні вяртаўся дамоў. Паціскаў плячыма і гаварыў:

— І ў Гайдуцкім стане быў, і аж на Тадорыны лялькі заскочыў, клікаў, свістаў... Няма нікога. Хто іх ведае, дзе яны!

Аднойчы раніцай перад самай абшчынай былі рассеяны лістоўкі — з адным толькі словам: «Нямко!» Крыміналісты агледзелі лісткі і заключылі:

— Жаночы почырк!

— Ах, дык гэта наша шчанё... не дзіва, што агрызалася са мной каля маста! — прастагнаў Маздрак. — Невенка хоча мяне загнаць у магілу!

— Мы яе схопім і пасадзім на кол, здрадніцу паскудную! Пацярпі крыху! — суцяшалі яго паліцаі.

Маздрак наліваў ім віна, а сам пазіраў на дзверы. Чаго добрага, не прыстукнулі б партызаны сярод белага дня. Ён чуў, што ў некаторых сёлах ужо так было са старастамі.

Пакуль паліцаі стаялі ў вёсцы, ён хадзіў спакойна, але як толькі яны парашылі пакінуць Гаванку, пачаў прасіцца, каб забралі і яго з сабой. Начальства, аднак, не дазволіла.

— Лепшай за цябе апоры няма тут! — сказалі яму.

І зноў кожны вечар ён клаўся ў ложак, трасучыся ад страху. Нарэшце, перайшоў начаваць у маленькую пакрыўленую хатку Міцаты, а парабка пакінуў у сваёй. Калі наляцяць партызаны, думаў ён, яны ў мітусні пальнуць у Міцату. А што, калі парабак выдасць яго? Партызаны ўварвуцца сюды і вывалакуць яго ў бялізне з ложка. Прышлося паклікаць Міцату, каб і ён спаў тут. І ўсё роўна спакою не было. Неяк раз ноччу яму раптам здалося, што знадворку скрабецца і стукае ў акно Нямко. Скруціўшыся ў абаранак, Маздрак нацягнуў коўдру на галаву. Але Нямко пралез праз разбітае шкло ў пакой, кінуўся да яго ў ложак,



ператварыўся ў чорта і пачаў пароць яго наскрозь сваімі рожкамі. Міцата падхапіўся ад страшэннага крыку і ўбачыў, што чарбаджыя сядзіць на ложку, увесь потны, скручаны і слова не можа вымавіць.

— Хай бы ты звярнуўся да святога айца, чарбаджыя, — спачувальна параіў Міцата. — Табе палягчэла б!

Маздрак паклікаў папа і паспавядаўся. Вялікі яго быў грэх! Калі б той хлопчык быў здаровы, бог лягчэй бы дараваў... Але ён быў калека, нямы, ужо аднойчы пакараны богам...

— Так ці інача, ты пакрыўдзіў бога, сын мой! — падціснуў губы поп.

І Маздрак, які хадзіў у царкву толькі на вялікія святы, для выгляду, цяпер пакорліва схіліў галаву перад пацямнелым крыжам. Нібы асвяжальны подых ад узмаху святой рукі прайшоў праз яго душу. Ён нават абяцаў зрабіць царкве падарункі.

— А калі нявестка народзіць хлопчыка, пастараюся, каб ён аддаўся богу і стаў паслушнікам у манастыры! — падняўся з палёгкай Маздрак; ён пацалаваў папу руку і напоўніў яго торбу падаяннем.

На купалле Міцата завалок у манастыр тоўстага сытага барана і даў там вялікі зарок. А на вялікую Багародзіцу маздракавы бабы апранулі ў шаўковыя кашулі каменную дзеву Марыю і Ісуса Хрыста. Але нехта заўважыў, што вышыўка на каўнярах і рукавах не тутэйшая, і пусціў чутку, што гэтыя кашулі прывёз сын Маздрака, які вярнуўся з Новых зямель. «Хто ведае, з чыйго бядняцкага куфэрка ён іх выцягнуў!» — панеслася з вуснаў у вусны і дайшло да вушэй маздракавых баб. Гэта зноў сапсавала Маздраку настрой. Здарылася так, што нявестка, можа быць ад перажыванняў, праз тры дні нарадзіла хлопчыка, — раней, чым чакалі. Малое было прыгожае, але бабкі-павітухі знайшлі ў яго на спінцы чырвоны пухірок, які варушыўся. Прывезлі ажно з горада доктара, той паглядзеў і сказаў, што дзіця памрэ, таму што ў яго па нешчаслівай выпадковасці няма шчаплення паміж двума пазванкамі і гэта бяда непапраўная. Жанчыны загаласілі, а Маздрак з мальбой у вачах запытаў — ці нельга ўсё-такі як-небудзь памагчы, можа быць, аперацыю... калі не тут, дык у Германіі... Чуллівы доктар, каб уцешыць яго, прамовіў упаўголаса, што можа быць малое і застанецца жыць, але будзе гарбатае ў паясніцы.

«І бог мне не дараваў!» — заплюшчыў вочы Маздрак і вышаў страшны з хаты. Яму ж прыдзецца ўсё жыццё пазіраць на гэтае дзіця, што будзе сядзець пакутліва паміж дзвюх падушак! Светла-сінія вочкі ўнука будуць заўсёды блішчэць ад слёз і пытаць яго: «Дзядуля, гэта я затое пакутую, што ты спаліў таго Нямко?» Усё жыццё хлопчык будзе сядзець нерухома і толькі махаць ручкамі людскім дзецям, каб прышлі да яго, але ніхто не пераступіць парог гэтай хаты, ніхто не пагуляе з ім. О, лепш няхай ён памрэ! Іначай Маздрак не вытрывае, калі кожную раніцу, кожны абед, кожны вечар гэтае дзіця будзе стаяць, як прывід, у яго вачах!..

Ні ноччу, ні днём не мог ён пазбыцца гэтага кашмару. Запіраўся ў хаце, у абшчыне, у карчме, хаваўся, як чарвяк, у зямлю. Але аднойчы раніцай, вышаўшы з хібаркі парабка, ён убачыў перад сабой зарослага барадой хлопца і дзяўчыну ў суконнай бурцы.

— А! — пазнаў ён Ілью, у якога на грудзях вытыркалася з-за пінжака ручка старадаўняга пісталета. І больш не сказаў ні слова. Ён рухнуў раней, чым Ільё ўзяўся за пісталет, і загарадзіў парог.

Парабак, які жартаваў на людзях, што памяняўся з чарбаджыем пасцелямі, зняў шапку і перахрысціўся:

— Выратаваў душу сваю! Усё пра вас ды Нямко трызніў начамі!..

* * *

Пад грукат савецкіх танкаў, якія фарсіравалі Дунай, ішла свабода. Усе гаванцы разам з партызанамі вышлі са сцягамі ў руках сустракаць вызваліцеляў. Цэлы дзень чакалі яны каля Ільёва маста, таму што тут была найлепшая дарога, якая вяла на захад, за граніцу. Пад вечар Янчын сон і ўсе Балканы затрэсліся ад скрыгату магутных жалезных істот. Яны паўзлі па схілах, лёгка перабіраліся цераз равы і ямы, і толькі перад распісанай каменнай грамадай маста спыніліся.

— Што тут у вас? — пыталі, саскокваючы з машын, запыленыя салдаты. Яны не маглі аддыхацца ад абдымкаў вяскоўцаў.

— Тут мост, — вышаў наперад Ільё, загарэлы, у зношанай форменнай вопратцы паліткамісара. Ён жмурыўся, нібы глядзеў на сонца. — Мост свабоды, можна сказаць...

Ільё страсянуў чупрынай, усмешка сышла з твару; выпростаўшыся, ён загаварыў сваім гучным голасам горца:

— Так, таварышы... у яго падмурак лягло сто дваццаць жыццяў... — душы тых, хто на дваццаць год хацеў апярэдзіць час. Мацнейшага падмурку няма! Праязджайце, калі ласка!

Людзі загаманілі, пачалі расказваць гісторыю Ільёва маста ад пачатку да апошняга дня.

— Рабілі яго ўпотай... Не мелі зброі, каб страляць, але мелі рукі! — сяляне працягвалі мазолістыя далоні, як зброю, пакрытую славай.

З канца калоны вышаў немалады афіцэр. Салдаты пачціва расступіліся, каб даць яму дарогу. Афіцэр узышоў на мост і распасцёр рукі.

— Таварышы гаванцы!

Ён стаяў у промнях сонца і, было відаць, моцна хваляваўся. Людзі глядзелі, здзіўляліся і маўчалі. Хто гэты рускі афіцэр, што так добра гаворыць па-балгарску? З-пад шапкі ў яго выбіваліся пасівелыя, але яшчэ кучаравыя валасы. Адна непаслухмяная пасмачка звісала на лоб. Прадаўгаватыя светла-зялёныя вочы іскрыліся знаёмым смехам. Але зарубцаваная на шчацэ рана рабіла твар непазнавальным. Маленькі блакітны матылёк пакружыўся каля твару, як быццам хацеў заглянуць у яго. Са старога, нахіленага над мастом бука зляцеў рана пажоўклы ліст, пакружыўся ў афіцэра над галавой, шаргатнуўся аб пасівелую шавялюру і завіс на ёй — як быццам Янчын сон прызнаў у гэтым чалавеку блізкага, свайго. З маста скаціўся каменьчык і булькнуў у ваду, ціхенька зазвінеўшы. Залаціста-зялёныя махры лішайніку звісалі з сукоў старога дрэва і пагушкваліся на ветрыку. А камяні ў ручаі, якія заўсёды здаваліся цвёрдымі, вострымі, халоднымі, цяпер нібы пакрыліся скурай з поўсцю — выглядалі мяккімі, цёплымі, хоць ты садзіся на іх... Сонца ўжо амаль закацілася за грэбень гары, але ўсё яшчэ кідала промні на мост, на твар гэтага мужчыны з пасярэбранымі пасмамі, з крута выпуклымі скуламі, з крыху прыгорбленым тонкім носам...

Ільё глядзеў на яго, і толькі падкурчаныя ў локцях рукі — па звычцы трымаць аўтамат — злёгку ўздрыгвалі.

— Няма больш Царавай, няхай жыве Гаванка! — крыкнуў афіцэр



і засмяяўся глыбокім, гартанным смехам — нібы ручай загрымеў у цясніне. Ён паварочваў галаву і шукаў вачыма кагосьці ў натоўпе.

— Як жывеш, Іване, робіш яшчэ прасніцы дзяўчатам? Няўжо не пазнаеш мяне, дзед Зара? — павярнуўся ён да бай Захары, які першы раз за апошнія два гады вышаў у футравай шапцы і са старастаўскай палкай. Стары падняў руку да скроні, як быццам казыраў у знак прывітання. Афіцэр зняў шапку, і толькі цяпер усе ўбачылі яго такім, якім ведалі калісьці. Вочы яго свяціліся мяккім колерам маладой зеляніны, па якой рассыпаліся карычневыя драбочкі.

Цветка заправіла пад чырвоную хусцінку свае пасівелыя валасы, правяла па твары рукой, нібы хацела разгладзіць маршчыны, і закрычала — прарэзліва, на ўвесь голас:

— Іі-льёоо!

Яна адхіснулася ад сынавага пляча, са страшным крыкам, як звар'яцелая, кінулася ўперад і ўпала ў распасцёртыя рукі мужа.

Што зрабіла разлука! Ільё і Цветка абняліся. Але вусны іх за гэтыя дваццаць год страцілі свой запал і не зліліся як некалі — а толькі дакрануліся адны другіх нягучна...

— О-о-о, жывы! Ільё, ты?! Падпалкоўнік?! — грымеў Янчын сон галасамі горцаў, якія цесным натоўпам абступілі Ілью. — Дажылі-такі да сустрэчы на гэтым мосце!

А сын, мужны сын, які не падаў духам у самых цяжкіх баях, адчуў раптам, што ногі дрыжаць і падкошваюцца, што ён увесь слабее і гатоў упасці. Ён моцна самкнуў павекі, як быццам хацеў вярнуць назад, глыбока ў сэрца, няпрошаныя слёзы, і чакаў, пакуль людзі нарадуюцца сустрэчы з яго бацькам-вызваліцелем. А калі ўжо далей не мог стрымаць радасць, ён так абхапіў бацьку ў гарачым абдымку, што, здавалася, перакіне яго на сваіх дужых руках цераз сябе. І тады ўсе ўбачылі, што малады Ільё перарос старога — ён быў вышэйшы за бацьку, і дужэйшы, і прыгажэйшы.

На гэтым непарушным яднанні бацькі і сына, на гранітнай цвёрдасці двух пакаленняў вырас новы мост-помнік. Па абодвух баках яго белага, як карабель, корпуса ўзвысіліся два вастраверхія абеліскі ў выглядзе ўторкнутых у зямлю мечаў, на якіх залатымі літарамі былі напісаны імёны ста дваццаці, а таксама настаўніка Дамяна і Нямко. Праз гэты мост і пайшоў у краіну светлай мары — у СССР — малады майстар Ільё, пайшоў, каб вучыцца будаваць масты, непарушныя масты да свабоды і шчасця. Каля Ільёва маста сходзяцца хлопцы і дзяўчаты, маладыя і старыя, праводзяць тут мітынгі, раскладваюць зыркія кастры, спяваюць новыя песні. А магутныя Балканы — ад Тадорыных лялек да Янчынага сну, ад Гайдуцкага стану да Стаянавай магілы — як і спрадвеку, ціха шэпчуць легенды.

**Пераклаў з балгарскай мовы**
**Н. ГІЛЕВІЧ.**



# СЛОВА ПРА СЯБРА



Сярод блізкіх і шчырых сяброў юнацтва ў кожнага ёсць такі чалавек, светлыя ўспаміны аб якім захаваліся ў сэрцы на ўсё жыццё.

Аляксей Коршак... І ў памяці паўстае першая сустрэча. Было гэта ў верасні 1935 года, на другі ці трэці дзень заняткаў у школе. З маім старэйшым братам Ісмаілам — вучнем 8 класа Капыльскай сярэдняй школы — прышоў высокі бялявы хлапец у просценькім картовым касцюме. Ён даведаўся, што ў нас ёсць шмат цікавых кніг. Памятаю, тады Коршак узяў пачытаць каля дзесятка кніг, і былі гэта пераважна зборнікі паэтычных твораў.

Пасля я даведаўся, што ён родам з вёскі Закопанка, закончыў Доктаравіцкую сямігодку і паступіў у 8 клас Капыльскай сярэдняй школы. Стала неўзабаве вядома і тое, што гэты сціплы і сарамлівы хлопец піша вершы.

Кватараваў Аляксей непадалёк ад нашай хаты, на суседняй вуліцы, часта заходзіў да нас. Распранецца, бывала, дастане з кішэняў свайго кажушка кнігі.

— Слухайце, хлопцы, што за вершы! — кажа ён і пачынае чытаць.

Або раптам пытае:

— Чытаў ты, Сцяпан, новае апавяданне Кузьмы Чорнага? Не? Прачытай! Удалы твор! «Мураваны скляпок» называецца...

Любіў Аляксей Коршак кнігу. У маёй памяці ён застаўся з кнігаю ў руках, з удумлівым позіркам з-пад крыху насупленых брывей.

У тыя гады ў Капыльскай школе было многа чытачоў, якія захапляліся прыгодніцкай літаратурай і вышэй за ўсё ставілі творы Майн-Рыда, Бусенара, Жакаліо. Коршак вельмі дасціпна высмейваў прыхільнікаў такой літаратуры і нават напісаў жартаўлівую паэмку, галоўны герой якой у Капылі перажыў трагікамічныя прыгоды ў стылі дэтэктыўных раманаў.

Над сваімі творамі А. Коршак працаваў многа, настойліва, але ў друк аддаваў мала. Часцей яго вершы з'яўляліся ў школьнай насценнай газеце, у «Калгасніку Капыльшчыны». Аднойчы Аляксей унёс прапанову выдаваць рукапісны літаратурны часопіс. Так з'явіліся тры нумары «Юнага племя»...

Пасля Капыльскай школы Коршак вучыўся на літфаку Мінскага пед-інстытута імя М. Горкага. Часта я атрымліваў ад яго лісты і вершаваныя пасланні, у якіх неяк вельмі арганічна спалучаліся глыбокі роздум і дасціпны сяброўскі жарт.

Неяк у канцы 1944 года я атрымаў салдацкі трохкутнік з характэрным почыркам дарагога сябра. Аляксей пытаўся, ці праўда, што памёр К. Чорны, прасіў прысладь беларускія газеты і часопісы. Потым я меў яшчэ некалькі лістоў. У апошнім ён паведамляў, што прышле новыя вершы, вось толькі не хапае часу перапісаць... Пра баі пісаў неяк скупа, як некалі пра экзамены ў інстытуце, якія адрываюць ад прызвычаенага ходу студэнцкага жыцця... Але абяцаных вершаў я не дачакаўся... У сэрца закрадалася трывога за лёс Аляксея, а потым дайшла да мяне трагічная вестка. Хтосьці з яго землякоў напісаў дамоў, што смелага разведчыка Аляксея Коршака падкасіў нямецкі аўтаматчык. Было гэта 27 лютага 1945 года ва Усходняй Прусіі, недалёка ад паселішча Леслейндорф.

Пры жыцці здольны малады паэт надрукаваў толькі некалькі вершаў і рэцэнзій у газеце «Літаратура і мастацтва». Пасля яго смерці паасобныя творы публікаваліся ў часопісах «Полымя» і «Беларусь», зборніку «Мы іх не забудзем».

Вершы А. Коршака вызначаюцца нейкім асабістым, шчырым лірызмам, настраёвасцю і сардэчнай цеплынёй. Гэта — творы пра вялікае сяброўства, студэнцкае жыццё, юнацкія пачуцці, красу маладосці.

Песню я спяваю
Аб жыцці, аб шчасці, аб вясне, —

пісаў А. Коршак у адным са сваіх вершаў.

Малады паэт, які бязмежна любіў сваю радзіму і жыццё быў поўны светлых мар аб чалавечым шчасці і творчай працы, добра разумеў, якія цяжкія выпрабаванні ў барацьбе з ворагам кладуцца на плечы таго маладога пакалення, да якога ён належаў. У вершы «Паранены», які цяпер гучыць як развітальная песня, ёсць такія радкі:

Я б закрыў навек спакойна вочы,
Каб мой любы край
Больш не ведаў злой пакутнай ночы,
Красаваў, як май.

Сёння, калі, як май, красуе савецкая зямля, хочацца добрым і шчырым словам успомніць імёны тых, хто аддаў сваё жыццё за шчасце Радзімы. Заслужыў права на гэта таленавіты беларускі паэт-лірык Аляксей Коршак.

**Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

**Аляксей КОРШАК**

## СТАНЕШ, СЛУХАЕШ...



Станеш, слухаеш у смутку светлым —
Вее даўнім ад лугоў, далін.
Быццам зерне ў полі, ледзь прыкметна
Прарастае ў памяці ўспамін.

А за ім наступны... І праз хвілю
Ўжо рунеюць успаміны скрозь,
Як калісьці з любай тут хадзілі,
У вянкі прыбраўшы маладосць.

Як пасля ў імгле, вясной сагрэтай,
Патанулі русых дзве касы
І не адшукаліся дагэтуль...
Хіляцца ўспамінаў каласы.

Іх не зжаць і не скасіць, не сцерці.
Калыхні іх — і павее золь —
Як раса асыплецца на сэрца
Радасць перажытая і боль.

## КЛЯНОВЫ ЛІСТ



Паслана золата кляновае ўдалі...
І вось апошні ліст плыве агнёвы,
І лёг ля ног маіх на стомленай зямлі
Асенні ліст, апошні ліст кляновы.

Кляновы ліст, апошні гэты ліст
Я на далоні ўзяў, сухі, паматы.
Няхай жа вар'яцее ветру свіст, —
Я прынясу яго сабе да хаты.

Я песню напішу пра гэты ліст.
Аб ім у сэрцы след нічым не сцерці.
Жыві ж, асенні ліст, кляновы ліст,
Жыві ж у песні, ў памяці, у сэрцы.

Вясна прамые неба сінявой,
І кожны расцвіце вакол закутак, —
Тады з галінкі памяці маёй
Ты ападзеш, як нейкі ціхі смутак.

І ў сэрцы ты завянеш назаўжды,
Адзенецца жыццё зялёным лістам,
І толькі ў песні гэтай будзеш ты
Звінець заўсёды звонам залацістым.

* * *



Сабраў я песень звонкае бярэма,
Гатоў далей ісці жыццём маім.
Ну, дружа мой, я ў сэрцы недарэмна
Назваў цябе таварышам сваім.

Далёкі шлях, далёкая дарога...
Хто вось такім стварыў цябе, жыццё?
З даўно, даўно апрыклага парога
Пайду, куды нас кліча пачуццё.

Мільгнуць лятункі, сонечныя мары...
Мо' будзе там і прыкрае смяццё.
Ах, не дарэмна, любы мой таварыш,
Даецца нам кароткае жыццё.

Такі ён горкі лёс наш чалавечы:
Тварыць, спяваць, каб заўтра расцвіло...
Ды сум далоў — істоту ён калечыць,
Дзе ранне косы ў сонцы распляло.

Ляпей удалеч крочыць і смяяцца.
Хай вокал песень плаваюць чаўны,
Таварыш мой, вялікае ёсць шчасце
Быць сябрам сонца, песні і вясны.

# *Дарогамі сямігодкі*

Сцяпан КУХАРАЎ

## НА ТАЛУЦКІХ ПАЛЕТКАХ

**Нарыс**

1

Свежы чалавек на новым месцы неяк усё адчувае вастрэй. Асабліва на першым часе, пры першым знаёмстве.

Эма прыехала ў Талуць чатыры гады таму назад, жніўнай парою, калі над талуцкімі прысадамі стаяў востры пах кропу і агурэчніку, змешаны з водарам аржаной саломы. Быў якраз поўдзень. Сонца шчодра ліло на разамлелую зямлю патокі святла і цеплыні, і нават пад цяністымі вербамі нельга было ўратавацца ад гарачыні. Эма па-вясковаму нізка насунула на вочы хусцінку і прыспешыла крок, каб хутчэй выбрацца за аселіцу, адкуль выразна даносілася тарахценне малатарні. Ёй — маладому аграному — там, на малацільным таку, трэба было пачаць першы дзень сваёй самастойнай працы. Старшыня паслаў Эму ў талуцкую брыгаду, каб яна паглядзела, як рыхтуецца гатунковае жыта на насенне.

У гуле малатарні Эма не чула, як цікаўныя дзяўчаты, зыркаючы ў бок прыезджай гарэзлівымі вачыма, перамаўляліся між сабой:

— Глядзі, нейкая начальніца, мабыць, заявілася!..

— Кажуць, аграномка!..

— А прыгожая...

— Дзіва што, яшчэ на полі не запылілася...

Эма ўяўляла сабе, што прыдзе на ток, адшукае брыгадзіра ці каго іншага з адказных за малацьбу, пазнаёміцца і пачне пытаць, што ёй трэба. А як прыйшла і глынула цёплага пылу ад збажыны — сэрца неяк скаланулася, затрымцела ў грудзях. Эма так і застыла ў нерашучасці пад смяшліва-цікаўнымі позіркамі дзяўчат, што шумнай грамадой падносілі на ток важкія снапы і цягалі ад малатарні мяккую, пахучую салому. Невядома, колькі часу прастаяла б так, каб да яе не падскочыла чарнявенькая дзяўчына. Акінула Эму жвавымі зеленаватымі вачанятамі і сказала:

— Хадземце з намі снапы падносіць...

У вачах дзяўчыны было столькі шчырасці і цеплыні, што Эма аж

разгубілася. Папpавіла паясок, якім была падпяразана новая штапельная суленка, азірнулася чамусьці па баках і нерашуча сказала:

— Я... зараз... Дзякую...

Потым, калі малады, перапэцканы ў мазут і пыл машыніст аб'явіў «перакур», дзяўчаты акружылі Эму і ўсё распытвалі ў яе, адкуль яна, ці далёка гэта ад іхняй Талуцві тыя Старыя Дарогі і чаму Эма — дачка настаўніцы — упадабала пасаду вельмі ўжо вясковую. У Эмы на душы было ўсцешна і лёгка, хоць у той дзень яна амаль што не выканала старшынёвага ўказання, нават не спытала ў прыёмшчыка, які намалот гатунковага жыта.

У першы ж вечар у хату, дзе засталася на кватэры Эма, назбіралася многа дзяўчат. Яны наперабой расказвалі свае навіны, скардзіліся на тое, што ў Талуцві вунь колькі моладзі, але няма людскага арганізатара, зайздросцілі Эме, што яна такая маладая і ўжо аграном. Эме спадабаліся гэтыя простыя, шчырыя і крышку наіўныя дзяўчаты, але яна не ведала, як паставіцца да іх. Яна ж — аграном, і ёй трэба трымацца так, каб яны яе слухалі.

На танцах Эма заўважыла, што талуцкія дзяўчаты апранаюцца хораша, амаль у кожнай — наручны гадзіннік. А самае важнае — усе яны нейкія асаблівыя ў сваёй шчырасці і даверлівасці.

Да Эмы падышла тая самая чарнявенькая дзяўчына і, весела ўскінуўшы свае тонкія бровы-падкоўкі, ціха спытала:

— Як вам, Эма Міхайлаўна, падабаюцца нашы танцы?..

— Ды так сабе, — няпэўна адказала Эма. — Мне ўсё роўна, я ж не танцую...

Эма, вядома, сказала няпраўду. Яна любіць пагуляць, паказаць сябе ў танцы. І спявае добра. У Мар'інай Горцы, у тэхнікуме, падзякі атрымлівала, як лепшая салістка. А цяпер, хто яго ведае, можа лепш паглядзець збоку...

Але тут Соня — так завуць гэтую тоненькую чарнявую дзяўчыну — аберуч ухапіла за рукі Эму і пацягнула яе на круг. Што ты зробіш! Не вырывацца ж.

І Эма паклала сваю прыгожую загарэлую руку на плячо Соні. Робіць адзін крок, другі. Праз колькі хвілін, забыўшыся, што яна сярод незнаёмых людзей, весела закружылася ў віхуры гарачай полькі, заўзята, як і ўсе дзяўчаты, прытупнула ў такт пераборам гармоніка.

У Эмы — адказная пасада. У свае восемнаццаць дзявочых год яна мусіла вучыць культурнаму земляробству людзей, якія ўсё жыццё апрацоўвалі зямлю. Талуцкі калгас — насенняводчая гаспадарка, і аграному тут непачаты край работы. Набліжалася азімая сяўба, трэба было даць кожнай брыгадзе заданне, пасеяць усё згодна севазвароту. Набіралася і шмат іншых бягучых спраў. Толькі ўсяго гэтага не хацелі прымаць пад увагу яе новыя таварышы. Неўзабаве калгасныя камсамольцы выбралі Эму сваім камсоргам. Яна адгаварвалася, спасылалася на вялікую занятасць, але моладзь і слухаць не захацела. Асабліва шчыра галасавалі за Эму дзяўчаты з Талуці, дзе яна жыла.

— Эма — разумніца, — гаварылі яны. — Пакажа нашым лайдакам, як трэба працаваць...

І праўда. Эма ўзялася за справу шчыра. Арганізавала хор, і сама ўзялася кіраваць ім, разам з вясковымі хлопцамі і дзяўчатамі хадзіла на нядзельнікі (праўленне тады ўзялося за будаўніцтва ў Талуці клуба), абышла ўсе фермы і ўгаварыла таго-сяго з камсамольцаў, каб падмянілі старых даярак.

Кукурузу ў Талуці ўжо сеялі не адзін год, але на кукурузным палетку вырастаў калючы дзядоўнік. Тагачасны старшыня сумна ківаў галавою і гаварыў бухгалтару: «Значыцца, так і запішы: скармілі на зялёную падкормку».

А калі прыйшоў новы старшыня, ён адразу ж узяўся за кукурузу. Васіль Васільевіч Скрыпцоў дагэтуль працаваў у саўгасе, дзе кукуруза была ў пашане, і свой вопыт вырашыў прымяніць на новым месцы.



— Эма Міхайлаўна, — сказаў старшыня пры першым жа знаёмстве з маладым аграномам, — вы пільна займаецеся гатунковым насеннем — гэта добра. Але памятайце, калі не возьмецеся як мае быць за кукурузу — нам з вамі будзе сорамна... Нас прагоняць калгаснікі!.. Зразумела?..

— Ясна, — коратка адказала Эма, і пякучая чырвань заліла яе прыгожы твар. У яе з'явілася жаданне не столькі апраўдацца самой, колькі заступіцца за сваіх таварышаў-камсамольцаў, якія (яна ў гэтым была ўпэўнена) могуць і здольны зрабіць многа для калгаса, у тым ліку і ўзняць аўтарытэт зялёнай каралевы палёў.

— Трэба ў кожнай брыгадзе падабраць надзейных людзей, — пачала выкладаць свой план Эма. — Можна звяно з моладзі стварыць. У мяне ёсць на прыкмеце добрая камсамолка. Яе можна парэкамендаваць на звеннявую, Дзяўчына з Талуці...

— Я таксама думаю, што шэфства над кукурузай возьмуць камсамольцы, — ухваліў прапанову агранома Васіль Васільевіч.

...Адразу ж Эма накіравалася ў Талуць. У першую чаргу зайшла да Соні Балаховіч, з якою пазнаёмілася з першых дзён жыцця ў Талуці. Соня нядаўна скончыла ў сваёй вёсцы сямігодку і з усёй шчырасцю ўзялася за працу ў калгасе. Вакол Соні заўсёды яе сяброўкі — Прося Гіль, Тоня Шурпік, Ліда Чарапенька... За Соняй пойдуць куды хочаш усе талуцкія дзяўчаты, абы яна клікнула.

— Вось добра, што ты дома! — сказала Эма, вітаючыся з Соняй, і адразу зазірнула праз плячо ў кнігу, якая ляжала перад Соняй на стале. — Што ты чытаеш?

— Аўдзеенка. «Я люблю». Цікавая кніжка, — Соня паглядзела на Эму і ветліва запрасіла сесці. — Калі не чыталі, дык раю... Добра напісана... Так і ў жыцці бывае...

Эма паглядзела на сцены, упрыгожаныя вышываннем, кінула позірк на чыста вымытую падлогу і



— Ну, як каровы ласуюцца свежай кукурузай? — пытаецца звеннявая Соня Балаховіч (справа) у даяркі Ліды Сялюн.

неяк нечакана для сябе адразу загаварыла пра тое, з чым прыйшла.

— Ведаеш, Соня, мы надумаліся стварыць камсамольскае звяно. Па кукурузе. Ты згодзішся за звеннявую?..

— А што ж, згаджуся, — ціха адказала Соня, нібы яна даўно была гатова да такога адказу, і чакала, што яшчэ скажа аграном.

— І дзяўчаты пойдуць? — зноў запыталася Эма, і яе вялікія шэрыя вочы засвяціліся радасцю.

— Пойдуць, — усё з той жа спакойнай упэўненасцю сказала Соня і тут жа дадала: — Нават і хлопцы пойдуць. Тут ёсць двое, мае суседзі. Сямікласнікі. Казалі, як толькі заняткі скончацца, будуць працаваць у полі.

— І хлопцы! — падхапілася Эма

і звонка засмяялася. — Ой, Сонечка, якая ж ты малайчына!

Эма падхапіла Соню і закружыла яе па хаце.

У тое прадвесне ў калгасе «Чырвоны сцяг» нарадзілася сем звенняў па кукурузе. Адным з іх кіравала камсамолка Соня Балаховіч.

## 2

Сёлета была надзвычай ранняя вясна. На першамайскае свята брыгадзіры ўжо віншавалі адзін другога з заканчэннем сяўбы.

— Пачатак добры, — гаварыў старшыня калгаса на нарадзе звеннявых-кукурузаводаў. — Пасеяны збожжавыя і лён. Цяпер чарга за кукурузай. Ці ўсё ў вас падрыхтавана, таварышы звеннявыя?

— Усё, — дружна адказалі з месц.

— Зямля яшчэ халаднаватая, — уставіла высокая кашчавая жанчына Сцепаніда Місуль — звеннявая з сівецкай брыгады. — Але мы гатовы... Хоць сёння!..

— А пра абавязацельствы не забыліся?

— Не. Чаго ж забывацца, 600 цэнтнераў!

— Чаму шэсцьсот? — узнялася з месца Соня Балаховіч. — Мы летась больш як па шэсцьсот атрымалі. Так што сёлета бярэмся даць па 800 цэнтнераў сцяблоў з пачаткамі на ўсіх чатырнаццаці гектарах. Інакш нельга. Мы ж сямігодку ўзяліся выканаць датэрмінова. А як жа мы яе выканаем, калі будзем змагацца за тое, што заваявана намі ж самімі!..

І села, расчырванелая і збянтэжаная. У галаве мільгнула думка: ці не нагаварыла чаго лішняга? Даверліва ўткнулася ў плячо Тоні Шурпік і доўга баялася ўзняць вочы. Нібы праз сон, чула, як вакол гулка пляскалі ў далоні, як хваліў яе старшыня.

...Калі ішлі дадому, Тоня Шурпік, пышнавалосая смуглянка, цішком шаптала амаль у самае вуха сяброўцы:

— Сонечка, баюся я, што мы замнога ўзялі... Гэта ж, як не вырасце, засмяюць нас... Сораму не абярэмся...

— Як гэта не вырасце! — узлавалася Соня. — Павінна вырасці. Вунь на Палессі і па 1 600 цэнтнераў вырошчваюць. А ты — не вырасце!.. Дзівачка!..

— Дык то ж на Палессі...

— А ў нас хіба зямля горшая?

— Можа і не горшая... Але ж нешта боязна...

Дзяўчаты шчыльней прытуліліся адна да адной. Над іх галовамі злёгку шапацелі кучаравыя вербы, з-за аселіцы наплывалі мяккія хвалі кудзелістага туману, затапляючы прыціхшую вуліцу. Такая трапяткая ўрачыстая ціша бывае ў вёсцы толькі ў майскія ночы, калі зямля, ахінуўшыся празрыстым полагам, спачывае перад вялікім сваім абуджэннем.

Хіба пойдзеш у хату, хіба заснеш, калі навокал такое хараство! Дзяўчаты селі на лавачцы пад цыбатай вішанькай. Маўчалі, аддаўшыся сваім марам-летуценням, а потым заспявалі. Спявалі ціха, для сябе, каб не спудзіць трапяткой маёвай цішы. За спевамі і не чулі, як насупраць перагаворваліся між сабой старыя бабулі.

— Сход жа быў, — бубнела адна. — Зноў гароды забралі пад тую кукурузу. І кураняці не выпусціш...

— Дык вунь жа Іванава большая зноў за звеннявую ў Талуці, — паказала ў бок, адкуль даносілася песня, другая і праз скрыпучы кашаль дадала: — Бацькавай натуры, каб ёй не гарэла...

А песня ўсё плыла і плыла, заглушаючы і гэтае старэчае бубненне, і іншыя гукі і шолахі, што часад-часу парушалі чароўнасць цішы.

Садзілі кукурузу ўсім звяном. Выйшлі ўсе — дзесяць дзяўчат і два хлопцы: Іванка і Міхась. Неразлучныя сябрукі, яны ўжо другі год працуюць з дзяўчатамі. Праўда, давялося ім перацярпець за гэты час і насмешак, і кпін ад хлопцаў-



раўеснікаў, якія працавалі з мужчынамі на полі ці на лузе, а больш ад тых, што за бацькавымі плячыма лынды білі... Але да Міхася і Іванкі гэта не прыставала. У іх вайна адабрала бацькоў, і ў хатах яны былі за гаспадароў. Няхай сабе зубы выскаляюць, каму ёсць ахвота, а хлопцы трымаюцца цвёрда. Яшчэ і Эма, калі была камсоргам, гаварыла: кукуруза — пярэдні край; той, хто стварае багацце кармоў для калгаснай жывёлы, — знаходзіцца на адказным рубяжы, той — баец сямігодкі. Пра тое ж і Вера Булыга гаворыць, новавыбраны камсамольскі важак. Яна ўвесь час падахвочвае хлопцаў. І Івану Селюну прапанавала: «Іванка, табе пара ўжо ў камсамол». Ён з ахвотай узяў анкету, хоць падумаў: «Я ж нічога такога не зрабіў, каб мяне ў камсамол. Камсамольцы ж — перадавікі. А я — звычайны вясковы хлопец. Але ж кукуруза...»

...Неўзабаве за дварамі вострымі пругкімі язычкамі зазелянела роўная прастора агародаў, злучаных у суцэльны палетак. Калгаснікі асабліва і не пярэчылі, аддаючы свае агароды пад кукурузу на два гады, бо ведалі, што перабіць зямлю свежай культурай вельмі нават не шкодзіць.

Кукуруза ўзышла дружна. Праз які тыдзень-паўтара ясна акрэсліліся роўныя квадраты ўсходаў. Соня кожны дзень, як толькі прахопіцца, адразу выбяжыць на гарод, акіне вокам палетак і адразу — да дзяўчат. Гукне Ліду, Просю і ўсіх астатніх таварышак, ды за працу.

Сёння яна наважыла забегчы да Іванкі і пагаварыць з ім: ці думае ён з сябруком далей быць у звяне?

Якраз у варотцах твар у твар сутыкнулася яна з Іванкам. Як заўсёды спакойны і маўклівы, ён ішоў павольным крокам з аброццю ў руках. На яго смуглявым твары застыла задуменная ўсмешка. Іванка першы прывітаўся з Соняй.

— Ты што ж, Іван, на праполку з намі хіба не пойдзеш? — Соня напусціла на сябе строгую афіцыйнасць, але гэта ёй не зусім удавалася, і ад гэтага яе пунсовыя поўныя вусны неяк смяшліва ўздрыгнулі, а бровы-падкоўкі нехаця сышліся над пераноссем.

— Чаму не пайду, — проста паглядзеў у твар звеннявой Іванка. — Пайду. Але я збіраўся да Міхася, мы з ім так думалі, што не шкодзіла б той участак, што ад лесу, яшчэ раз прабаранаваць. Так і аграном раіла. Казала, травы будзе меней...

— А што, хіба Эма ўчора прыходзіла? — ужо спакайней, без ранейшай строгасці загаварыла Соня. — Мне яе трэба было б пабачыць абавязкова, параіцца з ёй.

— У канторы яна мне стрэлася.

Соня пацяплеўшымі вачамі пазірала на Іванку. Варухнулася дум-



**Любяць талуцкія дзяўчаты пасядзець пасля работы на беразе ракі.** Злева направа: **Соня Балаховіч, Тоня Шурпік і Ліда Чарапенька.**

ка: «Чаму гэта Ліда ад яго адварочваецца. Добры ж хлопец, дармо, што малады. І жаніцца трэба — маці старая, часта хварэе. Дальбог, я Лідцы лепшага жаніха і не жадала б...» Раптам схамянулася, устрасянула косамі-вяночкамі і весела крыкнула:

— Ну, я пайшла!

— Пачакай, Соня, — ажывіўся Іванка і рашуча махнуў рукой, што аж забрынчэла цуглямі сырамятная аброць. — На адну хвілiначку, — Іванка сам дагнаў звеннявую і неяк збянтэжана, не ўзнімаючы вачэй, прагаварыў: — Соня, супакой ты гэтую Проську, няхай яна не строіць жарты...

— Добра! — кіўнула галавой Соня і дакорліва ўсміхнулася. — Ну і дзівак жа ты, Іванка. А можа дзяўчына закахалася...

Іванка хуткім крокам запыліў па вуліцы, спяшаючыся, каб застаць дома Міхася. На душы было спакойна. Няхай сабе Соня думае што хоча, а з-за гэтай перасмешніцы Проські са звяна ён нікуды не пойдзе.

У канцы мая і ў пачатку чэрвеня наляцелі халады, былі нават замаразкі. Але больш за ўсякія капрызы прыроды прынесілі дзяўчатам турбот звычайныя куры-квактухі, якія поркаюцца ледзь не на кожным двары. Для іх мяккія салодкія кукурузныя сцяблінкі — найлепшы ласунак. І як ні стараліся члены звяна пільнаваць кукурузнае поле, але здараліся выпадкі, што куры там-сям прарываліся і латашылі ўсходы. Давялося выклікаць на праўленне некаторых гаспадароў і весці сур'ёзную гаворку.

Кукуруза расла на дзіва ўсім, на радасць тым, хто за яе змагаўся. На гарачым ліпеньскім ветры загойдалася светла-зялёнымі хвалямі бліштастае трысцё, зашастала кінжаламі лісце. Добра відаць былі вынікі своечасовага рыхлення, праполкі і асабліва падкормкі. Цяпер да дзяўчат Сонінага звяна Эма прыходзіла радзей, бо ведала, што яны ўпраўляюцца самі. Калгасны аграном аддавала больш увагі далёкім звенням, бо там і вясною было больш непаладак і зараз сёй-той са звеннявых не надта рупіўся. І ўсё ж, калі заканчвалася праполка, Эма неяк раніцай, яшчэ дзяўчаты толькі ішлі ў свіран па салетру, выбегла насустрач, павіталася з усімі за рукі і пабыла ў звяне гадзіны са дзве. Прайшлася з дзяўчатамі па квадратах, брала з Сонінага вядра жменяй салетру і падсыпала ў гнёзды, пад гонкія, бічастыя сцябліны... Ідучы гэтак і ўсё адкідваючы пасму мяккіх бялявых валасоў, Эма гаварыла:

— Добрая ў вас, дзяўчаткі, вырасце кукуруза.

— Можа будзе і добрая, — не ўтойваючы сваёй радасці, згаджалася Соня. — Але працы колькі! Як пасеялі, дык спачыну не маем...

— Праўда, Эма Міхайлаўна, — уставіла сваё слова Прося Гіль. — Мы ўжо забыліся, калі на танцах былі. Вунь спытайце ў хлопцаў, яны калені паабшмароўвалі, ірвучы драсён...

— А з акучваннем вы не спазніліся? — перавяла гаворку на іншае Эма.

— Мы не спазніліся, — кінуў Міхась Руткоўскі, ставячы ў баразну вядро. Відаць было, што ён хацеў сказаць нешта больш важнае.

— Мы зрабілі рыхленне, як трэба, — прадаўжаў Міхась, пераступаючы з нагі на нагу. — Але ж якая гэта работа звычайным плужком?!. Усё рукамі — і сеяць, і акучваць, і палоць. А ў людзей жа і сеялкі, і трактарныя рыхлільнікі, — уся механізацыя. Ці праўду я кажу, Эма Міхайлаўна?..

— Вядома, праўду, — выцерла запэцканыя рукі Эма. — Але ж не ўсё адразу... Добра, што сёлета ўпершыню пасеялі квадратамі, а памятаеце, як не хацелі некаторыя: маўляў, і работы больш, і пасевы зрэдзяцца...

Эма адчувала, што гаворыць не тое. Але яна не шукала апраўдання. Ды яно ёй і не патрэбна. Яна цешылася. Як выраслі, пасталелі



вось гэтыя талуцкія хлопцы і дзяўчаты, з якімі яна жыве і працуе ўжо чатыры гады, як вырасла іх свядомасць!

Эма яшчэ крыху пабыла ў звяне, развіталася і напрасткі, праз сапраўдны кукурузны гай накіравалася ў вёску. Густалістае трысцё надзейна затуляла яе твар ад нясцерпнай гарачыні, якую ліло з палінялага блакіту летняе сонца, а мяккія мяцёлкі-султанчыкі прыемна казыталі шчокі.

Ёй чамусьці прыгадалася першае знаёства з тутэйшымі людзьмі, першае ўражанне ад сустрэчы з талуцкімі дзяўчатамі на малацьбе, і на душы расцвіла глыбокая радасць.

## 3

Адкрасавала лета. Гарачы жнівень узважыў здабыткі людской рупнасці, уславіў шчодрасць зямлі-карміцелькі.

Соня абышла на досвітку ўсе ўчасткі, пабывала на ферме, дзе працуюць яе суседкі-сяброўкі Зіна Балаховіч і Галя Кавалік, пацікавілася, як каровы ласуюцца свежай кукурузай, і з цвёрдай думкай накіравалася ў праўленне.

Ідучы па вуліцы, зірне направа ці налева, між хат, на гароды, і аж сэрца захлынаецца шчасцем: плешчацца бяскрайняе зялёнае мора, і шэлест густога, вынасістага трысця, абцяжаранага важкімі кіяхамі-пачаткамі, чуцён аж на вуліцы.

На ганку клуба, дзе цяпер размяшчаецца і калгаснае праўленне, Соня сустрэла Эму Сушчынскую, як заўсёды, акуратную, у простым, ужо добра палінялым паркалёвым плацці і такой жа какетліва завязанай квяцістай хусцінцы. Ад яе добра загарэлых рук нібы струменіўся пах кветак і поля. Эма адразу ж пачала расказваць, што толькі вярнулася з Сіўцоў, дзе звяно Сцепаніды Місуль прыступіла да сіласавання.

— А я чую, што нешта грукоча. Думала, можа, малоцяць, — Соня паправіла цёмныя косы-вяночкі на галаве і неяк уся працягласа цікавасцю. — Аж ужо сіласуюць.. Ну, як там у цёткі Сцепаніды, па колькі выходзіць?..

Эма ўсміхнулася. Усмешка ў яе нейкая строгая, скупая. Каб не вочы, якія глядзяць на людзей заўсёды адкрыта і з нейкай загадкавай цікаўнасцю, дык можна было б падумаць, што Эма заўсёды на некага злуецца. Соня ведае, што аграном перажывае за талуцкіх дзяўчат не меней, чым яна, і адганяе ад сябе гэтую думку.

— Ды Сцепаніда сказала, што першае месца павінны прысудзіць яе звяну, — загаварыла Эма. — Каб ты, Сонечка, бачыла, што там рабілася. Усе жанчыны абступілі мяне ды як пачалі вадзіць па полі, адна перад другой паказваюць і каліўе і пачаткі. Ставяць перад сабой сцяблы, мераюць, узважваюць на руках. У розных месцах бралі пробу, зважвалі сцяблы спачатку з квадратнага метра, а потым з цэлай соткі... І так на розных дзялянках. Самі жанчыны і вылічвалі, нават брыгадзіру і мне не даверылі... Кажуць: «Мы працавалі, дык, калі ласка, і працу нашу не ганьбуйце...»

— І што, як у іх там? — зноў уставіла Соня, і трывожная пахмурасць мільганула на яе звычайна спакойным смуглявым твары.

— Адзін участак дасць, пэўна, па 800 цэнтнераў, — памаўчаўшы, зноў загаварыла Эма. — Але ўчастак невялікі, гектараў пяць. Ёсць дзялянкі, што і меней, ёсць, што і болей... Адным словам, думаю, што і ў вас будзе не горш. Праўда, Соня?

Эма ўсміхнулася і, як здалося Соні, неяк весялей, усім сваім мілым дзявочым тварам, з мяккім, цёплым бляскам у вялікіх асмужаных вачах пад доўгімі густымі вейкамі.

— А як вы думаеце, Эма Міхайлаўна? — Соня неяк уся аж падалася да Сушчынскай, пырснула зеленаватым агнём з-пад цёмных крылцаў брывей. — Ці будзе ў нас, у Талуці, па 800 на ўсіх гародах, ці не будзе?

— Думаю, што будзе. — упэў-



**— Ці будзе ў нас, у Талуці, па 800 цэнтнераў з гектара? — задумалася Соня Балаховіч, аглядаючы палеткі кукурузы.**

Фота С. Чырэшкіна.

нена прамовіла Эма і запытала ў Соні, чаго яна ідзе ў праўленне.

— Ды пара ўжо ўбіраць, — уздыхнула Соня. — Цяпер, пакуль бульба яшчэ не падаспела, самае што сіласаваць кукурузу...

Развітваючыся, Соня напомніла Эме:

— Калі будзеце пакідаць на насенне, — заклапочана і шчыра гаварыла звеннявая, — дык тую дзялянку з талуцкіх агародаў. У нас ёсць такія мясціны, што якраз падыйдуць: сцяблы роўныя, цупкія, а кіяхі ўжо добра наліліся і такія ёмкія...

— Пакінем невялікую дзялянку, — згадзілася Эма. — Абавязкова. І іменна ў Талуці. Тут зямля характэрная!

...Соня ўсю дарогу думала: чаму іх зямля нейкая характэрная, і чаму Эма такая загадкавая? Часам бывае простая і блізкая, як усе талуцкія дзяўчаты, а іншы раз кіне такое слоўца... Думала і не знаходзіла адказу.

І ўсё ж не сумнявалася, што Эма — шчыры друг. Яна такая ж, як і ўсе, камсамолка. І яе можна пакрытыкаваць. Іншы раз яна сёетое не дагледзіць. Вядома, у яе больш спраў, чым у іншых дзяўчат - камсамольцаў. Яна нясе адказнасць за вялікую гаспадарку. І вучыцца ў сельскагаспадарчай акадэміі. Знаходзіць час у клубе пабыць, і на полі носіцца, як ластаўка, але пра дзяўчат не забывае, як ні кажы, а каб не Эма, дык, можа, і Соня не ездзіла б на выстаўку ў Маскву, і граматы той не мела б, што ўпрыгожвае хату...

Соні становіцца няёмка перад Эмай, якая і ёй колькі разоў раіла вучыцца. Можна ж усім дзяўчатам вучыцца. Сілы і здольнасцей у іх — уга колькі, толькі ўзяцца трэба!

На сіласаванне ў Талуці вышла амаль што ўся брыгада. Брыгадзір Міхась Сцяпанавіч вылучыў дзесяць фурманак, якія падвозілі кукурузу да сіласарэзкі. Трактарысты Сівец і Талейка так налаўчыліся, што толькі паспявай падаваць.

Бярэма за бярэмам глытала ненажэрная машына. У падавальшчыкаў аж узмакрэлі спіны. Дзед Шурпік не вытрымаў, набгом выпіў цеплаватай вады з паліванчыка і са словамі: «Давай цяпер ты, Костусь!» прысеў на прымяты мурог. На яго месца стаў ля сіласарэзкі здаравенны дзяцюк Костусь Кавалік. Весела і роўна спяваў матор, заўзята і спорна працавалі нажы, з трубы выбіваўся тугі пахучы струмень. Віхурыцца, гуляе зялёная мяцеліца. Нават людзей не бачна ў гэтай цёплай, пахучай замяці. Роўна гудзе агрэгат, а навокал разносіцца моцны басок Костуся:

— Гэй, дзяўчаткі-кабеткі, падкіньце. Галубкі!.. Яшчэ!.. Яшчэ!..



На загуменні на ўсю сваю нерастрачаную маладую сілу завіхаюцца дзяўчаты. Як заўсёды, на поўны захват бярэ ахапак Соня. Стараюцца адна перад другой усе. Завіхаюцца і Іванка з Міхасём. На палетак прышоў калгасны старшыня. Разам з ім — Эма. Васіль Васільевіч, задаволены і вясёлы, паглядзеў на густы зялёны гай, падышоў да дзяўчат і гукнуў:

— Што ж, дзяўчаткі, малайчыны!.. Віншую вас, таварышы камсамольцы, з перамогай. З вялікай перамогай!

— Соню трэба павіншаваць, Соню! — тузала за рукаў Васіля Васільевіча Эма. І сама аж ззяла ад шчасця.

— Канешне, і Соню, — узмахнуў саламяным капелюшом старшыня і моцна пацiснуў збянтэжанай звеннявой руку. — Думаю, што за кукурузу мы з Соняй адхопім па медалю. Праўда?..

— Калі дзяўчаты пастараюцца, дык не падкачаем, — засцячыся рукой ад гарачага жнівеньскага сонца, сарамліва прагаварыла звеннявая. А потым паглядзела на Эму, на сваіх сябровак і, заручыўшыся іх шчырымі позіркамі, нібы падтрымкай, смела і ясна дадала:

— На наступны год вырасцім лепшую кукурузу — па тысячы цэнтнераў!

Яшчэ і ў верасні над тутэйшымі пясчанымі аколіцамі з ранку да вечара гуляла-буяніла цёплая зялёная мяцеліца.

Золкія верасноўскія ночы калыхалі аж да ранняя занесеную сюды аднекуль здалёк, але прыстасаваную да Талуці бойкую, задзірыстую прыпеўку:

«Наша поле камяністае,  
А на дзевак ураджай...  
Хто надумае жаніцца,  
К нам у Талуць прыязджай!»

Няхітрая, наіўная песня-частушка гэта хвалявала і Эму. Недзе ў кутку душы выспявала гордасць: і яна ж жыве ў Талуці...

**Калгас «Чырвоны сцяг» Вілейскага раёна.**

# Мікола МАРУШКЕВІЧ

# РАВЕСНІКІ

Зусім проста і разам з тым вельмі цяжка расказаць пра гэтых пяць юнакоў і дзяўчат...

Нарадзіліся ўсе яны ў адзін год — у той трыццаць дзевяты, калі ўпершыню на поўныя грудзі ўздыхнулі працоўныя Заходняй Беларусі. Разам раслі, у адной школе вучыліся, разам скончылі дзесяцігодку. Ды і цяпер, лічы, яны разам крочаць у жыццё.

Як ясны дзень ад цёмнае ночы, адрозніваецца іхняе жыццё ад жыцця бацькоў, якія напрацаваліся за свой век на паноў ды падпанкаў.

Розны час, розныя і песні. Бацькі ў дваццацігадовым узросце ведалі адно — гора ды нястачу, страх перад заўтрашнім днём; сыны і дочкі, ледзь пераступіўшы парог сваёй сталасці, адразу выйшлі на шырокі прастор светлага жыцця і сталі гаспадарамі свайго лёсу.

Усе пяць — самыя звычайныя і простыя маладыя людзі, якіх можна сустрэць у нас на кожным кроку. Мы не спецыяльна выбіралі, куды ехаць, з кім сустракацца, не мелі на ўвазе расказваць пра пяць або дзесяць равеснікаў. Так здарылася...

Ад Пінска да вёскі Навамселле — цэнтра калгаса «Светлы шлях» — рукою падаць. «Газік» борзда імчыць па прасёлачнай дарозе, падскоквае на выбоінах, распырскваючы мутныя лужыны, што дзе-ні-дзе засталіся пасля кароткага дажджу. Дарога амаль увесь час ідзе полем, уецца між свежай раллі.

— От гэта ўжо зямля «Светлага шляху», — гаворыць шафёр, як відаць, карэнны паляшук. Памаўчаўшы, ён працягвае: — Бачыце, у добрых гаспадароў і на пясках расце. Ураджай цяпер тут добры збіраюць. А некалі ж тут аблогі дзірванелі. Гаварылі ўсе, што нічога на іх не вырасце. А ўзяліся і, калі ласка...

Вось і Навaселле. Вёска вялікая. На кожнай сядзібе маладыя, але дужыя ўжо сады. Усцяж вуліцы, якая цягнецца можа на два кіламетры, кучаравяцца вербы.

У вёсцы — пуста. Хто ж увосень будзе сядзець дома? Усе ў полі. Толькі ў калгаснай канторы і ўдалося сустрэць бухгалтара калгаса Марыю Мартынчук ды яшчэ дзвюх зусім маладых дзяўчат — уочтчыц.

Мы разгаварыліся з Марыяй. Яна трымалася проста, надзвычай уважліва да нашых запытанняў. Ахвотна расказвала пра арцельную гаспадарку, пра ўсё тое, што зроблена ў калгасе для людзей.

У «Светлым шляху» — каля дзвюх тысяч гектараў ворнай зямлі. Свая тэхніка: дзевяць трактараў, чатыры камбайны, шмат іншых машын. Вялікі арцельны статак: больш чатырохсот галоў буйнай рагатай жывёлы. Ураджаі добрыя. Грашовыя даходы перавысілі два мільёны рублёў. На працадзень калгаснікі добра атрымліваюць...





Бухгалтар калгаса «Светлы шлях» Марыя Мартынчук.

Марыя зазірнула ў кнігу і пачала называць, хто з калгаснікаў колькі зарабіў за мінулы месяц. А тым часам адчыніліся дзверы, і ў пакой таропка ўвайшоў немалады ўжо мужчына.

— Старшыня наш, Павел Паўлавіч Шыманскі, знаёмцеся, — падняўшыся са стула, сказала Марыя.

Прывіталіся, пазнаёміліся.

Жвавасць, з якою старшыня хадзіў па пакоі і паварочваўся да субяседнікаў, калі што-небудзь гаварыў, здавалася, не зусім адпавядала яго мажнай фігуры.

— Гм-м... Значыць, вас цікавяць тыя з маладых, каму сёлета спаўняецца па дваццаць? Што ж, гэта сапраўды цікава... Равеснікі ўз'яднання...

З мінуту Павел Паўлавіч моўчкі тупаў па пакоі, быццам нешта абдумваў. Потым неяк задуменна загаварыў:

— Так, светлы ў нашай цяперашняй моладзі лёс, хоць некаторыя і не ўмеюць цаніць гэтага жыцця...

Раптам старшыня спахапіўся:

— Прабачце, гэта я так сабе. Сам з сабою разважаю. Траплялiся ў нас некалі маладыя людзі, што не пра калгас дбалі, дык от мне і ўспомнілася... Дык, кажаце, равеснікі вас цікавяць... Вось перад вамі сядзіць наш бухгалтар, Марыя Мартынчук. Яна якраз і ёсць равесніца савецкай улады ў нашай мясціне. Праўда, Марыя?

Марыя зачырванелася, як той макаў цвет. Увесь яе выгляд так і гаварыў: «А што я такое важнае зрабіла, каб пра мяне тут магла ісці гаворка?»

— Праўда, мы яе крыху пакрыўдзілі былі. Пасля дзесяцігодкі хацела на поле, у брыгаду, а мы яе — у канцылярыю, бухгалтарам зрабілі, — весела расказваў далей Павел Паўлавіч. — Вучыцца параілі, на курсах у Мінску завочна вучыцца цяпер. Патрэбны ж нам свае адукаваныя бухгалтары, абы-каму такую справу даверыць нельга: гаспадарка вунь якая!.. Не шкадуеш цяпер, Марыя?

— Чаго ж шкадаваць, Павел Паўлавіч, — адказала Марыя.

Старшыня, відаць, захапіўся сваімі разважаннямі.

— Калісь тут на ўсю акругу ўсяго паўдзесятка пісьменных людзей было. Хто-хто, а твае, Марыя, бацькі ведаюць. Напэўна, не раз хадзілі да пана Клянеўскага ці да тутэйшага папа на работу наймацца, каб толькі сяк-так пракарміцца. Вось яны — поп, пан ды яшчэ хіба адзін на дзесяць вёсак настаўнік і той акцызнік, што прыязджаў падаткі спаганяць, — і былі адукаваныя. Цяпер жа паспрабуй, знайдзі каго-небудзь з тваіх аднагодкаў, каб каторы не скончыў сямігодку ці дзесяцігодку. Гэта, даражэнькая, добра трэба помніць. Бацькі твае перад панамі шапку здымалі, а ты, іхняя дачка, — дэпутат раённага Савета...

Марыя ўвесь час імкнулася нешта сказаць, але Павел Паўлавіч не спыняўся:

— Таго, чые рукі былі пакрыты мазалямі, і за чалавека не лічылі. А цяпер, бачыш, якая пашана працоўнаму чалавеку. Рабі сумленна кожны на сваім месцы, дбай не толькі пра сябе, а і пра людзей, дык табе і чэсць, і хвала...

Хто ведае, аб чым бы далей гаварыў старшыня, калі б у дзверы не пастукалі. На парозе паказаўся высокі стройны хлопец, а за ім — дзяўчына. Хлопец бойка прывітаўся, вышаў на сярэдзіну пакоя, а дзяўчына ў нерашучасці спынілася ля дзвярэй. Павел Паўлавіч адразу ж рассеяў збянтэжанасць маладых людзей:

— Вось вам, калі ласка, наша інтэлігенцыя.... За плячыма ў іх толькі па дваццаць гадоў, а які шлях пройдзены ўжо! Хто, Станіслаў, быў твой бацька да трыццаць дзевятага?

— Ну, батрачыў, — сур'ёзна адказаў юнак, а потым неяк жартаўліва звярнуўся да Паўла Паўлавіча: — А вы што, таварыш старшыня, за савецкую ўладу каго-небудзь агітуеце?

— Ты пачакай, не лезь са сваімі кепікамі. Тут не пра гэта гаворка ідзе, — зусім сур'ёзна адказаў Павел Паўлавіч і тут жа звярнуўся да нас: — Знаёмцеся, вам проста сёння шанцуе. Я ж гаварыў, што далёка па прыклады ісці не трэба будзе.

Так мы пазнаёміліся яшчэ з двума дваццацігадовымі навасельцамі.

Станіслаў Іванцоў пасля дзесяцігодкі падаўся вучыцца ў Брэсцкі педагагічны інстытут. Не таму ён так зрабіў, што шукаў нейкую лёгкую сцежку ў жыцці. А вельмі ўжо цягнула яго да дзяцей, да таго, каб вучыць і выхоўваць іх так, як вучылі і выхоўвалі яго. Праўленне калгаса не стала пярэчыць, каб Станіслаў ехаў на вучобу. А цяпер юнак вярнуўся ў родную вёску і працуе ў школе. А ў



**Настаўнік Станіслаў Іванцоў.**

вольны час не можа сядзець без справы. Вось і зайшоў ён у праўленне, каб далі які занятак.

— О, цяпер, браце, час такі, што работы ўсім хопіць. На ток у нядзелю пойдзеш? — сказаў яму Павел Паўлавіч.

— А чаму ж, пайду, — шчыра адказаў Станіслаў...

Аляксандра Цількові нечакана для сябе стала таксама выхавацелем. Пасля вучобы ў школе пайшла яна на працу ў калгас. Працавала, дзе даводзілася, ніякай работы не цуралася. Урэшце надумалася працягваць вучобу. І хтосьці з былых настаўнікаў параіў ёй паступаць у педагагічнае вучылішча. Дзяцей Аляксандра любіць і, здаецца, умее з імі гаварыць. Вось і падала дакументы ў Пінскае педагагічнае вучылішча. А тым часам у школе спатрэбілася піянерважатая. Не хацела спачатку ісці туды працаваць Аляксандра, боязна было — раптам не справіцца. Але ж пераканалі яе. Сам старшыня праўлення Па-



вел Паўлавіч Шыманскі, як гаворыцца, блаславіў.

Сёння ў праўленне Аляксандра таксама па справе прыйшла. Хоча ў выхадны дзень сваю піянерскую дружыну сабраць, каб на поле выйсці, дапамагчы калгаснікам гарод убіраць.

Надвячоркам Павел Паўлавіч павёў нас паказваць гаспадарку. Зноў ён быў такі ж, як і з раніцы, ажыўлены, хоць крыху чымсьці і заклапочаны. Гаварыў, пытаўся, сам, часам, адказваў. Шчыра кажучы, нялёгка было прасачыць за ходам думак старшыні. Адно толькі моцна адчувалася: рады гэты чалавек за тое, што мацнее, набірае сілу арцельная гаспадарка, што людзі цяпер пра калгас, як пра сваё роднае, дбаюць. Акрылёныя сямігодкай, яны працуюць, не шкадуючы рук, — усё гэта выклікае гонар і задавальненне.

— У хвасце мы пляліся некалі, — расказвае зноў старшыня, — потым сяк-так у серадняткі вышлі, а цяпер угару рушылі. Радыё ў



**Старшая піянерважатая Аляксандра Цількові.**



**Даярка Вольга Іванцова.**

калгасе ёсць, электрычнасць... А яшчэ і не тое мець будзем...

Зайшлі ў кароўнік. Толькі тут мы і даведаліся, што Павел Паўлавіч прывёў нас сюды знарок, каб пазнаёміць з маладой даяркай Вольгай Іванцовай.

— А то яшчэ, чаго добрага, падумаеце, што мы тут інтэлігенцію выхоўваем, — жартаваў ён.

Вольга Іванцова — такая ж простая і сціплая дзяўчына, як і яе аднагодкі. І як кожны сціплы чалавек, зусім немнагаслоўна гаворыць аб сабе. Усё ў яе жыцці ідзе добра. Працуе, стараецца, каб не адстаць ад іншых. Сёлета за год мяркуе надаіць ад кожнай каровы па дзве з палавінай тысячы літраў. Працаваць на ферму прыйшла добраахвотна. Чаму стала, менавіта, даяркай? Падабаецца гэтая работа. Ды і трэба ж было не адстаць: камсамольцы на фермы наважылі ісці працаваць...

Калі мы вярталіся ў вёску, Павел Паўлавіч параіў зайсці ў адзін дом. Дом гэты — самы звычайны, нічым асаблівым не вылу-

чаецца сярод многіх іншых на вуліцы. Але старшыня ўвесь час напамінаў, што ён якраз асаблівы, мае амаль што гістарычнае значэнне для цэлай вёскі. Аказваецца, тут, у доме Івана Якімавіча Навумчыка, былога батрака, у сорак дзевятым годзе ўпершыню сабраліся тутэйшыя сяляне, каб вырашыць, як далей жыць. Сям'я Івана Якімавіча Навумчыка першай падала заяву ў калгас.

Але не толькі з гэтай прычыны прывёў нас Павел Паўлавіч у гэты дом. Ёсць у Івана Якімавіча дваццацігадовы сын — Мікалай, калгасны трактарыст.

Уся сям'я якраз была ў зборы. Мікалай толькі што вярнуўся з поля, павячэраў і збіраўся некуды ісці.

— Пачакай, механізатар,— звярнуўся да яго старшыня,— справа ёсць...

Мікалай Навумчык летась скончыў Пінскую школу механізацыі і вярнуўся ў родны калгас. Якраз набывалі новую тэхніку, і Мікалай сеў за руль трактара.

Сёлетняй вясною, калі ўсюды ішла размова аб знатным варонежскім механізатары-кукурузаводзе Манукоўскім, Мікалай задумаўся. А потым ён прышоў у праўленне і сказаў:

— Можна так вырошчваць кукурузу і ў нас.

Праўленцы падтрымалі хлопца. Так ён узначаліў брыгаду комплекснай механізацыі ўсіх работ па вырошчванню кукурузы.

— Ну, і як ідзе работа?

— Добра,—разважліва адказаў Мікалай.—Пасеялі і дагледзелі пасевы як след. Кукуруза вырасла выдатная. Па шэсцьсот цэнтнераў трысця з пачаткамі дае гектар. Сіласу многа будзе на зіму... Азімыя канчаем сеяць, зябліва арэм...



**Трактарыст Мікалай Навумчык.**
Фота А. Лукашова.

Уранні, развітаўшыся з гасціннымі гаспадарамі, мы ад'язджалі ў Пінск. Яшчэ толькі бралася на золак, але вёска ўжо не спала. Людзі пачыналі працоўны дзень.

І ад свежага, яснага ранку, і ад учарашніх сустрэч хораша было на душы. Прыемна было ўсю дарогу думаць аб гэтых простых і шчырых дваццацігадовых юнаках і дзяўчатах. Як яны дбаюць пра грамадскае, пра дзяржаўнае! Павел Паўлавіч, гэты ўмудроны жыццём і вопытам чалавек, напэўна, сказаў бы:

— Добрая нам змена расце. У іх, браточкі, сапраўды светлы, шчаслівы лёс!..

**Калгас «Светлы шлях»**
**Пінскага раёна.**

Сяргей **АНІСАЎ**

# У БУРНЫМ ПРАДВЕСНІ

## Запіскі былога падпольшчыка

Ішоў 1929 год.

Глыбокі крызіс ахапіў увесь капіталістычны свет. І ў белапанскай Польшчы закрылася большасць фабрык, заводаў. Дзесяткі тысяч рабочых былі выкінуты на вуліцу. Бізун польскага памешчыка і асадніка-акупанта гуляў па спіне заняволенага бедака-беларуса.

— Хлеба!.. Работы!..

— Свабоды!.. Школ на роднай мове!

Гэтыя простыя заклікі камуністычнай партыі і камсамола Заходняй Беларусі ўзнімалі беларускі народ на барацьбу. Імі пачыналіся і заканчваліся масоўкі, дэманстрацыі, сходы рабочых, сялян, беспрацоўных. З кумачовых палотнішчаў і транспарантаў яны абвяшчалі прыгнечанаму, заняволенаму народу блізкі час вызвалення.

Фашысцкі ўрад Польшчы увёў ў Заходняй Беларусі надзвычайнае становішча з ваенна-палявымі судамі. Усе астрогі і турмы былі перапоўнены. У засценках арыштаваныя падвяргаліся нечалавечым катаванням. Усе газеты свету пісалі тады, што «перад катаваннямі і здзекамі польскай ахранкі бляднеюць нават сярэдневяковыя інквізітары...», а «крыкі і стогны ахвяр польскага фашызма чутны далёка за межамі Польшчы, і ад гэтых крыкаў і стогнаў кроў стыне ў жылах».

Тады яшчэ свет не ведаў Асвенціма, Майданека, Бухенвальда. Трасцянца. Не было яшчэ і Картуз-Бярозы. Але затое былі ўжо Ландвараў, Бельск і Петрашы — лагеры катаванняў і смерці. Сотні тысяч лепшых сыноў і дачок беларускага народа прайшлі праз іх.

І тым не менш рэвалюцыйная барацьба ў Заходняй Беларусі не сціхала, а ўзрастала і шырылася. На змену арыштаваным станавіліся новыя барацьбіты і настойліва працягвалі справу сваіх папярэднікаў.

У 1930 годзе за межамі Заходняй Беларусі, адбыўся першы з'езд КСМЗБ, а ў 1932 годзе — другая канферэнцыя КСМЗБ.

Мне давялося прымаць удзел у рабоце другой канферэнцыі камсамола. З таго часу прайшло шмат гадоў. Многіх яе ўдзельнікаў даўно ўжо няма ў жывых. І сам я не раз бываў на мяжы смерці, але маленькі домік у хваёвым бары, дзе праводзілася канферэнцыя юных, смелых падпольшчыкаў, ніколі не забуду.

Гэта было нібы ўчора. Чэрвеньскай ноччу прыехаў я туды. Памятаю, як адзін за другім, асцярожна прабіраліся пасланцы моладзі Заходняй Беларусі да месца збору. Іх было 19 чалавек. 19 дэлегатаў ад 8 акруговых камсамольскіх арганізацый. Але якая гэта была сіла!

Другая канферэнцыя камсамола Заходняй Беларусі ў гісторыі юнацкага рэвалюцыйнага руху былой буржуазна-памешчыцкай Польшчы зусім справядліва займае самае віднае месца.

Член выканкома КІМа сакратар ЦК КСМ Польшчы Вальтэр, член палітбюро ЦК КПП Лампа, член палітбюро ЦК КПЗБ Якаўлеў, якія прысутнічалі на канферэнцыі, паставілі пытанне проста: за кім ідзе ў Заходняй Беларусі і за кім павінна ісці працоўная моладзь? Што трэба зрабіць, каб перацягнуць яе на свой бок і павесці за сабой?

## Выпрабаванне

Цёмная навальнічная хмара навісла над борам, нібы чорным покрывам ахутала яго. На імгненне вяршыні соснаў асвятліліся маланкай, і зноў наплыла густая цемень. Нечакана Якаўлеў прапанаваў мне прайсціся ў лес.

Мы ішлі ўсё далей і далей у гушчар. У цемені я нічога не бачыў, чуў толькі, як часта дыхае Якаўлеў. Нарэшце ён спыніўся.

— Вось тут мы і пагутарым, — сказаў з падкрэсленай строгасцю.

Я маўчаў, чакаючы, што будзе далей. Якаўлеў зразумеў гэтую маю збянтэжанасць.

— Ты яшчэ не прызвычаены да падпольнай работы. Але нічога. Справа такога парадку. Канферэнцыя закончылася. Ты павінен ехаць у Вільню. Ехаць трэба зараз жа, не зважаючы на такое надвор'е. І не здзіўляйся, калі ласка, што я не загаварыў з табой там, у хаце, а завёў сюды, у лес. Умовы нашай работы такія, што многія пытанні даводзіцца вырашаць з вока на вока, без лішніх сведак, — Якаўлеў па-сяброўску паклаў мне руку на плячо.

— Дык вось, Пеця*, — працягваў ён, — тайным галасаваннем канферэнцыя кааптавала цябе ў склад падпольнага Цэнтральнага Камітэта камсамола Заходняй Беларусі. ЦК КСМ у сваю чаргу выбраў цябе членам сакратарыята. Ад усяго сэрца віншую і жадаю поспеху ў рабоце!

Пры гэтых словах Якаўлеў моцна паціснуў мне руку. Я не ведаў, што яму на гэта адказаць. Паведамленне было такім нечаканым, што я паспеў толькі прамовіць:

— Дзякуй за давер... Не падвяду!..

— Так, так... Я асабіста не сумняваюся ў гэтым і... усе мы ўпэўнены, што давер'е будзе апраўдана... Яшчэ і яшчэ раз віншую... Вядома, нялёгка будзе табе працаваць. Тым больш, што пачаліся масавыя арышты. Мартын, Роберт і Зазуля цяпер у Вільні не могуць паказвацца. Паліцыя шукае іх. Таму створаны новы сакратарыят. Вас чакае вялікая і адказная работа: трэба ўзначаліць барацьбу мас. А ўмовы, сам ведаеш: тэрор, зверскія расправы з нашым актывам.

Якаўлеў цяжка ўздыхнуў, задумаўся. Для мяне было ясна, што ён мае звесткі, якімі не можа і не павінен са мной дзяліцца. Зноў паласнула маланка, грымнуў пярун. Але Якаўлеў і не збіраўся вяртацца ў нашу хатку на ўзлессі.

— Мы яшчэ не такое бачылі, — гаварыў ён, цягнучы мяне пад вялізны куст арэшніку.

Прайшло некалькі мінут. Я ўсё яшчэ ніяк не мог апамятацца. Да ад'езду ў Вільню або куды-небудзь у іншае месца па заданню партыі я быў гатовы даўно, але тое, што мяне выбралі членам сакратарыята падпольнага ЦК, крыху бянтэжыла: вельмі ўжо адказная работа.

— Як сціхне навальніца, — перапыніў маўчанне Якаўлеў, — ты, Пеця, адправішся ў дарогу. У цябе будзе цяжкая і нават, я

* Пеця—падпольная клічка С. Анісава.



сказаў бы, небяспечная пераправа. Я павінен сказаць табе, што гэта можна зрабіць толькі ў такую ноч. Разам з табой да самай Вільні будзе ехаць Валя. Яна — спрактыкаваны падпольшчык. Калі спатрэбіцца што ў горадзе, яна дапаможа. Калі на яўцы не прымуць, яна наладзіць сувязь. Адным словам, на яе можаш разлічваць: не падвядзе, чалавек свой!

Лютавала навальніца, а Якаўлеў усё даваў мне настаўленні, перапраўляраў, ці добра я запомніў ключ шыфра, ці не забыў яўкі і яшчэ якой-небудзь дробязі.

Калі навальніца пачала сціхаць, Якаўлеў паглядзеў на гадзіннік і паспешліва прагаварыў:

— Пара... Хутчэй ідзі і пераапраніся, а я тым часам збяру ўсё табе ў дарогу і патурбуюся наконт праваднікa.

Праз некалькі мінут я быў ужо ў вялюравым капелюшы і ў элегантным гарнітуры. У кішэні ляжалі дакументы на імя беспрацоўнага настаўніка, якім я павінен быў выдаваць сябе.

Невядомай роснай сцежкай па глухім лясным гушчары прабіраемся мы з Валяй, — той самай дзяўчынай, з якой усяго некалькі мінут назад пазнаёміў мяне Якаўлеў. Я нават не разглядзеў добра яе твару. Уперадзе нас тупаў праваднік. Ідзем павольна, асцярожна. Трэсне ў каго пад нагамі сухая галінка — спыняемся і доўга ўслухоўваемся ў начную цішыню. Пераканаўшыся, што навокал усё спакойна, зноў ідзем адзін за адным. Я іду за праваднікам. За мной — Валя. Вецер сціх. Імжыць дробны дождж. Ціха шапоча лісце. І вось мы выйшлі на ўзлессе. Спыніліся. Праваднік неяк дзіўна выцягнуў шыю, павёў носам, пакруціў галавой. Потым прысеў на кукішкі і даў нам знак зрабіць тое ж самае. Мы паслухмяна выканалі яго загад. Вось ён папоўз на карачках — мы за ім. Хутка я ўвесь прамок, а па твары каціліся буйныя кроплі поту...

Так прапаўзлі мы ўзлесак. Перад намі зноў лясны гушчар, яшчэ больш маўклівы, страшны.

Праваднік падаў мне руку, я ўзяў за руку Валю. Цяпер мы ішлі адзін за адным, ланцужком, трымаючыся за рукі. Сцежка пятляла між кустоў. Праваднік прыкметна прыбавіў кроку, мы ледзь паспявалі за ім. Ён ішоў весела, вольна, і нам здавалася, што небяспека мінавала. Раптам праваднік спыніўся, як укапаны. Ззаду за намі нехта бег. Па тупату ног можна было лёгка пазнаць, што нас даганялі не адзін, а некалькі чалавек і што яны былі ўжо недалёка.

Мы ўсе разгубіліся і збянтэжыліся. Але толькі на імгненне. У кустах з правага боку ад нас пачуўся трэск і шапаценне. Было ясна: мы трапілі ў засаду. Аднак чамусьці цяпер наш праваднік быў выключна спакойны. Некалькі секунд ён стаяў нерухома, гатовы прыняць удар. Потым кінуўся бегчы. Мы — за ім. Наўздагон раздаўся крык: «Стой!» і адразу ж адзін за другім грымнулі стрэлы. Мы беглі, не адчуваючы пад сабой ног. Пагоня не сунімалася. Над нашымі галовамі ціўкалі кулі, несліся пагрозлівыя крыкі. Я зачапіўся галавой за арэшыну і мой вялюравы капялюш зваліўся. Я нахіліўся, каб падняць яго. Валя прабегла міма мяне і знікла ў цемры. Я застаўся адзін. Стрэлы, здавалася, грымелі над самай маёй галавой. Я шмыгнуў налева ў кусты. Аднак не паспеў ступіць і некалькі крокаў, як прыкмеціў у змроку шэрую пляму. Пляма варушылася. Мне здалося, што гэта світка праваднікa. І сапраўды, я не памыліўся. Калі праваднік пачаў аддаляцца, я імкліва скочыў і ў тое ж імгненне моцна ўчапіўся за яго. У некалькіх кроках ад нас галёкалі паліцаі.

Страціць праваднікa азначала для мяне не выканаць даручэння Якаўлева. Больш таго, з маімі фальшывымі дакументамі — рызыкаваць жыццём.

— Тут пачынаецца балота, — заікаючыся і калоцячыся, прагаварыў праваднік.

— Дык гэта ж добра! Ноччу паліцаі ў балота не палезуць. Ця-

пер мы выратаваны, — пачаў я супакойваць праваднiка i пацягнуў яго за сабой у бок ад сцежкi. Неўзабаве мы абодва завязлi ў багне. Тут я ўспомнiў пра Валю. Аказалася, што калi я затрымаўся, каб падняць з зямлi капялюш, праваднiк падумаў, што я ўпаў, забiты куляй, i, каб не трапiць у рукi палiцыi, падаўся ў кусты. Валя ад яго адстала. Я слухаў гэтыя бязладныя тлумачэннi праваднiка i напружана думаў, як i дзе адшукаць Валю. Яна ж была маёй апорай. Учапiўшыся адной рукой за балотную купiну, а другой трымаючыся за праваднiка, я стаяў па пояс у вадзе i думаў, што ж рабiць.

Крыкi палiцаяў, брэх сабак i стрэлы ўсё цiшэлi i цiшэлi.

— Пойдзем назад, пашукаем Валю, — прапанаваў я.

I тут выявiлася, што праваднiк страцiў арыентыроўку. Ён так заблудзiўся, што не ведаў, куды нам трэба iсцi.

Што рабiць? Ранiцай палiцаi наладзяць аблаву i зловяць нас. Трэба iсцi. Але ў якi бок? Я паспрабаваў абмацваць дрэвы ў надзеi на тое, што па iмху на ствалах вызначу поўдзень i поўнач. Але кара дрэваў была такая мокрая, што я хутка адмовiўся ад сваёй задумы. I зноў пачалося блуканне па лесе.

«Што б на маiм месцы зрабiў Якаўлеў? — падумаў я. — Ён не разгубiўся б. Ён абавязкова што-небудзь прыдумаў бы». I мне яшчэ больш стала крыўдна на самога сябе.

Зноў пачулiся стрэлы i брэх ганчакоў.

— Цi не здаецца вам, што там восъ праяснела? — паказаў я ў бок, адкуль данёсся сабачы брэх. — Значыць, блiзка свiтанне. Нам, як вiдаць, трэба кiравацца ў супрацьлеглы бок!

На самай жа справе нiякага прасвятлення не было. Па-ранейшаму вiсела нiзкае хмарнае неба, iмжыў дожджык i ў двух-трох кроках нiчога не было вiдаць. Праваднiку я паказаў, куды пойдзем, кiруючыся адным: хутчэй i далей ад гэтага праклятага месца.

Паводзiны праваднiка мне вельмi не падабалiся. Закралася нейкая непрыязнасць i нават падазрэнне. Далейшыя пошукi Валi ў гэтых умовах здавалiся мне вялiкай i нiчым не апраўданай авантурай.

— Так, так... пачынае свiтаць... Правiльна, нам трэба iсцi сюды, — неяк разгублена прагаварыў праваднiк.

I мы зноў бяжым па купiнах, праз балота.

— У-ухх!.. Стамiўся зусiм, — выбраўшыся на паляну, шэпча праваднiк. — Цяпер ясна. Не заблуджуся... Засталося прайсцi не больш, як кiламетры два, — усё гэтак жа сумна працягваў ён.

Лес радзеў. Дождж зусiм перастаў. Неба праяснiлася. Пачало свiтаць. Але праваднiк па-ранейшаму iшоў сумны...

Хутка мы апынулiся ля высокай агарожы нейкага сялянскага двара. Рухам рукi праваднiк даў мне знак спынiцца, а сам асцярожна адчынiў фортку i знiк за ёю.

Увесь прамоклы, вымазаны, я прытулiўся да агарожы i пачаў моўчкi, уважлiва аглядацца. Было цiха, бязлюдна. Над лугам, праз якi мы толькi што прайшлi, плылi хмары. У ранiшнiм змроку чарнеў лес, дзе мы правялi трывожную ноч. Там, дзе чарнелася лясная палоска, раптам зноў пачулiся стрэлы. I ў той жа час побач у кустах зашчабятала птушка. Так пачынаўся дзень — першы дзень самастойнага падпольнага жыцця.

Абапёршыся на плот, я прастаяў некалькi мiнут. Ад стомы злiпалiся вочы. Неўзабаве фортка бясшумна адчынiлася, i плячысты, гадоў пад сорак мужчына ветлiва прапанаваў зайсцi ў двор. Калi я апынуўся на двары, мужчына вышаў за агарожу i доўга прыслухоўваўся, азiраючыся па баках.

— Здаецца, усё ў парадку, — ласкава сказаў ён, праводзячы мяне на вышкi ў адрыну. — Тут вам прыдзецца пабыць да вечара.

Застаўшыся адзiн, я доўга не



мог апамятацца. Жудасныя падзеi ў лесе не давалi спакою. I чым больш я аналiзаваў iх, тым больш абуралi мяне паводзiны праваднiка.

Гаспадар прынёс мне старую свiтку i бялiзну з грубага сялянскага палатна.

— Вось пераапранiцеся. Ваша вопратка тым часам падсохне, — клапатлiва прагаварыў ён.

Сонца ўжо ўзнялося i касыя яго праменнi прабiвалiся скрозь шчылiны ў сцяне, калi ў адрыну зноў прыйшоў гаспадар.

— Там па дарозе цi не вашу дзяўчыну вядуць? — спытаў ён.

Горш за выбух бомбы было для мяне яго пытанне. Я прыпаў да шчылiны ў сцяне.

— Ды не туды глядзiце... Вось бачыце, за плотам, недалёка!..

На самай справе, па дарозе, якая праходзiла зусiм недалёка ад двара, iшла Валя, поруч з ёю двое з кайданамi на руках. Уперадзе ехаў коннiк, трымаючы ланцуг, якiм былi скаваны арыштаваныя. За iмi рухаўся конны атрад палiцыi. Калi яны праходзiлi мiма адрыны, выразна чуўся звон ланцуга... У гнеўнай нянавiсцi сцiскалiся ў мяне кулакi. Пякучым болем адзываўся ў сэрцы звон кайданоў.

З вышак я мог добра разглёдзець кожнага арыштаванага. Але ўся мая ўвага сканцэнтравалася на Валi. Я бачыў, як яна iдзе з горда паднятай галавой. Лёгкi ранiшнi ветрык пяшчотна шавелiць мяккiя кудзеркi, якiя выбiлiся з-пад хусткi. Калi б яна магла здагадацца, што я тут i бачу ўсё гэта, што б яна падумала?!. Мне стала вельмi крыўдна за сваю бездапаможнасць. Яшчэ раз я пералiчыў атрад карнiкаў, што вялi арыштаваных. Шаснаццаць апрычнiкаў маршала Пiлсудскага фанабэрыста гарцавалi на пародзiстых конях. «Адбiвайце арыштаваных», — гучалi ў маёй памяцi словы заклiку другой канферэнцыi камсамола, заклiку партыi.

— А што, калi напасцi на карнiкаў i адбiць арыштаваных? — спытаў я ў гаспадара, якi сядзеў побач са мною.

— Яно, вядома, паспрабаваць можна, але дарэмна, — сумна адказаў ён. — Бачыш, як яны ўзброены?.. А ў нас што?.. Дубiна. Не, нiчога не выйдзе. У нас жа няма таго дня, каб каго не арыштавалi...

Я застаўся адзiн з гневам у сэрцы i ваяўнiчымi думкамi ў галаве. Перш за ўсё я павiнен дабрацца да Вiльнi i перадаць сакратарыяту ЦК КСМЗБ усе даручэннi Якаўлева. Таму ў дарозе я не маю права нiдзе i нi пры якiх акалiчнасцях затрымлiвацца. Ноччу мне трэба быць на чыгунцы, а ранiцай на яўцы ў Вiльнi. Задача нялёгкая.

Усё даўно сцiхла — тупат падкоў i звон ланцугоў, а я ўсё яшчэ глядзеў на дарогу i думаў: «Чым дапамагчы Валi? Хто гэтыя два арыштаваныя, якiя iшлi побач з ёю? У любы час вось так могуць схапiць мяне i, закаванага ў кайданы, павесцi на пакуты!.. Не!.. Тысячу разоў не!.. Так не будзе! — паўтараў я сам сабе. — Гэтым узброеным бандам трэба супрацьставiць гнеў i абурэнне народнае».

...Цiха адчынiлiся вароты. Зноў прыйшоў гаспадар, у руках ён трымаў глiняную мiску з варанай бульбай.

— Прагаладалiся, мусiць? — спытаў ён, ставячы перада мною ежу. — Вось, калi ласка, ешце... Бульба маладая... Хлебца, даруйце, няма. Старое збожжа паны забралi, а новае яшчэ ў полi... Сала таксама няма...

— Нiчога, — адказаў я i прагна накiнуўся на бульбу, толькi цяпер па-сапраўднаму адчуўшы, як прагаладаўся. Бульба мне здалася вельмi смачнай.

Гаспадар моўчкi нaзiраў за мной.

— А цяпер пакаштуйце нашага самасаду, — i ён працягнуў мне прыгожа вышыты кiсет. — Тытунец добры. Учора за гэты самасад ва ўсiх нашых сялян апiсалi маёмасць... Паны хочуць, каб мы курылi iх манапольную махорку... I чаго толькi яны не прыдумваюць! Не паспееш прыехаць на кiрмаш, як адразу плацi капытковыя, рагатковыя. А тут яшчэ манапольны тытунь, запалкi...

Пакуль ён гаварыў, цыгарка яго

патухла. Ён паклаў недакурак у шапку і ўжо ласкава прагаварыў:

— Адну хвілінку... Пакуль вы скруціце сваю цыгарку, я збегаю агеньчыку пашукаю.

Аднак яго хвілінка працягнулася за гадзіну. Я ўжо страціў усякую надзею на тое, што ён прынясе абяцаны агеньчык. Пасля дажджу прыпарвала. Мяне пачало хіліць на сон. І я соладка заснуў. Але падпольшчык спіць, як той заяц, — вельмі чула. Дзесьці пачуліся крокі, і мой напружаны слых улавіў шоргат ля варот.

— Зачакаліся... Выбачайце... Не думаў, што так атрымаецца, — пачаў ён апраўдвацца. — Учора прыйшоў сусед да мяне і кажа: пазыч крэсіва, еду да млына. Ну як тут не пазычыць. А цяпер сам павінен бегаць па ўсёй вёсцы ў пошуках агню.

Я ў здзіўленні глядзеў на гаспадара. Пра што ён гаворыць? Прычым тут сусед, крэсіва?.. Тым часам адной рукой ён дастаў з кішэні старэнькі зашмальцаваны карабок, потым асцярожна выцягнуў з яго запалку і, уздыхаючы, прагаварыў:

— Больш, як на тры часткі, не падзеліш — сярнік асыпаецца...

Я маўчу. Цяпер мне зразумела, чаму ён затрымаўся. І ён даў волю словам:

— Праклятыя акупанты... сваімі манаполіямі да галечы давялі людзей. Падумаць толькі, запалак купіць нельга. Дарагоўля. Лучынай свецімся...

Я слухаў гэтае гнеўнае абурэнне селяніна супраць грабежніцкай палітыкі польскіх акупантаў на беларускіх землях і міжволі параўноўваў яго з выступленнямі дэлегатаў другой камсамольскай канферэнцыі. Ніякай розніцы... Быццам усе яны — і дэлегаты, і гэты селянін — згаварыліся між сабой і сцвярджалі адно і тое ж.

### На яўцы

У густым вячэрнім змроку патанула вёска. Не свецяцца ні адно акенца. Ні гуку. Усё заснула. Толькі за аселіцай на балоце крэкчуць жабы ды час-ад-часу выюць сабакі.

— Шчаслівай дарогі! — моцна сціскаючы маю руку, шэпча гаспадар і папярэджвае новага праваднікa:

— Праз вёску, божа барані, — не ідзі... Там можна сустрэць паліцыю, стральцоў, канфідэнтаў і наогул усякую погань... Пакуль гэты таварыш, — паказвае ён на мяне. — не сядзе ў поезд, не адыходзь... Зразумеў?..

— Не ўпершыню, — адказвае яму праваднік. — Усё зраблю, як трэба.

А гаспадар не сунімаўся:

— Скажаш мне, як дабраліся да станцыі. І адразу ж, як толькі вернешся!

— Добра. Абавязкова скажу... Але гэта ўжо будзе не сёння, а заўтра на досвітку. Поезд адпраўляецца толькі а другой гадзіне... А яшчэ колькі трэба ісці...

— Ну, добра. Спяшайцеся...

І мы пайшлі палявымі сцежкамі, цераз лугі і дубровы. Пайшлі проста, не азіраючыся, абыходзячы кожнае паселішча.

Як лёгка, як хораша адчувае сябе летняй ноччу чалавек у полі! Водар квітнеючых траў п'яніць галаву. Чыстае паветра распірае грудзі. Цёмны блакіт неба лашчыць вока. Прыгожая летняя ноч! Бадай, гэтую яе прыгажосць ніхто не можа так ацаніць, як падпольшчык. Вось ідзём мы з праваднікам па яры, затым узлескам, міма нейкага маёнтку, выйшлі на сцежку. Паабапал густое спелае жыта. Прыемны халадок бадзёрыць і асвяжае, дыхаецца лёгка.

Праваднік — яшчэ зусім малады хлапец, але даволі кемлівы і смелы. Ён ведае ўсё: дзе якая яма ці канава, праз які мосцік ці кладку лепш прайсці. Крочыць ён хутка, упэўнена, у той жа час чула прыслухоўваецца да кожнага шолаху, да шастання травы пад нагамі.

Да станцыі мы падышлі неяк непрыкметна. Была гэта глухая, маленькая чыгуначная станцыя. Тут мала хто садзіўся на поезд. Ды і стаяў ён тут не больш, як пяць мінут.



Я спакойна прайшоў міма паліцэйскіх, якія лянiва пахаджалі па пероне. З такім жа спакоем падышоў да касы. Мужчына ў форме чыгуначніка доўга пералічваў грошы, затым павольна падышоў да шафы, узяў у рукі чыгуначны білет, але перад тым, як адкампаставаць яго, чамусьці паглядзеў на мяне, перапытаў, куды еду, і потым толькі падаў яго мне. Ля касы, як і наогул у зальчыку, нікога з пасажыраў не было. Пад пільным позіркам касіра-чыгуначніка я адчуваў сябе як артыст-дэбютант на сцэне. Тым не менш, сваю ролю я выконваў спакойна і ўпэўнена. Я ўзяў чыгуначны білет, уважліва праверыў яго, потым, не спяшаючыся, пачаў пералічваць рэшту. Касір-чыгуначнік лянiва пазяхнуў, а потым адвярнуўся ўбок, але прагягваў сачыць за мной. У гэты час, гучна размаўляючы, у станцыю ўвайшлі нейкія два таўсцякі. Яны падышлі да касы і пачалі распытваць, ці хутка прыдзе поезд, калі ён адправіцца, а якой гадзіне прыбудзе ў Вільню. Я выкарыстаў гэта і хутчэй пайшоў. Пад ліпамі, каля станцыі мяне чакаў праваднік.

— Вы можаце цяпер спакойна ісці дамоў. Білет у кішэні, — і я працягнуў яму руку, каб развітацца.

— Не, не. Я пайду толькі тады, калі вы сядзеце ў вагон і поезд кранецца, — безапеляцыйна заявіў ён.

Мне было прыемна, хоць і не без рызыкі, праводзіць разам мінуты ў чаканні поезда. Прыемна было, абапёршыся аб дрэва, стаяць побач з добрым сябрам-праваднікам, адчуваць яго моцнае плячо, роўнае, спакойнае біццё яго сэрца. Міжволі думкі круціліся вакол аднаго: вось ён хутка пойдзе, я застануся сам у гэтым чужым, варожым свеце. Нікога цяпер у мяне няма. І еду я ў невядомы горад. Валі — маёй надзейнай спадарожніцы — няма. Што мяне там чакае?.. І праваднік у гэтую мінуту быў самым блізкім і родным чалавекам. Мне хацелася сказаць яму што-небудзь асабліва прыемнае, каб ён гэта адчуў, зразумеў. У мяне проста язык свярбеў сказаць яму, што калі я не знайду камсамольскай арганізацыі ў Вільні, то абавязкова вярнуся назад да яго. Але ж я не меў права гэтага зрабіць, і я маўчаў. не знаходзячы слоў нават для самай простай размовы. Перад самай пасадкай у поезд я заўважыў, што і ён нешта хоча мне сказаць, але, як добры канспіратар, таксама маўчыць. І мы развіталіся без слоў, як вельмі блізкія сябры, камсамольцы-падпольшчыкі, абмяняўшыся толькі моцным поціскам рук.

Поезд крануўся з месца так ціха і ішоў так плаўна, што цяжка было адрозніць — стаіць ён ці рухаецца. І толькі тады, калі набраў скорасць, калі застукалі колы па рэйках, я ажыў душой: небяспека мінула.

Але на сэрцы было неспакойна. Я застаўся адзін-адзінюткі. У вагоне — некалькі пасажыраў. Хто яны — цяжка сказаць. Сядзяць, звесіўшы насы, дрэмлюць. Я таксама зрабіў выгляд, што драмлю. А поезд імчыць і імчыць... Спыніцца на якім-небудзь паўстанку ці станцыі і зноў наперад.

Світанак надышоў зусім непрыкметна. Настала раніца. Пасажыры працягвалі санліва ківаць галовамі і драмаць.

З набліжэннем да Вільні ў поездзе пачалося ажыўленне. Павялічылася колькасць пасажыраў. Ужо ніхто не спаў. Ва ўсіх купэ вяліся дарожныя размовы.

Вось і Вільня.

Усе натоўпам накіраваліся да выхаду. Я ўспомніў параду Якаўлева: пры выхадзе са станцыі нічога ні ў кога не пытацца, а ісці за натоўпам. Так я і зрабіў. І вось у патоку я іду па тунелю, падымаюся па лесвіцы, уваходжу ў вакзал, адтуль накіроўваюся на прывакзальную плошчу. Іду проста, не спяшаючыся, спакойна гляджу па баках, так, як гэта робяць усе, хто ідзе са мною побач. Складаю план свайго маршруту. Яшчэ з прыступкаў вакзала я ўбачыў вуліцу Шапэна. Там, у некалькіх кроках, — гэта я добра сабе ўяўляю, — Вялікая Стэфаноўская і побач з ёю — Малая Стэфаноўская. Там яўка, дзе я павінен быць праз некалькі мінут.

На прывакзальнай плошчы шмат паліцэйскіх, мноства штатных чы-

ноўнікаў, як відаць, агентаў тайнай паліцыі. Усе яны з падкрэсленай увагай прыглядаюцца да кожнага, хто праходзіць міма. Я пачынаю хвалявацца. Чую, як дрыжаць рукі, на твары выступае пот. Я іду і адчуваю на сабе іх пранізлівыя позіркі. Ці не заўважылі яны маё хваляванне і ўжо чакаюць мяне, каб схапіць?.. «Трымайся, — кажу я сабе. — Які з цябе падпольшчык, калі ты пачынаеш кіснуць?» Да мяне вяртаецца спакой. Іду, не звяртаючы ўвагі на тое, што робіцца навокал.

У агульнай людской плыні цяжка разабрацца, ці не ідзе за табой тайны агент. Але не пераканаўшыся ў тым, што ніхто за табой не сочыць, на яўку ісці нельга.

Я пачынаю сябе правяраць. Спачатку іду па вуліцы Шапэна, потым паварочваю на Вялікую Стэфаноўскую, пераходжу на другі яе бок. Выходжу на вуліцу Завальную, затым на Малую Стэфаноўскую.

Горад прачнуўся. Бойкія хлапчукі-газетчыкі, памахваючы лістамі, стараюцца перакрычаць адзін другога:

— Хто хоча ведаць, як атруцілася Ванда Яблонская... — купляйце «Дзеннік Віленскі»... «Дзеннік Віленскі»...

— Дзядэк Пілсудскі прыехаў у Вільню!.. «Кур'ер Віленскі»... «Кур'ер Віленскі»...

— Літоўцы пагражаюць палякам... «Газета Польска»... «Газета Польска»...

— Яўрэйскія пагромы ў Германіі!.. «Газета Варшаўска»...

— Арышты камуністаў у Кракаве, Варшаве, Познані... «Кур'ер-цодзенны»...

— «Слова»... «Слова»... Суд над агентамі Камінтэрна!..

Некалькі мінут я бадзяўся па горадзе і ўсё правяраў, ці не ідзе за мной які-небудзь тайны агент паліцыі. Вышаў у трэці раз на Завальную, спыніўся ля вітрыны магазіна, цікаўлюся таварамі, якія выстаўлены там. На самай жа справе, я яшчэ і яшчэ раз правяраю. Нарэшце пераконваюся, што ўсё ў парадку, што за мной ніхто не сочыць, і хуценька скіроўваюся на партыйную яўку.

Яшчэ здалёк я ўбачыў вялікую шыльду: «Майстэрня бляшаных вырабаў». Іду павольна міма яе. Праз адчыненыя дзверы стараюся разгледзець, ці няма там каго-небудзь лішняга. У кутку майстэрні малады майстар нешта кляпаў. Больш там нікога не было. Цудоўна. Усё як не трэба лепш. І я, радасны, пераступаю парог.

— Ці магу я бачыць пана Юзака? — гавару першыя словы пароля.

— Што?.. Якога Юзака?.. Ідзі адсюль,— рэзка адказвае мне майстар.

Ад яго слоў у мяне прабег халадок па ўсім целе.

— Калі Юзака яшчэ няма, дык можа дазволіце яго пачакаць, — спрабую я крыху згладзіць непрыемнае ўражанне ад пачутых слоў.

— А што вам трэба ад Юзака? — не мяняючы тону, пытаецца ён.

— Я хачу яго бачыць...

— ...і перадаць прывітанне ад Серафіма? — злосна ўсміхаючыся, перапыняе ён.

Нібы столь абрушылася мне на галаву. «Перадаць прывітанне ад Серафіма», — гэта словы пароля. Значыць, ён іх ведае. Чаму ж ён паводзіць сябе так задзірліва?.. Я нічога не разумею. Акрамя нас дваіх, у майстэрні нікога няма. Я ў роспачы. Тым не менш спрабую высветліць, у чым справа. Але ён нічога не хоча слухаць. Бачачы, што я маруджу з адказам, ён падыходзіць да мяне са сціснутымі кулакамі:

— Зараз жа пакінь мяне ў спакоі, бо я паклічу паліцыю. Хопіць з мяне ўсяго гэтага... Юзака пасадзілі ў турму, а я не хачу ісці туды!..

Цяпер усё зразумела. Я зайшоў на скампраметаваную яўку. І мне нічога не застаецца, як толькі адно — хутчэй пайсці. Дзякую за тое, што ён усё ж, хоць і ў гневе, але папярэджвае мяне аб небяспецы. Я гэта адчуваю ўсёй сваёй істотай. Але мне хочацца даведацца аб



прычыне арышту Юзака. І я раблю апошнюю спробу:

— Магчыма, вам патрэбна якая-небудзь дапамога, я гатоў замяніць вам ва ўсім Юзака, — гавару я і, не чакаючы адказу, пытаюся:

— Калі арыштавалі Юзака?

— Тры дні таму назад, але да ўчарашняга вечара тут сядзела паліцыя і чакала, ці не прыйдзе хтонебудзь з вас... Уцякай жа хутчэй!. Уцякай!.. — ужо не крычыць, а просіць ён.

З майстэрні я выходжу, не спяшаючыся, уважліва гляджу навокал, ці няма каго на вуліцы, ля майстэрні. Затым, усё гэтак жа не спяшаючыся, з важным выглядам, іду ў вузкі завулак, які злучае Вялікую Стэфаноўскую з Малой Стэфаноўскай, а адтуль — на вуліцу Рудніцкага. І вось зноў я блукаю па вузкіх, крывых і шумных вуліцах і завулках незнаёмага горада. Што рабіць? У мяне ёсць запасная яўка. Якаўлеў сказаў, што выкарыстаць яе я павінен толькі ў выключным выпадку. А раптам і там мяне не прымуць? Што тады?

Моцна заныла сэрца. У роце зусім перасохла. Я ўспомніў аб тым, што яшчэ нічога не еў, і вырашыў зайсці ў кафэ паснедаць.

У мяне толькі дваццаць злотых. Гэтых грошай можа хапіць на тры-чатыры дні.

Стрэлка гадзінніка ўжо набліжалася да дванаццаці, калі я зайшоў у кафэ. У зале нікога не было. Таму, як толькі я прысеў ля століка, да мяне адразу ж падышла чыста апранутая, прыгожая дзяўчынаафіцыянтка і ветліва спытала:

— Што жадаеце? Ёсць гарачыя сасіскі, кава, чай — гаварыла яна так прыемна і так паслужліва, што ў самага неахвочага да ежы адразу паявіўся б апетыт. Гэтыя свае якасці дзяўчына, як відаць, добра ведала і, вядома, была здзіўлена, калі я заказаў толькі булачку і дзве шклянкі чаю.

За гэтым сваім скромным сняданнем я сядзеў больш гадзіны. Уласна кажучы, не столькі еў, колькі думаў, што ж мне рабіць.

З кафэ я адправіўся на запасную яўку. Яўка была на вуліцы Нямецкай, у саматужніка-шаўца. Перад тым, як зайсці ў майстэрню, я гэтак жа ўважліва прыгледзеўся да ўсяго наваколльнага і толькі тады пераступіў парог.

Пажылы шавец, — гаспадар яўкі, высокі, пышнавалосы, з сівізной на скронях, — моўчкі выслухаў пароль, затым дапытліва абвёў мяне з ног да галавы і, як мне здалося, усміхнуўся вачыма. Нічога не гаворачы, раптам вышаў з майстэрні. Я застаўся адзін і быў вельмі здзіўлены. Праз некалькі мінут ён вярнуўся. Аказваецца, ён выходзіў на вуліцу праверыць, ці не прывёў я каго за сабой.

— Час трывожны... У горадзе кожны дзень арышты, — прагаварыў ён як бы сам да сябе. Потым падышоў да мяне, працягнуў руку і даверліва сказаў: — Што мне з вамі рабіць? Як абысціся?..

— Што гэта значыць?

— Пароль цяпер іншы... Ты прышоў па старым паролю. Цяпер твой несапраўдны, а значыць, я не павінен цябе прымаць...

— Прабачце, я нікуды ад вас не пайду... Рабіце, што хочаце. Ды і ісці мне няма куды, — сядаючы на шавецкае крэсла, рашуча заявіў я.

Шавец задумаўся. Я не зводзіў з яго вачэй.

— Не, хлопча, ідзі ты сваёй дарогай. Прыняць цябе я не маю права, — пасля доўгага роздуму сказаў шавец і глыбока ўздыхнуў. Відаць было, што ён у разладзе з самім сабою.

— «Сваёй дарогай»... Вось я і прышоў сюды. І нікуды я ад вас цяпер не пайду... Разумееце, не пайду!.. Мне няма куды больш ісці... Калі змянілі пароль? — спытаў я.

Шавец не адказаў на маё пытанне.

— Ну што ж! — кідаючы на стол драўляную калодку з нацягнутым жаночым чаравікам, сказаў ён. — Да высвятлення заставайся. Пайшлі!

Ісці прышлося недалёка. Кватэра шаўца знаходзілася ў тым самым доме, дзе была яўка.

### Хваля арыштаў

Мінула восем дзён. Я адседзеў іх у шаўца ў маленькім пакойчыку, які служыў сталовай і спальняй на трох чалавек. На яўку да яго ніхто не прыходзіў. Але шавец не хвалюваўся:

— Прыдуць... Прыдуць абавязкова, — суцяшаў ён мяне.

Штодзённа ён прыносіў мне ўсе польскія газеты. Увечары, як правіла, заводзіў са мной гутарку. Пачынаў яе з якога-небудзь расказа аб тым, што здарылася ўчора або сёння. І асабліва любіў слухаць аб Савецкім Саюзе, аб забастоўках у Польшчы. Мне прыемна было з ім гутарыць. Часта шавец вяртаўся да тэмы: калі ў нас, у Польшчы, у Заходняй Беларусі, будзе рэвалюцыя.

— У адозвах камуністы заклікаюць да адпору паліцыі. А як гэта зрабіць, калі такі тэрор... Ды і дзе здабыць зброю? — пытаўся ён. — Не, не, тут нешта не так, — звычайна адказваў ён сам на сваё пытанне. І не чакаючы, як я буду на гэта рэагаваць, прадаўжаў:

— Або вось у апошнія гады камуністы Заходняй Беларусі выставілі лозунг: самавызначэнне Заходняй Беларусі аж да аддзялення ад Польшчы і далучэння да Савецкай Беларусі. Правільны лозунг... Але не час яшчэ... Гэта ж факт, што за прыналежнасць да камуністычнай партыі ў Польшчы даюць ад двух да трох год, а ў нас — не менш чым пяць год. А колькі камуністаў ужо аб'яўлена шпіёнамі і адпраўлена на шыбеніцу?! Вось такія, як Недзялкоўскі, Чапінскі — з ППС, або, напрыклад, Адлер з Бунда — яны могуць быць сапраўднымі палітыкамі. Яны могуць легальна працаваць, і адважваюцца нават крытыкаваць урад Пілсудскага.

— І ўмеюць адкрыта здрадзіць працоўнаму народу, — перапыніў я яго. — А камуністы гэтага рабіць не могуць. Яны ідуць на шыбеніцы, на цяжкія пакуты за народ, за яго волю!

Мая рэпліка шаўцу не спадабалася. Ён змоўк, узняў на мяне свой стомлены позірк і вышаў з пакоя.

«За што ён пакрыўдзіўся? — думаў я. — Гэта ж горкая праўда». І тут я ўспомніў, як у першы дзень нашага знаёмства ён расказаў мне, што яго суседзі і родны брат у Бундзе. Цяпер для мяне стала зразумела, які яны мелі на яго ўплыў. Так, я пагарачыўся. Я, вядома, павінен быў выслухаць да канца ўсе яго патаемныя думкі і растлумачыць усё гэта інакш. Я ўжо збіраўся папрасіць прабачэння ў шаўца і меў намер шчыра сказаць яму, што не хацеў зняважыць яго перакананні, як раптам дзверы майго пакоя адчыніліся.

— А я што вам гаварыў? Чакайце. Прыдуць. Вось і дачакаліся. Гэта да вас прыйшлі, — паказаў ён на дзяўчыну, якая ўвайшла за ім.

Шавец быў у тую мінуту непазнавальны. Ён увесь змяніўся. Твар яго свяціўся шчырай усмешкай.

— Вы прабачце, — пачаў быў я, але шавец не хацеў мяне слухаць.

— Калі-небудзь другім разам прадоўжым нашу размову. Цяпер і мне і вам некалі. Я таксама спяшаюся, — падаючы руку, сказаў ён.

Высокая, стройная дзяўчына моўчкі назірала за намі і толькі тады, калі шавец зачыніў за сабою дзверы, спытала:

— Пеця? Вось і добра! Нарэшце мы дачакаліся цябе.

Ад радасці я не ведаў, што рабіць, з чаго пачаць сваю размову. Але яна, як відаць, маю збянтэжанасць зразумела інакш і паспешліва назвалася:

— Мяне завуць Зоха... Член сакратарыята ЦК КСМЗБ. Калі ёсць якія тэрміновыя навіны, дык, калі ласка, можаце іх мне перадаць.

Нахлынуўшыя пачуцці радасці былі такія вялікія, што я проста анямеў і не мог сказаць слова. Зоха адчула няёмкасць і пачала распытваць, як маё самаадчуванне, як я дабраўся, ці адразу знайшоў яўку.

І калі я коратка расказаў ёй усю



падарожную гісторыю і што на яўцы я сяджу ўжо восем дзён, яна цяжка ўздыхнула.

— У нас вялікія непрыемнасці. У акругах арышты... І, у дадатак да ўсяго, арыштавалі сакратара ЦК КСМЗБ Кліма. — Паехаў са справаздачай у Варшаву, там яго і ўзялі...

Вестка аб арышце Кліма мяне вельмі ўзрушыла і засмуціла. Клім узначальваў сакратарыят ЦК КСМЗБ толькі два месяцы. Гэта быў карэнны варшавяк. На канферэнцыі ён не прысутнічаў.

— Шчыра кажучы, — працягвала Зоха, — важна не тое, што яго арыштавалі, а тое, што ён уцёк...

— Гэта нешта неверагоднае! — вырвалася ў мяне.

— Так, так, уцёк! Я сама, на ўласныя вочы чытала ў варшаўскіх газетах аб гэтым, — расказвала яна. — Тыдзень таму назад яго пасадзілі ў турму на Макатове. І вось з турмы выклікалі да следчага. Калі яго вялі па вуліцы, ён выкарыстаў вулічны рух і ўцёк. Так літаральна пісалі ў газетах.

— І не злавілі? — спытаў я.

— Не... Мы са свайго боку ўжылі ўсе меры перасцярогі. Магчыма, ён уцёк, карыстаючыся выпадкам, але мы змянілі ўсе яўкі, якія ён ведаў, «завесілі» іх. Адхілілі ад работы сувязную... Новай сувязной яшчэ няма, і таму, парушаючы некаторыя прынцыпы канспірацыі, я вымушана была сама прысці сюды на яўку... Ішла, вядома, асцярожна... Дык, кажаце, восем дзён сядзелі тут на яўцы? — мяняючы тэму размовы, спытала яна раптам.

— Уявіце сабе, восем дзён... — адказаў я і ў сваю чаргу спытаў: — А вы не ведаеце, чаму мяне не прынялі на партыйнай яўцы?

— Амаль штодзённа арышты. Цяпер яны нікога не прымаюць, — з сумам у голасе адказала дзяўчына.

Ужо адыходзячы, падзякавала шаўцу за ўвагу да мяне і прагаварыла:

— Цудоўны чалавек. Як добра, што ён не пабаяўся прыняць цябе і так доўга трымаць у сябе на кватэры. Малайчына!

Зоха выглядала не больш як на 25 гадоў. Была гэта прыгожая, з мяккімі рысамі твару дзяўчына. Над чорнымі вачыма, якія свяціліся нейкім асаблівым бляскам, звісалі доўгія вейкі. У дробных маршчынках ля вачэй таіліся роздум і пастаянная трывога. Гэтая знешняя характэрная рыса твару ўласціва ўсім падпольшчыкам.

— Паспяшаемся. Нас чакае новы сакратар ЦК КСМЗБ — Змітро. Будзеце ісці за мной на адлегласці прыкладна 30 метраў. Не азірайцеся. А наогул нам недалёка...

І мы пайшлі па крывых, вузкіх вулачках Вільні. На кожным павароце Зоха непрыкметна паверне галаву ўбок, кіне позірк назад, паглядзіць, ці не страціў я яе з поля зроку, і зноў крочыць далей. Я ў сваю чаргу пільна сачу за тым, як у натоўпе маладых жанчын і дзяўчат мільгаў модны капялюшык Зохі. Неўзабаве Зоха сцішыла крокі, калі я наблізіўся да яе, зайшла ў парадныя дзверы трохпавярховага дома на Завальнай.

Па крутой лесвіцы падымаўся і я, не чуючы ног. Была гэта першая канспіратыўная кватэра, куды я ўваходзіў. Я не лічыў прыступкаў, не заўважаў, колькі прайшоў паверхаў. Я думаў пра сустрэчу са Змітром. Высока, недзе аж пад самым дахам, дзверы адчыніліся, і не паспеў я пераступіць парог пакоя, як на шыі ў мяне павіс Змітро. У Вільню ён прыехаў таксама адразу з канферэнцыі, толькі на некалькі дзён раней. Ён паспеў трапіць на партыйную яўку да таго, як яе «завесілі».

— Нам, Пеця, яшчэ пашанцавала, — прысаджваючыся побач са мною на шырокім услоне, сказаў ён. — А вось мой блізкі сябар Андрэй загінуў. Мы былі разам з ім на нарадзе партыйнага актыву. Па дарозе ён натрапіў на засаду. Як заўсёды ў такіх выпадках, кінуўся ўцякаць. Паліцыя адкрыла агонь. Усё было б добра, але па дарозе была рака. Андрэй кінуўся ў ваду. Яму ж нічога больш не заставалася. І шалёная паліцэйская куля на-

паткала яго ў рацэ... Вось так і загінуў ён. Шкада... Добры быў хлопец... Мой стары, неразлучны сябар. Паверыш, калі мне паведамілі аб яго гібелі, я плакаў.

Зоха сядзела насупраць і моўчкі назірала. Змітро некаторы час маўчаў. Звесіўшы галаву, ён аб нечым засяроджана думаў, потым дастаў папяросу.

— А Сашу ты не забыў? — раптам спытаў ён.

— Як можна за такі кароткі час яго забыць?! — Мы ж з ім сустракаліся на нарадзе.

— Ён таксама загінуў... Але загінуў крыху інакш. Калі ехаў з нарады, паліцыя арыштавала яго. Пачаліся катаванні. Мучылі доўга. Іголкі засоўвалі пад пазногці, гарачае жалеза прыкладалі да пятак і білі да смерці.

— Ты мог аб усім гэтым расказаць крыху пазней, — перапыніла яго Зоха.

— Безумоўна, мог бы... Але, разумееш, калі траціш, і прытым траціш назаўсёды дарагіх, любімых сяброў, — маўчаць немагчыма. Ва ўсякім разе прашу, Зоха, прабачыць мяне за слабасць.

Змітро глыбока зацягнуўся папяросай, устаў і пачаў хадзіць па пакоі. Пакой быў маленькі, пусты, і таму здаваўся яшчэ больш пануры.

— Добра, не будзем больш траціць час, — спыніўшыся каля круглага століка, сказаў ён. — Пачнём пасяджэнне сакратарыята...

## У падполлі!

Гэта было першае пасяджэнне сакратарыята Цэнтральнага Камітэта Камуністычнага Саюза Моладзі Заходняй Беларусі, у якім я прымаў удзел. Старыя яго члены — Мартын, Зазуля, Роберт атрымалі водпуск. Пасля яны павінны былі пайсці на партыйную работу. Новы склад сакратарыята — Змітро, Зоха і я — пачаў сваю работу ў вельмі складанай абстаноўцы. Толькі Зоха мела некаторы вопыт арганізацыйнай работы ў падполлі. Ні



Іван Малец, падпольная клічка «Змітро».

Змітро, ні я не маглі гэтым пахваліцца.

— З чаго пачнем? Што будзем рабіць? Кіраўніцтва ў многіх акругах і раёнах арыштавана. Сувязь ёсць толькі з Віленскім і Беластоцкім акругкомамі... Кватэр няма. Калі б мы і хацелі каго прыняць, то не можам. Што рабіць? — заклапочана сказаў Змітро.

— Пытанне пастаўлена даволі канкрэтна, — у тон яму, але зусім нязпэўна адказала Зоха.

— А што, па-твойму, трэба нам цяпер зрабіць? — працягваў Змітро. — Буржуазныя газеты ты, вядома, чытаеш. Іх старонкі штодзённа запаўняюцца тым, што камуністычная партыя і камсамол ужо ліквідаваны. І на самай справе становішча ў нас вельмі цяжкае. Але я думаю, што ўсе гэтыя прадажныя пісакі яшчэ пашкадуюць, што так пішуць... Мы ім яшчэ пакажам!..

— Пакуль мы ім, дык яны нам паказалі ўжо, — з горкай усмешкай заўважыла Зоха.

Я маўчаў. Становішча сапраўды было складанае, але, як мне здавалася, не бязвыхаднае. Параіць штонебудзь канкрэтнае я не мог і таму маўчаў.



— Магчыма, на некаторы час нам трэба пераехаць з Вільні ў Варшаву? — нясмела і нерашуча прапанавала Зоха. — Кватэр у нас цяпер няма. Сувязной таксама няма. Навошта ж нам, як кажуць, лезці на ражон?

— Не, не... Я катэгарычна пярэчу! — запратэставаў Змітро.

— Дык што, па-твойму, сядзець тут і чакаць, пакуль нас усіх арыштуюць?! Марудзіць больш няма чаго, — ускіпела Зоха. — Я ж прапаную пераехаць у Варшаву на некаторы час. А падшукаем тут, у Вільні, кватэры, тады зноў вернемся...

— Калі ты так настроена, то, вядома, едзь у Варшаву, а я з Пецем застануся тут, — адрэзаў Змітро.

— Гэта крайнасці, — запратэставала Зоха. — Няўжо я не магу выказаць сваю думку?! Быў жа час, калі наш сакратарыят знаходзіўся ў Варшаве.

— Было ды сплыло, — зноў перапыніў яе Змітро.

— Чакайце, навошта спрачацца? Давайце лепш абмяркуем, як ажыццявіць у нашых умовах дырэктыву партыі — глыбей у падполле. Гэта, між іншым, сказана і ў рашэннях другой камсамольскай канферэнцыі, — вельмі нясмела і нерашуча прапанаваў я.

Думка Зохі мне таксама не падабалася. Я быў супраць таго, каб сакратарыят ЦК КСМЗБ пераязджаў у Варшаву.

— Глыбей у падполле — гэта значыць узмацніць канспірацыю і быць бліжэй да мас, — адгукнуўся Змітро. — Практычна для нас гэта азначае, як можна хутчэй звязацца з усімі тымі камсамольскімі арганізацыямі, ад якіх мы цяпер адарваны. Нялёгка гэта, але лягчэй і зручней, чым з Варшавы.

Спрэчка неўзабаве набыла вельмі дзелавую форму. Змітро, як кіраўнік пасяджэння, па чарзе прадастаўляў кожнаму з нас слова, выказваўся сам. Зоха больш нават і не ўспаміала аб пераездзе сакратарыята ў Варшаву.

Густыя змрокі ўжо ахуталі наш пакой, а мы ўсё яшчэ абмяркоўвалі, што значыць для нас — для сакратарыята ЦК КСМЗБ — глыбей у падполле. Ад агульных разважанняў мы перайшлі да канкрэтных прапаноў. Зоха выказалася за тое, каб сакратарыят дазволіў ёй выехаць у Брэст і Слонім. Ёй здавалася, што па старых сувязях яна зможа ўстанавіць кантакт з камсамольскімі арганізацыямі гэтых акруг. Змітро гатоў быў паехаць у Гродна. Я, у сваю чаргу, выказваўся за стварэнне трывалай базы для работы сакратарыята ў Вільні. Нашы выступленні мелі вельмі агульны характар. У іх было шмат умоўнага. Але важна было, што мы гарэлі жаданнем працаваць па-новаму. Зоха некалькі разоў шкадавала, што паспяшалася з прапановай пераехаць у Варшаву. Вядома, у кожнага з нас, асабліва ў мяне, было шмат незразумелага, адчувалася няўпэўненасць адносна сапраўднага становішча самога сакратарыята. Мяркуючы па тону буржуазных газет, можна было рабіць вывад, што паліцыя ўпэўнена ў канчатковым разгроме камсамола, у ліквідацыі Цэнтральнага Камітэта камсамола Заходняй Беларусі. І на самай справе, пасля масавых арыштаў у камсамоле і партыі ЦК КСМЗБ не падаваў аб сабе ніякіх чутак нават для сваіх камсамольскіх арганізацый. Арышт сакратара ЦК Кліма, яго легендарныя ўцёкі стварылі няпэўную абстаноўку для самога сакратарыята.

— Цяпер, у гэтых умовах, мы не можам, не павінны, нарэшце, мы не маем права зрабіць які-небудзь лёгкадумны, непрадуманы крок, — гаварыў Змітро.

І ён казаў праўду. Мы былі з ім поўнасцю згодны. Але кожны з нас, у тым ліку і сам Змітро, ставіў пытанне: што рабіць? як быць?

— Прадоўжым абмеркаванне гэтага пытання заўтра, — прапанаваў Змітро. — Давайце лепш падумаем, лепш прааналізуем абстаноўку, якая стварылася. Збярэмся, вядома, тут. У другім месцы, уласна кажучы, няма чаго збірацца.

Кватэры для правядзення пасяджэнняў сакратарыята ў нас няма. Пятру прыдзецца некаторы час жыць тут, на гэтай кватэры... А вось і сама гаспадыня, — паказаў ён рукой на дзяўчыну, якая ўвайшла ў пакой, каб запаліць святло. — Рэня, вы, здаецца, яшчэ не знаёмы з Пецем. Калі ласка!..

Запаліўшы святло, яна пільна паглядзела на мяне і, не спяшаючыся, працягнула руку.

— Што ж, будзем знаёмы. Рэня, — ціха і, як мне здалося, сарамліва назвала яна сваё імя.

— Рэнечка, паміраем з голаду. Ці няма чаго-небудзь паесці? — кідаючыся ёй на шыю, умяшалася ў гутарку Зоха. — Мы ж сёння яшчэ не абедалі.

— Для выратавання паміраючых што-небудзь знойдзецца, — у тон ёй жартаўліва адказала Рэня і выйшла.

— Цудоўная дзяўчына... Бязмежна аддана нам, — заўважыў Змітро, калі гаспадыня выйшла. — Гімназію скончыла і разам са сваёй сяброўкай Алай, такой жа цудоўнай дзяўчынай, як яна сама, стала мадысткай.

На мяне Рэня зрабіла моцнае ўражанне. І мне было прыемна слухаць добрыя водгукі аб ёй, хоць я яе зусім не ведаў. Калі яна зноў увайшла ў пакой і пачала накрываць стол, мне вельмі хацелася пачаць з ёю размову. Хацелася хутчэй перакanацца ў тым, якой карыснай яна можа быць для нас у гэтых цяжкіх умовах. Але я не ведаў, з чаго пачаць размову.

Не ведаю, заўважыла Рэня гэта ці не, зразумела яна маё жаданне, ці проста яна накрывала стол гэтак павольна, як і заўсёды, аднак, выкарыстаўшы яе маруднасць, я сказаў:

— Мне здаецца, што я вас, Рэня, дзесьці бачыў. Прабачце, калі памыляюся.

— Наўрад ці вы маглі мяне недзе бачыць... Далей Вільні я нідзе не была, — ні то апраўдваючыся, ні то адмаўляючыся, сказала Рэня.

— Выходзіць, я памыліўся.

Зоха і Змітро засмяяліся. Рэня кінула пагардлівы позірк у мой



**Рая Левіна-Ліберман, падпольная клічка «Рэня».**

бок, ад якога, як мне здалося, у мяне пачырванелі вушы, і паспяшалася за дзверы пад выглядам, што ёй трэба на кухню.

— І зусім дарэмна смеяцёся, не разумееце... — апраўдваўся я.

— А што тут разумець? — не сунімаўся Змітро. — Усё, брат, зразумела... «Дзесьці бачыў»... — хапаючыся за жывот, смяяўся ён.

— Я не чакаў, што ты, Змітро, такі дзівак, — вырвалася ў мяне.

Зоха адразу ж перастала смяяцца. Сціх і Змітро.

— Ды ты не крыўдуй... Мы ж жартуем, — загаварыла Зоха.

— І зусім я не крыўдую... Я толькі гавару, што смеяцёся дарэмна, — сцвярджаў я. — Магу вам сказаць, што я меў намер спытаць яшчэ ў Рэні: ці мае яна сваякоў, хто яе знаёмыя, сяброўкі...

— Мы ўсё гэта самі добра ведаем, — спыніла мяне Зоха. — З родзічаў і сваякоў у Рэні адна толькі маці. А вось знаёмых і сябровак у Рэні сапраўды многа. І ўсе яны такія ж цудоўныя, як і яна сама.

— Вось іх і трэба выкарыстаць нам, — адказаў я.



— Бадай, гэта ідэя... Прабач, Пеця. Я зразумеў цябе, — раптам зусім сур'ёзна загаварыў Змітро.

— А калі зразумеў, значыць, добра, — радуючыся, заўважыў я. — Вось нам і выратаванне на першы раз.

— На самай справе, пры дапамозе Рэні і яе сябровак мы зможам знайсці сабе новыя кватэры і ўстанавіць сувязі з многімі добрымі людзьмі, — працягваў Змітро. — Як гэта мы раней не дадумаліся? Рэня ж мае шырокія і самыя трывалыя сувязі з лепшай часткай інтэлігенцыі горада.

Зоха падтрымала яго:

— І я даўно кажу, што Рэня для нас самы каштоўны чалавек. Яна добра ведае многіх настаўнікаў, урачоў, адвакатаў. Пры яе дапамозе мы зможам атрымаць кватэры ў дробных купцоў.

І ў нас зноў успыхнула ажыўленая размова. Перапыняючы адзін аднаго, уносілі мы прапановы, дзяліліся думкамі, як і з чаго пачаць.

— Трэба будзе адну з сябровак Рэні зрабіць нашай сувязной, — прапанаваў Змітро.

— Нам і тэхнік, і кур'ер патрэбен, — падтрымала яго Зоха. — Але не забывайце, што Рэня, як і яе сяброўкі, не маюць ніякага вопыту. Яны ўсяго толькі нашы сімпатыкі. Яны не камсамолкі, не камуністкі. І многага ад іх, асабліва цяпер, у гэтых цяжкіх для нас умовах, патрабаваць нельга. Адным словам, у адносінах да іх трэба дзейнічаць прадбачліва і асцярожна. Я прапаную заўтра на пасяджэнне сакратарыята запрасіць Таню — нашага інструктара па антываеннай рабоце. Яна добра ведае ўсіх сябровак Рэні. І яе думка для нас можа мець вельмі вялікае значэнне.

Размова і пытанні, якія ў ёй закраналіся, захапілі нас. Калі Рэня вярнулася забраць пасуду, дык убачыла, што на стале ўсё стаяла некранутае.

— Нясмачна? — здзіўлена спытала яна. — Або не хочаце есці?..

— О не, Рэнечка, мы тут так загаварыліся, што забыліся пра ўсё, — ласкава сказала Зоха.

Адыходзячы, Зоха папрасіла Рэню:

— У Пеці няма знаёмых у Вільні. Пагавары з мамай, каб яна дазволіла яму на некалькі дзён застацца ў вас... Я прыду заўтра з самага ранку.

— Мама не будзе пярэчыць. Калі ласка, няхай застаецца ў нас. Мы будзем вельмі рады яму, — адказала Рэня.

І на самай справе, Рэня і яе маці абыходзіліся са мной, як з блізкім і дарагім госцем.

Раніцай прыйшла Таня. Гэта была бялявая, з прыгожымі блакітнымі вачыма дзяўчына. Ёй было не больш як год васемнаццаць. Яна толькі што скончыла ў Пінску польскую гімназію. Бацькі яе — заможныя людзі — бязмежна любілі сваё адзінае дзіця і марылі зрабіць Таню доктарам. Але здарылася інакш. У адзін цудоўны дзень у рукі да Тані трапіла адозва, затым падпольная камуністычная газета. Яна перачытвала іх па некалькі разоў. У той жа год, прагульваючыся па вуліцы, Таня ўбачыла, як паліцыя вяла закаваных у кайданы вясковых юнакоў. Нехта ціха шапнуў: «Камуністаў вядуць на суд». І Таня пайшла разам з натоўпам. Яна цярпліва слухала блытаныя абвінавачванні пракурора і прагна лавіла кожнае смелае слова падсудных. І вось тады ў сэрцы дзяўчыны прачнулася нянавісць да акупантаў. Таня пакінула ціхі бацькоўскі дом і пайшла ў глыбокае падполле рэвалюцыйнай моладзі, дзе на кожным кроку падпільноўвалі яе нягоды і пакуты.

На пасяджэнні сакратарыята ЦК КСМЗБ Таня ўважліва слухала кожнае наша выступленне, не саромелася перапытаць, калі што ёй было незразумела.

Калі паўстала пытанне аб змаганні за моладзь і я ненарокам пачаў расказваць, як прадстаўнік ЦК КСМ Польшчы настойліва рэкамендаваў нам уцягнуць у камсамол важакоў моладзі, Таня задумалася. Твар яе зрабіўся сур'ёзны і строгі.

— Правільна. Своечасова і правільна! — сказала яна. — Пагля-

дзіце, што робіцца вакол нас! У «Легіёне млодых» — сапраўдны бунт. Моладзь не падпарадкоўваецца свайму кіраўніцтву... Пра «Стралец» думаюць толькі дзеці асаднікаў. Адварочваецца моладзь ад клерыкальных каталіцкіх і ўсякіх нацыяналістычных буржуазных арганізацый.

Гэта былі ў той час смелыя і правільныя думкі. Мала хто тады разбіраўся ў настроях моладзі. Трэба было мець вялікае сэрца і пранікнёны розум, каб вызначыць, куды і з кім ідзе моладзь. Ва ўмовах жорсткага тэрору, крывавых расправаў не кожны мог улавіць пульс жыцця, разгледзець у настроях моладзі парасткі новага, якія ўбачыла Таня.

Разважанні Тані нам — членам сакратарыята ЦК КСМЗБ — падабаліся. Але хацелася накіраваць ўвагу Тані на практычнае вырашэнне гэтай, як яна сама назвала, высакароднай задачы. Як знайсці дарогу да важакоў моладзі ў самой Вільні? Уласна кажучы, таму мы і запрасілі яе на пасяджэнне.

— А вось, Танюша, хто, па-твойму, у Вільні можа быць названы важаком або нават важакамі моладзі? — спытаў Змітро, калі яна скончыла. — І наогул, ці ёсць у нас такія важакі?..

— Вядома, ёсць. Яны ёсць сярод рабочай моладзі. Ёсць і сярод студэнцкай. І, па-мойму, нам важна цяпер устанавіць шчыльную сувязь з важакамі студэнцкай моладзі, — адказала яна.

— Наогул гэта правільна. Але гэта не канкрэтна, — заўважыў я.

— Нам хацелася б, Таня, ужо цяпер ведаць, калі і не сапраўдных яшчэ важакоў моладзі, то, прынамсі, такіх, з дапамогай якіх мы змаглі б устанавіць сувязь з сапраўднымі важакамі, — перапыніў мяне Змітро.

Таня задумалася.

— А з кім са студэнтаў у вас добрыя ўзаемаадносіны? — спытаў Змітро.

— Ёсць у мяне сяброўкі-студэнткі: Соня, Галя, Сабіна, Міра... Я добра знаёма са студэнтам-камсамольцам Мішам Казлоўскім... Безумоўна, ніхто з іх не з'яўляецца важаком моладзі. Але кожны з іх мае аўтарытэт сярод студэнтаў.

— Вось і выдатна. Пазнаёмце нас з імі! — радасна ўсклікнуў Змітро. — З іх мы і пачнем работу. Няхай сабе буржуазныя пісакі крычаць, распінаюцца аб тым, што ЦК КСМЗБ ліквідаваны! Няхай дачасна паліцэйскія шпікі парадуюцца, пазлоснічаюць наконт нашага разгрому! А мы тым часам створым сабе трывалую базу, установім сувязі з моладдзю. Моладзь павінна ўбачыць і па-сапраўднаму пераканацца ў тым, што мы жывём, змагаемся і перамагаем!

На пасяджэнні было прынята рашэнне, паводле якога Змітро быў замацаваны за Вільняй і Гродна; Зоха — за Беластокам, Брэстам, Слонімам. Ёй паставілі таксама ў абавязак арганізаваць тэхніку; знайсці кватэру для друкавання адозваў, нелегальных газет; наладзіць рассылку нелегальнай літаратуры па акругах. За мною былі пакінуты Маладзечна, Глыбокае, Ліда, Свянцяны, Навагрудак, Ваўкавыск. Сувязь з імі была даўно перарвана. Але ў Вільні жыло многа моладзі з гэтых месц. Трэба было схіліць яе да нас. Акрамя таго, на мяне было ўскладзена рэдагаванне ўсіх падпольных камсамольскіх адозваў, газет, складанне ўсялякіх тэзісаў і падтрыманне сувязі з беларускім нацыянальна-вызваленчым цэнтрам. Кіраваў ім спецыяльны прадстаўнік ад сакратарыята ЦК КПЗБ.

### Першыя радасці і няўдачы

Мы былі энтузіястамі. Здавалася, што ўсё пойдзе лёгка. Трэба толькі пачаць дзейнічаць. На пабочную дапамогу было мала надзеі. Сакратарыят ЦК КПЗБ знаходзіўся ў Варшаве. З мясцовага партыйнага кіраўніцтва ў Вільні нікога не было. І вось мы зноў пачалі размову з Рэняй.

— Патрэбна нелегальная кватэра, дзе мог бы жыць без прапіскі Пеця, і прыкладна пяць кватэр для работы нам, — пачаў Змітро.

— А я тут пры чым? — здзіўлена спытала Рэня.



— Дапамажыце нам... У вас ёсць сваякі, знаёмыя, — умяшалася Зоха.

— Што вы?! Мае сваякі і знаёмыя... Вы іх яшчэ не ведаеце... Калі б яны пачулі, што я да іх з такой справай прыйшла, дык прагналі б мяне і, паверце, ніколі не пусцілі б на парог... Не, не... Я не магу вам нічым дапамагчы... Вось у маёй кватэры, што хочаце, тое і рабіце... І Пеця тут можа таксама жыць.

— Рэнечка, гэта ж будзе няправільна, калі пакінем тут Пецю... Мы ж тут сустракаемся, а там, дзе хто-небудзь з нас жыве, туды ніхто не павінен заходзіць, — растлумачыла ёй Зоха. — Урэшце, гэта будзе парушэннем канспірацыі...

Рэня не хацела нават слухаць.

Змітро пайшоў. Паўздыхала, панервавалася Зоха і таксама пайшла. Затым і Рэня выйшла, параіўшы мне нікому не адчыняць, калі хто пазвоніць. Я застаўся адзін. Быў ціхі летні вечар. На вуліцы не грукаталі ўжо фурманкі. Заціх гарадскі тлум.

Праз акно я мог назіраць, як на вуліцы недалёка ад маёй кватэры тырчэла фігура паліцэйскага. Ён ляніва прагульваўся сюды-туды, бесперапынна памахваючы сваёй дубінкай. Нібы цені, павольна рухаліся людзі па тратуары — гэта шпацыравала публіка.

Раніцай да мяне прыйшла Таня і раптам распачала гаворку з маёй маладой гаспадыняй:

— Рэнечка, хачу з табой параіцца. Задумала я сабе зрабіць новую сукенку. Можа ты пашыеш, а не, дык парай добрую мадыстку.

І пачалася гутарка аб фасонах плаццяў, аб матэрыяле, аб цане. Слухаючы іх размову, я ніяк не мог меркаваць, што Таня вядзе яе знарок, з нейкай спецыяльнай мэтай.

— Сукенку такую зможа пашыць толькі Ліза. Яна жыве недалёка, на Вялікай Стэфаноўскай.

— Рэнечка, можа з табой сходзім? — папрасіла Таня. — Яна ж твая добрая знаёмая.

Рэня, вядома, не адмовілася. І калі яна выйшла, Таня растлумачыла:

— Мне патрэбна Ліза. Хачу з ёю пазнаёміцца. У яе выдатная кватэра. Муж яе некалі, яшчэ за царом, актыўнічаў у рэвалюцыйным руху. Цяпер ён стары, але нам зможа дапамагчы.

Знаходлівасць Тані мне вельмі спадабалася. Я адобрыў яе намер і ад усяго сэрца пажадаў поспеху. Прыйшла Зоха. І таксама засталася ў захапленні ад Танінага плана.

— Цяпер, Танечка, — сказала Зоха, — табе прыдзецца пайсці разам з Пецем на кватэру Мішы Казлоўскага... Праўда, ён на дачы са сваякамі. Дома яго сястра Тамара. Скажаш пра Пецю, што гэта студэнт з Брэста і хоча абавязкова бачыць Мішу. Не забудзь сказаць, што Пеця тэрмінова павінен рыхтавацца да лекцый і папрасі, каб дазволіла пазаймацца ў пакоі Мішы. — Зоха падала пачак папер: — Гэта Тамары не паказвай, абавязкова дамоўся, каб Пеця мог да іх прыходзіць штодзённа. Змітро сёння не будзе, ён увесь дзень заняты.

Таня моўчкі слухала і ў знак згоды ківала галавой. А калі Зоха скончыла, сказала:

— Потым, калі Тамара асвоіцца, зразумее нас, мы ёй усё растлумачым. Тамара сумленная, добрая дзяўчына, але ў палітыцы нічога не разумее.

Відаць, Таня гаварыла так, каб развеяць мае сумненні, падбадзёрыць мяне. Я гэта добра разумеў. Іншага выйсця ў нас не было. Тані я нічога не сказаў, толькі ўсміхнуўся і пайшоў за ёй.

Тамара, як і яе брат Міша, была студэнткай Віленскага ўніверсітэта. Бацька іх працаваў ў нейкім акцыянерным таварыстве. Маці мела невялічкую крамку. Улетку старыя, як правіла, жылі на дачы. Міша і Тамара вельмі часта бывалі ў горадзе. Міша быў камсамольцам і гэтага не ўтойваў ад сваіх бацькоў. Бацька доўгі час злаваўся на яго, горка папракаў. Маці, наадварот, была задаволена і ганарылася сынам.

Па дарозе я з хваляваннем абдумваў, як лепш выканаць перад

Тамарай сваю ролю студэнта з Брэста. Горш за ўсё было тое, што я там ніколі не быў і зусім мала чаго ведаў.

Аднак усе хваляванні былі дарэмнымі. Тамара ветліва і ласкава сустрэла нас, як мне здалося, нясмела працягнула руку, густа чырванеючы. Яна правяла мяне ў пакой Мішы. «Якая даверлівая дзівачка!» — падумаў я.

Прайшло некалькі дзён. Змітро паехаў у Беласток, каб адтуль наладзіць сувязь з Гродна. Зоха была ў Брэсце.

У пакоі Мішы я адчуваў сябе добра, быццам на сваёй кватэры. Тамара мне ні ў чым не перашкаджала. Я паспеў падрыхтаваць поўнасцю да друку нумар падпольнай газеты «Малады камуніст». Гэта была наша камсамольская газета. Першыя нумары яе выйшлі ў 1924 годзе. Сабраў матэрыялы для падрыхтоўкі газет «Дапрызыўнік» і «Камсамолец». Напісаў адозву ў сувязі з антываенным днём — першае жніўня — гадавінай пачатку сусветнай вайны.

Неяк Тамара зайшла да мяне ў пакой і ветліва спытала, ці не жадаю я заказаць якія-небудзь газеты і папяросы. Развітаўшыся са мной, яна пайшла. З вуліцы даносіліся працяжныя выкрыкі хлопчыкаў-газетчыкаў. Раптам нехта нясмела пастукаў у дзверы. Не паспеў я сказаць «калі ласка», як у пакой увайшла Каця. Я бачыў яе толькі адзін раз. Неяк на сакратарыяце ёе рэкамендавалі сувязной, але яна адмовілася. Пераступіўшы парог, Каця засаромелася.

— Не чакалі? А я яшчэ ўчора збіралася да вас зайсці.

— Рад вас бачыць. А яшчэ больш рад ад таго, што не забыліся пра нас... — адказаў я. — Я шмат чаго добрага чуў пра вас. Мне і маім таварышам, вядома, было б прыемна пазнаёміцца з вамі бліжэй.

Знешне Каця была вельмі падобная на свайго брата Сямёна, з якім я сустракаўся на другой канферэнцыі камсамола, але я не быў упэўнены, што гэта яго сястра, і таму гаварыў асцярожна.

— А адкуль вы даведаліся, што я тут бываю? — парушыў я маўчанне.

— Бачыла, як вы сюды ішлі... Пагаварыць з вамі хацела, каб вы не абміналі мяне. У мяне ж адзін брат—камуніст, сядзіць у Караноўскай турме, а другі... недзе працуе.

— Прашу прабачэння, — сціскаючы руку Каці, усклікнуў я. — На шчырасць таксама адказваю шчырасцю. Па-мойму, я ведаю твайго брата. Высокі, чарнявы... Носіць рагавыя акуляры.— Каця ў знак згоды ледзь прыкметна ківала галавой. — З вялікай душой юнак. У яго яшчэ тры залатыя зубы наперадзе...

— Сямён... Ён! Мой родны брат! — радасна ўсклікнула Каця. — А залатыя зубы — гэта падарунак паліцыі. Свае — выбілі. Не думайце, што я спалохалася, калі адмовілася быць сувязной. Не. У мяне хворая маці. Наогул ад работы не адмаўляюся. І прашу на мяне спадзявацца... Чым здолею, буду дапамагаць. Што вам будзе патрэбна, скажыце, і я зраблю. А маці не пакіну!.. Такая воля маіх братоў.

Сустрэча з Кацяй акрыліла нас. Не вагаючыся, я адразу пачаў размову з Таняй аб выданні падпольных газет і адозваў. Пры гэтым прысутнічала і Каця.

— Як думаеш, Танюша, дзе будзем друкаваць нашы газеты — «Камсамолец» і «Дапрызыўнік»? — спытаў я. — Падпольная партыйная друкарня можа выдаваць нам толькі «Маладога камуніста».

— А што для гэтага патрэбна? — у сваю чаргу спытала Таня.

— Перш за ўсё трэба знайсці чалавека, які згадзіўся б друкаваць гэтыя газеты. Патрэбен гектограф. Нарэшце, патрэбна кватэра, дзе можна было б друкаваць.

Таня маўчала. Маўчала і Каця, аб нечым засяроджана думаючы, але не падаючы выгляду, што слухае нашу размову.

— Што ж будзем рабіць? — пасля доўгай паўзы зноў спытаў я.

— Значыць, патрэбен чалавек, які працаваў бы на гектографе? — нясмела ўставіла Каця.

— Вось іменна, — ахвотна і радасна адказаў я. — Чалавек і... кватэра, дзе б ён мог працаваць.

— Паспрабую знайсці вам чалавека... І пра кватэру падумаю... Заўтра вечарам буду ў Рэні. — І неўзабаве развіталася надзвычай ветліва.

Назаўтра са сваёй паездкі вярнуліся Змітро і Зоха. Яны прывезлі многа ўсцешных навін з Гродна, Слоніма, Баранавіч. Такім чынам, мы не мелі сувязі толькі з тымі акругамі, якія былі замацаваны за мной, — Ваўкавыск, Глыбокае, Маладзечна, Свянцяны, Ліда. Змітро і Зоха адразу ж прышлі да мяне. Хутка прышла і Таня. Яна прынесла пісьмо ад сакратарыята ЦК КПЗБ, якое прывёз спецыяльны кур'ер. У пісьме паведамлялася аб





**Аляксандра Федасюк, падпольная клічка «Зазуля».**

нарастаючай хвалі забастовак рабочых, аб масавых выступленнях беспрацоўных і сялян, аб шалёным тэроры. Нам — сакратарыяту ЦК КСМЗБ — настойліва рэкамендавалася ўзмацніць работу ў МОПРы*.

Сабраўшыся выпадкова, мы выкарысталі гэтую сустрэчу для распрацоўкі нашых дзеянняў у сувязі з апошнімі паведамленнямі і ўказаннямі партыйнага кіраўніцтва, а таксама для абмену думкамі накont таго, што зроблена. Таня расказала, што ў Вільні праведзена нарада камсамольцаў, якія вылучаны для работы ў салдацкіх казармах і з дапрызыўнікамі; паведаміла аб новых яўках у воінскіх часцях, аб плане масавых выступленняў моладзі ў сувязі з антываенным днём. Адыходзячы, яна сказала:

— Соня і Галя ахвотна згаджаюцца даць для работы свае кватэры.

Гэта быў наш вялікі поспех. І мы шчыра радаваліся яму.

Развітаўшыся з Таняй, мы ажыўлена ўзяліся за наш план дзеянняў. Цяпер, калі ўстаноўлены кантакт з Кацяй, вызначаны ўзаемаадносіны з Рэняй, калі ў нас ужо ёсць адна кватэра і яшчэ абяцаюць свае кватэры Соня і Галя, — мы шчыра паверылі ў тое, што зможам стварыць у Вільні добрую базу.

Сонца ўжо хілілася к захаду, а мы ўсё яшчэ прадаўжалі абмяркоўваць свае планы. Раптам незвычайна гучна заліўся званок у дзвярах. Для нас гэта была нечаканасць. Мы хутка знішчылі ўсе свае запісы, паперы. Змітро выцягнуў з кішэні карты і пачаў іх тасаваць. Але трывога аказалася дарэмнай. За дзвярыма пачуўся смех Каці. Яе прыход быў якраз дарэчы. Па яе бадзёрым настроі было бачна, што яна з добрымі весткамі.

— Пачатак нядрэнны. Чалавек

* МОПР — Міжнародная арганізацыя дапамогі рэвалюцыянерам, якая дзейнічала ў 20-я, 30-я гады.

для работы на гектографе ёсць. Аб кватэры мусіце вырашыць самі,— адазваўшы мяне ў бок, сказала яна.

Я не зразумеў яе апошніх слоў і са здзіўленнем сказаў:

— У нас жа кватэры няма, і мы просім, каб вы нам дапамаглі яе знайсці.

— Кватэра ёсць. Адзін чалавек хоча ўладкаваць гектограф там, дзе жыве. А жыве ён у тым самым пад'ездзе, дзе знаходзіцца віленская ваяводская ахранка.

Я не толькі збянтэжыўся, але канчаткова разгубіўся.

Заўважыўшы гэта, Каця спрабавала супакоіць мяне.

— Яно, магчыма, так і лепш. Паліцыя не падумае, што пад носам у яе друкуецца нелегальная літаратура. Наконт хлопца не сумнявайцеся. Ён надзейны. Я яго ведаю добра. Мы з ім землякі. Разам гадаваліся. Тут ён вучыцца на электраманцёра. Адным словам, як вырашыце, так і будзе.

Прыслухаўшыся, Змітро адразу ж падтрымаў Кацю:

— Цудоўна!.. Лепш не прыдумаеш. Толькі трэба будзе, каб гэты хлопец-друкар жыў у другім месцы. Паспрабуем перахітрыць ахранку!..

— Калі яшчэ што вам патрэбна будзе, скажыце. Я ўсё зраблю, — развітваючыся, абяцала Каця.

Мы не ведалі, як дзякаваць Каці за такую паслугу. Праз некалькі дзён мы забяспечым Вільню, Беласток, Брэст нашымі адозвамі, свежымі газетамі!

Неўзабаве Каця адшукала нам адразу аж восем кватэр, і мы аб гэтым паведамілі ў сакратарыят ЦК КПЗБ.

У дзень першага жніўня 1932 года мы рашылі арганізаваць баявыя і масавыя выступленні моладзі супраць новай імперыялістычнай вайны, у абарону СССР. У нас было мала часу, і мы працавалі дзень і ноч. Выпусцілі адозвы і тэзісы для дакладаў, спецыяльныя нумары падпольных газет і своечасова даставілі іх на месцы. Правялі камсамольскія сходы, нарады, гутаркі з моладдзю, падрыхтавалі транспаранты, прамоўцаў на масоўках і дэманстрацыях, на сходах.

Гэта былі ў поўным сэнсе слова гарачыя і напружаныя дні. Нам хацелася глыбей ускалыхнуць моладзь, запаліць у яе сэрцах нянавісць да памешчыкаў, капіталістаў і асаднікаў. Нам хацелася кінуць смелы выклік рэакцыі, якая з кожным днём станавілася ўсё больш нахабнай і на моладзь глядзела, як на гарматнае мяса. Гэта быў час, калі Пілсудскі са сваёй світай распальваў шалёную ваенную істэрыю. На «крэсы ўсходнія» былі сцягнуты лепшыя ўзброеныя сілы польскай арміі. Ва ўсіх буржуазных газетах вялося разбэшчанае антысавецкае цкаванне. А ў такіх газетах, як віленскае «Слова», «Дзеннік Віленскі», «Цодзенны кур'ер кракоўскі»,—гэтае цкаванне цесна перапляталася з заклікамі да знішчэння камуністаў і камсамольцаў.

Напярэдадні першага жніўня ў Вільню прыбыла член сакратарыята ЦК КПЗБ Саша. Гэта была спрактыкаваная падпольшчыца, стары член партыі. У 1931 годзе яна вышла з фашысцкай турмы. Ёй тады прапанавалі паехаць за граніцу і прысвяціць сябе навуковай працы. Саша адмовілася. Яе ў партыі ўсе любілі, шчыра прыслухоўваліся да яе парад і заўваг.

З удзелам Сашы мы сабраліся на пасяджэнне сакратарыята ЦК КСМЗБ. Азнаёміўшыся з нашым планам на першае жніўня і расказаўшы аб тым, што рыхтуе партарганізацыя, Саша парэкамендавала скараціць частку масавых выступленняў, не арганізоўваць у Вільні маладзёжных дэманстрацый.

— Трэба захаваць сілы для правядзення Міжнароднага юнацкага дня,— параіла нам Саша і дадала: — Ужо каля месяца, як у нас ціха, — няма арыштаў. Гэта здрадніцкая цішыня! Зацішша перад бурай.



Довады Сашы былі пераканаўчыя. У іх выказвалася трывога і клопаты партыі за лёс камсамола.

— А вы ўсё ж дазвольце нам у Вільні, на вуліцы Нямецкай на стыку з Віленскай, правесці маладзёжную дэманстрацыю, — прасілі мы. — І няхай моладзь патрушчыць шыбы ў рэдакцыях газет «Слова» і «Дзеннік Віленскі».

— Ну, якія вы ўпартыя!.. Я ж вам не забараняю, а толькі раю,— смяялася Саша.

Прыкметна было, што яна не асуджала нас, а, наадварот, радавалася за нашу настойлівасць, за жаданне актыўна дапамагчы партыі ў змаганні супраць фашыстаў.

Перад адыходам Саша яшчэ раз параіла дзейнічаць асцярожна, не захапляцца залішне масоўкамі і дэманстрацыямі.

— Майце такт і вытрымку падпольшчыкаў, — некалькі разоў паўтарыла яна.

З мэтай перасцярогі Змітро і Зоха выказаліся за тое, каб я неадкладна перайшоў на новую кватэру. Гэта быў дом на рагу з выхадам на дзве вуліцы — Садовую і Шапэна.

Вечарам, як толькі сцямнела, Рэня правяла мяне на новую кватэру.

На ганку, ля самых дзвярэй, Рэня паспешліва і ўсхвалявана шапнула мне:

— Гаспадарам вы скажаце, што разам са мной вучыліся... Яны добрыя людзі... Жыць у іх будзеце без прапіскі. Потым, з цягам часу, мы растлумачым усё. Добра?..

Адказаць ёй я не паспеў, бо Рэня адразу ж працягнула руку да званка. Я ледзь паспеў прачытаць выгравіраваны надпіс на дошчачцы: «Імянітаў Барыс Давыдавіч». Дзверы хутка адчыніліся. Ветліва ўсміхаючыся, нас сустрэў далікатны сівы мужчына.

— Калі ласка, — і рухам рукі запрасіў зайсці.

У кватэры было чыста, утульна. Сам Барыс Давыдавіч быў апрануты ў новы, толькі што адпрасаваны шэры гарнітур. У пакоях адчуваўся ва ўсім дастатак.

Вітаючыся з гаспадаром, Рэня ветліва спытала:

— Барыс Давыдавіч, вы некуды сабраліся?

— Не, я толькі што прышоў.

— Гэта той чалавек, якому патрэбна кватэра.

Барыс Давыдавіч прамаўчаў, зрабіўшы выгляд, што недачуў, і адразу ж перамяніў тэму размовы.

— Як здароўе маці? — спытаў ён. — Як працуеце, ці шмат заказаў?.. Можа, жадаеце набыць новую швейную машыну?

Мне гэта зусім не падабалася. Прыкметна занепакоілася і Рэня. Каб крыху згладзіць няёмкасць, я папрасіў дазволу закурыць. Барыс Давыдавіч у сваю чаргу папрасіў прабачэння і дазволу выйсці ў кухню, каб падрыхтаваць чай.

— Спадзяюся, не адмовіцеся пасядзець разам за сталом? — далікатна схіліў ён галаву ў бок Рэні. — Прабачце, на адну хвіліначку, — кіўнуў ён затым галавой у мой бок.

— Вы, здаецца, адзін дома... У такім выпадку дазвольце мне дапамагчы вам падрыхтаваць вячэру, — і Рэня пайшла за ім на кухню.

У вялікай святліцы я застаўся адзін. Сэрцам адчуваў, што Барыс Давыдавіч не жадае браць мяне на кватэру, але мне не хацелася першага жніўня — у дзень масавых выступленняў — быць у Рэні. З трывогай у сэрцы разглядаў я на сцяне адну карціну за другой і рабіў здагадкі, што вось-вось увойдзе Барыс Давыдавіч і запросіць мяне на шклянку чаю, а затым ласкава, ветліва, як гэта ён можа, працягне руку і скажа: «Будзьце здаровы». Але атрымалася інакш. Барыс Давыдавіч зайшоў у пакой, моўчкі зацягнуў шторы на вокнах, затым прынёс самавар з кухні, паставіў на стол. Тым часам Рэня прынесла хлеб, масла, цукар.

— Сям'я на дачы. Усё даводзіцца рабіць самому, — прагаварыў ён, сядаючы за стол. Рэню і мяне ён таксама запрасіў да стала.

У час чаявання я стараўся раз-

гадаць думку і настрой Барыса Давыдавіча і таму ўважліва сачыў за яго размовай з Рэняй, баючыся прараніць якое-небудзь неасцярожнае слова. Рэня знешне была спакойная і вельмі тактоўная. Калі стрэлка гадзінніка набліжалася да дзесяці, яна спытала:

— Такім чынам, заўтра ад'язджаеце на дачу?.. Надоўга?..

— Не, ненадоўга, — няпэўна адказаў Барыс Давыдавіч. — Некалькі дзён вам прыдзецца, — звяртаючыся да мяне, сказаў ён, — жыць тут без мяне, з маім пляменнікам Мішэлем. — І адразу ж пачаў яго расхвальваць: — Цудоўны, вельмі кемлівы хлопец... Рабіць можа ўсё, што толькі ні скажаш... І ўявіце сабе, яшчэ зусім дзіця. Бацькі яго жывуць вельмі бедна. Месяцы тры назад прыехаў ён з Глыбокага. Я ўладкаваў яго ў знаёмага, на млын. Ён вам спадабаецца.

— Які б ён ні быў добры, але пра Пецю, — паказваючы на мяне, папрасіла Рэня, — павінен ведаць толькі тое, што ён студэнт. І больш нічога...

— А ён, я ў гэтым перакананы, не будзе нават цікавіцца, — запэўніў Барыс Давыдыч.

Калі Рэня пайшла, ён яшчэ доўга гутарыў са мной. Я не ведаў тады, якая была размова ў яго пра мяне з Рэняй, не ведаў, што на дачу ад'язджаў Барыс Давыдавіч спецыяльна, каб пераканаць сваю жонку-ўрача, што я, як камуніст, як падпольшчык, на першы погляд нічым не адрозніваюся ад усіх іншых людзей і наогул.. звычайны чалавек. Я не ведаў таксама, што да размовы Рэні з Барысам Давыдавічам тады на кухні ён сам вагаўся і не мог вырашыць: прыняць мяне на кватэру ці адмовіць. Тады ён шчыра прызнаўся:

— Я баюся. У мяне дзеці. Калі ж да мяне пачнуць хадзіць віленскія камуністы, дык не больш, як праз месяц, мяне самога пасадзяць у турму...

— І вы, Барыс Давыдавіч, яшчэ сцвярджаеце, што паважаеце камуністаў, што гарой стаіцё за Савецкую ўладу! Вы нават хваліцеся, што калісьці ў 1917 годзе ў Піцеры ўдзельнічалі ў рэвалюцыйных выступленнях, — папракнула яго Рэня. — А цяпер хто вы? Служачы гандлёвай палаты? Думаеце, сарока на хвасце прынясе вам Савецкую ўладу? Не. За Савецкую ўладу змагацца трэба. Калі самі не можаце, дык дапамагаць трэба тым, хто змагаецца.

Ад'язджаў ён на дачу яшчэ і таму, што баяўся: а можа за мною, як за камуністам, паліцыя сочыць. І яму здавалася больш бяспечным на першым часе пажыць на дачы. Але аб усім гэтым я даведаўся толькі праз два гады ад самога Барыса Давыдавіча.

У той вечар мы гутарылі доўга і аб усім. Тады ж Барыс Давыдавіч падзяліўся са мной успамінамі аб сваёй маладосці, аб тым, як цяжка было яму — местачковаму юнаку — выбівацца ў людзі. Гаварыў ён з глыбокім пачуццём болю, адчаю, расчаравання і радасці, нібы чытаў нейкую цікавую кнігу.

Раптам ціха адчыніліся парадныя дзверы, і на парозе паявіўся стройны, рослы хлопец. На твары яго былі сляды разгубленасці. Па ўсім было відаць, што ён ніяк не разлічваў сустрэць дома каго-небудзь чужога.

— А вось і Мішэль, — радасна ўсклікнуў Барыс Давыдавіч. — Як добра, што ты сёння прышоў рана!

Гэтыя словы супакоілі хлопца. Ён буркнуў нешта пад нос і ветліва прывітаўся са мной. На яго скронях і на патыліцы сівеў мучны пыл.

— Цябе сёння не пазнаць... Ці не захварэў ты, Мішэль? — спачувальна, па-бацькоўску клапатліва звярнуўся да яго Барыс Давыдавіч.

— Не, я здаровы... Сёння была цяжкая работа. Крыху стаміўся. А наогул, я адчуваю сябе цудоўна, — і пайшоў у свой пакой.

Хоць я і першы раз бачыў Мішэля, але заўважыў, што ён быў вельмі задумённы і чымсьці ўсхваляваны. У гэтым я пераканаўся яшчэ раз, калі Мішэль вярнуўся і неяк збянтэжана, нясkладна прагаварыў:

— Ат, ліха яго матары, ключы забыўся... Трэба зноў ісці ў млын.

— Нічога не зробіцца з тваімі ключамі. Распранайся і адпачывай, — паспрабаваў было запярэчыць Барыс Давыдавіч. — Заўтра пойдзеш раней...

— Не, прабачце... Я мушу ісці... Думаю, без мяне сумаваць не будзеце, — прагаварыў ён і паспешліва вышаў з пакоя.

Барыс Давыдавіч, нічога не разумеючы, развёў рукамі і пайшоў следам. Я застаўся адзін, з хваляваннем чакаючы яго вяртання. Недзе на лесвіцы некалькі разоў, адзін за другім, празвінеў электрычны званок. Аднастайна цікаў насценны гадзіннік. З вуліцы даносіўся грукат фаэтонаў — рамізнікі спяшаліся да прыбываючага цягніка. Трывожныя думкі не давалі мне спакою. Да першага жніўня засталося пяць дзён. З намечанага плана яшчэ многае не зроблена. Як захаваць камсамольскую арганізацыю ад магчымага паліцэйскага разгрому? І, нарэшце, каму я даверыў самога сябе? Чым тлумачыцца хваляванне і раптоўнае знікненне незнаёмага мне юнака? Куды дзеўся сам Барыс Давыдавіч? У звычайных умовах на гэта не звярнуў бы ўвагі. Ва ўмовах жа падполля іншая справа, — нехаця робішся назіральным і заўважаеш самы нязначны спалох на твары чалавека, з якім размаўляеш, прыслухоўваешся і своеасабліва ўспрымаеш кожную інтанацыю яго голасу, чытаеш і разгадваеш яго думкі. У пошуках адказу, у прыватнасці, на тое, куды ж дзеўся Барыс Давыдавіч, я ўважліва аглядаў святліцу і пакой, якія для мяне адведзены, заглянуў праз дзверы ў пакой Мішэля, на кухню. І тут я звярнуў увагу на тое, што з кухні ў двор быў запасны выхад. «Вельмі добра! — падумаў я. — Гэта, магчыма, мне калі-небудзь спатрэбіцца». У глыбокім роздуме вярнуўся я ў пакой, прызначаны для мяне, і праз акно пачаў сачыць за тым, што рабілася на вуліцы Шапэна. З вакзала і на вакзал, па абодвух баках ішлі пасажыры. Велічна, у бляску электрычных агнёў над усёй гарадской мітуснёй узвышаліся маладыя, густалістыя каштаны.

Вярнуўся Барыс Давыдавіч, але трывога ў мяне не развеялася, а, наадварот, узрасла.

— Не пазнаю сёння Мішэля, — прагаварыў ён, заходзячы. — Ён нешта тоіць ад мяне... Я павінен з ім сур'ёзна пагаварыць. Яго сённяшняя выхадка мяне вельмі пакрыўдзіла і абурыла. Уявіце сабе, гэты ціхоня раптам паўстаў перада мною гэткім нахабнікам. «Забыўся ключы», — гаварыў ён, а на самай справе прыходзіў за нейкім пакункам. Ён, ведаеце, ляжаў у кладовай. Я сам бачыў, як ён забраў яго. Падыходжу, пытаюся: што гэта, Мішэль, ты тут бярэш? А ён, ведаеце, не задумваючыся, адказвае: «Гэта паперы з млына». Ой, баюся, як бы Мішэль не папаўся... Па ўсім відаць, ён панёс камуністычныя пракламацыі, а не паперы з млына. Самі ж падумайце, якія могуць быць у яго паперы там, на млыне?! Маніць, прахвост, — цяжка вохкаючы і ўздыхаючы, лаяўся Барыс Давыдавіч.

Маё становішча было зусім незайздроснае. Мішэль на самай справе мог быць у падпольнай камсамольскай арганізацыі і атрымліваць ад яе заданні. Яго могуць арыштаваць. Тады немінуча паліцыя прыдзе сюды. Нарэшце паліцыя можа проста сачыць за ім і натрапіць на мой след.

Адкрыта пагаварыць аб гэтым з Барысам Давыдавічам я не мог. Я моўчкі пайшоў у свой пакой, але не спаў усю ноч.

На досвітку прышоў Мішэль. Чуваць было, як ён паспешліва распранаўся, як асцярожна, лёгка ступаючы, прайшоў міма дзвярэй майго пакоя, як рыпнула спружына яго ложка, калі ён клаўся. А восьмай гадзіне раніцы ён ужо быў на нагах.

Барыс Давыдавіч прачнуўся так-

сама рана. Пануры, сумны, рыхтаваўся ён да ад'езду. Затым паклікаў у кухню Мішэля.

Параіўшыся са Змітром і Зохай, я ўсё ж вырашыў застацца ў Барыса Давыдавіча, пакуль Змітро высветліць усё, што трэба пра Мішэля. Мне ж важна было па-сяброўску схіліць на свой бок Барыса Давыдавіча і Мішэля.

Мінула тры дні. Барыс Давыдавіч жыў на дачы, а з Мішэлем у мяне так і не праясніліся ўзаемаадносіны. Звычайна, абодва мы раніцай ішлі на працу: Мішэль — на млын, а я — на кватэру да Лізы. Там мы пісалі адозвы, складалі тэзісы дакладаў, знаёміліся з матэрыяламі з месц. Як правіла, разыходзіліся мы позна ўвечары.

У падпольнай друкарні, якую стварылі з дапамогай Каці, былі надрукаваны ўсе нашы адозвы да першага жніўня, велізарная колькасць малых лістовак, заклікаў. Мы забяспечылі падпольнай літаратурай Беласток, Гродна, Слонім, Пінск, Брэст і Вільню. І, як пасля выявілася, у Мішэля быў адзін пачак брашур для распаўсюджання сярод чыгуначнікаў. У тую ноч, калі ён пайшоў пад выглядам «па ключы на млын», у чыгуначным дэпо, ля кватэр чыгуначнікаў апынуліся нашы лістоўкі. Пра гэта мне стала вядома праз некалькі дзён. І толькі тады я зразумеў, як рызыкоўна і небяспечна было гэта для мяне.

Напярэдадні першага жніўня я прышоў на кватэру раней звычайнага. Мішэль моўчкі адчыніў мне дзверы. У гасцінай сядзелі трое юнакоў і адна дзяўчына. Усе яны былі ўсхваляваны, бо, відаць, перад маім прыходам аб чымсьці важным гутарылі. У мяне не было ніякіх сумненняў, што гэта засядаў адзін з райкомаў камсамола Вільні. Хацелася зараз жа вярнуцца назад. Але тая акалічнасць, што вечарам да мяне павінна была зайсці Каця або Рэня і перадаць яўку для сустрэчы з Сашай, затрымала мяне. Сябры Мішэля непрыкметна зніклі, я нават не заўважыў, калі і як. А што, калі раптам хто з іх правакатар ці баязлівец, і ўжо можа выдаў гэтую кватэру? Што, калі паліцыя сочыць за кім-небудзь з іх і ўжо назірае за домам?

У глыбокім, трывожным роздуме хадзіў я па сваім пакоі. Вечарэла. Далёка за гарою Ягелы грымеў гром. З-за вежаў замка паўзла чорная хмара. За акном моцны вецер зрываў лісце каштанаў і віхурыў пыл.

— А ведаеце, дажджу не будзе... Хмара ідзе міма нас, — уваходзячы ў пакой, прагаварыў Мішэль. Ён зайшоў да мяне ўпершыню. У голасе яго адчувалася нейкая неспакойная нотка.

— Каб вецер не сарваў фортку, я прычыню яе, — і хутка падышоў да акна.

Але зачыняць фортку Мішэль не збіраўся, а трывожна і напружана ўзіраўся ў акно. Раптам пачуўся рокат матораў і пад самым акном яны адзін за адным заглухлі. Бледны, з перакрыўленым ад спалоху тварам, Мішэль амаль шэптам папераджальна кінуў:

— Паліцыя...

Па целе мурашкамі пабег халадок. Пачуццё асуджанасці нахлынула на мяне. Інстынктыўна я кінуўся да акна. Перад маім пакоем паліцаі высаджваліся з матацыклаў. На нейкае імгненне я замёр, нібы паралізаваны. І толькі тады, калі Мішэль пачаў паспешліва збіраць з майго стала кнігі і газеты, я крыху супакоіўся і пачаў абмацваць свае кішэні. Пераканаўшыся, што там усё ў парадку, я ўзяў капялюш і ўжо кінуўся да запаснога ходу, як Мішэль перагарадзіў мне дарогу:

— Сюдою мы яшчэ паспеем... Калі б паліцыя прыехала да нас, дык, напэўна, яна была б ужо ў кватэры, — і зноў падышоў да акна. Я таксама вырашыў паглядзець, што там, на вуліцы.

— Чатырнаццаць паліцэйскіх і сам пан шэф ваяводскай дэфензівы... Бачыце, — прашаптаў Мішэль. — Вось той, у цывільнай вопратцы, — паказаў ён.

У цемры вячэрняга змроку я не адразу заўважыў паліцэйскіх. Яны стаялі пад акном суседняй



кватэры, у ценю каштана, і, як відаць, слухалі чалавека ў цывільнай вопратцы, які прыбыў з імі. Затое я адразу ж прыкмеціў восем чорных паліцэйскіх матацыклаў.

Мы бачылі, што паліцэйскім была пададзена каманда. Нібы драпежнікі, кінуліся яны на другі бок вуліцы. Двое з іх, як укапаныя, спыніліся ля пад'езда. Астатнія рынуліся ў дом.

Пацягнуліся пакутлівыя мінуты трывожнага чакання. Мы стаялі моўчкі ля акна і ўглядаліся ў начную цемру. Мішэль часта ўздыхаў, пацірaў рукі. Я ўзяў у зубы папяросу і жаваў муштук. Кожны з нас думаў пра сваё. Але гэтае «сваё», па сутнасці, было агульным.

«Да каго яны пайшлі?» — у думках пытаў сябе Мішэль.

«Што прывяло іх сюды?.. Ці не ёсць гэта пачатак масавых вобыскаў і арыштаў у сувязі з днём першага жніўня?» — хваляваўся я.

Праз гадзіну вышаў шэф дэфензівы, за ім паліцэйскія вывелі закаванага ў кайданы маладога чалавека. Ён быў у старым, пацёртым паліто, без капелюша. Вецер варушыў яго валасы. Чалавек у кайданах ішоў бадзёра, з паднятай галавой.

— Дык вось яны па каго!.. Казік... Бядак Казік, толькі два тыдні, як з турмы... Ён зусім хворы... Га́ды! Што ім ад яго трэба? — абураўся Мішэль.

Услед за паліцыяй вышла з дому заплаканая старая жанчына. Кінулася на калені перад шэфам дэфензівы.

Тым часам паліцэйскія пасадзілі арыштаванага ў матацыкл. Зноў вуліцу запоўніў грукат матораў. Жанчына — маці арыштаванага — спрабавала была ўзняцца, але нехта з паліцэйскіх штурхануў яе так, што яна паваліліся і засталася ляжаць на бруку. Пачуліся гнеўныя выкрыкі з натоўпу, але іх заглушыў рокат матацыклаў.

Вуліца апусцела. Вецер сціх. Час-ад-часу ўспыхвала бліскавіца. Кроплі дажджу самотна барабанілі па дахах. Мы ўсё стаялі ля акна. Але вось Мішэль зварухнуўся і запаліў святло. У гэты ж самы час пачуўся званок. Прышла Каця. Я ўжо быў забыўся, што яна павінна прысці.

— А вы дома і не спіцё?.. — пераступіўшы парог, прагаварыла яна. — Я доўга стаяла на вуліцы і не адважвалася зайсці, не было ў вас святла.

— А я ўсё ж пайду і яшчэ пагляджу, — беручы капялюш, сказаў Мішэль. — Нешта ўжо вельмі хутка гэтыя паны выбраліся!..

На парозе ён спыніўся і хацеў яшчэ нешта сказаць, але толькі пачухаў за вухам, махнуў рукой і моўчкі вышаў.

Каця была ўсхвалявана не менш за мяне.

— Трэба хутчэй пакінуць вам гэтую кватэру. Хочаце, я вас адвяду да аднаго дробнага купчыка на Кальварыйскай? — прапанавала яна.

Я не ведаў, дзе вуліца Кальварыйская, але з радасцю выказаў сваю згоду.

(Заканчэнне ў наступным нумары.)

## З блакнота падарожніка

Васіль ХОРСУН

# ВЕНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Недзе там, у краіне «ранішняй свежасці», карэйскі муляр Дзю Хэн Дзюн будуе сёння новы светлы дом, а прыгожая і вясёлая Мішэль Джупэ з французскіх Альпаў, вярнуўшыся з каледжа, напэўна, схілілася над пісьмом свайму новаму сябру Чанга Мачыо з Паўднёвай Афрыкі. А што робіш цяпер ты, мой добры Віторыо Збізі? Я памятаю твае цёмныя вялікія вочы, якія гарэлі радасцю, калі мы ўсе разам спявалі «Кацюшу» і «Санта Лючыя». Памятаю таксама, як яны засціліся горкай слязінай, калі ты ў ціхай задуме голасна марыў вярнуцца ў сваю прыгожую Італію і знайсці сабе работу. Ці збылася твая мара, Віторыо?

Ніколі не сатруцца з памяці цёплыя, радасныя сустрэчы, плошчы, паркі і канцэртныя залы гасціннай Вены, дзе дзесяць дзён на розных мовах гучалі словы: дружба і мір. І кожная падзея фестывалю, гэтага грандыёзнага форума моладосці, кожная сустрэча зноў і зноў паўстае перад вачыма.

### Мішэль ідзе з намі

Вена знешне падабаецца ўсім. Гэта зялёны ўлетку горад. На яго вуліцах да позняй ночы шумна і людна. Бясконцымі радамі цягнуцца вялікія магазіны з яркімі рэкламамі і шыльдамі гандлёвых фірм. Аднак не імі, нарэшце, славіцца Вена, — гэта горад музыкі і мастацтва, многіх гістарычных помнікаў, паркаў і сквераў...



На Цэнтральным венскім стадыёне ў дзень адкрыцця фестывалю.
Фота аўтара.



Прыгожая Вена. У фестывальныя ж дні, як любілі гаварыць самі венцы, яна яшчэ пахарашэла; старажытны горад на Дунаі памаладзеў, павесялеў. Прыгажосць гэтую і маладосць прынеслі яму 18 тысяч юнакоў і дзяўчат — белых, чорных, жоўтых, якія з'ехаліся больш чым са ста краін свету, каб пазнаёміцца, пасябраваць, разам сказаць сваё цвёрдае слова ў абарону міру і шчасця на зямлі.

У той незабыўны дзень адкрыцця VII Міжнароднага фестывалю моладзі горад быў асабліва шумны і стракаты; ён аж гудзеў рознагалоссем розных моў, свяціўся ад радасных, прыветлівых усмешак. Мы ішлі сонечнай ранніцай па зялёнай алеі ад гарадскога парка Пратэр, куды збіраліся пасланцы розных краін свету. Ісці было цяжка: на кожным кроку — сустрэчы, знаёмствы, песні.

Першай падбегла група французскіх юнакоў і дзяўчат. Даведаўшыся, што мы з Савецкага Саюза, яны цесным колам абступілі нас і голасна закрычалі: «Падмаскоўныя вечары»!..

Моцна перапляліся рукі, утварыўся вялікі круг, і пад венскім небам палілася мелодыя задушэўнай рускай песні. Мы спявалі разам з усімі, адчуваючы, як у душы расце гонар і за наша Падмаскоўе, і за рускую песню, і за нашу Радзіму. Мы былі рады, што «Кацюшу», «Падмаскоўныя вечары» і іншыя песні ведаюць аднолькава французы і італьянцы, арабы і негры. І не толькі ведаюць — любяць.

Разысціся было цяжка. Французская камсамолка Мішэль Джупэ моцна трымае за рукі беларусаў Тацяну Корхаву і Барыса Путрыка. Ёй падаравалі значок з партрэтам Уладзіміра Ільіча Леніна, і яна не знаходзіць слоў, каб аддзякаваць за такі дарагі сувенір. Яе поўныя, круглыя губы дрыжаць ад радасці, а ў светлых вачах блішчаць слёзы. Мішэль кінулася на шыю Тацяне і сказала, як магла па-руску: «Я иду с вам».

На Цэнтральным венскім стадыёне, куды адна за другой уваходзілі калоны дэлегацый, мы сядзелі на самай верхняй трыбуне. Стадыён увесь бурліў, вітаючы маладосць свету. Наш перакладчык Іяган Фюрнберг, высокі, хударлявы, быццам падсушаны сонцам і ветрам венец, не сунімаўся ні на хвілінку.

— Глядзіце, што робіцца. Паўнюткі стадыён, — ён усхапіўся, працягнуў абедзве рукі наперад, жадаючы паказаць нам тое, што мы ўжо і самі бачылі. — Так, так, здрадзілі сёння венцы свайму звычаю.

Кожны з нас ужо ведаў, што ў нядзелю Вена — «мёртвы» горад. Сотні тысяч венцаў выязджаюць за горад на адпачынак. Пусцеюць гарадскія вуліцы і паркі, зачыняюцца магазіны, рэстараны і кафэ.

Але сёння, можа ўпершыню, жыхары Вены парушылі даўнюю традыцыю. Яны шчыльнай сцяной абступілі амаль двухкіламетровую алею, па якой ішлі калоны дэманстрантаў, занялі трыбуну 90-тысячнага стадыёна, аднолькава горача сустракалі і белых, і чорных, і жоўтых — пасланцоў моладзі ўсяго свету.

І раптам цэлы шквал воплескаў пранёсся над стадыёнам. У паветра ўзляцелі галубы, салют дзённага феерверка рассыпаў у небе мільёны рознакаляровых зорак. На стадыён пад блакітнымі сцягамі, пад высока ўзнятым угару макетам першай у свеце касмічнай ракеты ўваходзіла дэлегацыя моладзі Савецкага Саюза. Мы, напэўна, хваляваліся больш за ўсіх, таму што бачылі, як любяць і паважаюць нашу моладзь, нашу краіну. І не было сярод нас такога, хто б не ганарыўся, што ён — «савецік».

Назаўсёды застануцца ў памяці і магутны голас прадстаўнікоў пяці кантынентаў у абарону міру, і сталае майстэрства, што паказалі на зялёным полі стадыёна пасланцы Савецкага Саюза, Польшчы, Кітая, Ірака, Аргенціны, і бязмежная ўдзячнасць венцаў, якія адкрыта выказвалі сваё захапленне.

Доўга не змаўкалі ў той цёплы ліпеньскі вечар песні на вуліцах Вены. Па просьбе Мішэлі мы зноў спявалі «Падмаскоўныя вечары», праводзячы яе да аўтобуса, як свайго даўняга знаёмага. Аб ёй мы ведалі ўжо, што яна вучыцца ў агульнаадукацыйным каледжы і адначасова працуе — інакш нельга; што яна прыехала ў Вену за франкі, якія адкладвала амаль паўгода са свайго невялікага заробку. Мы разам з ёю шкадавалі, што сярод нас не было Албана Льешці і П'ера Гюйо, французскіх патрыётаў, якія адмовіліся ўзняць зброю супраць алжырскага народа і кінуты ў турму. Мы разам захапляліся іх гераічным подзвігам.

### «Вам можна пазайздросціць...»

Сустрэчы, сустрэчы... Па прафесіях, па інтарэсах і проста выпадковыя, на вуліцах, скверах, у палаткавых гарадках, дзе жылі многія ўдзельнікі фестывалю. Сустрэчы праходзілі па-дзелавому, захапляльна, а іншы раз і ў гарачых спрэчках.

Нам давялося пабываць на адной з



**Свой першы сувенір Тацяна Корхава з Беларусі падаравала французскаму сябру.**

сустрэч па прафесіях, дзе сабраліся маладыя будаўнікі Савецкага Саюза, Англіі, Карэі, Заходняй Германіі... Аўтобус прывёз нас да невялікай будаўнічай пляцоўкі. Спачатку неяк нясмела, а потым слова за слова, і палілася жывая гамонка з венскімі будаўнікамі.

— А для каго вы будуеце гэты дом? — падышоў да каржакаватага загарэлага хлопца беларускі тынкоўшчык Аркадзь Дзігілевіч.

Рудольф, вопытны муляр, прысеў на груду цаглін і ніякавата ўсміхнуўся:

— Для маладога пакалення.

— О, дык і вы тут зможаце згуляць наваселле?

— Я? — юнак здзіўлена ўскінуў вочы і, паглядзеўшы некуды ўбок, дадаў: — Вы што, жартуеце? Гэты дом не для мяне. Тут будзе жыць той, хто мае 13 тысяч шылінгаў, каб заплаціць узнос. А затым яшчэ штомесяц паўтысячы трэба плаціць, ды за газ... А ў вас ёсць кватэра?

Аркадзь падсеў бліжэй да аўстрыйскага сябра. Рудольф, магчыма, чуў упершыню, што ў нашай краіне працоўныя атрымліваюць кватэры бясплатна і штомесячная плата за іх невялікая. А калі юнак даведаўся, што за сямігодку ў СССР атрымаюць жыллё больш 100 мільёнаў чалавек, ён неяк летуценна прамовіў:

— Вам можна толькі пазайздросціць...

Сустрэча зацягнулася. Аркадзю Дзігілевічу і Леаніду Іванову прыйшлося адказваць на многія пытанні: як у нас арганізавана тэхніка бяспекі на будоўлях, колькі зарабляюць рабочыя... Перад самым ад'ездам Рудольф зноў падышоў да Аркадзя.

— Скажыце, а вучоба ў вас таксама бясплатная?

— Ведаеш, сябар, — паклаў яму руку на плячо Аркадзь, — перад ад'ездам у Вену я атрымаў дыплом.

— Муляр і дыплом — здорава! І бясплатна?

— Вядома. У нас студэнты яшчэ і стыпендыю атрымліваюць, інтэрнатам забяспечаны, кнігі — бясплатныя. Толькі вучыся.

Рудольф стаяў поруч з Аркадзем, і ў яго вачах быў прыкметны адбітак нейкага смутку.

— А ў нас усё гэта — зноў шылінгі... Вучыцца цяжка. За адзін семестр трэба плаціць 1 200 шылінгаў. Бібліятэкі таксама платныя. Купіць жа сваю кнігу — дорага, 300 — 500 шылінгаў. А так хочацца вучыцца!..

### Ля маста над Дунаем

У той дзень, калі намячалася маніфестацыя за дружбу і салідарнасць з моладдзю каланіяльных краін і краін, якія нядаўна атрымалі сваю незалежнасць, усе — і ўдзельнікі фестывалю, і венцы — трывожна пазіралі на неба. З самага ранку вецер гнаў нізкія цёмныя хмары і здавалася вось-вось ліне дождж. Але ў тым, што маніфестацыя адбудзецца, ніхто не сумняваўся.

Група нашых турыстаў, напэўна, раней за ўсіх прыйшла на зялёную паляну, над якой высока луналі шматлікія сцягі. Там, на часовай трыбуне, ужо стаялі пасланцы многіх народаў, а ля самага ўзбярэжжа Дуная вялікім карагодам хадзілі юнакі і дзяўчаты. Сярод іх мы заўважылі высокага белявага хлопца — амерыканца, нашага нядаўняга знаёмага.

— О, рускія! — вырваўся Рэнс Лее раптам з круга і, падбегшы да нас, пачаў вітацца з кожным за руку.

Упершыню мы сустрэліся з ім у спартыўным гарадку Штадтхале яшчэ да пачатку нацыянальнага канцэрта. Ён сядзеў за невялікім столікам, пацягваючы праз саломінку «кока-кола» і абыякава глядзеў па баках з чыста амерыканскай звычкай. І раптам Рэнс быццам прачнуўся, пачуўшы рускую гаворку.

— Прывітанне! Вы рускія? Я — амерыканец.



Рэнс Лее нядрэнна ведаў нашу мову, і мы з ім хутка разгаварыліся. Аказалася, што Рэнс толькі што прыехаў у Вену з Савецкага Саюза. Ён пабываў у Маскве, Ленінградзе і цяпер ахвотна расказваў аб сваіх уражаннях.

— Ну, а як вам Масква спадабалася?

— О, Масква! Метро, выстаўка вашых дасягненняў — гэта казка! Я, ведаеце, больш за ўсё цікавіўся атамнымі рэактарамі.

— Вы, напэўна, працуеце ў гэтай галіне?

— Я нідзе цяпер не працую, хоць і скончыў Прыстанскі ўніверсітэт. У нас не так лёгка знайсці службу.

Некалькі хвілін мы сядзелі моўчкі, потым нехта спытаў:

— А фестываль вам падабаецца?

Амерыканец неяк крыва ўсміхнуўся.

— Нічога добрага не бачу: усюды шумна, цесна і, наогул, не гігіенічна — у адзін горад сабралася столькі розных людзей...

І вось мы зноў праз некалькі дзён сустрэліся з Рэнсам.

— О'кэй, Рэнс, як жыццё, як фестываль?

— Цудоўна!.. Вы толькі паглядзіце, колькі ў мяне знаёмстваў, — дастаў ён з кішэні запісную кніжку. — СССР, Інданезія, Ірак, Францыя... Многа, многа сяброў. Вы не ведаеце, дзе будзе наступны фестываль?

На паляну каля Дуная адна за другой падыходзяць дэлегацыі моладзі каланіяльных краін. На розных мовах гучаць заклікі: «Свабоду народам афрыканскіх і азіяцкіх краін!», «Мір і дружба!». Ярка палае касцёр міру і салідарнасці. Гневам і нянавісцю поўняцца галасы прамоўцаў, якія выступаюць у абарону каланіяльных народаў. Бой Даку з Ганы, які стаяў побач з намі, абняўшы нечакана савецкіх юнакоў, горача сказаў:

— Мы ведаем, хто нашы сябры, а хто ворагі. Няхай імперыялісты не думаюць, што народы слабаразвітых краін не разбіраюцца ў гэтым. Мы цяпер ужо не такія, як некалькі год назад. Дзеля свабоды мы гатовы ахвяраваць сваім жыццём.

### Клаўз шукае Пятра

Штадтхале ніколі не пуставаў у фестывальныя дні. Але яго вялікая зала, якая разлічана на 17 тысяч чалавек, не магла змясціць тых, хто жадаў паглядзець заключны канцэрт савецкай дэлегацыі. Да нас падбягалі аўстрыйцы з надзеяй «дастаць лішні білецік».



**Клаўз Ловенс юнак з Заходняй Германіі, падпісвае паштоўку на памяць савецкім турыстам.**

У нас было толькі два білеты, і іх перахапілі на хаду юнакі з Заходняга Берліна.

Клаўз Ловенс і Хорст Штумпф — падобныя адзін да другога, як блізняты. Мы сядзім на адным радзе, чакаючы, пакуль пачнецца канцэрт, і размаўляем з дапамогай добрага і ўважлівага Іягана Фюрнберга. Клаўз дастаў партсігар з малюнкам маскоўскага ўніверсітэта на Ленінскіх гарах і сказаў:

— Падарунак. Ад маскоўскага чыгуначніка Пятра Шынгарова. Можа ведаеце? — ён пачакаў хвілінку і дадаў: — Не ведаеце... Мы з ім пасябравалі на Маскоўскім фестывалі. Я цэлы дзень хаджу па Вене і ўсё прыглядаюся: а можа яго сустрэну. Не, мусіць, не прыехаў...

— А можа і прыехаў, — абнадзейваем мы Клаўза. — Можа і сустрэнецеся яшчэ, — і прышпільваем да грудзей нямецкіх сяброў савецкія значкі. Яны моцна ціснуць нам рукі, а Клаўз зноў гаворыць:

— Вы, здаецца, турысты. А мы і самі не ведаем, як назвацца. Падпольшчыкі, ці што, — і засмяяўся.

Клаўз і Хорст расказалі нам, як прыехалі на фестываль. Абодва яны — слесары, працуюць у адным дэпо. І калі стала вядома, што сёмы фестываль моладзі і студэнтаў будзе праха-

дзіць у Вене, пад самым, як кажуць, бокам, Клауз сказаў сябру: «Паедзем». Аднак у Заходняй Германіі разгарнулася страшэнная кампанія супраць фестывалю, нават сам канцлер Адэнауэр раскашэліўся і не пашкадаваў на антыфестывальныя мерапрыемствы каля мільёна марак. Але Клауза цяжка было запалохаць, ён ужо ведаў, што такое фестываль, ён адчуў цеплыню і сардэчнасць сяброўскіх сустрэч яшчэ на Маскоўскім фестывалі.

Сябры, знайшоўшы прычыну, каб узяць водпуск пазычылі грошы і нелегальна прыехалі ў Вену.

— Мы не маглі не прыехаць, — гаворыць Клауз.

Яго апошнія словы патанулі ў громе воплескаў. На сцэне з'явіліся савецкія артысты. Цяжка перадаць словамі, з якой цеплынёй, урачыстасцю і захапленнем сустракала ўся зала выступленне нашай дэлегацыі. Па два разы вярталі на сцэну гледачы ўсімі прызнаныя ў Вене і Грузінскі маладзёжны ансамбль народнага танца, і ўкраінскі народны хор, і ленінградскіх маладых танцораў Ольгу Заботкіну і Канстанціна Расадзіна. Здавалася, што ад гэтага шматтысячнага гулу разбурацца сцены бетаніраванай залы.

— Мы нічога такога ніколі не бачылі, — усхвалявана гаварылі нам на развітанне нямецкія сябры. — Савецкі канцэрт — гэта ваш чацвёрты спадарожнік...

### «Антыфестываль капут!..»

Гэта была самая яркая падзея фестывалю. Яна ўскалыхнула, узвірыла ўсю Вену. І не толькі Вену. На маніфестацыю, прысвечаную міру і дружбе, забароне атамнай зброі, прыбылі тысячы людзей з многіх гарадоў і вёсак Аўстрыі, — інвалід на калясцы, маладая маці з дзіцем на руках, састарэлая жанчына, якая абапіралася на сукаваты кіёчак. На твары кожнага з іх — адбітак глыбокага роздуму аб заўтрашнім дні.

Калоны ідуць і ідуць па Рынгу. На плакатах выведзена буйнымі літарамі: «Ноу» — плача дзіця над трупам забітай маці, «Йес» — шчаслівая ўсмешка на твары малога, якога трымае радасная жанчына; «Нет» — падае на зямлю атамная бомба; «Да» — ляціць у космас імклівая ракета. Плакаты, плакаты... І цягнуцца рукі венцаў да пасланцоў міру — чорных, белых, жоўтых, абдымаюць іх у гарачым парыве.



**Пасланцы Чэхаславакіі, сустрэўшыся з беларусамі, прапанавалі выканаць іх народны танец.**

На алею гарадскога саду ступіла савецкая дэлегацыя. Раптам адбылося штосьці незвычайнае для Вены: бакавыя вароты парку расчыніліся, тысячы венцаў хлынулі на алею і цвёрдым крокам пайшлі побач з калонаю.

Тут мы зноў сустрэліся з групай юнакоў і дзяўчат, членаў Саюза свабоднай аўстрыйскай моладзі, сярод якіх быў і наш знаёмы Петэр Гофман. Яны горача скандзіравалі словы, якія прыйшліся ўсім па душы: «Алес гут, алес гут — антыфестываль капут!».

Упершыню мы пазнаёміліся з Петэрам на Месагалэндэ, дзе размяшчаліся дэлегацыі паўночных краін. Петэр хадзіў разам з намі і ахвотна расказваў, як яны, члены Саюза свабоднай аўстрыйскай моладзі, рыхтаваліся да сустрэчы гасцей. Былі такія дні, асабліва напярэдадні фестывалю, калі, прышоўшы з работы, аўстрыйская моладзь да позняга вечара не пакідала ўскраін Венскага лесу: расчышчала пляцоўкі, нацягвала палаткі — будавала жыллё для ўдзельнікаў фестывалю. А потым трэба было яшчэ абысці вуліцы Вены і распаўсюдзіць лістоўкі, у якіх расказвалася праўда аб фестывалі, выкрывалася правакатарская роля ворагаў гэтага вялікага форума моладзі.

Петэр расказваў шмат аб сабе, цікавіўся жыццём савецкай моладзі. Мы адчувалі, што аб нас, аб нашай краіне, яшчэ вельмі мала ведае моладзь капіталістычнага свету. «Скажыце, праўда, што ў вас няма выхадных дзён?» — пыталіся ў нас, або: «Кажуць, што ў Савецкім Саюзе электрычнае святло ёсць толькі ў вялікіх гарадах». Мы доўга гутарылі са сваімі аўстрыйскімі сябрамі, расказвалі



ім шчырую праўду аб нашай краіне.

— А я зарабляю 200 шылінгаў у тыдзень, — сказаў раптам Петэр.— Вы думаеце, гэта многа? Давайце падлічым. Праехаць на трамваі — больш двух шылінгаў. Схадзіць у кіно — не менш 10—15 шылінгаў. Я не гавару ўжо ні аб плаце за кватэру, ні аб харчовых прадуктах. Жыццё дарагое...

Мы разміnуліся з Петэрам на маніфестацыі выпадкова: нас шчыльна акружылі новыя сябры — негры з Паўднёвай Афрыкі. Спяваў Поль Робсан, які раніцай прыляцеў у Вену на самалёце, каб выступіць на маніфестацыі. Ён выканаў чатыры песні, і кожная з іх была сустрэта бурай гарачых воплескаў. Мы дзякавалі Полю Робсану за яго цудоўнае майстэрства, а група неграў, трымаючыся моцна за рукі савецкіх сяброў, скандзіравала на рускай мове: «Мір!», «Дружба!»

Пасля маніфестацыі над плошчаю Хельдэнпляц і на вуліцах Вены яшчэ доўга гучала дасціпнае: «Алес гут, алес гут, антыфестываль капут!» Так, праціўнікам фестывалю прышоў канец. Ні тыя вялікія сродкі, якія былі затрачаны імперыялістамі супраць фестывалю, ні плакаты, што цягалі за сабой штодня над горадам самалёты, ні заходнегерманскія малойчыкі, якія хадзілі з нажамі і касцетамі ў кішэні, нішто не магло спыніць трыумфальнага шэсця фестывалю, прагнага імкнення моладзі свету да яднання, дружбы, міру і шчасця.

Лёгка знаёміцца, сябраваць, лёгка быць разам, а развітваццa — не вельмі прыемна. Гэта адчувалі і ўдзельнікі фестывалю, і гасцінныя венцы, калі стаялі перад гарадской ратушай на закрыцці вялікага, незабыўнага свя-



**— Што ж яшчэ напісаць... — задумаўся Уладзімір Падрэз з Чашнікаў, якога абступілі аўстрыйскія школьнікі.**



**Франц Конверын — аўстрыйскі юнак паспеў завесці шмат знаёмстваў.**

та. Ішоў развітальны міжнародны канцэрт, гучалі апошнія выступленні прамоўцаў. І, напэўна, кожны з прысутных развітваўся ў думках і з прыгожай Венай, і з яе гасціннымі жыхарамі, і са сваімі новымі сябрамі...

— Мне будзе сумна без вас, — гаварыў венец Франц Конверын.— Мне будзе чагосьці неставаць...

Добры Франц! Амаль кожны фестывальны дзень мы сустракаліся з табою. Твой старэнькі веласіпед, упрыгожаны чырвоным сцяжком, чакаў свайго гаспадара ля стадыёна ў Штадтхале, Канцэртхаузе і Музікферайне—усюды, дзе былі пасланцы савецкай краіны. Ты, напэўна, не прамінуў ніводнага канцэрта, дзе выступалі нашы артысты. Можа таму, што ў цябе шмат вольнага часу? Не, хутчэй за ўсё, — і мы адчувалі гэта,— ты палюбіў нашу моладзь, нашы песні, нашы адкрытыя для дружбы сэрцы, палюбіў можа крыху больш, чым тысячы, дзесяткі тысяч іншых. Мы таксама цябе не забудзем. Ты ж чуў, як толькі што сказаў твой суайчыннік, старшыня Аўстрыйскага фестывальнага камітэта Вальтэр Халінтшэр, што мы развітваемся, не баючыся страціць адзін аднаго...



# НАРОДНЫ ПЯСНЯР

**Да 150-годдзя з дня нараджэння А. В. Кальцова**

Аляксей Васільевіч Кальцоў, выдатны рускі паэт-дэмакрат пачатку мінулага стагоддзя, сучаснік Пушкіна, Лермантава і Гогаля, вучань і друг Бялінскага, заняў у гісторыі рускай літаратуры сталае месца побач з імі. М. Г. Чарнышэўскі пераканальна сцвярджаў, што па энергіі лірызму з Кальцовым можа зраўняцца толькі Лермантаў, а па выключнай самабытнасці яго можна параўнаць толькі з Гогалем.

Думку рэвалюцыйных дэмакратаў аб народнасці паэзіі Кальцова падзялялі многія перадавыя дзеячы рускай культуры.

Паэзія Кальцова зрабіла моцны станоўчы ўплыў на рускую і ўсеславянскія літаратуры пазнейшых часоў.

* * *

Аляксей Васільевіч Кальцоў нарадзіўся 15 кастрычніка 1809 года ў Варонежы ў сям'і прасола — гандляра жывёлай. Вучыўся ў Варонежскім павятовым вучылішчы, але быў узяты адтуль з другога класа, каб дапамагаць бацьку ў гандлёвых справах. На гэтым і закончылася афіцыйна яго адукацыя. З таго часу і да канца жыцця атмасфера дробнага гандлярства акружала паэта, атручваючы лепшыя ўзлёты яго душы, пакуль, нарэшце, і зусім не загубіла таленавітага мастака слова. Ён памёр на 33 годзе жыцця.

Няроўным быў творчы шлях народнага песняра-пакутніка. Фарміраванне ідэйна-эстэтычных поглядаў Аляксея Кальцова адбывалася ў часы рэакцыі 30-х гадоў, а таму паэт нямала блукаў у поцемках, у пошуках правільнага творчага шляху.

Сувязі Кальцова з перадавымі людзьмі свайго часу да знаёмства яго з Пушкіным і Бялінскім былі вузкімі і абмежаванымі. І калі паэт змог выйсці на шырокую дарогу перадавога рэалістычнага мастацтва, дык гэта толькі таму, што ён заўсёды быў цесна звязаны з жыццём народа, ведаў думкі і спадзяванні простых людзей, рана адкрыў прыгажосць вуснай паэтычнай творчасці.

Сустрэчы з Пушкіным пакінулі глыбокі след у літаратурна-эстэтычным самавыхаванні паэта. Але самы плённы ўплыў на Кальцова меў Бялінскі, які адразу адчуў народнасць таленту Кальцова і пільна сачыў за ідэйна-творчым ростам паэта, кіраваў яго самаадукацыяй, падтрымліваў у хвіліны цяжкіх душэўных пакут. Паглыбленне дэмакратызма і рэалізма паэзіі Кальцова адбывалася пад уплывам рэвалюцыйна-дэмакратычнай эстэтыкі Бялінскага.

Паэзія Кальцова бярэ свой пачатак з вуснай народнай творчасці — гэтай вечнай жыватворчай крыніцы мастацтва. Талент Кальцова найбольш поўна праявіўся ў яго песнях. Многа слаўных песняроў папярэднічалі яму ў гэтым жанры, аднак Кальцоў унёс у песню адзнакі сваёй, новай, непаўторнай творчай індывідуальнасці. Матывы няшчаснага кахання, цяжкага лёсу замужняй жанчыны, горкай долі бедняка і шмат іншых пад пяром Аляксея Кальцова набылі выразнае сацыяльнае гучанне. Па мастацкай фактуры рускія песні А. Кальцова можна параўнаць толькі з пушкінскімі. Кальцоў натуральна і па-майстэрску, як і творцы народных песень, карыстаецца ўсім багаццем традыцыйных фальклорных прыёмаў і мастацкіх сродкаў выяўлення: пастаяннымі эпітэтамі, устойлівымі сімваламі, народнымі прымаўкамі і параўнаннямі. Але выкарыстанне арсеналу фальклорных сродкаў не было стылізатарствам. Гэта — элементы эстэтычнага ўспрымання навакольнай рэчаіснасці самім паэтам, элементы яго светапогляду і светаразумення. Як зазначыў у свой час выдатны бальшавік М. С. Альмінскі, душа паэта імкнулася да простага народа, да селяніна і бабыля, да ня-



шчаснага і абяздоленага чалавека. І гэта імкненне знайшло свой адбітак у песнях. Кальцоў ненавідзеў прыгнятальнікаў, сытых, абмежаваных мяшчан. Ён пісаў:

Не тот счастлив, кто кучи злата
Сбирает жадною рукой...
Не тот счастлив, не тот, кто давит
Народ мучительным ярмом...

Чалавек з народа — улюбёны вобраз Кальцова. Сардэчнай цеплынёй сагрэты ён у шматлікіх песнях і вершах. Яго трагічны лёс у прыгнечанай Расіі больш за ўсё кранаў паэта. Ва ўяўленні паэта гэты вобраз асацыіраваўся з вобразам сокала, у якога звязаны крылы. І паэт з надзеяй на будучае пытаў:

Аль пути ему
Все заказаны?

Вера Кальцова ў народную сілу не была свядомай верай рэвалюцыйнага дэмакрата, хутчэй за ўсё гэта аптымістычная надзея чалавека, які не жадаў мірыцца з «цёмнай ноччу», з страшэннай нядоляй. У вершы «Последняя борьба» паэт пагражальна кідае:

Не грози ты мне бедою,
Не зови, судьба, на бой.
Готов биться я с тобою:
Но не сладишь ты со мной.

Такая аптымістычная, жыццесцвярджальная паэзія была сугучна настроям рускага сялянства, незадаволенага прыгонам.

Вызваленчы рух і вызваленчая барацьба народных мас супраць прыгонніцтва несумненна наклалі свой адбітак на паэзію Кальцова. У сваю чаргу, яго паэзія стала зброяй у руках рэвалюцыйных дэмакратаў. Яна выражала настроі і імкненні шырокіх колаў прыгнечанага люду.

Вялікі ўплыў зрабіла паэзія Кальцова на творчасць Шаўчэнкі і Някрасава. Матывы працы і змагання, апяванне мужнасці і духоўнай прыгажосці простых людзей, характэрныя для творчасці Кальцова, знайшлі свой працяг у паэзіі вялікага ўкраінскага кабзара Тараса Шаўчэнкі і рускага «мужыцкага» дэмакрата Някрасава ў сацыяльна больш акрэсленым і мастацкі больш поўным і дасканалым выяўленні.

Многім абавязана Кальцову наша беларуская дэмакратычная паэзія XIX і пачатку XX стагоддзяў. Блізкая па ідэйна-тэматычных вытоках і мастацкіх матывах кальцоўскай паэзіі творчасць Ф. Багушэвіча. У кальцоўска-някрасаўскім напрамку пачыналі сваю дзейнасць Янка Купала і Якуб Колас. Яны творча аваладвалі дэмакратычнай і паэтычнай традыцыяй Кальцова. А Кальцоў быў сугучны Купалу і Коласу ў час нарастання народнай рэвалюцыі. Менавіта ў гэты час малады беларускі пясняр Янка Купала перакладае на беларускую мову кальцоўскі верш «Путь». Яму па сэрцы былі бунтарскія пачуцці рускага паэта-дэмакрата:

Чтобы порой пред бедой
За себя постоять,
Под грозой роковой
Назад шагу не дать.

...ў бядзе
Сябе ў крыўду не даць,
Проць благіх непагод
Грудзьмі смелымі стаць.

Якуб Колас зазначаў, што ў вершах Янкі Купалы ёсць элементы грамадзянскай лірыкі Някрасава і напеўнасць вершаў Кальцова. Сам Колас прызнаваўся, што ў маладосці ён вельмі захапляўся паэзіяй Кальцова.

У замілаванні да роднай прыроды, у напеўных фальклорна-песенных вершах беларускага паэта Паўлюка Труса таксама няцяжка заўважыць сляды кальцоўскай паэтычнай традыцыі.

Слаўная паэтычная традыцыя Кальцова, як крыніца з глыбокага падзямелля, прабілася на свет праз складаныя пласты жыцця і ўлілася ў рэчышча літаратуры сацыялістычнага рэалізма. Кальцоўскае пранікненне ў рускі народны характар па-новаму ўспрынята і паглыблена ў савецкай паэзіі М. Ісакоўскім, А. Твардоўскім, А. Сурковым і іншымі паэтамі.

У 1918 годзе па Ленінскаму дэкрэту Савецкі ўрад паставіў помнік А. В. Кальцову. Савецкі ўрад узяў пад сваю ахову літаратурную спадчыну Аляксея Васільевіча Кальцова — рускага народнага песняра. Яго вершы і песні палюбіў наш народ.

Стапяцідзесяцігоддзе з дня нараджэння паэта савецкія людзі адзначаюць у радасныя дні разгорнутага будаўніцтва камунізма. Яны ўспамінаюць добрым словам таленавітага песняра, які прагна марыў аб народнай волі, аб шчасці Радзімы і не шкадаваў свайго жыцця для стварэння той культуры, якая і зараз служыць выхаванню новага чалавека, будаўніка камунізма.

**Д. ПАЛІТЫКА.**

## Размова аб майстэрстве

Рыгор БЯРОЗКІН

# ПАЭЗІЯ — У ЖЫЦЦІ!

Гэта вельмі складаная справа — разгледзець у адным артыкуле пяць кніг, пяць паэтычных зборнікаў. Тое, што мы прапануем у нашых нататках, — не звод рэцэнзій і, тым больш, не агляд маладой паэзіі, а толькі думкі, выкліканыя чытаннем пяці першых кніг: «Маладзік над стэпам» Рыгора Барадуліна, «На юначым шляху» Алега Лойкі, «Белыя каштаны» Івана Калесніка, «Шэпчуцца ліўні» Юрася Свіркі і «Золак над Бярозай» Алеся Ставера. І хай даруюць аўтары зборнікаў за тое, што галоўную ўвагу мы звернем на недахопы гэтых кніг, на тыя хібы творчага парадку, якія прыкметна замаруджваюць далейшы рост нашай маладой паэзіі.

### Аб маладосці пачуццяў

Прызнацца, нас вельмі здзівілі два радкі з верша Юрася Свіркі «Чытаючы Маякоўскага»:

Калі чытаю вершы Маякоўскага,
Сябе я адчуваю маладым.

Здзівілі таму, што тут паэт гаворыць аб сваёй маладосці неяк «з боку», як аб дарагім госцю, што наведвае яго толькі ў пэўныя хвіліны. А чаму, уласна кажучы? Чаму так мала сапраўднай маладосці ў першых кнігах маладых паэтаў?

Успаміны пра маленства, тэма вяртання ў родныя мясціны займаюць непамерна вялікае месца ў зборніках, аб якіх ідзе тут гаворка. Асабліва «перастараліся» ў гэтым сэнсе Рыгор Барадулін і Алег Лойка. Ці не зарана пачалі мы жыць успамінамі?

Нельга сказаць, што маладыя паэты цалкам абмінулі гераічную тэму, што яны не заўважылі свайго сучасніка, маладога героя нашых дзён. Але глыбока раскрыць думкі і пачуцці гэтага героя, адчуць ва ўласным сэрцы яго парыванні і мары нашым паэтам пакуль што не ўдалося. Нават добры ў цэлым цыкл вершаў Рыгора Барадуліна аб цаліне, які, безумоўна, належыць да лепшых здабыткаў маладой паэзіі, шмат траціць ад залішняй сузіральнасці аўтара, ад таго, што ў яго адсутнічаюць сапраўды актыўныя адносіны да жыцця. Што ж пасля гэтага можна сказаць пра такія вершы:

Асфальт,
Дажджом абмыты,
Блішчыць,
Нібы зашклёны.
У шкле яго адбіты
Ліп расквітнелых кроны.
І крочыш асцярожна —
Ступіць на кветкі можна.

І. Калеснік.



Альбо:

Я раніцою адчыніў акно,
Каб паглядзець, што робіцца на нівах:
Пярун страляў над хатай усю ноч,
І па страсе хвастаў халодны лівень.
А калі вецер расчасаў галлё
І зашумелі між сабой бярозы,
Падняўся ля дарогі васілёк
І радасна ўсміхаецца праз слёзы.

Ю. Свірка.

Вядома, мы не збіраемся забараніць пейзаж, як тэму, і, больш таго, як агромністую галіну паэзіі. Але ж пейзаж і бяздумнасць, пейзаж і лёгкаважкасць — гэта не словы-сінонімы. Чытаеш верш пра васілёк, што «ўсміхаецца праз слёзы», і яшчэ адзін — пра ягады, што «адцвілі, паспелі і завялі», а потым старажытную грузінскую легенду аб няшчасных закаханых далёкіх княжаскіх часоў і яшчэ адну пра тое, як «з балотаў лясных, нізінных дрыгвічы ішлі на раду», — і адчуванне таго, што нашы маладыя паэты не заўсёды ўмеюць крочыць у нагу з гераічным сучаснікам, робіцца, нажаль, перакананнем.

Маладосці ўласціва жаданне рабіць, тварыць рэчаіснасць. Дзе яно ў нашых маладых паэтаў? Нельга ж на самай справе лічыць, што паэт перадаў натхнёнасць працоўнага подзвігу ў такіх «сумарных», інфармацыйных радках: «Вось так пачынаецца будзень ткачых, муляроў, сталявараў» (І. Калеснік); ці: «Прывяла вада ў рух турбіны, зацвілі сады ў пясках пустыняў» (А. Ставер).

Маладосці ўласцівы пошукі ва ўсім і, у прыватнасці, пошукі слова трапнага, моцнага, яшчэ не астылага. Ці ёсць гэтыя пошукі, скажам, у такім вершы, як «Песня пра Гастэлу» Алеся Ставера?

Імкліва над роднай зямлёю
Праносіўся ўдаль самалёт,
Змагацца з навалай ліхою
Узняўся адважны пілот...
І смерць перамог мужны сокал, —
Жыве і сягоння герой.
Ён песняй лятае высока,
Лунае над нашай зямлёй.

Тут што ні слова, то штамп, што ні вобраз, то агульнае месца.

Адсутнасць вынашанай уласнай думкі, непатрабавальныя адносіны да слова і вобраза згубна адбіліся і на некаторых вершах І. Калесніка, прысвечаных гераічнай тэме («Юнацтва», «Мая маладосць», «Рубен Ібаруры»). Нельга ж бясконца паўтараць «маладая песня», «залаты акіян», «адважнае сэрца», «свінцовы град»! Жывое пачуццё ўжо даўно выветрылася з гэтых значэнняў, пакінуўшы пасля сябе толькі далёкі ўспамін аб тым першапачатковым хваляванні, што некалі нарадзіла на свет і «мужнае сэрца» і «маладую песню».

Пасіўная сузіральнасць пейзажу і бязвобразная дэкларацыйнасць вершаў на грамадскія тэмы паходзяць з агульнай прычыны — з адсутнасці ў нашых маладых паэтаў **маладой**, гарачай зацікаўленасці ўсім, што робіцца навокал іх.

### Аб лірыцы наогул...

Нашы маладыя паэты, у пераважнай большасці сваёй, працуюць у лірычных жанрах. Рэдка сустрэнеш у кнігах, якія мы разглядаем, газетны, публіцыстычны верш на актуальную палітычную тэму.

Што такое лірыка? У самай агульнай форме можна сказаць: лірыка — гэта такі род паэзіі, у якім падзеі і з'явы навакольнага свету ўспрымаюцца не інакш, як праз асобу самога паэта ці яго лірычнага героя. Ці значыць гэта, што лірыка, у сілу сваёй суб'ектыўнасці, пазбаўлена грамадскага зместу? Ні ў якім разе. Усё выражаецца ў канчатковым выніку асобай самога паэта, яе змястоўнасцю і маштабамі яе інтарэсаў. Не проста тэмай, а крыніцай глыбокага **лірычнага** хвалявання былі для Маякоўскага партыя, камунізм, рэвалюцыя. Асабістым перажываннем стала для Янкі Купалы такая, здавалася б, «празаічная» тэма, як крытыка і самакрытыка.

І, наадварот, у павуцінні маленькіх, «хатніх» матываў, выдаючы іх за самую праўдзівую лірыку, блыталіся тыя з вершатворцаў, чый унутраны душэўны свет не выходзіў за межы кветніка ці агароду.

Якія вывады могуць зрабіць для сябе з усяго сказанага нашы маладыя паэты?

Перш за ўсё, што праца ў галіне лірыкі вымагае ад паэта няспыннага самавыхавання, умельства так падыходзіць да з'яў **вялікага** свету, каб яны сталі фактамі яго ўласнай біяграфіі, патрабуе безупыннага пашырэння інтэлектуальных, грамадскіх даляглядаў паэта. Не трэба ператвараць лірыку з магутнага сродку **даследавання** чалавека ў носьбіта імгненных, маленькіх «настрояў».

І яшчэ, не трэба глядзець на лірыку, як на сродак «уцяплення» грамадскай тэмы.

Калі чытаеш у вельмі здольнага маладога паэта Рыгора Барадуліна такія радкі аб цалінным ураджаі:

Прыгледзься, не пшаніца, а бурштын
Бяжыць, адшліфаваны.
Хоць наніжы яго ў каралі ты
Ды падаруй каханай,—

дык нельга не заўважыць, што тут паэт, раней чым прыняць у сваё сэрца агромністую тэму нашых дзён, тэму цаліны, старанна (дзеля «лірычнасці»!) аздабляў і ўпрыгожваў яе, як быццам сама па сабе цаліна, без караляў і бурштыну, не можа стаць прычынай высокага **лірычнага** хвалявання!

Часам бывае і так, што не да месца ўжытыя лірычная асацыяцыя ці падрабязнасць прыводзяць да парушэння элементарнага чалавечага такту, імена ў сілу сваёй непрадуманасці. Вось адзін характэрны прыклад.

У вершы, якім адкрываецца зборнік І. Калесніка «Белыя каштаны», мы, сярод іншых, чытаем і такія радкі:

Каб мог я, шчаслівы,
Заўжды расплятаць
Тваю, нібы сонца,
Касу залатую,—
Братам давялося
Бяды паспытаць.

І не толькі бяды паспытаць, дададзім мы са свайго боку, але і палегчы ў магілах, абараняючы родны край ад варожай навалы. Гаварыць аб гэтых героях трэба ўсхвалявана, але стрымана, упаўголаса, як прынята гаварыць каля магіл. Ва ўсякім выпадку тут зусім недарэчы тая гуллівасць, што чуецца ў радках пра «касу залатую», пра шчасце яе расплятаць...

**...і аб лірыцы кахання ў прыватнасці**

Тэма кахання займае надзвычай вялікае месца ва ўсіх пяці зборніках. Ёсць сярод вершаў на гэтую тэму і нямала такіх, якія робяць добрае ўражанне, дзякуючы той праўдзе пачуцця, якая ў іх увасоблена.

Як правіла, нашым маладым паэтам найбольш удаюцца вершы аб першых, нясмелых кроках кахання, аб той незабыўнай і мілай пары, калі юнацкае пачуццё, каб не выказаць сябе да канца, прыкрываецца ўсмешкай, цудоўнай «хітрынкай». Некалькі добрых вершаў аб гэтым можна сустрэць у Юрася Свіркі («Звычайна ў жніўні», «На лузе», «Размова»).

Але, чытаючы нават лепшыя вершы Ю. Свіркі, як і вершы іншых маладых паэтаў пра каханне, часцей за ўсё напрошваецца ацэнка: «міла», «цёпла» і амаль ніколі — «глыбока», «усхвалявана». У чым тут справа?

Відаць, у тым, што нашы маладыя паэты неяк затрымаліся на гэтым наіўным, крыху жартаўлівым падыходзе да вялікай тэмы кахання, калі бясконца і на ўсе лады абыгрываюцца «простыя» і «заказныя» пісьмы, вянкі з гароху, што надзяваюць сябры «адстаўному кавалеру», «сімпатычныя» непаразуменні з інтэрнацкага побыту — карацей, увесь набор даўно засвоеных паэзіяй хо-



даў, якія не выяўляюць пачуццё, а хутчэй маскіруюць яго адсутнасць. Павінен жа надысці такі час, калі маладыя паэты адчуюць усю непатрэбнасць гэтай «галантнасці» і калі яны ўзнёсла і адкрыта загавораць аб каханні, як аб вялікай сіле, што робіць чалавека багацейшым і змястоўнейшым, як аб «свабодным спаборніцтве з усім светам» (Маякоўскі).

Сапраўдны паэт толькі таму і мае ўладу над чалавечымі сэрцамі, што адчувае ён больш глыбока і больш інтэнсіўна за «звычайнага» чалавека. З гэтай здольнасцю паэта думаць і адчуваць **за многіх** непарыўна звязана і другая яго здольнасць — уздзейнічаць на чалавечыя характары, выхоўваць іх у патрэбным напрамку. А якую інтэнсіўнасць пачуцця можна заўважыць у такім вершы, як «Каля тыну» Алеся Ставера:

Хмель зялёны
каля тыну
Павіваўся...
У дзяўчыну
у Галіну
Я ўкахаўся.
Ой, пайду я ў луг мурожны,
У даліну,—
Можа ўбачу,
стрэну, можа,
Там Галіну.

Чытаеш такія вершы і адчуваеш, што Галіна, якую нібыта кахаў герой верша, — фікцыя, здань, пасрэдная рыфма да слова «тыну». І гэтая адцягненасць, беспачуццёвасць кахання ў вершы «Каля тыну» тым больш засмучае і здзіўляе, што ў другім вершы таго ж Алеся Ставера («Канюшына»), таксама прысвечаным каханню, мы чытаем такія выразныя, святлом і свежасцю напоўненыя радкі:

Ад вады занылі зубы,
Не вада,
а проста лёд.
Пахнуць кветкі,
пахнуць губы,
Ах, як смачна пахне мёд!

Там, у вершы «Каля тыну», каханне толькі называла сябе, у яго існаванне хочаш вер, хочаш не. Тут яно — несумненная рэальнасць, яно ў самой інтанацыі захаплення і радасці, з якой гавораць аб напаткаўшым яго шчасці юнак, які рэжа касілкай духмяную канюшыну. І верыш, што пры такім вось радасным уздыме ўсіх пачуццяў хлопец і канюшыне дасць рады хутчэй і лепей, чым у «звычайным», як кажуць, стане.

Святочнага ўздыму пачуццяў і думак, пафасу сапраўднага захаплення не хапае, нажаль, многім і многім вершам нашых маладых паэтаў аб каханні. Холадам і празмернай разважлівасцю вее ад такой, напрыклад, лірычнай мініятуры Алега Лойкі:

Гнецца пад вясеннім ветрам бэз,
Стукаючы ў шыбіны табе, —
Ты ж чакаеш, прачакалася даўно,
Каб, нарэшце, я пастукаў у акно.

Вялікай цікавасці для другога, «староннягa» чалавека не ўяўляе верш Івана Калесніка аб тым, як малады хлопец ратаваўся ад дажджу пад парасонам незнаёмай дзяўчыны, а потым усю ноч мармытаў: «Парасон, парасон...» Альбо яго ж, І. Калесніка, верш аб тым, як ён выдаваў за сястру дзяўчыну, што стала пазней яго жонкай. Альбо верш Юрася Свіркі аб тым, як ён на Каўказе, і, вядома ж, удваіх з дзяўчынай, парушаў — «няхай яго ліха — рэжым санаторны...»

Навошта ўсё гэта? Навошта блытаць сур'ёзную лірыку аб каханні, высокую паэзію думак і пачуццяў з тэкстамі бойкіх песенек, разлічаных на вельмі непатрабавальны густ?

**Аб гусце**

Аб гусце, аб пачуцці меры ў нас гавораць мала. Між тым, адсутнасць гэтага пачуцця нярэдка псуе вельмі сур'ёзныя па задуме вершы.

Нельга адмовіць у культуры пачуцця, у мастацкім гусце такому паэту, як Алег Лойка, але калі ў адным са сваіх вершаў, прысвечаных прыезду ў родныя мясціны, паэт піша:

З-за хмары сонейка прагляне
На мой, з залысінамі, лоб...,—

дык мы заўважаем, што тут аўтар прапануе сонцу ў якасці аб'екта для разглядання прадмет, не тое каб «нізкі», але не зусім варты яго, свяціла, пільнай увагі.

Калі той жа Алег Лойка ў другім вершы з таго ж «хатняга» цыкла піша пра калодзежнае вядро:

І паплыло яно ўгару памалу,
Напоўненае неба сінявой,
Нібы з глыбінь падземных
падымала
Нябёсы, хмаркі, твар заспаны
мой... —

дык нас зноў-такі не можа не здзівіць зусім відавочная неправамернасць такога суседства нябёсаў, хмар і заспанага твару аўтара...

Некаторых з нашых маладых паэтаў яўна падводзіць неперадольнае жаданне гаварыць абавязкова «вобразна». Гэтае жаданне можа прывесці і прыводзіць да станоўчых вынікаў толькі тады, калі яно кантралюецца вышэйшым тактам, імя якому — **адчуванне праўды,** праўды супастаўлення вялікага з малым, праўды перажывання і пачуцця.

Рыгор Барадулін — паэт з добрымі задаткамі лірыка і жывапісца адначасова. Многія вобразы Р. Барадуліна запамінаюцца надоўга. Вось як выразна сказана пра моладзь, што едзе на цаліну:

Ды нам на шчасце, з поўным,
Велічна
Дарогу Волга перайшла.

Знешні малюнак і ўнутраны стан чалавека непарыўна зліліся ў метафары нечаканай, смелай, але разам з тым вельмі рэалістычнай.

«З поўным» — гэта не толькі мнагаводнасць і глыбіня вялікай рускай ракі, гэта яшчэ абяцанне ўдачы, упэўненасць, што паездка на цаліну будзе радаснай і шчаслівай. А заўважце, як хораша паэт «разгушкаў», «раскалыхаў» радок, каб перадаць велічную і вольную хаду ракі, што так нечакана прыняла аблічча маладзіцы-суседкі на роднай Ушаччыне:

«Ды нам на шчасце, з поўным, велічна...»

Але вось чытаеш іншыя радкі таго ж Р. Барадуліна і заўважаеш, як часам здраджвае паэту густ і пачуццё **неабходнасці** таго ці іншага тропу.

Аб вокнах студэнцкага інтэрната паэт піша: «Так свецяцца ад шчасця ў бацькі вочы, калі сваіх сыноў сустрэне ён...»

Як замілавана не глядзеў бы студэнт на вокны роднага інтэрната, а цеплыня і шчырасць гэтага замілавання не павінны «спаборнічаць» з цеплынёй бацькоўскіх вачэй. Розныя рэчы!..

Наогул трэба адзначыць, што нашы маладыя паэты яўна грашаць на залішнюю, калі можна так сказаць, фізіянамістыку. У Барадуліна «хвалі лоб азёрны не маршчыняць», у Лойкі сонца глядзіць на лоб з залысінамі, у Калесніка ёсць нават верш, пабудаваны на знешнім ачалавечанні прыроды:

Азёры — глыбокія вочы зямлі —
Блакіт у нябёс узялі.
Лясы і дубровы —
зямлі гэтай бровы —
Дугой абагнулі палі.

Бязмэтнасць і надуманасць увасабленняў такога роду выступаюць тым відавочней, што побач з імі, у тым жа вершы, сустракаем мы і фабрычныя коміны, якія «дымяць угары», і «сіняе полымя» ільноў, і многае іншае, што да «вачэй» і «брывей» ніякага дачынення не мае. Паэтычны твор становіцца, такім чынам, проста сховішчам, куды складваюць вобразы наогул, вобразы без акрэсленай сэнсавай задачы.

## Аб паэтычнасці сапраўднай і ўяўнай

Адна з прыкмет, па якой пазнаецца сапраўдны мастак-рэаліст — умельства паказаць прадмет альбо з'яву ва ўсёй непаўторнасці іх аблічча. І, наадварот, мастака няспелага, мастака-імітатара мы адразу ж пазнаем па тым, што жыццёвая з'ява робіцца



ў яго руках на дзіва да сябе непадобнай.

Лепшымі творамі нашых маладых паэтаў з'яўляюцца якраз тыя, дзе аўтарам удалося пераадолець спакусу дзяжурнай, адцягненай «паэтычнасці» і застацца з жыццёвым фактам сам-на-сам.

Так запомніўся, у прыватнасці, верш Алега Лойкі «Выйду, гляну», у якім даволі праўдзіва перададзен тыповы эпізод з жыцця ў былой Заходняй Беларусі.

... Бедная сялянская жанчына дажынае вузкую палоску аўса і тут ж у полі нараджае сына: то быў бацька паэта.

Гэта дзед мой вёз яго дахаты,
Гэта ён тады быў вінаваты,
Што авёс застаўся недажаты...

Словы, простыя, сціплыя, але сказана імі даволі многа!

Нажаль, не заўсёды ўдаецца Алегу Лойку ўтрымацца на ўзроўні вось такога добрасумленнага абыходжання з фактамі. У «Баладзе аб танку» тэма трансфармавана ў такой меры, што страціла свае адметныя рысы **жыццёвай.**

Паэт расказвае аб савецкім танку, што ў часе баёў за горад Слонім праваліўся (аўтар піша чамусьці «рухнуў») у раку, і аб тым, як рыбачка-партызанка выратавала танкіста, а за гэта была павешана фашыстамі.

Зразумела, гэтая драматычная гісторыя магла б паслужыць выдатным сюжэтам для верша. Малады ж паэт, аўтар «Балады аб танку», ператварыў яе ў меладраму з маўклівымі клятвамі, з пацалункамі, і знешне гераічны **жэст** заняў галоўнае месца ў вершы, там, дзе павінен быў быць суровы, без афектацыі воінскі подзвіг.

«Танкіст прыпаў да хмурай вежы танка і прысягаў, што крылы яму верне», «і вуснаў жар, і ласку слоў гарачых з сабой панёс ён, нібы блаславенне», «і ён вярнуўся з думай аб рыбачцы, стаў цалаваць браню стальную танка...» Усё, што расказвае пра танкістаў ваенных гадоў А. Лойка, хоць і гучыць вельмі «гераічна», не перадае і сотай долі таго сапраўднага — немнагаслоўнага і сціплага — гераізму, які штодзённа, у самых складаных сітуацыях боя, паказвалі вадзіцелі і стралкі.

І ніякая спасылка на своеасаблівасць абранага паэтам жанра не можа апраўдаць яго няўдачы ў вершы пра танкіста і рыбачку. Больш таго. Часты зварот нашых маладых паэтаў да балады ў яе традыцыйным разуменні, з нязменнымі вобразамі завірухі, буры, трагічнага кахання з'яўляецца вынікам таго, што жывое жыццё нялёгка даецца ім у рукі. Як прыклад, надзвычай характэрны, прывядзем верш Івана Калесніка «Нарачанскія рыбакі».

Сцямнела, нібы ў ночы,
Хістаюцца прысады.
Маланка слепіць вочы,
Грымотаў кананада.

Грыміць і стогне Нарач.
Вяслуй смялей, мой сябра!
Хай хмары засцяць далеч,
А ты мужайся, храбры!

Маланкі даль крамсаюць,
Аж сыплюцца асколкі (?),
Ды ўжо агні мігаюць
Рыбацкага пасёлка.

Не страшна нам віхура,
Бо наша маці — бура.

Пры чым тут нарачанскія рыбакі? — запытае кожны колькі-небудзь уважлівы чытач. — Дзе яны ў гэтай вучнёўскай варыяцыі на тэму знаёмага ўсім верша «Нелюдимо наше море...» паэта пушкінскіх часоў М. Языкава? Намаляваць простага рыбака, члена рыбалавецкага калгаса, відаць, куды складаней, чым у тысячны раз паўтараць: «А ты мужайся, храбры!» Складаней таму, што паэзію штодзённай працы чалавека нашага часу трэба ствараць **нанова** і шукаць яе толькі ў глыбінях самога жыцця, між тым, як «**паэзія**» зацяганых, перапетых на **ўсе** лады адважных мараплаўцаў цячэ сама, толькі не лянуйся падстаўляць сшытачак-цабарок!

Далейшы рост нашых маладых паэтаў будзе ў вялікай меры залежаць ад таго, наколькі рашуча яны пераадолеюць весь гэтую ўяўную, адцягненую, нежывую «паэтычнасць».

### Аб адносінах да фальклору

Вельмі добра, што маладыя паэты шырока выкарыстоўваюць у сваёй творчасці фальклорныя формы, што народная песня — не госць у іх творах. Асабліва вольна адчувае сябе народнае песеннае слова ў вершах Рыгора Барадуліна. Лепшыя вершы Юрася Свіркі непарыўна звязаны з фальклорам, з тым паэтычным светаадчуваннем, якое ў ім увасоблена.

Аб чым трэба было б, на нашу думку, папярэдзіць маладых паэтаў, дык гэта аб тэндэнцыі да прастага, недастаткова творчага пераймання «гатовых» фальклорных прыёмаў. Не будзем забываць, што за сорак год свайго існавання беларуская савецкая паэзія назбірала багатыя традыцыі **псіхалагічнага** паказу чалавека, псіхалагічнага яго аналізу. Фальклор жа, з яго «ідэальнай», неіндывідуалізаванай паэтыкай, можа быць выкарыстаны толькі з улікам таго новага, што даў нашай паэзіі метад паглыбленага адлюстравання **характараў**.

Успомнім творчасць Аркадзя Куляшова і, перш за ўсё, паэму «Сцяг брыгады». Тут мы сустракаем мноства эпізодаў, песень, сцэн, народжаных блізкасцю паэта да народнай творчасці, і ўсе яны бездакорна працуюць на глыбокае, хіба толькі прозе даступнае, раскрыццё герояў і складаных узаемаадносін паміж імі. Проста ж прыстасаваць «Юрачку» да сённяшніх калгасных умоў, як гэта зрабіў у адным з сваіх вершаў Алесь Ставер, можна толькі, забыўшыся, што і фальклор — не застылая катэгорыя, што падыход да яго павінен быць творчым, а не механічна-стылізатарскім.

Альбо возьмем верш А. Лойкі.

Над крыніцаю аеры
Дзівяцца нямыя,
Што хлапчына чарнабровы
Кашулечку мые.

А ён мые і спявае
Над чыстай крыніцай:
«Ой, прыдзецца
З-за нямытай
Кашулі жаніцца!..»

Не жаніся, любы хлопча,
Каб кашулю мыла,
А бяры сабе такую,
Каб век была міла!

Што гэта: фальклорны запіс чутага ў народзе матыву альбо самастойны верш паэта? Канешне, і такія вершы маюць права на існаванне, але мы лічым усё ж, што сапраўдныя поспехі чакаюць нашых маладых паэтаў не на шляху простага «спісвання» фальклору, а на шляху творчага яго выкарыстання, узбагачэння самастойнай і абавязкова **сённяшняй, сучаснай** думкай.

* * *

З усіх пытанняў, якія могуць узнікнуць у сувязі з выхадам першых кніг пяці маладых паэтаў, тут вылучаны толькі некаторыя, якія здаюцца найбольш важнымі. Тэмай спецыяльнай размовы маглі б паслужыць праблемы майстэрства ў вузкім сэнсе, праблемы так званай тэхнікі вершаскладання. Яны знарок не крануты ў гэтых нататках, каб падкрэсліць самае істотнае: нашым маладым паэтам, сярод якіх ёсць і бясспрэчна таленавітыя, трэба шчыльней наблізіцца да жыцця, да герaічных спраў свайго пакалення, трэба ўзняць узровень пачуццяў і думак да ўзроўню тых, хто ў брыгадах камуністычнай працы будуе заўтрашні дзень, трэба выхаваць у сабе глыбокае пачуццё адказнасці перад літаратурай, якая ведала Купалу і Коласа.

## Выйшлі ў свет

Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла ў свет новыя кнігі, з якімі мы коратка знаёмім чытачоў.

**Дом-музей I з'езда РСДРП у Мінску.** На рускай мове. 28 стар. 5 000 экз. Цана 80 кап.

Прачытаўшы гэтую невялічкую брашуру, вы нібы наведаеце такой гістарычнага доміка ў Мінску, дзе ў 1898 годзе адбыўся I з'езд РСДРП. Брашура багата ілюстравана. Сярод ілюстрацый — партрэты дэлегатаў I з'езда нашай партыі, фотаздымак хаты ў Бабруйску, дзе быў надрукаваны «Маніфест» I з'езда РСДРП, фотакопія «Маніфеста» і іншыя матэрыялы.

**Шлях мільёнаў.** 212 стар. 6 000 экз. Цана 3 руб. 45 кап.

«Шлях мільёнаў» — гэта зборнік нарысаў аб жанчынах нашай рэспублікі. Матэрыялы зборніка расказваюць аб жанчынах, якія прымалі актыўны ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1917 года, у грамадзянскай вайне, са зброяй у руках адстойвалі заваёвы Кастрычніка ў дні Вялікай Айчыннай вайны, а цяпер сваёй самаадданай працай узводзяць велічны будынак камуністычнага грамадства. Сярод гераінь кнігі — удзельніца Кастрычніцкай рэвалюцыі А. М. Цярэнцьева, удзельніца грамадзянскай вайны Аляксандра Юневіч, славутая дачка беларускага народа Вера Харужая, Герой Савецкага Саюза З. Тусналобава, брыгадзір будаўнікоў Герой Сацыялістычнай Працы М. Макарэвіч, знатная даярка рэспублікі, Герой Сацыялістычнай Працы Л. Асіюк, доктар філалагічных навук Л. Фіглоўская і другія.

**В. Ус., В. Вайніловіч. Справы і планы камсамольскія.** 32 стар. 12.000 экз. Цана 30 кап.

Аўтары брашуры — сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса «Нёман» на Уздзеншчыне і групкамсорг жывёлагадоўчай фермы таго ж калгаса — расказваюць аб тым, як камсамольцы змагаюцца за ўздым сельскагаспадарчай вытворчасці.

**Антырэлігійныя вершы беларускіх паэтаў.** З серыі **«Бібліятэчка атэіста».** 36 стар. 8 000 экз. Цана 65 кап.

У гэтым зборніку змешчаны творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Кандрата Крапівы, Паўлюка Труса, Максіма Танка і другіх паэтаў, якія выкрываюць рэакцыйную сутнасць рэлігіі, высмейваюць рэлігійныя забабоны. У зборніку змешчаны таксама цікавы верш Максіма Лужаніна «Цяжкая размова», які сваім пафасам накіраваны супраць Ватыкана — аплота цемрашалаў і рэакцыянераў на Захадзе.

**Уладзімір Дубоўка. Выбраныя творы.** 328 стар. 5 000 экз. Цана 7 руб. 90 кап.

У кнізе сабраны лепшыя творы аднаго са старэйшых беларускіх паэтаў. Раздзел «Вершы» ахоплівае лірыку паэта з 20-х гадоў да нашых дзён. Нізкі вершаў «Плач навальніцы» і «Зорка-зараніца» даюць шырокае ўяўленне аб жыцці і змаганні працоўных былой Заходняй Беларусі. Вялікую цікавасць маюць паэмы Уладзіміра Дубоўкі, сярод іх — гістарычная хроніка «Крычаўская спакуса» аб антыфеадальным паўстанні ў Крычаве сярэдзіны XVIII стагоддзя. Асобны раздзел складаюць паэтычныя народныя казкі У. Дубоўкі.

**Зінаіда Бандарына. Галіна Ільіна.** Аповесць. На рускай мове. 208 стар. 10 000 экз. Цана 2 руб. 10 кап.

У цэнтры аповесці — малады спецыяліст, дзяўчына-аграном, якая пасля заканчэння ВНУ накіроўваецца на працу ў калгас. У жыццёвых выпрабаваннях, у працы мацнее і загартоўваецца характар гераіні.

**П. Ахрыменка. Фальклорна-літаратурныя сувязі ўкраінскага і беларускага народаў.** 204 стар. 4 000 экз. Цана 6 руб. 30 кап.

Агульны гістарычны лёс братніх народаў — рускага, украінскага і беларускага — абумовіў блізкасць іх культур. У манаграфіі П. Ахрыменкі прасочаны цесныя фальклорна-літаратурныя сувязі ўкраінскага і беларускага народаў на розных гістарычных этапах. Першыя тры раздзелы прысвечаны ўзаемасувязям паэтычнай народнай творчасці і літаратурным дакастрычніцкага перыяду. Апошні раздзел кнігі расказвае аб украінска-беларускіх фальклорна-літаратурных сувязях савецкага перыяду.

**Хвядос Шынклер. Петрык-завадатар.** Аповесць. 92 стар. 10 000 экз. Цана 2 руб. 40 кап.

«Петрык-завадатар» — цікавая дзіцячая аповесць вядомага беларускага пісьменніка. Герой аповесці — піянер Петрык — працавіты і ініцыятыўны хлопчык. Ва ўсякай справе ён заўсёды завадатар. Любая праца аж кіпіць у яго руках. Ва ўсім жадае быць падобным на Петрыка яго маленькі брацік Міколка. У аповесці паказана, як хлопчыкі, дапамагаючы сваім бацькам, набываюць працоўныя навыкі.

**Давід Сімановіч. Чароўны луг.** Вершы. На рускай мове. 16 стар. 16 000 экз. Цана 80 кап.

Зборнік вершаў для самых маленькіх. Паэт у яркіх мастацкіх вобразах раскрывае перад маленькім чытачом цудоўны свет навакольнай прыроды ў розныя поры года.

Кніжка ілюстравана каляровымі малюнкамі мастака А. Кашкурэвіча.

**Галіна Бернасевіч. Старэйшы брат.** Апавяданні. На рускай мове. 76 стар. 20 000 экз. Цана 1 руб. 15 кап.

Галіна Бернасевіч цікава і займальна, з цёплым гумарам апавядае аб жыцці дзяцей.

**Ніл Гілевіч. Сцяжок на мачце.** Вершы. 24 стар. 8 000 экз. Цана 35 кап.

Жыў у горадзе хлопчык Андрэйка, які:

Ні граба, ні вяза,  
Ні іншых парод  
Не бачыў ні разу  
За ўсе дзесяць год.

І вось ён паехаў улетку ў піянерскі лагер, дзе ўпершыню пазнаёміўся з усімі багаццямі і таямніцамі лесу. Аб жыцці піянераў у лагеры і апавядае паэт у вершах «Гербарый», «Сцяжок на мачце», «Зарадка», «На рацэ» і інш. Юны чытач знойдзе ў зборніку і цікавыя паэтычныя замалёўкі зімы, вясны.

Для тых, хто цікавіцца музыкай, ДВБ выпусціла наступныя ноты:

**Я. Дзягцярык. Аб Леніне.** Вакальны цыкл. На рускай мове. Для барытона або высокага баса з фартэп'яна. На тэксты вершаў У. Маякоўскага, В. Брусава, С. Шчыпачова, В. Інбер, А. Безыменскага, С. Смірнова. 24 стар. 1 000 экз. Цана 2 руб. 90 кап.

**Я. Глебаў. Фантастычныя танцы.** Пяць фартэп'янных п'ес. 20 стар. 1 000 экз. Цана 2 руб. 50 кап.

*У свеце мастацтва*

# НА ВЯЛІКІМ КІНАФОРУМЕ

### Уражанні ўдзельніка кінафестывалю

Багаты цікавымі падзеямі быў гарачы маскоўскі жнівень. Масавы кірмаш у Лужніках, II Спартакіяда народаў СССР, Нацыянальная амерыканская выстаўка ў Сакольніках, выстаўка «Чэхаславацкае шкло» ў Манежы, выступленні Італьянскага тэатра марыянетак і, нарэшце, — Міжнародны кінафестываль.

Бадай з часу VI Міжнароднага фестывалю моладзі і студэнтаў Масква не бачыла столькі нацыянальных сцягоў, колькі іх было на фасадах будынкаў, дзе праходзіла свята кінамастацтва. Фестываль праводзіўся пад дэвізам: «За гуманізм кінамастацтва!», «За мір і дружбу паміж народамі!».

Па колькасці ўдзельнікаў і прагледжаных фільмаў Маскоўскі кінафестываль зойме адно з першых месц: у ім прынялі ўдзел 47 краін і дзве міжнародныя арганізацыі — ААН і Юнеска.

Дзверы фестывалю былі адкрыты для ўсіх краін — вялікіх і малых. На аднолькавых правах спаборнічалі Індыя і Японія, якія трымаюць цяпер сусветнае першынство па колькасці выпускаемых штогод фільмаў, і Албанія, Манголія, Венесуэла, Ліберыя і іншыя краіны, якія, па сутнасці, выпусцілі толькі свае першыя мастацкія фільмы.

Маскоўскі кінафестываль ператварыўся ў сапраўды масавае свята кінамастацтва. Пасля прагляду журы фільмы шырока дэманстраваліся ў буйнейшых кінатэатрах сталіцы, у рабочых клубах, парках, на стадыёнах, на летніх пляцоўках. У гэтым яшчэ раз праявілася цесная сувязь мастацтва з шырокімі масамі народа.

Дні кінафестывалю ў Маскве супалі з вялікай датай — саракагоддзем савецкага кінамастацтва. «Народжанае Кастрычнікам» — так назваў наш народ савецкае кіно, якое стала ў нашы дні мастацтвам сусветнага значэння, мастацкай падзеяй эпохі.

Многа фільмаў фестывалю было прысвечана падзеям, звязаным з другой сусветнай вайной. Гэтай тэме прысвечаны савецкі фільм «Лёс чалавека», французскія «Бабета ідзе на вайну», «Прыгавор» і «Хірасіма — мая любоў», польскі фільм «Арол», югаслаўскі — «Скрозь галіны відно неба», чэхаславацкі — «Дакладна ў 12» і некаторыя іншыя. Але, будучы аднолькавымі па тэме, гэтыя фільмы адрозніваюцца па сваіх поглядах на вайну, па-рознаму паказваюць яны чалавека ў жудасную гадзіну выпрабаванняў.



**Кадр з савецкага кінафільма «Лёс чалавека».**

З усіх фільмаў аб вайне вылучаецца наш савецкі фільм, па аднайменнаму апавяданню Міхаіла Шолахава «Лёс чалавека», пастаўлены Сяргеем Бандарчуком. Гэта — гімн вялікай духоўнай сіле савецкага чалавека, яго нязломнай волі і мужнасці.

Аддаючы належнае гэтаму выключна праўдзіваму высокамастацкаму твору кінамастацтва, журы адзінадушна ўвянчала яго самай высокай узнагародай — Вялікім прызам фестывалю.

Польскі фільм «Арол» паказвае мужнасць экіпажа падводнай лодкі, які не скарыўся пасля нападу Гітлера на Польшчу ў верасні 1939 года, не апусціў нацыянальны сцяг і з гонарам уступіў у няроўную барацьбу.

У фільме «Скрозь галіны відно неба» югаслаўскага рэжысёра Столе Янкавіча паказана адна з драматычных старонак барацьбы югаслаўскіх партызан, якія трапілі ў акружэнне ворага. Фільм падкрэслена натуралістычна паказвае пакуты хворых і галодных людзей, але, нажаль, глядач не бачыць, як жа чалавек пераадольвае гэтыя страшэнныя нягоды. Хацелася б убачыць у гэтым фільме не толькі чалавека-пакутніка, але і чалавека-барацьбіта, героя, вялікага і прыгожага ў сваёй барацьбе за справядлівасць.

У французскім фільме «Бабета ідзе на вайну» тэма вайны вырашаецца ў плане вясёлага вадэвілю. Прыходзіцца толькі пашкадаваць, што гэты фільм стварыў выдатны французскі рэжысёр Крысціан Жак, вядомы нашаму гледачу па кінакарціне «Калі б хлопцы ўсёй зямлі...». Скажам шчыра, на гэты раз ён здрадзіў сваім прагрэсіўным традыцыям і стварыў спрэчнай каштоўнасці твор аб мінулай вайне, якая так дорага каштавала народам свету, у тым ліку і яго суайчыннікам. Няма ў гэтым фільме вялікага гневу супраць фашызма, надта многа дабрадушша і ўседаравальнасці ў адносінах да жорсткага і каварнага ворага.

Другі французскі фільм на тэму вайны — «Прыгавор» — пастаўлены маладым рэжысёрам Жанам Валера. Пастаноўшчык фільма паказвае барацьбу французскіх патрыётаў у тыле ворага пасля высадкі войска саюзнікаў у Нармандыі ў 1944 годзе. Пераканаўча паказана трагічная асуджанасць мужных патрыётаў, якія трапілі ў палон да ворага, але рэжысёр не знайшоў дастаткова фарбаў, каб адлюстраваць мужнасць і стойкасць людзей перад пагрозай немінучай смерці.

Шмат спрэчак выклікалі амерыканскія фільмы «Дзённік Анны Франк», пастаўлены рэжысёрам Джорджам Сцівенсам, і кінафільм заходнегерманскага рэжысёра Курта Гофмана «Мы — вундэркінды».

Амерыканскі фільм расказвае пра сумную гісторыю маленькай групы яўрэяў, якая ў час акупацыі Амстэрдама вымушана была хавацца ад нямецкай паліцыі. Фільм прасякнуты цёплымі адносінамі да пакрыўджаных людзей, але свайго слова, якое асудзіла б фашысцкіх варвараў, аўтары так і не сказалі.

Форма нямецкага фільма «Мы — вундэркінды» для нашага гледача незвычайная. Фільм падзяляецца на некалькі эпізодаў, якія суправаджаюцца эксцэнтрычным музычна-вершаваным канферансам. Акцёры, што сядзяць у аркестры, расказваюць, а экран паказвае лёс трох людзей на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў нямецкай гісторыі.

Адзін з іх — «сярэдні немец» Ганс Бекель — становіцца доктарам філасофіі і рэдагуе газету. Другі — Бруна Тыхес — робіць стаўку на фюрара і становіцца заўзятым нацыянал-сацыялістам. Трэці — яўрэй Штэрн — вымушаны пакінуць сваю няласкавую радзіму. Мы бачым фармаванне характараў усіх гэтых людзей. Усё вышэй падымаецца нацыст Бруна. Усё цяжэй робіцца Гансу. Вайна кідае герояў у розныя бакі, і яны сустракаюцца толькі пасля яе заканчэння. Ганс па-ранейшаму рэдагуе ліберальна-прагрэсіўную газету, у якой выкрывае былых нацыстаў, што зноў акрыялі пад крылом Адэнаўэра. Бруна хоча помсціць яму, але выпадковая смерць перашкаджае гэтаму. Фільм заканчваецца пышным пахаваннем Бруна. Надпіс: «Няхай не забудуць жывыя!», рэзюміруючы думку аўтараў, папярэджвае людзей аб небяспецы нацызму. Заслуга аўтараў гэтага фільма ў тым, што яны ў нялёгкіх умовах Заходняй Германіі стварылі яркі сатырычны памфлет на фашысцкія норавы ў сучаснай адэнаўэраўскай Германіі. І нездарма журы фестывалю, хоць гэты фільм дэманстраваўся па-за конкурсам, палічыла магчымым прысудзіць яму Залаты медаль за яго глыбокія гуманныя ідэі.

Вялікабрытанія паказала на фестывалі два сваіх фільмы: «Мансарда» (па-за конкурсам) і «Слёзы сірот» рэжысёра Льюіса Джыльберта (па конкурсу).



Паказаны на адкрыцці фестывалю англійскі фільм «Мансарда», або, як яго інакш называюць, «Шлях у вышэйшы свет», не захапіў гледачоў сваім традыцыйным, банальным сюжэтам. У ім паказана гісторыя маладога чалавека, які, пагарджаючы ўсімі свецкімі ўмоўнасцямі, прабівае сабе дарогу ў вышэйшыя сферы. Драматычнае напружанне фільма стварае толькі выдатная ігра папулярнай французскай кінаактрысы Сімоны Сіньорэ. Тэма фільма «Слёзы сірот» — любоў да дзяцей, якія страцілі бацькоў. Высакароднасць і гуманізм тэмы бяспрэчныя, але пра трагедыю маленькіх сірот у фільме гаворыцца надта асцярожна, няўпэўнена, напаўголаса. У найбольш вострых момантах аўтары імкнуцца адцягнуць увагу гледача камічнымі сітуацыямі. Фінал фільма — шчаслівы — клопатамі муніцыпальных улад слёзы сірот асушаны. Вельмі добра ў фільме іграюць дзеці і асабліва маленькая актрыса Дана Уілсан. У гэтым вялікая заслуга рэжысёра Льюіса Джыльберта. Яму зусім заслужана прысуджаны сярэбраны медаль за рэжысёрскую работу з дзецьмі.

Асобна трэба спыніцца на італьянскай кінематаграфіі, якая па праву займае адно з вядучых месц у Еўропе. Удзельнікі фестывалю і маскоўскія гледачы разлічвалі ўбачыць нешта большае, чым паказалі італьянцы. Дакументальны фільм вядомага рэжысёра Роберта Раселіні «Індыя» вельмі нямнога дадаў да таго, што мы ведаем аб гэтай далёкай і цудоўнай краіне. Фільм «Зімовыя канікулы», да ўдзелу ў якім былі прыцягнуты лепшыя італьянскія кінаакцёры, такія, як Віторыо дэ Сіка, Элеанора Росі Драга і другія, не сустрэў прызнання маскоўскага гледача галоўным чынам з-за тэндэнцыйна гуллівай накіраванасці і ўсебаковага смакавання шыкоўнага ва ўсіх адносінах жыцця людзей «вышэйшага свету».

Зусім іншае ўражанне пакідае трэці італьянскі фільм «Ночы Кабірыі» з Джульетай Мазіна ў галоўнай ролі. У гэтым хвалюючым творы рэжысёр Феліні і Джульета Мазіна паказалі сучасны капіталістычны свет з яго воўчымі законамі, сквапнасцю і прадажнасцю яго ўладароў і поўнае трагізму жыццё простых людзей, якім застаецца бачыць сваю лепшую будучыню толькі ў марах.

Шмат можна было б расказаць пра дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы. На фестывалі было прагледжана каля 150 твораў гэтага жанру. Прыемна адзначыць, што паміж гэтай вялікай колькасці фільмаў не было такіх, якія імкнуліся б да нейкіх антыгуманных мэт. Прагрэсіўныя майстры дакументальнага і навукова-асветніцкага кіно імкнуцца служыць высакародным ідэям міру і дружбы паміж народамі.

Кінематаграфісты краін народнай дэмакратыі выступілі на фестывалі ў адзіным страі непахісных барацьбітоў за высокую гуманнасць і праўдзівасць кінамастацтва. Кіруючыся прынцыпамі сацыялістычнага рэалізма, яны ў сваіх творах імкнуцца глыбока ўваходзіць у жыццё, паказваць істотныя праблемы сённяшняга дня. Такія — кітайскі фільм «Новая гісторыя старога салдата», чэхаславацкі «Уцёкі з ценю», венгерскі «Учора», мангольскі «Пасланец народа», карэйскі «Паданне пра дзяўчыну Чун Хян», албанскі «Тана», румынскі «Мяч», в'етнамскі «Будаўніцтва канала Бак Хінг Хан» і шмат іншых.

Не выпадкова пераважная большасць пералічаных фільмаў атрымалі пачэсныя прызы і дыпломы. Фестывальныя ўзнагароды павезлі з Масквы кінематаграфісты Чэхаславакіі, Польшчы, Мангольскай Народнай Рэспублікі, Кітайскай Народнай Рэспублікі, Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі, Венгрыі, ГДР, В'етнама і Албаніі.

Прадстаўнікі зусім маладой мангольскай кінематаграфіі паказалі ў Маскве дынамічны, з вострым сюжэтам, прафесіянальна пастаўлены фільм «Пасланец народа», у якім раскрыла свае здольнасці да гэтага мала вядомая артыстка Пурэвійн Цэвэлсурэн. Цяпер яна — лаўрэат фестывалю.

Тэхнічную дасканаласць, прафесіянальнае ўменне выкарыстоўваць магчымасці шырокага экрана паказалі майстры кінематаграфіі Народнага Кітая. Прыклад гэтаму — адзначаны на фестывалі кітайскі фільм «Новая гісторыя старога салдата» пра барацьбу чалавека з суровай прыродай, пра мужнасць, настойлівасць людзей.

Чэхаславацкі рэжысёр Іржы Секвенс у сваім фільме «Уцёкі з ценю» намаляваў востра драматычныя сцэны барацьбы старога, адыходзячага, з новым, што расце сёння ў краіне. «Уцёкі з ценю» — своеасаблівы вопыт псіхалагічнай драмы, напоўненай глыбокім сацыяльным зместам і сме-



**Кадр з венгерскага кінафільма «Учора».**

лым пранікненнем у духоўны свет чалавека.

Кінематаграфісты Венгрыі смела ўзяліся за вырашэнне вострай тэмы — узнаўленне на экране падзей восені 1956 года. У фільме «Учора» яны бліскуча вырашылі гэтую задачу і цяпер працуюць над стварэннем другой серыі.

Літаральна ў нашы дні нарадзілася кінематаграфія Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам. Шматлікія кінагледачы гарачымі воплескамі сустрэлі фільм «Будаўнікі канала Бак Хінг Хан». Гэты фільм вылучаецца сваёй арыгінальнасцю, высокай ідэйнасцю.

Кінафільмы другіх краін азіяцкага кантынента на гэты раз не выклікалі захаплення. Крытыка справядліва адзначала, што такая краіна, як Японія, выступіла ў Маскве ніжэй сваіх магчымасцей.

Індыйскі фільм «Джалсагхар» не зрабіў на гледачоў належнага ўражання. Ён надта далёкі ад ужо вядомых нам індыйскіх фільмаў, у якіх заўсёды адчуваўся подых жыцця вялікага народа.

У фестывалі прынялі ўдзел шэсць афрыканскіх краін. З іх кінавытворчасць найбольш развіта ў Аб'яднанай Арабскай Рэспубліцы. Але яе мастацкі фільм «Назаўсёды твая» прайшоў на фестывалі незаўважаным. Ва ўсякім разе, ён не сведчыць аб прагрэсе егіпецкага кіно. Некаторую пазнавальную цікавасць мае дакументальны фільм «Гэта — Егіпет», які паказвае мастацтва старажытных егіпцян, стваральнікаў вядомых пірамід.

У нас да гэтага часу не былі вядомы фільмы Ірака і Лівана. Кінапрамысловасць у гэтых краінах развіта слаба, але, тым не менш, у работах іх маладых майстроў прыкметна імкненне адлюстраваць нацыянальную самабытнасць, норавы і звычаі свайго народа.

Ізраіль паказаў на фестывалі тры кароткаметражныя фільмы. Ізраільская кінематаграфія амаль не выпускае мастацкіх фільмаў, абмяжоўваючыся кароткаметражнымі навукова-папулярнымі і хранікальнымі фільмамі. Найбольшае ўражанне на гасцей фестывалю зрабіў фільм «Вясельныя танцы» арыгінальна зняты ў народным парадыйна-гумарыстычным стылі.

З краін Лацінскай Амерыкі ў нас былі вядомы толькі мексіканскія і аргенцінскія фільмы. На фестываль, апрача гэтых краін, прывезлі свае творы Венесуэла, Куба, Перу і Чылі.

Сілаю праўды, вольналюбівасцю сваіх ідэй вылучаецца дакументальны кубінскі фільм «Праўда пра кубінскую рэвалюцыю». У гэтым фільме, пастаўленым рэжысёрам Віктарам Валіна, паказаны разгул і бясчынствы дыктатара Бацісты, цяжкае становішча сялянства, народна-рэвалюцыйная вайна і рэвалюцыйны пераварот. За праўдзівасць і баявую публіцыстычнасць кінарэпартажу гэтаму фільму прысуджаны дыплом Аргбюро Саюза журналістаў СССР.

Кінафестываль не абмяжаваўся толькі праглядам фільмаў і абмеркаваннем іх. Дзеячоў кіно, што з'ехаліся ў Маскву, цікавілі праблемы і далейшыя шляхі, па якіх павінна развівацца гэтае самае масавае мастацтва. З гэтаю мэтаю збіраліся творчыя дыскусіі.

Першая дыскусія была прысвечана тэме «Роля кіно ў сучасным грамадстве». Адкрываючы яе, савецкі кінарэжысёр Сяргей Герасімаў гаварыў пра лёс кінамастацтва, пра яго ролю ў фармаванні поглядаў падрастаючага пакалення. Спыніўшыся на творчасці вядомага амерыканскага кінарэжысёра Орсана Уэлса, ён паказаў, як адыход ад тэм, якія хвалююць шырокія масы гледачоў, збядняе творчасць мастака.

Некаторыя тэарэтыкі кіно на Захадзе сцвярджаюць, што моладзь сёння настроена песімістычна, што сярод яе пануе дух безвыходнасці. Што гэта далёка не так, Сяргей Герасімаў давёў на прыкладзе кінатвораў маладых аўтараў, якія былі паказаны на VII Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Вене. Гэтыя творы прасякнуты глыбокай верай у жыццё, у светлую будучыню чалавецтва.



Рэжысёр С. Юткевіч звярнуўся да французскага гісторыка кіно Жоржа Садуля з просьбай расказаць пра так званую «новую хвалю» ў кінамастацтве Францыі. Жорж Садуль намаляваў карціну, якая склалася ў французскай кінематаграфіі пасля вайны. Модны тэрмін «новая хваля» ён лічыць умоўным. Група прыхільнікаў «новай хвалі» стварае толькі бачнасць адзінства, а на справе яна вельмі неаднародная па сваіх поглядах і творчых імкненнях. Яна можа стварыць шмат чаго цікавага, але ў той жа час можа прынесці і шмат непрыемнага кінамастацтву.

Вядомы нідэрландскі дакументаліст Іорыс Івенс гаварыў, што дакументальная кінематаграфія ў яшчэ большай ступені, чым мастацкая, заклікана крочыць у нагу з нашым векам. Яна павінна больш рашуча і смела ўрывацца ў жыццё, змагацца за мірнае суіснаванне народаў.

Савецкі кінадраматург Аляксей Каплер закрануў пытанне аб ролі сцэнарыя ў працэсе стварэння фільма. Поспех фільма вызначаецца яго першаасновай — сцэнарыем, — гаворыць ён. Процілеглую думку выказаў польскі крытык А. Яцкевіч, які сцвярджаў, што сцэнарысты наогул перашкаджаюць развіццю кіно і што сцэнарый гэта толькі даніна традыцыі, «непазбежнае зло». Сцэнарый павінен быць эскізам для рэжысёра, — заявіў ён.

Выступленні А. Каплера і А. Яцкевіча вызначылі характар далейшых спрэчак па гэтаму пытанню. Рэжысёр з ГДР Курт Метцыг і савецкі сцэнарыст С. Нагорны сышліся на тым, што сцэнарый мае першаступеннае значэнне ў працэсе стварэння фільма. Кінафільм — гэта вынік творчага супрацоўніцтва рэжысёра і сцэнарыста.

Міністр інфармацыі Туніса заявіў: «У нас сцэнарыстаў колькі хочаш, а рэжысёраў — адзінкі. Ці нельга нам тут пазычыць рэжысёраў?» Жорж Садуль пажартаваў, што яму пасля гэтых спрэчак, відавочна, прыдзецца ў шосты раз перапісваць сваю гісторыю сусветнага кінамастацтва, каб паказаць месца сцэнарыста ў стварэнні кінатвора.

На трэцяй сустрэчы размову прадоўжылі кінакрытыкі. Пасля змястоўнага і цікавага выступлення савецкага крытыка Юрэнева, які расказаў пра тыя галоўныя пытанні, што хвалююць кінакрытыкаў, слова ўзяў рэдактар балгарскага часопіса «Кінамастацтва» Стаянаў. Ён выказаў задаволенасць шэрагам фільмаў фестывалю. На яго думку, фільмы, паказаныя Італіяй, Японіяй, Індыяй, гэта крок назад у параўнанні з тым, што яны стварылі ўжо.

Уго Казірачы (Італія) гаварыў пра крызіс італьянскага неарэалізма. Рэжысёры, звязаныя з гэтым напрамкам, страцілі мужнасць. Гаворачы пра Маскоўскі фестываль, ён адзначыў, што тут ён убачыў адзін на ўсіх адносінах выдатны і хвалюючы фільм — «Лёс чалавека» і яшчэ тры-чатыры цікавыя фільмы. Амерыканская журналістка Сінтыя Грэнье заявіла, што фестываль даў магчымасць вывучыць густы маскоўскага, а значыць, і савецкага гледача, даў магчымасць «адкрыць» кіно такіх краін, як Мангольская Народная Рэспубліка і Інданезія.



**Сярод удзельнікаў кінафестывалю ў час прагулкі па каналу імя Масквы: французскі рэжысёр Абель Ганс, японская кінаактрыса Аояма Кека, мексіканская актрыса Росіна Кінтана і іншыя.**

Фота У. Цеслюка.

Фестываль закончыўся. Ён спрыяў згуртаванню прагрэсіўных майстроў кінамастацтва, натхніў іх на стварэнне новых фільмаў, галоўным героем у якіх будзе сучасны чалавек — працаўнік і стваральнік, барацьбіт за мір і шчасце на зямлі.

**П. ПАДБЯРЭЗКІ.**

# Спорт

## ПРЫДУЦЬ НОВЫЯ СІЛЫ

Адзвінелі судзейскія сірэны, адгучалі ўдары гонгаў, адгрымелі апошнія стрэлы стартавых пісталетаў. Другая Спартакіяда народаў СССР з яе шматдзённай напружанай барацьбой завяршылася. Закончылася буйнейшае спартыўнае спаборніцтва, якое можна параўнаць хіба толькі з алімпійскімі гульнямі, — такім шматлікім было яно па колькасці ўдзельнікаў, такім разнастайным па нацыянальнаму складу, такім значным па сваіх выніках. Упершыню ў спаборніцтвах прымалі ўдзел побач з прафесіянальнымі камандамі і нізавыя калектывы фізкультурнікаў.

Восем тысяч спартсменаў сарака трох нацыянальнасцей абаранялі ў Маскве пачэснае права называцца мацнейшымі. І самыя лепшыя з іх вярнуліся дадому з ганаровымі прызамі і медалямі пераможцаў.

Сапраўдныя аматары і знаўцы спорту не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі, яшчэ не раз будуць аналізаваць ход спартыўнай барацьбы і вынікі выступлення каманд па ўсіх 22 відах спаборніцтваў.

### На ступеньку вышэй

Кожны, хто па-сапраўднаму цікавіцца лёсам беларускага спорту, пільна сачыў за выступленнем ў Маскве спартыўнай дэлегацыі сваёй рэспублікі. Ён ад душы апладыраваў тым, хто падымаўся на п'едэстал пашаны, у чый гонар пад небам Масквы ўрачыста і велічна гучала мелодыя



**Дэлегацыя беларускіх спартсменаў на II Спартакіядзе народаў СССР.**

Фота Д. Церахава.

Дзяржаўнага гімна Беларускай ССР. І няўдачы ён прымаў да сэрца таксама блізка... Няхай «няўдачнікі» даруюць балельшчыкам горкія і крыўдныя словы ў іх адрас, бо занадта ўжо шмат расчараванняў давялося перажыць ім у тыя напружаныя дні.

Але навошта зараз гэтыя папрокі!..

Нашы спартсмены не так ужо і дрэнна здалі цяжкі экзамен. Шостае месца супраць сёмага на першай спартакіядзе — усё ж на ступеньку вышэй. І медалі. здаралася, ледзь не дажджом сыпаліся на лацканы элегантных касцюмаў беларускіх спартсменаў. Пяцьдзесят адна зараз і адзінаццаць у мінулы раз, — відавочная розніца. Цяпер чэмпіёнаў аказалася столькі, колькі тады было ўсіх медалістаў.

Вядома, гэта вельмі прыемна. Але ўсё ж хваліцца нам асабліва няма чым. Скажам шчыра, чакалі мы значна большага. Не апраўдалі спадзяванняў і тыя «кіты», на якіх, як мы сцвярджалі, трымаецца беларускі спорт.

У камандным заліку наперадзе беларускіх спартсменаў — масквічы, калектыў Расійскай Федэрацыі, ленінградцы, украінцы і грузіны. Да гонару прызавой пяцёркі трэба сказаць, што яна не здрадзіла сваёй традыцыі: дакладна ў такім жа парадку яна фінішыравала і на І Спартакіядзе. Нясмелую спробу выцесніць каманду Грузіі і заняць яе месца зрабілі беларускія спартсмены, але... ім не хапіла сарака сямі ачкоў. У змаганні з грузінскімі спартсменамі нашы спаборнікі ледзь было не «прагледзелі» эстонцаў: эстонскім спартсменам не хапіла да шостага месца ўсяго толькі трынаццаці ачкоў.

### Няспраўджаныя надзеі

У вайсковай справе існуе непахісны закон: калі хочаш перамагчы праціўніка — ведай пра яго ўсё да дробязей, высветлі яго моцныя і слабыя бакі, рэзервы, тэхнічную ўзброенасць.

Здавалася, у нашых спартсменаў меліся ўсе падставы змагацца за пятае прызавое месца. Грамадскасць рэспублікі спадзявалася, што так яно і будзе, бо мацней, чым тры гады назад, адчувалі сябе нашы зборныя каманды ў большасці відаў спорту. Разнастайныя матчавыя сустрэчы, таварыскія спаборніцтвы і, нарэшце, II Спартакіяда Беларусі — генеральная рэпетыцыя перад паездкай у Маскву — давалі падставу спадзявацца на бясспрэчную перамогу.



**Пераможца спаборніцтваў юнакоў на шпагах Юры Рыбянец.**

Фота ТАСС.



**Пераможца спаборніцтваў мужчын на шпагах майстар спорту Арнольд Чарнушэвіч.**

Выязджаючы ў Маскву, трэнеры некаторых зборных каманд рэспублікі сцвярджалі, што, маўляў, нам поспех забяспечаны, большасць сваіх праціўнікаў мы ледзь не шапкамі закідаем. Перш за ўсё, гэта адносілася да фехтавальшчыкаў. Іх старшы трэнер Г. Бокун і не думаў, што давядзецца задавольвацца толькі пятым месцам, бо на І Спартакіядзе нашы майстры стальнога клінка былі на чацвёртым.

Гаворацць, што заваяваць ганаровае званне чэмпіёна лягчэй, чым потым абараніць яго. Так і атрымалася з камандай шпажыстаў — чэмпіёнам І Спартакіяды: яна дабралася сёлета толькі да другога месца. Не ўлічылі шпажысты ўзрослага майстэрства сваіх сапернікаў з Расійскай Федэрацыі і прайгралі ім.

Не апраўдаў спадзяванняў і яшчэ адзін «кіт» — веласіпедны спорт. Ён апусціўся з пятага на сёмае месца. Падвялі жанчыны. У каманднай гонцы на 25 кіламетраў яны не змаглі паказаць заліковага нарматыву. Потым нагнаць упушчанае так і не ўдалося.

За апошнія гады грознай для любога праціўніка стала каманда беларускіх баксёраў. Яшчэ добра помняцца

нічыйныя вынікі яе сустрэч з другой зборнай краіны і ўкраінцамі. Сёлетняя спартакіяда яшчэ раз пацвердзіла высокі клас беларускіх баксёраў, але, у той жа час, выявіла, што па сваёй сіле яны — толькі пятыя ў краіне. Наперадзе іх каманды РСФСР, Ленінграда, Масквы і Казахстана. Спецыялістам гэтага віду спорту ёсць аб чым падумаць: на I Спартакіядзе беларускія баксёры занялі чацвёртае месца.

Горшымі, чым на мінулай спартакіядзе, аказаліся вынікі прыгуноў у ваду і ватэрпалістаў. На сёмых месцах аказаліся стралкі-стэндавікі, гімнасты і плыўцы. Не адбылося зруху і ў камандным заліку па кулявой стральбе. Як былі нашы стралкі на пятым месцы, так і засталіся. Аднак трэба аддаць ім належнае: сярод іх паявіліся два чэмпіёны краіны.

Сёлета адбыліся шматлікія спаборніцтвы лёгкаатлетаў. Кульмінацыйным было міжведамаснае першынство лёгкаатлетаў рэспублікі. Тады нашы спартсмены паказалі вельмі добрыя вынікі. Спецыялісты сцвярджалі, што і ў Маскве нашы лёгкаатлеты выступяць не горш і зоймуць высокае месца. Праўда, па гэтаму віду спорту наша каманда паднялася на ступеньку вышэй, але пятае месца ўсё-такі не рубеж перамогі!



Вясляр на байдарцы-адзіночцы Валянцін Наумаў.



Баксёр майстар спорту найлягчэйшай вагі Уладзімір Батвіннік.

У некаторых спартсменаў мы прывыклі верыць настолькі, што нават не дапускалі думкі аб іх няўдачы. А, між тым, няўдачы ёсць. Заслужаны майстар спорту Міхаіл Крываносаў, рэкардсмен свету па кіданню молата, у сваім «кароннным» відзе спорту не вышаў у фінал. У кіданні дыска ён не даў сваёй камандзе нават заліку. Здалі свае пазіцыі майстры спорту Елізавета Ермалаева, Яўгенія Гурвіч, Яўген Сакалоў і многія іншыя.

Заслугоўваюць усялякай пахвалы беларускія барцы класічнага стылю. Па сваёй тэхнічнай і тактычнай падрыхтоўцы яны застаюцца на цэлую галаву вышэй абсалютнай большасці каманд — удзельнікаў спартакіяды. Многія сцвярджаюць, што толькі не зусім аб'ектыўнае часамі судзейства ды два-тры прыкрыя промахі асобных спартсменаў не далі магчымасці нашай камандзе высці ў пераможцы. Адзін чэмпіён, тры прызёры і агульнае трэцяе месца, — вось вынік яе выступленняў на спартакіядзе.

Бясспрэчна выраслі і барцы вольнага стылю: былі на дзевятым, а апынуліся на шостым месцы. Але магчымасці зборнай каманды значна большыя.





Майстар спорту лёгкаатлет Марыя Іткіна.

Больш паспяхова, чым на I Спартакіядзе, выступілі весляры і цяжкаатлеты, якія занялі пятыя месцы. Іх вынік быў бы несумненна лепшы, калі б...

Прычын няўдач можна знайсці шмат. Але ж апраўдваюцца звычайна вінаватыя. А вінаваты тут спартыўныя кіраўнікі, якія даўно ведалі слабасць жаночай палавіны каманды весляроў і не здолелі своечасова ўмацаваць яе. Нашы весляры заваявалі тры залатыя і адзін сярэбраны жэтон, а пятнаццаць з іх сталі прызёрамі спартакіяды. А яшчэ каб і дзяўчаты выступілі лепш!..

Штангістаў жа, шчыра скажам, падвёў Арнольд Хальфін. Ён, па сутнасці, з'яўляецца трэцім спартсменам краіны ў лягчэйшай вагавой катэгорыі. Але на гэты раз яго быццам хто падмяніў. Набраўшы ў суме класічнага трохбор'я 307,5 кг, ён заняў толькі сёмае месца і пацягнуў каманду ўніз. Калі б Хальфін выступіў лепш, інакшы, напэўна, быў бы і камандны вынік штангістаў.

Невядома, ці спадзяваўся хто на поспех беларускіх пяціборцаў, бо па сучаснаму пяцібор'ю на спартакіядзе беларуская дэлегацыя атрымала нуль. Але якім было здзіўленне ўдзельнікаў спаборніцтваў, калі ў першым відзе — конным кросе — яны сталі пераможцамі. Выдатны пачатак! Пазней больш спрактыкаваныя пяціборцы апярэдзілі нашых спартсменаў. Тым не менш сёмае месца, а ззаду даволі моцная каманда Украіны — ужо ўдача.

Прыкметна падцягнуліся і нашы тэнісісты. З дзевятага месца яны перайшлі на сёмае.

### Нашы чэмпіёны

Многія вопытныя стралкі, спаборнічаючы ў так званым англійскім матчы, — стральбе з дробнакаліберпай вінтоўкі лежачы на 50 і 100 метраў 30+30 выстралаў, — выступілі няўдала. Але калі закончыла практыкаванне беларуская каманда, стала вядомачна, што яна выйграла першае месца. Дружнымі воплескамі віталі гледачы самага юнага ўдзельніка



Самы юны ўдзельнік спартакіяды рабочы Мінскага радыёзавода Эдуард Яраш стаў чэмпіёнам СССР па стральбе з дробнакаліберпай вінтоўкі.



**Георгі Валынскі заваяваў адразу два залатыя медалі ў спаборніцтвах па стральбе з рэвальвера.**

Фота Д. Церахава.

беларускай каманды — рабочага мінскага радыёзавода Эдуарда Яраша. Ён выбіў больш за ўсіх — 587 ачкоў з 600 магчымых — і заваяваў званне чэмпіёна Савецкага Саюза і II Спартакіяды народаў СССР. Эдуард Яраш першы сярод беларускіх спартсменаў атрымаў залаты медаль пераможцы.

Дзяржаўны гімн БССР упершыню прагучаў на стадыёне імя Леніна ў Лужніках на другі дзень спаборніцтваў па лёгкай атлетыцы. Ён паведаміў аб бліскучай перамозе праслаўленай беларускай спартсменкі Марыі Іткінай, якая заваявала залаты медаль на дыстанцыі 400 метраў. Яе час — 53,7 секунды — лепшы ў свеце ў сёлетнім спартыўным сезоне.

Імя беларускага стралка Георгія Валынскага большасці з удзельнікаў спаборніцтваў было невядома. Толькі на II Спартакіядзе народаў СССР яно было запісана першым у пратаколе спаборніцтваў па стральбе з рэвальвера па мішэні з чорным кругам і сілуэту. Выдатны спартсмен, Г. Валынскі выбіў 589 ачкоў з 600 магчымых і стаў чэмпіёнам СССР. Ён заваяваў адразу два залатыя медалі.

Выдатнага поспеху дабіліся двое нашых фехтавальшчыкаў. У асабістых спаборніцтвах юнакоў на шпагах чэмпіёнам стаў мінчанін Юры Рыбінец. Сярод дарослых майстроў стальнога клінка званне пераможцы спартакіяды выйграў трэці шпажыст свету Арнольд Чарнушэвіч.

Званне мацнейшага весляра краіны на байдарцы-адзіночцы на дыстанцыі 1 000 метраў зноў пацвердзіў Валянцін Наумаў. Парадавалі сваім дасягненнем Леанід Гейштар і Сяргей Макарэнка. У спаборніцтвах на каноэ-двойках на 10-кіламетровай дыстанцыі яны апярэдзілі многіх моцных спартсменаў і выйшлі пераможцамі з часам 52 мінуты 36,8 секунды. Гэты вынік дае ім права на званне майстра спорту. Залатыя медалі і норма майстра — выдатны дубль маладых спартсменаў!

Няма зараз барцоў у краіне ў найлягчэйшай вагавой катэгорыі, роўных па сіле і тэхніцы мінчаніну Алегу Караваеу, чэмпіёну свету і Савецкага Саюза. У вострых схватках II Спартакіяды народаў СССР ён у трэці раз здабыў сабе ганаровае званне чэмпіёна.

Паявіўся чэмпіён спартакіяды і сярод беларускіх баксёраў. Ім стаў мінчанін Уладзімір Батвіннік.

Мы назвалі імёны (і змясцілі здымкі) толькі тых, хто заваяваў гучны тытул чэмпіёнаў. Але сярод беларускіх спартсменаў ёсць больш 20



**Чэмпіён свету Алег Караваеў— пераможца спаборніцтваў па барацьбе.**





**Весляры Сяргей Макарэнка і Леанід Гейштар — пераможцы спаборніцтваў на каноэ-двойках.**

другіх і паўтара дзесятка трэціх прызёраў спартакіяды, узнагароджаных сярэбранымі і бронзавымі жэтонамі. Усе яны — слава беларускага спорту, яго гонар і надзея.

Ёсць яшчэ ў нас і...

## Аўтсайдары

Так звычайна называюць тых, хто замыкае турнірную табліцу, хто безнадзейна адстаў ад сваіх сапернікаў і канчаткова падводзіць таварышаў, калі гутарка ідзе аб калектыўным заліку. Гэта перш за ўсё баскетбалісты. Яны, гаворачы шахматнай мовай, у хранічным цэйтноце. У апошнія гады не было выпадку, каб нашы баскетбольныя каманды выступалі дзе-небудзь удала. І вось што дзіўна: калі ў другіх рэспубліках гэты папулярны від спорту неяк прагрэсіруе, дык у нас наадварот... З 14-га на... 16-е месца, — вось «поспехі» баскетбольных каманд рэспублікі на II Спартакіядзе народаў СССР. Тыя, хто бачыў іх гульню ў Маскве, здзіўляюцца абсалютнай бездапаможнасці каманд на пляцоўках. Са здзіўленнем гледачы пыталіся:

— Няўжо ў Беларусі нельга знайсці добрых баскетбалістаў?

Далучымся і мы да такога пытання і накіруем яго ў адрас спартыўных арганізацый.

Вельмі слабыя і валейбольныя каманды. У іх шмат старых ігракоў, ужо не здольных вытрымліваць напружання спартыўнай барацьбы. Няхай у зборныя каманды прыйдзе моладзь. Можа спачатку яна і ўступіць «старым», але затое перспектывы яе відавочныя.

Няма патрэбы асобна спыняцца на няўдачах нашых матацыклістаў, якія занялі адзінаццатае месца, спартсменаў-коннікаў і каманды па настольным тэнісе. Спаборніцтвы па гэтых відах праводзіліся ўпершыню. Магчыма ў далейшым, удасканальваючы сваё майстэрства, яны падымуцца на некалькі ступенек вышэй. Але нельга змаўчаць пра адставанне воднага пола і шахмат. Пакуль яшчэ мала ў краіне гарадоў, дзе было б па два першакласныя басейны. У Мінску яны ёсць. Аднак да гэтага часу горад не мае класнай ватэрпольнай каманды. Пакінем гэта на сумленні гарадскіх спартыўных кіраўнікоў і звернемся да такой папулярнай народнай гульні, як шахматы. Тут ужо грамадскасць чакала большага.

Удзельнікі шахматных бітваў могуць запярэчыць:

— Якія ж мы аўтсайдары, калі займаем у турнірнай табліцы восьмае месца?

Вельмі дрэннае гэта месца, таварышы шахматысты! Бо па «сваіх імёнах», як вы самі заяўляеце, ваша каманда мала чым адрозніваецца ад калектываў Расійскай Федэрацыі, Украіны і бясспрэчна больш «імяністая», чым каманда Грузіі. Справа, аказваецца ў тым, што некаторыя майстры з халадком аднесліся да сустрэч са сваімі праціўнікамі, гулялі нядбайна, па-сапраўднаму не змагаліся за поспех сваёй каманды. І вось вынік: наперадзе аказаліся менш «імяністыя» шахматысты Грузіі, спартсмены Эстоніі і Латвіі.

...Грандыёзнае спартыўнае спаборніцтва закончана. Юнакі і дзяўчаты Беларусі ўпарта і небеспасляхова адстойвалі спартыўны гонар сваёй рэспублікі. Нямала цяжкіх выпрабаванняў чакае іх і наперадзе. Самае ж галоўнае — III Спартакіяда народаў СССР 1962 года. К таму часу шарэнгі нашай старой спартыўнай гвардыі парадзеюць. Ім на дапамогу прыдуць новыя байцы, больш мужныя і моцныя. Новыя маладыя сілы стануць у строй. Старое заўсёды ўступае новаму. Гэта закон нашага жыцця, у гэтым яго найвялікшы сэнс.

**М. УЛАДЗІМІРАЎ**

## ЗМЕСТ



### Дарогамі сянігодкі



### З блакнота падарожніка



### Размова аб майстэрстве



### У свеце мастацтва



### Спорт



Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабіце самі!»

**ДАРАГІЯ СЯБРЫ!**

**Юнакі і дзяўчаты, маладыя рабочыя і калгаснікі, студэнты і вучні!**

Падпісвайцеся на штомесячны ілюстраваны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс ЦК ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

# „МАЛАДОСЦЬ“.

Часопіс «Маладосць» у 1960 годзе будзе друкаваць новыя апавяданні, аповесці і раманы, паэмы і вершы старэйшых і маладых пісьменнікаў нашай рэспублікі, а таксама пераклады цікавых твораў літаратур народаў СССР і зарубежных краін.

На старонках часопіса вы прачытаеце нарысы аб удзеле моладзі ў здзяйсненні велічных планаў сямігодкі ў барацьбе за пабудову камунізма ў нашай краіне. Часопіс знаёміць сваіх чытачоў з камсамольскім жыццём, з працоўнымі буднямі нашай моладзі, расказвае аб тым, як сябруюць юнакі і дзяўчаты, як культурна і весела яны адпачываюць.

У кожным нумары шмат ілюстрацый — каляровыя рэпрадукцыі з карцін савецкіх мастакоў, малюнкі і эцюды мастакоў з жыцця нашай рэспублікі, фотаздымкі тых, хто сваёй сумленнай працай памнажае багацці нашай Радзімы.

Героі твораў, якія друкуюцца ў «Маладосці»,— вашы сябры і знаёмыя, лепшыя людзі рэспублікі. Чытайце пра іх у нашым часопісе, знаёмцеся з імі, пераймайце іх вопыт.

Шмат увагі часопіс аддае пытанням выхавання ў моладзі лепшых рыс характару савецкага чалавека, наладжвае дыскусіі па пытаннях камуністычнай маралі, аб паводзінах маладых людзей у калектыве, у сям'і, аб дружбе і каханні.

Часопіс публікуе ўспаміны тых, хто змагаўся за шчасце нашай моладзі ў гады Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны і на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

Часопіс знаёміць з новымі адкрыццямі навукі і тэхнікі, з культурным жыццём рэспублікі. У спецыяльным раздзеле «Слухачам народных універсітэтаў» будуць публікавацца гутаркі дзеячоў літаратуры і мастацтва аб тым, як разумець творы мастацкай літаратуры, музыку, жывапіс, скульптуру, тэатральнае мастацтва.

Удзельнікі мастацкай самадзейнасці, калектывы Народных тэатраў знойдуць у часопісе для сябе рэпертуар — аднаактавыя п'есы, вершы, апавяданні, гумарэскі, байкі.

Часопіс увёў спецыяльны раздзел «Размова аб майстэрстве», каб дапамагчы пачынаючым пісьменнікам у павышэнні ідэйна-мастацкага ўзроўню іх творчасці. На яго старонках публікуюцца агляды першых твораў маладых літаратараў, рэцэнзіі аб кнігах, што выдаюцца ў рэспубліцы.

Шмат цікавага, захапляючага знойдзеце вы, дарагія сябры, у кожным нумары часопіса «Маладосць».

Не адкладаючы, сёння ж падпішыцеся на часопіс на ўвесь год.

**Падпісная цана:**

На год — 48 рублёў;
на паўгода — 24 рублі;
на квартал — 12 рублёў;
кошт аднаго нумару — 4 рублі.

Падпіска прымаецца без абмежавання ўсімі грамадскімі распаўсюджвальнікамі друку, калгаснымі паштальёнамі, ва ўсіх канторах сувязі, аддзелах «Саюздруку», у кожным пункце прыёму падпіскі на газеты і часопісы.

**Выпісвайце і чытайце свой маладзёжны штомесячнік.**

**Рэдакцыя часопіса «МАЛАДОСЦЬ».**

АТ 06644. Падп. да друку 21/IX 1959 г. Тыраж 50.000 экз. Зак. 1399.

Мінск, друкарня імя Сталіна.